# Змест

## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



## ПЕРАКЛАДЫ

**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**



# Ната Солтан

паэтка. Студэнтка факультэта журналістыкі БДУ. Аўтар кнігі паэзіі «Ощущение». Нарадзілася ў 2003 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

# Танга кахання

***

Мне заўсёды хацелася танцаваць танга
у ярка-чырвонай сукенцы.
Танцаваць так, каб ногі балелі,
каб — як агонь з вокнаў палаючага будынка,
як зыркія бліскавіцы і нечаканы гром.
Каб танец, як ураган, зносіў нас,
каб не брыз, а цунамі.
І — з галавой...

Але мы былі вальсам,
няспешным, роўным,
без рэзкіх рухаў, адтаптаных ног,
як ціхі брыз,
як вясновы вецер з бэзавым водарам,
як густы цякучы мёд,
як марозіва на сонцы,
кроплі якога сцякаюць на асфальт.

А мне заўседы хацелася танцаваць танга
у ярка-чырвонай сукенцы,
танцаваць так, каб ногі балелі...

***

Сціскаць яе дрыготкія вузкія далонькі,
халодныя, нібы ільдзінкі,
якія вось-вось дзінькнуць і пасыплюцца
на яго новыя джынсы,
і чакаць, калі сэрца зашчыміць ад мілосці,
калі ператнецца дыханне...
А яно ўсё не шчыміць, не перацінаецца.

Запаволенне цэлага свету ці маленькай кватэры,
быццам гэта «Мяккі гадзіннік» Далі.



# Яна Нікіфарава

паэтка. Студэнтка 2 курса факультэта міжнародных зносін БДУ. Друкавалася ў часопісах «Маладосць» і «Верасень», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычных зборнікаў: «Падслуханае сценамі шматпавярховак» (2017 г., выдадзены пад псеўданімам Янка Каліноўскі), «Пяць стадый прыняцця Яны Н.» (2020 г., выдадзены пад сапраўдным іменем). Нарадзілася ў 2002 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Бела-чырвоныя кветкі

## Дом

*Маім дарагім сябрам Наташы Н. і Арсенію Б.*

Ёсць Дом —
Не ў Новым Арлеане —
Ён тут, заўсёды побач,
Захочаш — то заходзь.
А з Домам побач дрэва,
З яго вясной здымаюць круасаны:
З шакаладам — калі свяціла сонца,
З сырам — калі год не радаваў цяплом.
І клапатлівы чалавечак,
Пакаштаваўшы круасаны,
Нясе іх у Дом — там ім заўсёды радыя.
У Доме — стол, канапа, радыё,
Там грае музыка.
І калі хтосьці не можа даць рады,
То прыходзіць і есць круасаны:
З шакаладам — калі свяціла сонца,
З сырам — калі год не радаваў цяплом.
І ўключае музыку — сваю любімую самую,
І можа танчыць — ніхто не бачыць (хіба толькі Дом),
А можа ляжаць на канапе —
Галоўнае, каб было камфортна й утульна.
У доме знайшлі прытулак
Цудоўныя дзівакі і дзівачкі;
Яны ўсе дзіўна прыгожыя
І выпраменьваюць любоў.
Яны робяць Дом цёплым,
У ім не сціхае музыка і круасаны
Заўжды на стале.
Тут прахалодна летам
І вельмі цёпла зімой;
У Доме вялікая шафа з кнігамі —
Ёсць Рэмарк, Дастаеўскі і Хлебнікаў:
Тут шануюць прозу й паэзію,
Тут шануюць усё.
Акрамя абыякавасці

І, напэўна, няшчырасці.
На жаль, Дом даверлівы,
І ключ нідзе не хаваецца,
І час ад часу халодныя людзі
Сваім холадам напаўняюць Дом.
Яны Дом напаўняюць трывогай.
У Доме паляць запалкі, прагнучы цяпла й дапамогі.
Адзін неасцярожны рух —
І запалка выклікае пажар.
Дом гарыць.
Апошнім стогнам адклікаецца радыё,
Кніжкі згарэлі першымі:
Згарэлі раманы і — тым болей — вершы.
Агонь радасна скача на дрэва.
І нічога няма.
І нікога.
Быў Дом.
Няма Дома.

***

Перад сном у дзяцінстве
маці чытала мне кнігу «Адкуль наш род?».
Мае дзіцячыя сны маюць смак малака і мёду,
я засынала пад балады ад Джаан Баэз.

Скажы, а ты маеш
Дзіцячыя ўспаміны?

Ты кажаш, наіўна
ўплятаць у валасы кветкі —
але пра гэта спявала мне маці
перад сном у дзяцінстве.
Магчыма, мы знойдзем адзінства,
калі ты ўспомніш,
пра што спявалі табе.
Пагартай старонкі,
пачастуйся мёдам;

тады, можа, узгадаеш,
адкуль ты родам.

Ад куль няма плоду,

як няма ад ілжы і нянавісці —
пра гэта чытала мне мая маці.

***

*Пад уплывам «Кветак зла» Ш. Бадлера*

Павуцінне на прыполе сукенкі,
галіны кранаюць за плечы,
калючыя зоркі ў зрэнках —
паненка ідзе на сустрэчу.

Заручаная калісьці ўночы,
яна стане жонкай святла
Месяца, што глядзіць ёй у вочы;
вясельны букет з кветак зла.

Яе знойдуць ранкам у лесе,
нерухомую, застылую ў снах,
на грудзях яе будзе Месяц;

букет з кветак зла ў руках.

***

*Прысвячаецца М. Стаўрогіну*
*(«Бесы», Ф.М. Дастаеўскі)*

Пакаштаваў усё,
а на дэсерт — расчараванне.
Зачараваны
ўласнымі пакутамі,
загнаны імі ў кут
невялікага пакойчыка
наверсе драўлянай лесвіцы,
у які яго трагедыя не змесціцца,
узгадае кожную дробязь,
пакуль пачварная здань не скажа
«хопіць»,
пакуль не схопіць
яго за шыю і
не ўзвые

моўчкі
ад гора
маці, зірнуўшы ўгору
пад столь.

***

Стан перад навальніцай,
калі ўсё замірае ў электрычным напружанні,
і толькі нізка-нізка птушкі
ўзрушана кружаць,
і прыцярушвае вочы
пыл;
і спадзяванне на дождж:
няхай бы абмыў
зямлю засмяглую,
зямлю ў стоме;
і ў доме,
як пойдзе дождж,
хавацца няма жадання.

Ён быўварты
таго, каб чакаць.
хоць рэдкі,
але прынёс за сабой
доўгачаканыя кветкі
бела-чырвоныя.



*Кацярына МАСЭ. Кроў, малако, віно*



# Вольга Шпакоўская

паэтка. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт МДУ імя Аркадзя Куляшова. Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Нарадзілася ў 1999 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Цені

***

Зрываю каляндарныя лісты,
прашу іх даць адказы.
Маўчаць яны, мяне не чуюць,
як і не чуеш ты.
На іх з пагардаю гляджу:
«Віну, лісты, на вас перакладаю!»
Ды сэрца б'ецца ад адчаю.

Не бачу я, як дні ляцяць,
хвіліны ў тло ператвараюць.
Плады гніюць у садзе,
якога больш для нас няма.
Трымайся, ведаеш сама,
чым сэрца наталіць,
якое даць пітво.

Літаратура ў скрушны час
гатовая нам даць адказы
і запаліць душэўнае святло
маланкай першай траўня.

## Цені

### 1.

*Цень, ведай сваё месца...*
Шварц

Вулічныя Цені разважалі,
як атрымаць самастойнасць,
знайсці сябе ў дарозе,
стаць мастакамі і
набыць уласныя крылы.
Вокны домоў, залітыя святлом,
толькі пасміхаліся...
А на асфальце
Цені рухаліся, перапляталіся,
стваралі абстрактную карціну.

Сонца сачыла за зменлівасцю малюнкаў,
здзіўлялася самаўпэўненасці Ценяў.
Таямнічая сетка на асфальце знікла,
як толькі Сонца схавалася за хмарку.
Цені — рэха Сонца.
І сапраўны мастак — таксама Яно, Сонца.

**2.**

Патрапілі Цені ў залежнасць ад Святла,
яго ўлады і моцы.
Сонца, лямпы, ліхтары
пазбавілі Ценяў уласнага лёсу:
няма свабоды, парыву творчага няма.
Як стаць вольнымі, жывымі,
знайсці сябе ў дарозе,
набыць славу Мастака
і выратаваць крылаў парасткі?
Вокны домоў, залітыя святлом, насміхаюцца.
А на асфальце Цені пераплятаюцца,
ствараюць зменлівыя малюнкі.
Уцякае Святло ад таямнічых карцін,
пакідае Цені без палатна...

Так, іх след не вечны,
але Цені жывуць,
каб хоць зрэдку маляваць.

***

Інтуіцыя — гэта дар,
гаспадыня на тэрыторыі памылак,
тая, што заўсёды побач, разам, за цябе,
гатовая ўступіць у любую спрэчку,
каб дапамагчы ў цяжкую хвіліну,
выратаваць ад нападак лёсу
збалелае сэрца паэта.
Інтуіцыя — лекар на асабістым шляху.
Россып зорак застанецца ад яе...

***

Больш жыцця на шляху вандроўніка.
Час наперадзе — і з ім я звязана.
Хачу больш часу!
Мару аб тым, каб дзён у жыцці дадалося.
На пытанне для чаго — маўчу,
потым адрывіста, вырываючы са свядомасці фразу,
крычу на ўвесь голас: «Каб жыць!»
Час непахісны, «хачуха» адхіляецца.

Час не мае формы.
Яго не перальеш у бутэльку, не захаваеш.
Ён льецца сам па сабе, незваротна.
Толькі і паспяваеш убачыць,
як апошняя кропля знікае ў пяску.
Не ўтрымаць і не дамовіцца з ім. Хуткаплынны.

Час не мае месца, ён вандруе па зямлі.
Гэта яго шлях, і я звязана з ім.
Якасць жыцця значна важней, чым яе працягласць.
Можна пражыць адзін дзень як адно маленькае жыццё.
Імкнуся да таго, каб у днях стала больш жыцця,
а не наадварот.



# Цімур Буйко

паэт. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Аспірант Інстытута мовазнаўства НАН РБ. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць», газеце «Вместе». Нарадзіўся ў 1995 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

# Дзе ты, Воля?

## Шчасце

Як дрэвы расхінаюць шаты,
ад сну расплюшчваюцца вочы,
так сэрца адкрываецца насустрач
другому сэрцу.

Хай і мяне спаткае гэты кон,
каб бачыць рэчы ўвачавідкі,
каб шумным борам расступіцца
перад райскай птушкай.

***

*В. М-ай*

Табой, як расінкай ранішняй,
тамлюся, быліна кволая.
Знайсці не магу прыстанішча...
Пашкадуй, о Воля!

Абцугамі з сэрца не выдраць
святло, якім асляпіла.
Не прыйдзеш — заплачу выдрай
над свежым ілам.

Калі ж, слепатой невідушчы,
дзень завяршу пад месяцам,
то вочы, як зоркі, заплюшчу,
памру на месцы.

Пры смерці б не стаў скуголіць,
ціха заснуў на доле.
Дзе ты, маё прыстанішча,
дзе ты, Воля?

***

Здаецца, нішчымная дробязь —
у ранішні час хандра,

а людзі насуперак робяць,
не хочуць ніякіх драм.

Навошта купацца ў суме
аконных вачэй-крыжоў?
Усмешкі складзі, а ў суме —
на радасць і ўцеху шоў!

Складзі цеплыню вітанак,
абдымкі і поціск рук —
і ўчуеш, калі пад ранак
прачнецца ў душы жаўрук.

Хай вецер тугі, як пропісь,
ці дождж, што нібы з вядра,
павер мне: пустая дробязь —
у ранішні час хандра.

## Мая мара

Калі радкі вясёла жну,
снапамі ўкладваю дыхтоўна,
то бачу, як маленькі шнур
кладзецца кнігаю двухтомнай.

Старонку дзедзіч адгарне,
а думка быццам калясніца:
яшчэ буйней, яшчэ шчырэй
радкамі кніга каласіцца.

***

Вершам выбухнуць,
як асколкавай гранатай
у лесе дрымотным,
каб кожны асколак
працяў задумы кару
і дабраўся да сэрцавіны,
жаданне маё,
вера мая,
зніч мой.

## Алені

Алені слухаюць Бога
ў вішнёвых кветках,
клубнічных ягадах
і зумканні мядовых пчол.

Нясмелымі капытамі
яны кранаюць возера
і п'юць бяздоннае неба,
схаванае ў пене хмар.

Алені размаўляюць з космасам
зоркамі ўласных вачэй
і ўрачыста нясуць на рагах
вэлюм Млечнага Шляху.

І кожную ноч кладуцца
на расяную пасцель,
месяцам закалыханыя,
дзеці лесу.



# Наста Кудасава

**паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы», «Маё невымаўля» (2016 г.). Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў Рагачове.**

# Вынасі высь...

## Шляхцянка

я шляхцянка крывей журавінных
і таму я гарчу.
я трымаюся ягаднай спінай
за імшараў парчу.

я шляхцянка пралескавых пляцаў
і таму я магу
дзіўным шчэбетам раскашавацца,
рассыпацца ў імху.

я шляхцянка вялізарных пушчаў,
я іду да таго,
хто зрабіў маё сэрца відушчым
і пусціў пад адхон...

## Прызнанне

і ў цяпле пеючы, і ў пакутлівай роспачы стогнучы,
я сачу тваіх коней, што ў белай праносяцца пене.
я люблю цябе ўсю.
але часам так хочацца Поўначы
і блакітных імхоў пад нагамі маўклівых аленяў!
можа, продка майго закалыхвалі ночы палярныя
ды святлом неўтаптаным сляпілі кудасыя зімы...
і цяпер я навечны вандроўнік
з адзінаю мараю:
умаўчацца ў прастор незнаёмай далёкай Радзімы.

***

аднойчы квецень выбухне, і сэрца
папудзіцца з раптоўнае вясны,
і вырвецца няўзнак, і панясецца
наўсцяж, не разабраўшы баразны,
каб грэць на сонцы выцвілую грыву...
пусці ж яго, не бойся, не трымай!
бо хочацца яшчэ пабыць шчаслівым,
пакуль ёсць квецень, вольніца і май.

***

звольніўся дзень і як лыка прадаўшы захроп.
прыйдзе самотная ноч, мулкай лапай абдыме...
мабыць, прасцей рэдкай птушцы адолець Дняпро,
мабыць, прасцей Беларусь абляцець на кіліме,
мабыць, прасцей пераплавіць на золата медзь,
папараць-кветку знайсці, прыручыць аднарога,
чым хоць маленечкі шанец аднойчы займець
стаць для цябе сустрэчай, домам, дарогай.

***

хто табе покуць прыгожыць,
па кім маўчыш?
што ў табе птахам трапеча, маё каханне?
лепей сплаці адзіноце бяссоння чынш
і закалыхвай пяшчоту сваю да рання...
вынасі высь:
болем кожны радок люляй,
памяццю дотыкаў крылы свае выпешчвай...
гэта як быццам гарыць пад табой зямля
і ты ідзеш праз увесь мацярык —
пешшу.
гэта як быццам жыццё ля вады прастаяць —
тая ж дрыгва неўпрагляд
і журба ўсё тая...
але аднойчы выходзіць на бераг язь
з срэбнай усмешкай
і кажа табе
«вітаю!»

***

здзьмулі волю з дамоў і вуліц,
праўду ўціснулі ў панцыр.
хто яны, што паўсюль кіруюць?
як ад іх ратавацца?

душы іх набрынялі тлушчам,
сорам іх *«made in china»*.
млосна нават вочы расплюшчваць —
боль збаўляю маўчаннем.

дзесьці брэша вяртлявы выжал,
страх і адчай наўкола.
я — кахаю.
мне,
каб выжыць,
гэтага
дастаткова.

## «Суддзям»

Не марнуюся, не кляну:
вы і ёсць ваша пекла.
І не будзе вам болей сну
ў нашай ціхай і ветлай.

Заставайцеся так, як ёсць,
для жыцця вы чужыя.
Хай калышуць пустую косць
вашы марныя шыі.

Проста ведайце: к вам, людзям
без сумлення і сэрца,
прыйдзе некалі той Суддзя,
што за ўсіх адгукнецца.

***

Песні шчасця рыпяць курапацкім пяском на зубах,
ад разумнага добрага вечнага ўжо зводзіць сківіцы.
Што б ні сеяў, пажнеш тут адно —
Сандармох,
Карабах.
Бессэнсоўна высільвацца, лепей адразу засіліцца
і не глухнуць ад болю,
не слепнуць ад праўды прычын,
не жахацца ад ззяння таго, хто пайшоў самаспаленым.
Ты не фенікс.
Таму ўцісні сорам глыбей і сачы,
як разносіцца ноч нематой над астрогамі спальнымі...
... Ноч ідзе, закалыхвае тых, што жывуць на «ура!»
Як жа хораша спіцца ім, Госпадзе!
Чуеш, як лёгка ім...

Ну а ты вымкні волю, сумленне завесь, паўтарай:
ле-пей лё-ка-ем,
лепей лёкаем...
Лепей
лёкаем?!

## Акрэсцін[1]

Тут кожны баіцца прызнацца, што страціў кагосьці,
што больш немагчыма без жаху ступаць па зямлі:
сасновыя шышкі трашчаць пад нагамі, як косці,
як берцы забойцаў, чарнеюць у травах камлі.
А ў небе — нябесныя сотні, нябесныя шэсці...
А з неба скрозь слёзы, абняўшы нябесны штурвал,
глядзіць ашалелы ад роспачы лётчык Акрэсцін:
«Усё
пазабыта.
Нікога
не
ўратаваў.»

## Пакроў

Дарагая нябесная маці, прыйдзі, святая,
рассцялі над гэтай цемраю свой пакроў...
Мы раней так любілі восень,
цяпер — змятаем
замест рыжага лісця
з ходнікаў
свежую кроў.
Дарагая, пачуй! Мо ты ведаеш, дзе згубіўся
той, хто нам абяцаўся: «Мне помста, і Я аддам»?
Хай прачнецца ўжо, хай зірне з крышталёвае высі
ў растаптаныя твары
зямных беларускіх мам.
Дарагая, нябесная, вось мы —
крычым, жывыя!

---

[1] Барыс Акрэсцін — савецкі ваенны лётчык, герой Савецкага Саюза, загінуў у 1944 годзе ў баі пад Мінскам, накіраваўшы свой падбіты самалёт у скапленне варожай тэхнікі. У гонар Акрэсціна ў Мінску названы завулак, на якім размешчаны буйны ізалятар часовага ўтрымання, дзе ў 2020 годзе былі падвергнутыя гвалту і катаванням сотні бязвінных людзей.

Рассцялі ж нам пакроў, заступіся за нашых дзяцей!
Ноч стаіць за плячом,
ноч бядой у патыліцу вые,
дворнік раніцай свежы адчай па асфальце мяце...



# Мікола Гілевіч

паэт, перакладчык, крытык. Аўтар кніг паэзіі: «Горад», «Ню». Скончыў філалагічны факультэт і аспірантуру БДУ. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Ля самай прорвы...

***

Адчыняюцца сны —
і выходзяць стуль голыя людзі.
Не раўнуючы здані ў абдымках паўночнай жуды.
Угінаюць галовы, хаваюць запалыя грудзі.
Йдуць навобмацак. Прэч ад нуды і бяды.

Не раўнуючы вязні халоднай вільготнай цямніцы.
Толькі шэпат чуцён:
«Да святла, да святла, да святла...»
І сціскаюцца болем у скронях пустыя вачніцы,
і сціскаюцца сэрцы без плоці да самага тла...

І цалуюцца Эрас з Танатасам на ўваходзе,
І ўжо шэпат ідзе:
«Мы прыйшлі, мы прыйшлі, мы прыйшлі...»
І вяртаецца рэхам у сны: «Годзе, годзе!»
І ўзнікае жыццё на голым краёчку зямлі.

***

Маё сэрца ў халодным агні.
Не хапайся адразу за сэрца.
Адпачні. Мы з табою адны.
Мы з табой на дзявятым паверсе.

Пачакай. Пачакай распранацца.
Я замоўлю йшчэ «спэшл меню».
Распрані спярша гора і шчасце.
І каханнем прыкрый сваё ню...

***

Там, дзе на паэзію неставала часу
і каханне захлыналася ў немаце,
хтось прыйшоў і сказаў табе: «Распранайся.
Складвай рэчы вунь там, у куце».

Кут быў рады. Не бачыў яшчэ такога.
Былі радыя сцены мацаць твой крохі цень.

Была радая столь, была радая нават падлога
цалаваць твае рэчы...
Толькі плакала ты ў куце.

І тады
той, хто цябе распрануцца змусіў
сам заплакаў... Скаланулася цемната.
У салодкай шчымлівай скрусе
выйшла ты з кута.

***

Ты знікаеш на самай высокай вяршыні.
Ты знікаеш пакутліва і на мяжы.
Ты знікаеш даўжэй,
чым знікаюць звычайна жанчыны.
Ты знікаеш і кажаш мне: «Ты не кажы...

Не кажы, што кахаю і маці сваю паўтараю,
Не кажы, што на левым баку я горш сплю,
што на ранішнім ложку свае завушніцы губляю,
што на сонцы вячэрнім усіх навакол люблю

і вяртаюся да цябе я спантанна і хутка,
і здымаю адзенне, як сонца з вячэрніх нябёс...»
Ты ідзеш так бязважка, дрыготка, ціхутка...
Але я чую крок твой. І рух твой. Чапаю твой лёс.

***

Я калісь цябе яшчэ прысню.
Толькі ты засні, мая каханая.
Сон мой развярэдзіць тваё ню.
Сон мой цябе збудзіць самым раннем.

Ты прачнешся — сонная, сляпая.
Днём сасніш мой сон упершыню.
Станеш ты нямая і глухая...
Але ты пачуеш цішыню.

***

Дождж ніколі не бывае самотны.
У дажджу ёсць я. А, бывае, ты.

Край душы ў нас заўжды вільготны.
Гэта наш з табой наратыў.

Мала слоў. І яшчэ менш справаў.
І душа на дваіх адна...
Многа страваў. А злева й справа:
«Пі да дна! Пі яе да дна...»

Ля самай прорвы
Ля самай прорвы, ля самой аорты,
там, дзе ты ўжо нічога не важыш,
спытаешся ў сябе: «А што ты? Хто ты?»
І сам сабе нічога не адкажаш.

Адкажа прорва: «Я не знаю межаў.
Я ўсіх люблю. Але цябе — кахаю.
Вазьмі любую з маіх белых вежаў.
У падарунак сонечная брама!»

Я ўзяў. Пацалаваў. Сказаў: «Кахаю».
Ля самай прорвы, ля самой аорты
Спыніўся перад брамай.
«Адчыняю.
Пастой, пастой, пастой... А хто ты?»

***

Дзвюх птушак пракарміць з абедзвюх рук
не так і цяжка... Рукі каб былі.
Не трэба жахаў, рэвалюцый, мук.
Твае далоні — быццам караблі.

Яны плывуць, а ты пра іх не знаеш:
Ці даплывуць, ці згрузяцца на дно.
Ты вечна хворы. Але боль хаваеш.
Ты не ручнік рыхтуеш, а радно.

Але калісьці выплывеш на бераг.
І ўбачыш птушак — мёртвых на пяску...
Ты не заплачаш. Знойдзеш недзе нерат.
А ў ім — скрываўленую мёртвую луску.

***

Самыя прыгожыя вершы
пішуцца па начах.
Самыя прыгожыя жанчыны
песцяцца па самых ранніх раніцах.
Розніца між імі — у нейкіх гадзінах.
Гэта час, калі адчуваеш, што ты — адзіны...
І што яна — твая абранніца.
А час не счах.

***

Yesterday яшчэ не ўзышло ва Ўчора.
Сонца не стала месяцам.
Але нехта быў у маёй пячоры.
Акуляры ляжаць не на тым месцы.
Гэта ты была? Не адказваеш...
Значыць, ты. Але й «не» не гаворыш.
Yesterday — гэта значыць з вамі заўтра.
Lets go on учора-tomorrow.

***

У сэрцы — шчэрба, шчэрба ў маім сэрцы.
To be or not to be? That is the question.
Памерці? Але як і дзе памерці?
У сэрцы многа самых розных трэшчын...
У сэрцы шчэрба — лічбаю на сэрцы.
To love or not to love? That is the question.
Як словы ўжо з паперы цяпер здзерці?
Ні Шчэрбу не параніўшы, ні вершы...

***

Нашы рэчы ляжаць нікім не прыбраныя...
Вось твой руска-французскі слоўнік.
Вось мой швэдар. Памятаю цябе, у яго схаваную...
Вось любімы наш Panasonic.

Нашы рэчы — нібы сіроты.
Колькі часу ў іх? Колькі сэрца?
Нехта прыйдзе за намі потым.
Нехта зойдзе ў пакой употай...
Перасуне іх з месца ў месца.

***

Снежань мяне ўзяў за руку
і павёў мяне... у нікуды.
Помню: вёў праз журбу-раку —
і завёў прывёў мяне на Бермуды.

Снег усюды быў — бы заўсёды быў.
Пад нагамі быў самы цвёрды.
Цяжка ўспомніць: прыйшоў, даплыў?
Хтосьці з нас сказаў: «Назаўсёды».

***

«Што з табою? Што з табою? Што з табою?» —
хлопчыка распытваюць усе.
Хлопчыка з бялюткай галавою.
Хлопчыку гадкоў мо шэсць ці сем.

«Не са мною! Не са мною! Не са мною!» —
хлопчык так адказвае усім.
Хтосьці ёсць за прывіднай сцяною.
Хтосьці побач. Хтосьці вечна з ім.

Там — дзяўчынка... Год так шэсць ці сем.
Будзіць хлопчыка ад прывіднага сну:
«Ты цяпер не спі.
Пакуль усе
будуць спаць, я буду за жану».

## А потым...

Пісалася каханне на асфальце.
А потым у надзьмутым рукзаку.
А потым на спісанай школьнай парце.
А потым з рук у нечую руку.

А потым устрапенілася ў сэрцы.
А потым адгукнулася ў душы.
А потым: «Мне не дай памерці...»
А потым хтось удзячна саграшыў.

***

Мне прыйдзецца яшчэ многа працаваць над сабой,
каб не выесці вочы ў доўгіх бліскучых тэкстах,
каб і памяць, і розум мае не далі раптам збой,
марнуючы сілы на пошлых зіхоткіх фэстах.

Каб не забыць тых жанчын, якія давалі калісь
прытулак для сэрца... і адляталі ў восень,
а, адлятаючы, падалі ў цёмную высь,
у цёмную высь,
у цёмную высь...
Быццам вобзем.

І каб сэрца маё тады ўслед не імчала ўніз.
І каб голуб мой, праскочыўшы праз рашотку,
упаў мне ў рукі, не разбіўся ўшчэнт аб глухі карніз.
І каб спяваў мне песню, якая была б кароткай.

***

Ты выходзіш з адзення,
і дзень у мяне залятае.
Ты пытаешся: «Дзея я?»
Уся крохкая — залатая.

Ты ўваходзіш у чорнае.
Ноч у мяне заплывае.
Ты не стаўку — не вочную.
Рэчы свае забываеш.

Там няма «ужо», ёсць «яшчэ».
Запытаю у соннага Ноя:
«Ці твой поўны каўчэг?
Забяры мяне разам з ёю!»

***

Я не белы
                    і я не чорны.
Мяне бусел прынёс учора —
заўтра крук маё знойдзе цела.
Я не чорны
                    і я не белы.

Я не лепшы
                    і я не горшы.
Ды калі б я і стаў харошы,
праклялі б мяне самі вершы.
Я не горшы
                    і я не лепшы.

Я не першы
                    і не апошні.
Белы бусел — на жоўтай пожні,
побач — крук, ад зямлі чарнейшы…
Не апошні я
                    і не першы…



# Анатоль Дэбіш

паэт. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Дзеяслоў», «Нёман», «Тэрмапілы», альманаху «Жырандоля». Аўтар паэтычных кніг: «Калядная вячэра» (1993 г.), «Стодзівы»(1995 г.), «Зірні ў люстэрка» (2013 г.), «Белабог» (2018 г.), «Пушчанскія дзівы» (2018 г.). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Берасці.

# Пачаць спачатку...

***

Маё каханне — куст шыпшыны
У бляску золкавай расы,
У ім спляліся ў адзіна —
Зман церняў і святло красы.

Яно — маёй душы літанне —
У радасцях, ці то ў журбе.
Кахаў я...І сваім каханнем
Ад згубы ратаваў сябе.

У ім нанова нараджаўся
І паміраў стокроць у ім...
Ды ад яго не адракаўся —
Яно заўжды было маім.

Кахаў! — сярод маны і бруду
Я не баяўся дзён ліхіх
І тым апраўданы я буду
Перад людзьмі за ўсе грахі.

***

Ліў дождж і вецер рваў фіранкі,
Як звар'яцелы, на акне.
І з неба зыркалі маланкі,
Бы пагражалі карай мне.

Ды ўсё заціхла на світанку,
Змяніў Гасподзь на на літасць гнеў.
Салодкі сон маёй каханкі
Парушыць ён не захацеў.

О, самы праведны суд Божы!..
Спі! Спі! Твой сон не патрывожу.
Мне ў сне ты, любая, мілей.

Баюся я ў хаосе быту
Быць ашаломленым, забітым
Маланкамі з тваіх вачэй.

## Прызнанне

Я не забыў Вас... Помню, пані:
І позірк сонечны, і смех.
Кахаў вас, і маё каханне
Было як споведзь і як грэх.
У ім — шукаў вырataванне
Хоць на хвілінaчку, на час.
Я вас не раз падманваў, пані,
І быў падмануты не раз.
Было. Было. Але дазвання
Час раскалоўся, як арэх...
Якое светлае каханне!
Які цяжкі кахання грэх!

## У часе тым

У часе тым, калі цябе я
Кахаў і ты была маёю,
Зарой світальнай вішня спее,
Віруе сонца над ракою.

Там ні залевы, ні завеі
І ззяе неба чысцінёю —
У часе тым, калі цябе я
Кахаў і ты была маёю.

## Паводле Пастэрнака

Ты спала соладка. Не спалі:
Люстэрка, грабянец-красун.
І зор зіхоткія каралі
Ў тваю ўплятала ноч касу.

Маладзіка не меркла ззянне,
Заснулі птушкі ў схованах траў.
Ды я не спаў. Тваё дыханне
Як вернік біблію, чытаў.

У ім і жарсць была, і цнота,
І ім бруіла маладосць,
У ім чытаў кахання ноты —
І быў шчаслівы, што ты ёсць.

Што побач ты, што мы спазналі
Кахання слодыч і красу,
Што ночка зорныя каралі
Ўплятае ў цяжкую касу.

Што месяца не згасла ззянне
І што не звоніць тэлефон.
Што мне пашчасліла да рання
Твой сцерагчы салодкі сон.

## Твой смех

Твой смех крыштальнаю крыніцай,
Што з сэрца нетраў усплыла,
Зіхцеў між цемры бліскавіцай,
Праменнем зыркага святла.

Гарэў ён знічак пазалотай,
Што стромка падалі на плёс.
Ён атуляў мяне пяшчотай,
Як рукі сонца — сінь нябёс.

Ён быў — як музыка аргана,
Нібы асмяглай жарсці грэх.
Мае гаіў на сэрцы раны...
І зброяй помсты быў твой смех.

***

Восень. Ціша. Свята пазалоты.
На юнацтва сцежцы добра нам.
Гасне сонца: на дыван з лістоты
Мы ступаем: лес што Божы храм.

Тут пануе велічнасць і згода —
Крышталём расінкі на траве.
Прамінула лета, а прырода
Духам цноты й святасці жыве.

Чысціню і думак, і кахання
Бласлаўляе, як ва ўсе часы.
І мігцяць на сонечнай паляне
Свечкаю вянчальнай верасы.

## У хвалях тваіх валасоў

У хвалях тваіх валасоў,
Зіхоткіх, як чэрвеньскі вечар,—
Зноў месяц-гарэза ўзышоў
І твар асвяціў твой, і плечы.

Карункамі казак і сноў
Цябе ахінуў гэтак чула.
У хвалях тваіх валасоў
Ноч свой адшукала прытулак.

***

А ўсяго і было: толькі дотык рукі
Ды кубачак стылага чаю.
Чаму ж я адчуў, што магутны такі,
Што неба плячом падпіраю?

З той шчаснай пары прашугалі вякі,
А памяць у дзень той вяртае,
Дзе быў толькі дотык дрыготкай рукі
Ды кубачак стылага чаю.

## Анатолю Сысу

Прарокі паміраюць маладымі
І імі застаюцца назаўжды.
Пад час хаосу, гвалту і нуды —
Прарокі паміраюць маладымі.

Жыццём сваім і дзеямі сваімі
Яны Сусвет ратуюць ад бяды.
Прарокі паміраюць маладымі
І імі застаюцца назаўжды.

## Здрада

Укалоўшы палец аб іголку,
Што ў падушку ўваткнула ты,
Я прачнуўся, спуджаны, на золку,
Пасярод аглухлай цемнаты.

Пстрыкнуў выключальнік у пакоі:
Змейкаю сцякала з пальца кроў.
А цябе, што спала пад рукою,
У самотным доме не знайшоў.

Ты пайшла. Ты недзе знікла зданню,
На стале забыўшы шалік свой...
Падалося: сэрца я параніў
Здрадлівай іголкаю тваёй.

## Забіць раба

Забіць раба ў сабе не проста,
Пазбыцца гвалту і жуды,
Як нырцануць у рэчку з моста,
У плынь бяздонную вады.

Забіць раба ў сабе — адважным
Заўжды і верным слову быць.
«Мы не рабы!» — хай нехта кажа.
Рабы!.. Бязмоўныя рабы.

Забіць раба ў сабе... Ці многа
Хто з племя смелых слова даў
Над безданню, дзе між парогаў
Грукоча мутная вада?!..

## Стоды

Не зніклі — засталіся стоды,
Заселі глуха ў шар зямны.
Бажкі панеюць з кожным годам.
Усемагутныя яны.

Ад іх, і толькі іх, залежыць
Ці будзе хлеб, ці недарод.
На іх, як гэта і належыць,
Рахманы моліцца народ.

Хоць сам у латаным ды рваным, —
Ім ногі цалаваць гатоў —
Падмануты і абабраны
Бяздушнай кодлаю бажкоў.

## У Жыровіцкім манастыры

У манастыр Жыровіцкі зайшлі
Я й сябра мой — паплечнік і дарадца,
Каб пакланіцца роднае зямлі,
Раскаяцца ў грахах, паспавядацца.

Дзень быў святочны — і такі ж настрой.
Здавалася, што мы ў нябесным храме.
Манахі з пахам воску за сабой
У клопаце снавалі перад намі.

Звон не маўчаў, ды панаваў спакой,
І ў храме, і наўсцяж яго разліты.
Як плынь ракі празрыста-залатой
Лілася ажыўляльная малітва.

Ды толькі не на роднай мове, не!
З усіх куткоў тут веяла чужынай.
«Куды прыйшоў?! — падумалася мне. —
Што, Беларусь маю і Бог пакінуў?..»

І ўжо не так праніклiва іграў
Арган царкоўны. Не прыносіў радасць.
І сябра мой у роспачы сказаў:
— Пайшлі адсюль, нязносна пахне ладан.

## Да анёла

Анёле — ахоўнік мой,
на якім плячы ты пасяліўся?
Лепей схавайся глыбей
у маю кішэню,
бо як будуць біць,
каб не заехалі табе ў вуха,
а біць будуць:
разгулялася
гумавая дубінка —
нам, беларусам, здараецца,
бракуе свядомасці:
думаем — не так,

гаворым — не тое,
спрабуем знайсці
нейкую праўду і волю,
а знаходзім — дулю з макам.
Ляці, анёле, у нябесны сад.
І не вяртайся...
Ніколі!
Ніколі!.

***

*Маме*

На могілкі вяла дарога.
Курыўся пылам далягляд.
Цябе няма — пайшла да Бога
І больш не вернешся назад.

Сплыла ў завоблачныя высі.
Я затрымаць цябе не змог.
Ды на дарозе засталіся
Адбіткі босых белых ног.

***

Над целам маім крумкачыная зграя
Хаўтурныя гнёзды штохвілі віе.
І крыкам на часткі душу разрывае,
Гарачую кроў хіжым позіркам п'е.

Іх больш з кожным днём, чорных гнёзд крумкачыных.
Вось-вось у гурме гэтай знікну зусім...
Але нада мною нябёсы Айчыны —
І духам, і целам мацнею сваім.

## Зіма

Зіма, дзе ні зірні, наўкол.
Ды ў ёй не адшукаць самоты.
Сумёт, нібыта белы вол,
Упёрся пысаю да плота.

Завея сціхла. Зазіхцеў
Двор і іскрыстая дарога.

І ветру ціхамірны спеў
Злятае птушкаю пад ногі.

Зямля ў дрымоце. Толькі мне
Не спіцца — крочу да цябе я.
Шар лямпы, што ў тваім акне,
Крамянай поўняй ружавее.

## Спазніўся

*Маме*

Не сярод цёмнае ночы —
Дзень прамяніўся наўкол —
Знічкамі ўспыхнулі вочы
І паляцелі на дол.

Доўга збіраўся я ў госці:
Доўга — з вясны да вясны.
Знічкі знайшоў на пагосце —
Ды скамянелі яны.

Стыла ляжаць пад крыжамі —
Боль і пакута мая.
Што я скажу сваёй маме?
Чым апраўдаюся я?

## Капліца

Без вокнаў і дзвярэй
Стаіць капліца
Паміж небам і зямлёй

Белая ўдзень
Чорная ўначы
Няісная, як міраж

Даўно яе сцены
Пакінулі кажаны
Пацукі і мышы

І толькі як нямко
Вакол яе
Цень мой блукае

Ніяк не можа
Патрапіць
У яе сутарэнне

Але аднойчы
Вокны прарастуць
Скрозь сляпыя сцены

І я ўвайду ў яе
Як цвік у дошку
Як маланка ў дрэва

Як душа ў цела.

## Натоўп

Я зліўся з натоўпам. Я знік. Я прапаў:
Так кроплі дажджу плынь ракі паглынае.
З другімі дажджынкамі часткаю стаў
Бязвольнай стыхіі, што твару не мае.

І я ўжо не я — нехта іншы, другі.
Чужым дагаджаю памкненням і волі.
Натоўпу сціскаюць мяне берагі,
Гуляць прымушаюць чужыя мне ролі.

## Гронкі белага бэзу

Гронкі белага бэзу
я збіраю ў букет
і нясу сваёй маме,
што пад крыжам,
стамлёная, спіць
сном гаюча-трывожным.

Гронкі белага бэзу —
Так прыгожа цвітуць .
— Добры дзень, мама,
Пойдзем разам
сустракаць лета.

Гронкі белага бэзу
завеяй сцелюцца ...
па зямлі
і люляюць
твой сон

Гронкі белага бэзу —
аблокі —
плывуць
у маленства
маё.

## Сонечны ўспамін

Світае.
На гарачай падушцы
сонечны зайчык спіць.

## Жабрак

Крочыць па полі
Жабрак нехламяжы
З торбаю за плячыма
З маладзіком у руках.
На левым плячы ў яго — спіць ноч,
На правым — дзень.
Ногі — вясёлкаю скуты.
Пустыя кішэні
Зрэбнай кашулі
ліхтарнае святло,
У промнях якога
Грэецца мыш...
Крочыць па полі
Жабрак нехламяжы
Ценем маім...

***

О чалавек! Каб ты ўсвядоміў,
Сярод якой жывеш маны,—
Ты б пазайздросціў здрадцам цёмным,
Турэмным сценам ледзяным.

Усё кінуў бы. Як вольны вецер,
У лес ці то ў пустыню збег...
І не хапіла б дрэў на свеце
Каб свой на іх павесіць грэх.

## Хто мы?

Хоць я двубою не баюся,
Але па шчырасці скажу:
Я нават жабе пакланюся —
Як небу, сонцу і дажджу.

Свет дзіўны: птушачак чароды,
Звяры... Шчабеча сад, пяе.
Мы — над усім... Цары прыроды?
А можа, служкі мы яе?

## *Трыялеты*

***

Свет уратуе прыгажосць:
Краса душы, прыроды, слова.
Час разбурае, ды нанова
Свет уратуе прыгажосць.

Я ўдзячны лёсу, што ты ёсць —
Маё натхненне, квет вясновы.
Свет уратуе прыгажосць:
Краса душы, прыроды, слова.

***

Прагну спаўна наталіцца каханнем,
Што за мядовы напой саладзей,
Быць з табой побач і песціць штодзень.
Прагну спаўна наталіцца каханнем,

У вочы твае, як на зоркі глядзець,
Каву ў наш ложак прыносіць шторання.
Прагну спаўна наталіцца каханнем,
Што за мядовы напой саладзей

***

Чым болей я цябе кахаю,
Тым больш мне сэрца сум гняце.
Я за табой хаджу, бы цень,
Чым болей я цябе кахаю.

А ты мяне не заўважаеш
У недасяжнай пекнаце.
Чым болей я цябе кахаю,
Тым болей сэрца сум гняце.

***

Кахання горыч зведаў я.
Не мёду смак — смак палыновы.
Сярод маны і бед жыццёвых
Кахання горыч зведаў я.

Разбітая душа мая
Цяпер шукае ў вершах сховы.
Кахання горыч зведаў я.
Не мёду смак — смак палыновы.

***

Здавалася, толькі імгненне прайшло,
Калі я сустрэўся з табою,
Пагляднаю, статнаю і маладою.
Здавалася, толькі імгненне прайшло.

Імгненне...А старасць стаіць за спіною
Сычыць, нібы змеяў грымучых кубло.
Здавалася, толькі імгненне прайшло,
Калі я сустрэўся з табою.

***

Мне твой пагляд — святлей ад сонца,
Ярчэй, чым полымя агню.
Табе ні словам не зманю.
Мне твой пагляд — святлей ад сонца.

Ён — смутак выпаліць да донца.
Ён — асвятліць дарогу дню.
Пагляд твой, што святлей ад сонца,
Ярчэй, чым полымя агню.

***

Тваім каханнем я спавіты,
Як ранішнім салодкім сном.
Ты знічкай асвяціла дом.
Тваім каханнем я спавіты.

Ты — майскі дождж, гуллівы гром.
Ты для мяне — уздых нібыта.
Тваім каханнем я спавіты,
Як ранішнім салодкім сном.

## Белы санет

Вось яшчэ адна нябесная знічка
зляцела долу — а я не пабачыў:
соладка спаў у святле жаночага цела,
падобнага на знічку, што імкнецца да зямлі.

Ты зоркай была, ды знічкай згарэла
ад жарсці і агню ўласнага кахання.
Застаўся я адзін, і больш не грэе
тваё цяпло: ані ложак, ані душу.

Але калі агнякрылую знічку
пабачу паміж небам і зямлёю,
я веру — гэта ты шляхі шукаеш
у дом мой штоночы, каб мяне
агню пяшчотай, каліўцам кахання —
хай апошнім — ды абагрэць.

***

Ноч — доўжыцца; ёй ні канца, ні краю,
Нібыта судны час ужо настаў.
О, дзе ты, дзе ты, любая, святая?..
Цябе паўсюль гукаю... Пустата.

У Вечнасць адплыла ты, бы ў выгнанне.
Ніхто больш не пабачыць нас удвух.
Дух, што жывіўся полымем кахання,
Успыхнуў бліскавіцай... і патух.

## Перад навальніцай

Не патухае дзікі сквар —
Надзейна пасяліўся ў леце.
Нібыта дбайны гаспадар,
Хмар мурагі купкуе вецер.

Якім ні быў бы плён цяжкі —
У гэтым пільная патрэба.
Ён іх зладкоўвае ў стажкі —
Усё вышэй, вышэй, да неба.

Яны шырэюць і растуць
Ды пад сваім цяжарам гнуцца:
Вось-вось да долу упадуць
І аб бардзюры разаб'юцца.

Раптоўна — выбух! Паплылі
Яны бязмоўным шэрым строем.
І гул разнёсся па зямлі,
І гром азваўся над зямлёю.

І хлынуў лівень, як з вядра , —
Раз'юшана-пякельным вірам...
А вецер хмары люта драў,
Нібы хацеў уціхамірыць.

***

Каханне дорыць
не толькі шчасце
а і Сусвет.

Каханне аднімае
не толькі грошы
а і Душу.

## Пачаць спачатку

Ці здолею, ці верным буду слову?
Ці вытрымаю я, ці я змагу
Пакаяцца і ўсё пачаць нанова
Пад адабрэння ды пагарды гул.

Пакуль — кахаю. І са мною ты:
За руку, як дзіця, мяне трымаеш
І клічаш за сабою... Сілу маю
На спіне несці праўды крыж святы.

Адолею я боль. Хай свету — крах.
Не палажыць мяне вам на лапаткі.
Прыйшла пара, забыўшыся на звадкі

І здзекі — свой зямны прадоўжыць шлях.
Усё адкінуць — і пачаць спачатку:
З любоўю ў сэрцы, з сонцам — у вачах.



# Іван Карэнда

паэт, празаік. Аўтар паэтычных кніг: «Белы наліў» (1995 г.), «Знічка» (2003 г.), «Васількі надзеі» (2008 г.), кнігі вершаў для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі» (2001 г.), а таксама кнігі прозы «Воплаўская госця» (2011 г.). На вершы аўтара беларускімі кампазітарамі напісана больш за 30 песень. Творы перакладзены на рускую і балгарскую мовы. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы на Іўешчыне. Жыве ў Мінску.

# Верасовая туга...

## Родная мова

У перашэпце каласоў жытнёвых
І шорганні няскошанай травы,
У пошуме дубровы стогадовай
І гомане няўрымслівай дзятвы,
У розгаласе рэха над ракою
І булькանні крынічкі пад гарой,
У звонкіх перапевах жаўруковых
І першым громе веснавой парой,
У скрыпе палазоў на снезе белым
І грукаце натруджаных млыноў,
У трэсканні каштанаў пераспелых
І перазвоне храмавых званоў, —

Паўсюдна чую роднай мовы гукі.
Яна — ад нараджэння і да смерці —
Найпершая і лепшая навука
І розуму майму, і сэрцу.

## Радзіме

Шмат бачыў прыгожых краін я на свеце,
Дзе мне рассцілалі гасцінна абрус,
А ты мне адна яркай зоркаю свеціш,
Любімая, родная Белая Русь.

Ты — радасць мая і надзейны прытулак
У непагадзь-слоту і сонечны дзень.
Тут цёплыя рукі самотнай матулі
Мне грэюць душу як нішто і нідзе.

...Стаю ў задуменні на родным падворку.
На стрэмку-пытанне шукаю адказ:
Чаму ты так доўга была на задворках,
Чаму ад цябе адварочваўся час?

Цябе не любілі, насуперак Богу,
Эпохі, стагоддзі, цары і паны.

А ты церабіла, шукала дарогу,
Ішла да сваёй запаветнай вясны.

Цябе ўкрыжаваць цемрашалам карцела,
Сцякала крывёю ў пакутах не раз.
Не раз крумкачы тваё турзалі цела,
А ты як магла ратавала ўсіх нас.

Зямля мая родная! Быў бы я сонцам —
Штодня пасылаў бы прамені свае.
А быў бы дажджом — палівай бы, да донца,
У летнюю спёку палеткі твае.

А быў бы асілкам — чужынец ніколі
Цябе б не таптаў, твае сокі б не піў,
Ніхто не пазбавіў бы долі і волі,
І пальцам злачынным цябе б не чапіў.

Так хочацца верыць, што час памякчэе,
Што шлях твой — насустрач шчаслівым гадам.
Каб сэрцу твайму хоць крыху палягчэла,
Апошнюю кроплю крыві я аддам.

## Кросны

*Матулі*

Цябе не радавалі вёсны,
А зімы доўгія былі,
І ратавалі толькі кросны,
Што ў хаце з зазімкаў жылі.

Яны — спагадлівыя сведкі
Тваёй нядоліцы-бяды.
Больш давярала, чым суседкам,
Ты ім у слотныя гады.

Рыпелі з ранку чынна ляды,
Снавалі ўвішна чаўнакі.
За пару тыдняў, на Каляды,
Былі гатовы ручнікі.

А потым ткаліся дзяругі,
Бо з імі ў вёсцы самы рух:
Яны — і ў поле, і да лугу,
Без іх жанчына, што без рук.

За імі — вабіў вока новы,
З вясновых колераў, узор —
Малюнак зыркі, дывановы,
Сатканы з кветак, мар і зор.

Пасля — яшчэ адна абнова,
Ажно цьмянела ўсё наўкол:
Была настольніца гатова
На велікодны шчодры стол.

Пазней, як браўся дзень угору
І набліжалася вясна,
Плыла тканіна без узору —
Кавалак ладны палатна.

...Я гойсаў з раніцы да ночы
Ля таямнічых кроснаў тых,
А ты ўздыхала: «Мой памочнік,
Хутчэй, хутчэй бы вырас ты...»

...На ўсе вясковыя прыборы,
На ўсю вялікую сям'ю
Дабра наткала, пэўна, горы...

...І зорку выткала маю.

***

Рака жыцця віруе і віруе,
Хоць часам і збіваецца на мель,
Каму — кавалак славы ахвяруе,
Над кім — гудзе, як ашалелы чмель.

А ветразь наш заўжды напагатове —
Усюды для няўрымслівых прастор,
Адно вяслуй, вядзі без стомы човен
Да запаветных берагоў і зор.

***

Я не прасіў пазыкі ў долі:
Пазычыш — мусіш аддаваць.
Не аддасі — жыві ў няволі,
І Бог не стане ратаваць.

Я не прасіў пазыкі ў долі,
Бо ведаў: доля — боскі дар.
Кавалак хлеба, жменьку солі
У хаце меў, як гаспадар.

Я не прасіў пазыкі ў долі,
За ёй пакорліва ішоў.
З хлуснёй хаўрус не вёў ніколі,
Не гандляваў сваёй душой.

Я не прасіў пазыкі ў долі.
Яна сама мне ўсё дала.
Хапіла мне ўсяго даволі:
Святла, любові і цяпла.

Я не прасіў пазыкі ў долі.
Яна круціла кола дзён
То вокамгненна, то паволі...
За ўсё — ёй нізкі мой паклон.

Я не прасіў нічога ў долі.
А перад смерцю папрашу:
Не забяры, пакінь на волі
Адзіны скарб — маю душу.

## Крэда

Не падсумоўваць з сумам
дні пражытыя —
Сяброўства ладзіць
з новымі падзеямі!
Жыццё — не тая кніга,
што прачытана,
А тая, што разгорнута
з надзеямі!

***

Рве раб ланцуг, а путы — конь.
Наверх шыбуе з-пад зямлі крыніца.
Шугае ўвышкі, на прастор, агонь.
Усё жывое мусіць нарадзіцца.
О вольны, нескароны дух! —

Вялікая загадка-таямніца!
Няхай жыве твой неўміручы рух,
Які не мае права прыпыніцца!

***

Зіма саступае дарогу вясне,
Вясну непрыкметна адольвае лета,
І лета на восень сплыве і міне —
Спрадвеку вось так, і далей будзе гэтак.

Ці ранак, ці поўдзень, ці дзень-маладзень,
Ці хмель-адвячорак, ці вечар, —
Жыццё не спыняецца, вольна ідзе,
Маршрут яго — з вечнасці ў вечнасць.

І нам застаецца, напэўна, адно:
З яго каляіны не збочыць,
Пакуль хоць адзін шанц дае нам яно, —
Наперад, хады не збаўляючы, крочыць.

***

У белым палацы зімы
калісьці сустрэліся мы
выпадкова.
Рыпеў пад нагамі снег,
звінеў твой вясёлы смех,
і месяц над намі вісеў,
як падкова.

На шчасце быў той маладзік,
І шмат незабыўных гадзін
вечаровых
ён сэрцы сваім агнём,

нябесным сваім святлом,
таемна-пяшчотным цяплом
зачароўваў.

Дзе сёння той наш маладзік?
Няўжо непрыкметна ён знік
назаўсёды,
і ў белы палац зімы
не вернемся болей мы?
Ці гэта — як плата за міг
асалоды?

***

Жыццё — сачыненне на вольную тэму.
Наш выбар свабодны, без рызыкі лішняй.
Ды часам знянацку ўзнікае праблема:
Ці коску паставіць, ці кропку, ці клічнік?

Жыццё — самы добры і мудры настаўнік.
Яму неахвота памылкі падлічваць —
Заўсёды падкажа, утойваць не стане,
Дзе коску паставіць, дзе кропку, дзе клічнік.

Жыццё — справядлівы і строгі экзамен.
На досвед уласны мы мусім разлічваць:
І там, дзе патрэбна, павінны мы самі
І коску паставіць, і кропку, і клічнік!

***

Калі восень душу
Сцісне горкаю скрухай,
Перавяслам тугім
Перавяжа гады,
А за ёю зіма
Памялом завірухі
Абмалоціць снапы,
Замяце ўсе сляды, —
Колькі будзе зярнят
(Пэўна, жменька — не болей),
Я хачу, каб яны

Па вясне прараслі
Васількамі надзеі
На светлую долю
І маёй Беларусі
Свежых сіл дадалі.

## Адгукніся, каханая...

Дзе зімуеш, каханая?
Можа, холадна, любая,
Твайму сэрцу, скаванаму
Маразамі і гурбамі?

Як жывецца-вяснуецца,
Мая родная, мілая?
Па якіх сцежках-вуліцах
Ходзіш ты? Ці шчаслівая?

З кім, каханая, лятуеш
Пад высокімі зорамі?
Хто, якімі букетамі
Цябе ў святы адорвае?

Што ў дні восені слотныя
У душы тваёй дзеецца?
Ці жывеш бесклапотна ты
І нічым не абдзелена?

Ці з грымотамі-бедамі,
Як і я, сутыкнулася?..
...Анічога не ведаю ?
Хоць бы раз адгукнулася!..

***

Вераснёўскі адвячорак.
Верасовая туга...
Да цябе дайшла чарга,
Вераснёўскі адвячорак.
Скрозь блакітная смуга.
Ты куды плывеш, мой човен?
Вераснёўскі адвячорак.
Верасовая туга...

***

Прасее дзень праз сіта непагоды
Маіх спадзеваў светлую смугу,
І, стомлены вандроўкаю-паходам,
На бераг вечара я выцягну тугу.

Шкада дарог, што засталіся ззаду,
Дзе сёння мне не суджана ўжо быць,
Якіх не ўбачу я за даляглядам, —
Не хоча сэрца іх ніяк забыць.

Я, мабыць, з тых, хто лёс не дакарае,
Свой крыж цярпліва на зямлі нясе,
Хто Богу сваю сцежку давярае...

... А сцежка карацее пакрысе.

***

Што люба бясконца,
як зорка мне свеціць, —
Не высушыць сонца,
не выветрыць вецер.

А тое, што хмарна,
пячэ сэрца жарам, —
Аддам я ахвярна
няспраўджаным марам.

***

Жоўтыя кроны.
Белыя скроні.
Восень прыроды і долі маёй.

Сцюжа-завея
Лёгка развее
Стому далёкіх і блізкіх слядоў.

Знікне сцяжынка...
І аблачынкай
Я праплыву над самотнай зямлёй.

Хто мяне ўспомніць?..
Месяцу-поўні
Я завяшчаю памяць гадоў.

## Тост «За Вёску!»

Выбачайце, гарадскія людзі:
Я за Вёску прапаную тост,
Бо яна была, і ёсць, і будзе
Нашай славы і надзеі пост.

Кожны горад пачынаўся з вёскі,
Да яе туліўся ў час бяды.
Тут эпох далёкіх адгалоскі
І вайны пачварныя сляды.

Вёска наша — сэрца, пульс краіны,
І дарэмна горад нос задраў,
На яе глядзіць, як на руіны, —
Будзе ў вёскі светлая пара!

Прамаўляю з гонарам: «За Вёску!
За яе святыя мазалі!
За рупліўцаў, спадкаемцаў лёсу
Нашай роднай, спадчыннай зямлі! —

Патрыётаў Бацькаўшчыны нашай,
Да канца адданых ёй людзей!
П’ю, вяскоўцы, за здароўе ваша,
І за ваш шчаслівы новы дзень!»



# Сяргей Законнікаў

паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1991 г.). Аўтар паэтычных кніг: «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Вера, Надзея, Любоў» , «Прысак часу», «Сутнасць», «Вечная далеч», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала», «Дол» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

# Хараство

***(Паэма)***

*Дачцэ Святлане*

## Зачын

Паэму сваю пачынаю з зачыну,
Які для дзіцяці, канешне, — імя.
Я сам выбіраў, і з такое прычыны
Адказнасці ўласнай нічым не замяць.

Святлана...
За імем — святло і свабода,
З маленства люблю іх, таму нездарма
Яно ў галаве нарадзілася сходу,
Сакрэту ніякага ў гэтым няма...

Ты — родная далеч, што ласкай атуліць,
Падорыць трываласць і радасць надзей.
Твой выгляд — такі абаяльны і ўтульны,
Што хочацца толькі маўчаць і глядзець.

Выразныя вочы, валос светлы лівень,
Імпэт, што, на шчасце, ніколькі не сціх...
Мне радасна: з імем я не памыліўся,
Яно і ў аблічны, і ў справах тваіх....

## 1. Ханамі

*Так называецца ў Японіі*
*любаванне сакурай у час яе цвіцення.*

Люблю любавацца і я першацветам,
Які спалучаецца з небам якраз:
На фоне сінечы абрысы ўсіх кветак
Выразна падносіць абуджаны час.

У вочы б'е кіпень пялёсткаў наводмаш,
Цвітуць апантана, адчайна сады.
Плыве край у бела-ружовай паводцы,
Якая ні ў чым не прыносіць бяды.

Прыносіць вясна адчуванне свабоды,
Прыносіць бясплатна адно хараство.
Яна не зважае на ўціск, перашкоды,
На тое, што хмурыць нястача брыво.

Твой месяц — ён май, ці, па-нашаму, травень —
У годзе, у змесце сваёй чарады,
Займае прастол, бо пачуццямі правіць —
Заўжды вечна новы, душой малады.

У свеце, дзе вецер нягод не сціхае,
Дзе хуткім паям — ты не брат і не сват,
Якраз любаванне, мілосць і каханне
Зляпілі дзвюх мілых, прыгожых дзяўчат...

Прыстою і ўбачу — жыццё меў крутое,
У ім неаднойчы няўдачы сустрэў,
Бо ёсць у японцаў выслоўе пра тое,
Што «нават і малпачкі падаюць з дрэў».

Так, век быў няпростым, не толькі пагушкаў,
Хапіла і працы, і смеху, і слёз...
Вунь сочыць за мною з суседняй падушкі
Ці вішня, ці сакура — ды на ўвесь лёс.

## 2. Вясёлы сон

*«Дарагі Сяргей, дзякуй за ліст і за ХЛЕБ,
які парадаваў нас незвычайна. Адразу відаць
спрактыкаванага пілігрыма, які ведае, што трэба
для замежнай гасьціны. Твае маладзёны наведалі нас,
распавялі пра менскую жытуху. Яны нам дужа
спадабаліся, асабліва Света, якую я памятаў
яшчэ з дашкольных гадоў».*

З ліста да мяне Васіля Быкава
з Франкфурта-на-Майне
(ад 1 кастрычніка 2001 года)

У іншай часціне вялікай планеты,
Якраз у Амерыцы, у Вашынгтоне,
Прысніў я аблічча маленечкай Светы,
Якое ў смятане так весела тоне.

Хоць мела яшчэ паўтара года толькі,
Але самастойна варочала лыжкай,
Магла на сваім нецярпліва настоіць,
І мы дазвалялі, канешне, без лішку.

Запэцкана ўсё: валасы, лоб і шчокі,
Нібы спецыяльна, нібы на пацеху.
Калі языком стаў я здзіўлена шчоўкаць —
Адказвала мне задаволеным смехам.

Яе непасрэднасць была пакручастай,
Але абаянне не гасла пры гэтым,
Яго ўспаміналі з усмешкаю часта
Усе, што гасцілі ў кватэры, паэты.

Вось, скажам, прыходзіць па важнай прычыне
Мажны і салідны ў паставе Гілевіч.
Размова ў яго з трохгадовай дзяўчынкай
Такая, што кожны з тых слоў весялее:

«Дзень добры, красуня! Што, семкі да смаку?
Дык мо пачастуеш? Ці, можа, пазычыш?
А гэта што там — за блакітным сабакам?
Які ў цябе слаўны інструмант музычны!»

Дзіця прыпыняе: «Ты можаш прысесці...
Хадзі да мяне, як абутак свой скінеш...
Сядай... Дзядзька, ты мне палускаеш семкі,
А я табе граць буду на піяніне».

Хоць меў шмат варункаў цікавых і розных,
Душа тым малюнкам дагэтуль сагрэта:
Дыван на падлозе, на ім па-сяброўску
Гамоняць паэт знакаміты і Света.

Прыплыў у мой сон і выпадак вядомы,
Дзяўчынка вітала на Ўшаччыне Броўку:
Букет аддала напачатку старому,
А потым вярнула сабе яго зноўку.

Сон заакіянскі як след завіхаўся,
Яшчэ зямляка дарагога паклікаў:
Як Свету трымаў, то заўсёды ўсміхаўся
Сур'ёзны, жыццём заклапочаны Быкаў...

Я доўга звыкаю да месцаў, да змены,
Сябе адчуваю чужым і зацёртым...
За вокнамі чуліся грукат, сірэны,
А мне стала ў горадзе новым камфортна.

## 3. Галоднае мастацтва

З маленства дачок хвалявала мастацтва,
Хацелі яны маляваць, рыфмаваць.
А дзе можна з вечным набыткам вітацца?
У Піцеры куфар найлепш адкрываць!

За тыдзень пабачылі, чулі нямала,
Усё — найважнейшае, як ты ні важ!
Быў Пушкін, затым Пецергоф, ды ляжала
Сцяжына галоўная — у Эрмітаж.

Для нас цвік праграмы — багацце калекцый,
А тут — Рафаэль, Рэмбрандт і Тыцыян,
Яшчэ Мікеланджэла, творы ўсіх лепшых,
Душэўны палёт, хараства акіян...

Сярод шэдэўральных палотнаў і статуй
Раптоўна да быту чуваць пераход:
«Мне хочацца есці... Давай пойдзем, тата!»
Гучыць так, што ўвесь павярнуўся народ.

«Крыху патрывай, перакусім, дачушка.
Цяпер надта многа людзей. Там чарга», —
На рукі бяру, каб заняць ці пагушкаць,
Але не праходзіць ад стомы туга.

Саскочыла з рук, моцна тупнула ножкай,
І ў крыўдзе прысела ў далёкі куток...
А мы разглядаем карціны патрошку,
Але і за ёй сочым, хоць неўзнарок.

Сядзіць і з банкеткай не можа расстацца,
Ды голас — на цэлы музей ці на свет:
«Стаміла галоднае гэта мастацтва!
Ну, тата!.. Пайшлі, пашукаем буфет!»

Назаўтра ў музеях — зноў зала за залай,
Мастацтва здаўна патрабуе ахвяр.
Але душы ў вузел яно завязала...
Хоць ногі гулі, быў прыймальным цяжар...

Мне ўтульна капацца ў нажытым, забытым,
З яго раскрываць за сакрэтам сакрэт...
Галоднай да працы ідзеш па жыцці ты,
Прычына, відаць, — Эрмітаж і буфет.

### 4. Купальскае кола

Аднагодкі спраўлялі Купалле,
Я ж ішоў пасля змены дахаты
І глядзеў, як кастры яны паляць,
Як шугае агнішча крылаты.

Мы ў той дзень разгружалі вагоны,
Дзе мука і цэмент для саўгаса,
Замарыўся, ды, дзеяй натхнёны,
Стаў сачыць, не шкадуючы часу.

Вось з гары ўсім разявам на ўцеху
Пакацілася полымя кола,
Засыпаючы іскрамі, смехам,
Сцежку, луг, што прасцёрся наўкола...

Вучнем быў, у дарослыя спешна
Праз заробак ішоў і не збочыў,
А таму меў у пашпарце першым
Запіс неверагодны: «рабочий».

Я натхненнем да робы прыкуты,
Доля рэй правяла, як сумела:
Пасыпала мукою пакутаў,
А цэмент пераплавіла ў смеласць.

Будзень зараз не надта вясёлы,
Затрымаўся народ у аблудзе...
Толькі мужнасці коціцца кола,
І спыняцца ніколі не будзе.

## 5. Твой голас

Твой голас, мілая дачушка,
Магу з мільёнаў распазнаць.
Вось у мабільніку пачуўся —
Душа прасветлена да дна.

Мая Святуля — воін праўды,
Я зноў любуюся табой.
Натхненнем ты выдатна правіш,
Са злом вядзеш няроўны бой.

Ды не пра гвалт у нас гамонка,
Што прыціскаць свой люд «мастак».
Гасцінна прыняла старонка,
Дзе грэе беларускі знак.

Усё знаёма і вядома,
І з мовай здружыцца любы.
Тут адпачынак, як і дома, —
Азёры, рэкі, лес, грыбы...

Плыве твой голас з Беластоку,
А да яго — руку падаць.
Гучыць ён побач, не здалёку,
Ды адарвала вас бяда.

Прымаю без слязы бяду я,
Што зробіш, час ва ўсіх такі...
Па годзе тым дасюль шкадую —
Не выбраўся ў баравікі...

## 6. Рамяство

Дыктары аблізваюць дыктатараў,
Сваркі ў дэмакратаў між сабой...

Мы ж шчыруем,
Мы праз лёс — аматары:
Пошукі, знаходкі, новы збой.

Браць не трэба ў некага дазволу нам,
Каб ствараць нязнаны ўласны свет,
Каб адважна жыць надзеяй кволаю,
Што заўважыцца натхнення след.

Крэўнай сувязі ніяк не страцілі,
Бо і ў шчыраванні — дружбакі.
Ты ў мастацтва ўзводзіш бісер, пацеркі,
Я ж шукаю спелыя радкі.

Мы трымцім, трапечамся без пэўнасці,
Нам ніхто не выдасць «парашут».
Наша рамяство, дачка, душэўнае,
Вось і раздаем сваю душу.

Ці надоўга хопіць скарбу здраднага? —
Не баліць пра тое галава.
Проста працаваць з душою — радасна,
Проста лёс дыктуе — раздаваць!..

Замарыўся, вочы затуманены,
На экране — нейкія агні.
Цягне да святла, у далеч зманную,
І цябе прашу я: адпачні!

Выйдзі ў луг свой, хараства прыгонная,
Водарам у твар няхай дыхне...
Матылёк над кветкамі балконнымі —
Гэта прывітанне ад мяне.

## 7. Нараджэнне хараства

Калі заграбае вясло, каб пасоўваць свой човен
Па вязкай, зарослай азёрнай прасторы,
За ім у рудых бурунах, у таемнасці чорнай
Зрэдчас нараджаецца цуд непаўторны.

Гарлачыкі жоўтыя, недзе чародка і белых,
Сабой асляпляльныя неверагодна,
Каб болей уразіць, разважна, павольна, нясмела,
Але выплываюць з глыбіняў прыродных.

Была непарушнасць — сляпая, глухая, нямая,
Ды тут, як маланка, красы смелы выклік.
Вось так хараство твае ручкі з нічога вымаюць,
Вось так і народ да святла можа выплыць...

Мне помніцца човен старэнькі з рыбацкай удачай,
Лятаюць стракозы, а там — вадамерак расцяжка...
Сядзіць ля вясла мой усмешлівы белы гарлачык,
Ля ног снопік жоўтых — халодны і важкі.

## 8. Пальчыкі

Яны могуць проста з нуля хараство вышываць,
Прытым выдаюць прыгажосць на ўсе сто, не акрайчыкам.
Канешне, працуюць — душа, сэрца і галава,
Але як старацца без спрытных і радасных пальчыкаў?

А пальчыкі ўмеюць вязаць, плесці, шыць і каваць,
Зрабіцца, як трэба, гарачай плавільнаю домнаю.
А пальчыкі здольныя нават у працы спяваць,
Яны завіхаюцца так, як і ты, бо нястомныя.

Усё падуладнае ім — у цане залатым,
Яны на лайдацтве, на нэндзе ніколі не злоўлены,
Яны пацвярджаюць выснову хірургаў аб тым,
Што верныя рукі для іх — інструмент найгалоўнейшы.

У космасе вобразаў ёсць што яшчэ адкрываць
Спакойна, надзейна, а, часам, рыўком і запальчыва...
Працуюць у звязцы — душа, сэрца і галава,
Але ж як без пальчыкаў...
Ах, тыя пальчыкі, пальчыкі!

## 9. Натхненне

Натхненне робіць цябе відушчай,
Яно непазбежнае і без мяжы...

Чаму сухастоіна падае ў пушчы,
Чаму снег ідзе або дождж ык імжыць?

І я даўно ў душы не пытаю,
Куды мяне заўтра яна павядзе.
Мой верш павуцінкаю зноў адлятае,
Каб жыць невядома як, колькі і дзе...

## 10. Пацеркі

Чым на роднай планеце жыву я ўсё болей,
Тым выразней выснова ў клапотнай імгле,
Што далей існаваць дасць Вышэйшая Воля
Свой дазвол толькі ім — мурашу і пчале.

Так працуе дзіцятка маё залатое —
То кампутар, то пацеркі... Вечнае шво...
Забірае знаходку, і ўпрочкі — не тое,
Хоць марудна, але паўстае хараство.

Як бы час хуткаплыннасцю ні дакаралі,
Ён не спыніць свой бег, бо нязменліва цёк.
Ціха пацеркі дзён абняліся ў каралі,
А каралі — цудоўныя, гэта — жыццё...

## 11. Без прыпынку

Непрыкметна цяжэе гадоў хатуль,
Ды знаходак і страт працэнт невядомы.
Толькі мы не працуем адсюль і дасюль,
І жывем удзячна, без горкай аскомы.

Тых, хто тут не паводзіць сябе, як госць,
Далібог, няўвагай ніколі не спыніш.
Стужка ўдачы заўсёды наперадзе ёсць,
І няясна: калі ён — чарговы фініш?

Нас не мучыць пытанне: «А што ж далей?»,
Бо імпэту нічога ўжо не асцюдзіць.
Новы дзень даў задуму. Яна — на стале...
Анічога... Шукаць і знаходзіць будзем!

## 12. Шчаслівы чалавек

Зразумела, што чалавек можа быць шчаслівым
З лесам,
З лугам,
З полем,
З ракой,
З возерам,
З гарамі,
З морам,
З акіянам...
Не трэба толькі за ўсё хапацца мітусліва,
Трэба любіць адно, але апантана.

Пад нагамі — зямля, над намі — блакіт высокі,
Не перастае космас і цябе, і мяне, старога, гушкаць...
Я шчаслівы заўжды, калі гляджу на аблокі...
А ты, мая мілая дачушка?

## Эпілог

На гэтым, я думаю, трэба спакойна свой сказ канчаць,
Пра натхненне і творчасць можна разважаць бясконца.
Цяпер варта проста падумаць, даўжэй памаўчаць
І паглядзець: ці ёсць яшчэ нешта ў душы на донцы?

Палітыка на жыцці ставіць недасканаласці таўро,
А я задаволены яго хараством, вадою і хлебам.
Хачу не стагнаць, не рыдаць, не крычаць на ўвесь рот...
Буду моўчкі любавацца аблокамі, зменлівым небам.

*9-16 чэрвеня 2020 г.*



# Ульяна Зяткіна

празаік. Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 2000 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

# Дарога з цэглы і нажоў

Першы дзень кастрычніка гэтага года я памятаю ярчэй любога дня свайго жыцця. Я памятаю ў падрабязнасцях ўсё, што адбывалася *да* ў гэты дзень, а яшчэ я памятаю сілу сваёй надзеі *пасля* на тое, што справядлівасць нарэшце спыніць нашы пакуты. Аднак той допыт растаптаў надзею не толькі ў мяне. Памятаю, як нас усіх прывялі ў пастарунак і пачалі запускаць у маленькі кабінет па адным. Садзілі за стол, ставілі побач напоўненую вадой аднаразовую шклянку і пачыналі задаваць пытанні. Мне здаецца, усе казалі праўду, і менавіта па гэтай прычыне яны думалі, што мы хлусім. Яны ўхмыляліся нашай, як ім здавалася, калектыўнай фантазіі, ляніва рабілі пазнакі ў нататніках і нагадвалі, што лепш бы мы выклалі ўсё, як ёсць. Яны адмаўляліся прымаць той факт, што кожны, хто сядзеў перад імі, быў да жаху напалоханы ўжо даўно і што кожны пакутуе ад бяссонніцы ўжо цэлы месяц. Ім было складана ў гэта паверыць, а яшчэ цяжка ім было ўявіць, што ў гэтага ўсяго была толькі адна прычына.

Яны лічылі глупствам абвінавачваць ідэальна прамую стометровую дарогу ў слязах дзяцей. Менавіта гэтая дарога забівала нас знутры, а цяпер забіла аднаго з нас па-сапраўднаму. Нам не верылі, таму што ніхто з дарослых не бачыў тых вар'ятаў у ссунутых на лоб кепках, у вайсковых чаравіках, з вялізнымі біцэпсамі і разбітымі тварамі, якія круціліся дзень і ноч на гэтай дарозе ад прыпынку, дзе высаджваліся школьнікі з адзінага аўтобуса, і да маленькага прадуктовага магазіна, за якім стаяла школа. Не бачылі, таму што не хацелі. Ім здавалася, што ўсё ў парадку, што гэтая кампанія з шасці чалавек стаіць без ніякай мэты насупраць драўлянай агароджы, якая прыкрывала закінутыя дамы, што яны ўсяго толькі балбочуць паміж сабой і нікога не чапаюць, і так праўда было, пакуль хто-небудзь з дарослых праходзіў міма іх. Але варта было мужчыне або жанчыне схавацца за крамай, як гэтая купка псіхаў выцягвала свае цацкі з кішэняў.

Галоўная праблема была ў тым, што мы, хто прыязджаў на тым аўтобусе, не маглі трапіць у школу іншым шляхам. Ад нашага прыпынку ішла толькі гэтая чортава прамая, напэўна спецыяльна пракладзеная дарога, і многім дзецям даводзілася ісці па ёй. Мы з дрыготкай ад страху ва ўсім целе выходзілі з аўтобуса №18, тапталіся на месцы і глядзелі ў зямлю, не адважваючыся выйсці наперад і пачаць шлях, але час ішоў, і ўсё ж такі хто-небудзь, кожны раз новы чалавек, рабіў няўпэўнены крок на «сцежку смерці», як яе хутка ахрысцілі. Нас выходзіла за раз звычайна чалавек дзесяць з гэтага аўтобуса, гэта значыць, мы былі ў большасці, але гэта не мела значэння, таму што мы не маглі даць адпор таму, што адбывалася на гэтай дарозе. А адбываўся самы сапраўдны кашмар.

У той, як гаворыцца, фатальны дзень усё пачалося таксама, як і звычайна. Мы выйшлі з аўтобуса ў 8:18, азірнуліся, каб прыкінуць, ці шмат нас, і аказала-

ся, што шэсць. Столькі ж, колькі і іх. Па адным на кожнага. Каля мяне стаяла мая аднакласніца. У школе мы ніколі не размаўлялі, але тады на прыпынку адразу зразумелі, што калі ўсё пройдзе гладка, мы станем сяброўкамі. Гэта адбывалася з усімі. Той, каго ты трымаеш за руку, пакуль праходзіш праклятыя сто метраў, становіцца тваім сябрам назаўжды. У нейкім сэнсе тыя псіхі дапамагалі нам пашыраць кола зносін.

Мы глядзелі адзін на аднаго, задаючы адзінае маўклівае пытанне: хто насмеліцца пайсці першым. Я звычайна ішла ў сярэдзіне, і таму ўва мне раптам зарадзіўся страх, што ўсе пяць поглядаў звернуцца да мяне.

— Я ўчора быў першым, — прашаптаў хлопчык з шостага класа. — Ён пацвердзіць.

Хлопчык з пятага класа, які стаяў побач, кіўнуў, а затым і мы замахалі галовамі, нібы здымаючы з шасцікласніка абавязак.

— Прызнавайцеся, хто яшчэ ніколі не ішоў першым, — зноў загаварыў шасцікласнік, моцна сціскаючы шлейкі рукзака. — У нас не так шмат часу, хутка пачнецца ўрок.

Мы зноў кіўнулі. Але ўголас ніхто не вымавіў ні слова.

Раптам мая аднакласніца кашлянула.

— Не смей, — скрозь зубы папярэдзіла я сваю будучую сяброўку, але яна, напэўна, не пачула, таму што загаварыла:

— Я не была першай. А ні разу.

— Пашанцавала. Але ўдача не вечная, так што прапаноўваю табе пайсці зараз, — шасцікласнік гаварыў ціха, але вельмі ўпэўнена. Ён вырашыў, што з-за свайго старшынства можа намі камандаваць, хоць выбар, які нам трэба было зрабіць, павінен быць добраахвотным.

І я не змагла ўтрымацца:

— А чаму ты вырашыў, што маеш права аддаваць загады? Можа, яе ўдача будзе працягвацца вечна, не табе распараджацца гэтым.

Усе са здзіўленнем паглядзелі на мяне. Усе пяцёра. Тое, чаго я так баялася. І адразу зразумела, якая будзе наступная прапанова.

— Калі ты такая заступніца, то ідзі сама. Зрабі акт дабрыні. Выратуй нас усіх.

Праглынуўшы сліну, каб пазбавіцца ад сухасці ў роце, я павярнула галаву на дарогу. Яны стаялі на сярэдзіне шляху як заўсёды ў некалькі метрах адзін ад аднаго, тым самым у кожнага мелася асабістая прастора для дзеянняў. Калі на дарозе відаць было дарослага, яны гуртаваліся і пачыналі быць падобнымі на звычайную купку дзяцей. Але на той момант, як на зло, мы былі адны. Толькі мы і нашы ворагі. І яны стаялі ў баявой гатоўнасці, часам свісталі нам, а мы ўсе працягвалі таптацца каля прыпынку.

Я апусціла вочы.

— Гэй, як цябе клічуць? — спытаў шасцікласнік.

— Якая розніца, — ледзь чутна адказала я і заправіла пасму валасоў за вуха.

— Твая справа, — хлопчык паціснуў плячыма, а потым вярнуўся да галоўнага пытання: — Дык ты пойдзеш?

— Я буду побач, — паспрабавала суцешыць мяне аднакласніца, але я толькі адмахнулася. Лепш хай ідзе ў канцы. Мне чамусьці стала здавацца, што я павінна яе абараніць, і гэта было магчыма толькі адным спосабам.

— Ідзем.

І мая нага ступіла на чырвоную цэглу.

Калі да хлопцаў заставаўся ўсяго дзясятак метраў, мой наручны гадзіннік паказвў 8:26. Мы спазняліся на занятк і, і нам нельга было затрымлівацца. У гэты раз мы павінны былі прабегчы хутчэй звычайнага. І я паскорыла крок, а за мной і ўсе астатнія.

— Добрай раніцы, малышня, — гаркнуў самы першы і палез у кішэню. Маё сэрца сціснулася ад жаху. Мяне чакала самае страшнае — магчымасць сустрэцца з усімі дванаццаццю нажамі.

Перад самай кульмінацыяй я павярнулася: за мной, прама па пятах, ішоў сведка-пяцікаснік, потым дзве сяброўкі з маёй паралелі, наш нявыбраны лідар, і закрывала ланцуг аднакласніца. Я ўсміхнулася ёй, але мне тут жа прыйшлося ўскрыкнуць і спалохацца за сваё жыццё, таму што першы нож стукнуўся аб агароджу і ўпаў на дарогу. Я мімаходзь паглядзела на яго і пабегла што ёсць сілы. Наперадзе заставалася адзінаццаць магчымасцяў.

Я чула, як за мной раздаваліся крыкі кожны раз, калі нож сустракаўся з драўлянай агароджай і заставаўся ў ёй альбо падаў, і я сама таксама крычала. Перад маім тварам праляцела ўсяго тры штукі, хоць я чакала нашмат больш, і я не ведала, ці трэба мне радавацца. Калі я набліжалася да апошняга, хлопец замахнуўся сваім нажом, і я не адрывала ад яго вачэй, але ён чамусьці апусціў яго, пры гэтым падміргнуўшы свайму суседу, што напалохала мяне яшчэ больш. Раней яны так не рабілі. Я перайшла на крок не адразу. А калі спынілася зрабіць глыбокі ўдых для пацверджання сваёй цэласці і захаванасці, на мае плечы ўпалі рукі пяцікласніка. Яго таксама не закранула. Мы ўсміхнуліся адзін аднаму, а затым абняліся. Адзін за адным да нас падбягалі і спыняліся ўсе астатнія. Мы радаваліся, што змаглі гэта зрабіць. У нас кідалі вострыя нажы, але мы засталіся без адзінай драпіны. Тыя псіхі сёння прамахваліся як ніколі, і ад радасці мне хацелася вярнуцца да таго апошняга і плюнуць яму ў твар, падскочыўшы, таму што ён быў нашмат вышэй за мяне.

— Глядзіце, ён перагарадзіў ёй дарогу! — шасцікласнік усклікнуў, калі мы ўжо думалі рухацца далей. Я паглядзела туды, куды ён паказваў, і не ўбачыла сваю аднакласніцу, таму што яе захінуў сваім целам гэты шосты. У яго руках яшчэ заставалася два нажы. Да іх набліжаліся і астатнія хлопцы.

— Гэй, адпусціце яе, — крыкнулі мы, але ніхто з нас не адважваўся вярнуцца.

— Дайце прайсці, — скрозь слёзы папрасіла дзяўчынка, але яны толькі пасмяяліся.

— Хочаш прайсці? Не пытанне, — загаварыў адзін з іх і жэстам паказаў расступіцца. Мне стала лягчэй.

Цяпер мы бачылі сваю сяброўку, а за ёй лініяй, таксама тварам да нас, і ўсіх шасцярых хлопцаў. У некаторых у руцэ было па нажы, у шостага іх было два.

Мая аднакласніца павярнулася да іх і вельмі жаласна, з самой што ні ёсць шчырасцю, спытала:

— Я магу ісці?

— Зразумела, — і вусны таго, хто гаварыў, расцягнуліся ва ўсмешцы.

Яна пабегла.

Праз імгненне ёй услед паляцелі пяць нажоў. Першы трапіў у нагу, другі — у лапатку, трэці — ў шыю, чацверты — ў спіну, а пяты нож трапіў у патыліцу.

Яна ўпала на жывот, нават не ўскрыкнуўшы.

Хлопцы, як толькі каля маёй аднакласніцы пачала расплывацца лужына крыві, памчаліся да агароджы і спрытна пералезлі праз яе, а затым, прама, як мы нядаўна, пусціліся бегчы і вельмі хутка схаваліся за першым домам. Мне падалося, ці я сапраўды пачула злосны смех.

Мы ўпершыню за месяц засталіся на дарозе адны. А праз хвіліну прыехаў наступны аўтобус, з яго выйшлі двое дзяцей і адзін дарослы, і мы пайшлі ім насустрач. Гадзіннік паказваў 8:29, праз хвіліну ў нас пачынаўся першы ўрок, але мы не думалі спяшацца ў школу. Мы беглі да тых траіх, і ў кожнага па шчоках цяклі слёзы. Мы думалі, што нам дапамогуць выратаваць маю аднакласніцу, што яна яшчэ не памерла. Мы спадзяваліся не стаць сведкамі канца яе жыцця.

З прыездам міліцыі, нашых бацькоў і настаўнікаў усё неяк заблыталася, згубілася, ні я, ні астатнія чацвёра не зусім разумелі, што адбываецца, чаму нам кажуць маўчаць і ісці за мужчынамі ў форме. Мы азіраліся ў пошуках тлумачэння, але сустракалі толькі напружаныя і поўныя болю ўперамешку са злосцю погляды. Каля маёй аднакласніцы ўжо тоўпіліся лекары, і мы зноў яе не бачылі, як тады, калі яе захінуў той хлопец. Я ўспомніла, як вырашыла, што мы станем сяброўкамі, і ледзь не засмяялася.

— Не магу паверыць, што яны яе забілі, — сказаў шасцікласнік, калі нас рассадзілі па міліцэйскіх машынах.

— Я думаў, яны проста весяляцца, а ў іх, аказваецца, такое было на розуме... — дадаў пяцікласнік і высмаркаўся ў хусцінку.

Я тады зразумела, што кожнаму чалавеку вясёлым можа здацца рознае.

І праўда таксама можа быць розная, як я потым упэўнілася ў пастарунку. Бо ў іх яна была свая, а нашу ніхто не прымаў. І мне хацелася плакаць.

Вада ў маёй шклянцы засталася толькі на дне, і ніхто не прапанаваў мне яшчэ. Думаю, іншым яны таксама не прапаноўвалі. Думаю, яны нас ненавідзелі. За нашу выдумку, за нашу «сцежку смерці», за неразуменне ўсёй значнасці гэтага допыту, хоць мы разумелі і ведалі больш, чым хто-небудзь яшчэ.

Той першы дзень кастрычніка на самай справе застаўся ў маёй памяці назаўсёды.

# Уладар

Упершыню я ўбачыла яго, калі мы з Іллём падымаліся па лесвіцы ў маім пад'ездзе. Гэта было ў абед, пасля заняткаў ва ўніверсітэце, калі сонца свяціла ярка і цёпла, і мы вырашылі абавязкова правесці астатак дня на прыродзе, нягледзячы на тое, што на наступны дзень у Іллі стаяла выніковая праца па эканоміцы. Нам трэба было ўзяць посцілку, ігральныя карты, ваду і садавіну, каб пікнік выглядаў самым сапраўдным. І вось, калі мы набліжаліся да маёй кватэры, я мімаходзь зірнула на таго хлопца.

Ён стаяў на пераходнай паміж лесвіцамі пляцоўцы, каля акна, у якое нібы ў задуменнасці глядзеў, і рабіў выгляд, што мы яму нецікавыя. Я б таксама не звярнула на яго ўвагу, але яго занадта ссунутая на лоб чорная кепка адразу ж пасяліла ўва мне падазрэнні, і з-за якой я нават не адразу зразумела, што ён носіць акуляры, і з даволі тоўстым шклом. Ён быў такі згорблены, быццам на яго нешта ціснула, і здаваўся нашмат ніжэй, чым ёсць на самой справе. А яшчэ яго рукі былі ў драпінах, і я падумала, што ў яго напэўна ёсць азлоблены на ўвесь свет кот.

Іллі ён таксама не спадабаўся. Ён сказаў мне аб гэтым, калі мы ўжо выйшлі з пад'езда, пасля таго, як узялі ўсе неабходныя рэчы і спусціліся па лесвіцы зноў міма яго. За ўсе дзесяць хвілін, што мы з сябрам правялі дома, гэты хлопец, здавалася, нават не паварушыўся: ён усё таксама панура стаяў, і ў мяне ні разу не ўзнікла думка, што ён кагосьці чакае. Аднак нешта яму трэба было, і я не мела ніякага паняцця, што менавіта.

Пакуль я была з Іллём на пікніку, сто разоў забыла пра таго пад'язнога незнаёмца і атрымлівала асалоду ад сонечных прамянёў, смяялася, храбусцела яблыкамі і падколвала сябра наконт яго непадрыхтаванасці да эканомікі. Калі прыйшоў час вяртацца дадому, Ілля прапанаваў мяне правесці, і мы рушылі. Каля пад'езда я раптам успомніла пра таго хлопца і падзялілася гэтым з сябрам, на што ён адказаў, што падымецца са мной да кватэры, проста каб пераканацца, што ўсё ў парадку і што той дзіўны тып знік.

Але ён не знік.

Мы дайшлі да трэцяга, майго, паверха і ўбачылі, як ён стаіць, глядзіць у акно, быццам усё так і павінна быць. Я ледзь не ўскрыкнула, калі ён падняў галаву і паглядзеў сваімі цьмянымі вачыма прама мне ў душу, і паскорыла крок. Аднак гэта не ратавала мяне.

— Прывітанне.

Голас яго быў такі ж невыразны, як і вочы, нават нельга было вызначыць мужчынскі ён ці жаночы. Яго прывітанне прагучала зусім не гучна, прыглушана, але ўсё-ткі настойліва, і я тут жа прадставіла, як ён трымае нож ля майго горла і патрабуе апошнія мае словы. Прызнацца, мне стала жудасна. А потым я разгарнулася і ўскінула бровы ў здзіўленні, хаваючы прыкметы страху.

— Мы знаёмыя?

Ён зрабіў крок мне насустрач.

— Не зусім. Ведаю, што ты добра пішаш сачыненні. А мне якраз неабходна падцягнуць гэты навык.

Яшчэ адзін крок.

Нарэшце Ілля дадумаўся ўмяшацца і пачаў размову адразу строга:

— Хто ты такі? Тое, што ты тарчыш тут цэлы дзень, выклікае падазрэнні. Нам праблемы не патрэбны і табе, думаю, таксама.

Кулакі сябра сціснуліся, і я адчула сябе лепш.

— Я прыйшоў да Віталіны за дапамогай. Не хвалюйся, — яго голас заставаўся голасам дэмана.

Як толькі ён наблізіўся да мяне яшчэ на крок, Ілля сарваўся з месца і нечакана для гэтага хлопца ўдарыў яго ў жывот.

— Прэч па-добраму і не з'яўляйся ў гэтым доме больш! — крыкнуў Ілля ў самае вуха таго, хто так жадаў навучыцца пісаць сачыненні, і схапіў яго за локаць. — Прасачу, каб ён шчасна пакінуў пад'езд і двор, — гэтыя словы былі для мяне, і я паслухмяна кіўнула.

Мне спатрэбілася толькі пара хуткіх крокаў, каб дабрацца да кватэры. Калі я замкнула дзверы, уключыла святло, зняла рукзак, маё сэрца працягвала шалёна стукаць. Сітуацыя была дурной, але ў той жа час незразумелай, і таму трывожнай. Я не магла сцяміць, адкуль узяўся гэты чалавек каля маёй кватэры, як ён наогул дастаў мой адрас і чаму ён так старанна ствараў вобраз псіхапата. Калі яму і праўда патрэбна была мая дапамога, хіба не мог напісаць мне ў якой-небудзь сацыяльнай сетцы, напрыклад, а не арганізоўваць усю гэтую сцэну. Аднак ён дзейнічаў па нейкай зусім цёмнай схеме, вынікам якой магло быць і стала толькі запалохванне. А калі б не Ілля, то незразумела, што адбылося б далей.

Як толькі я падумала пра тое, як цудоўна вырашыў праблему сябар, у дзверы пазванілі, і менавіта ў гэты момант сапраўдныя праблемы толькі пачаліся.

— Хто там? — спытала я, здагадваючыся, які будзе адказ, і ўжо адкрыла першы з двух замкаў.

— Усё яшчэ я, — пачулася па той бок дзвярэй, і я ў жаху адскочыла назад.

Гэта быў голас не Іллі.

— Што ты хочаш? Сыдзі, інакш я выклічу міліцыю! Праўда!

У мяне міжволі намоклі вочы, і я сутаргава прынялася шукаць у рукзаку тэлефон. Я ніколі ў жыцці не набірала нумар 102, але была гатовая зрабіць гэта тады, каб напэўна пазбавіцца ад псіха за дзвярыма, які да таго ж зачыніў далонню вочка, і я не магла бачыць яго вочы, якія выдавалі ненармальнасць.

— Калі ты патэлефануеш, то яны будуць мець справу з трупам твайго сябра. А калі ты зараз адчыніш дзверы, то ў яго будзе шанс на выратаванне. Лічу да трох.

Ад такой умовы ў мяне падкасіліся ногі.

— Што ты зрабіў з Іллём?! Калі ты зрабіў яму нешта дрэннае, я цябе знішчу! Ты зразумеў? Ненармальны!

— Адзін.

— Хоць дзесяць! Прэч адсюль! — я крычала ў дзверы з такім адчаем і, галоўнае, з такой сілай, што на ўзроўні майго рота на карычневым фоне ўтварылася вільготная пляма.

— Два.

— Пайшоў да чорта!

— Я яго разрэжу на сотню кавалачкаў, калі ты не адчыніш на «тры».

Я змоўкла. Прытулілася да дзвярэй. Зрабіла некалькі глыбокіх удыхаў.

— Тры.

Дзверы расчыніліся.

І гэта пачвара перасігнула парог.

Першае, на што я звярнула ўвагу, былі яго рукі. Тонкія, бледныя, у драпінах, а галоўнае, у крыві. Здавалася, што ён акунуў свае кісці ў вядро з крывёю. І я не хацела здагадвацца, каму гэтая кроў належала.

Ён момант пастаяў, спехам вырашаючы, як дзейнічаць далей, а затым схапіў мяне адной сваёй чырвонай рукой за горла, а другой — за майку, зусім не хвалюючыся пра тое, як я буду адмываць потым крывавыя плямы. Калі мне, вядома, удалося б выжыць, у чым я тады ўжо не была ўпэўненая. Моцна трымаючы мяне, ён пацягнуўся, а я за ім, у суседні пакой.

— Балюча! — ледзь выціснула я, спрабуючы вызваліцца, але ён сціснуў тады толькі мацней.

— У гэтым і сэнс, Віталіна. У болю.

Я прыціхла.

— Добра ўсё ж такі, што бацькі табе купілі сваю хоць і невялікую, але кватэру, — сказаў ён, усаджваючы мяне на канапу і выцягваючы з задняй кішэні складны нож і асцярожна праводзячы ім па маіх вуснах. — Сядзі ціха.

Я глядзела на нож, такі ж чырвоны, як яго рукі, а цяпер і мая шыя і адзенне.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — тут жа не падпарадкавалася адзінаму правілу я.

— Я шмат чаго ведаю. Але адказаў на свае пытанні ты ўсё роўна не атрымаеш.

Ён азіраўся, ацэньваў мэблю, выгляд з акна, вышыню столі, як пакупнік. А я была прадаўцом, які дрэнна спраўляўся з рэкламай, таму што кожнае маё слова магло быць апошнім.

— Як цябе клічуць? Можаш сказаць хаця б гэта?

— Кліч мяне уладаром.

— Уладаром чаго? — не стрымалася я.

— Цяпер гэтай кватэры, а ў хуткім часе і свету, — проста адказаў ён, нібы гэта было відавочна.

Сапраўдны псіхапат, шызафрэнік з маніяй велічы, неўраўнаважаны адзіночка, пазбаўлены адэкватнага ўспрымання рэчаіснасці. Менавіта так яго можна было апісаць.

— Значыць, так, Віталіна. Уразумей з першага разу, — Уладар падышоў ушчыльную да мяне, наставіў нож да і так ужо замучанага горла. — Я буду тут працаваць. А што тычыцца цябе, ты будзеш сядзець на гэтай канапе да тых часоў, пакуль я не вырашу цябе забіць. З кватэры ты не выйдзеш да таго часу, пакуль я не вырашу вынесці тваё цела.

Яго словы мяне агаломшылі.

Уладар зняў кепку і кінуў на падлогу, раскрыўшы мне таямніцу сваіх валасоў, якія апынуліся густымі і чорнымі, відавочна пафарбаванымі, і да агіды бруднымі. Я паспрабавала зазірнуць яму ў вочы, але ягоныя буйныя акуляры стварылі сцяну паміж светам і яго вачыма.

— Першае правіла...

— Байцоўскага клуба? — перабіла я і расплылася ва ўсмешцы. Мне раптам так захацелася, каб ён зразумеў мяне, але, калі чырвоны нож пакінуў глыбокі след на маёй правай шчацэ, я вырашыла, што ён не з аматараў кіно.

Кроў пацякла бруёй і заставалася на маіх руках, сцякала ўніз да локця, капала на штаны і ператварала мяне ў сапраўдную ахвяру.

— Першае правіла: ніякіх пытанняў. Другое правіла: ніякіх спробаў перашкодзіць мне ці выратавацца. Трэцяе правіла: ніякіх лішніх рухаў. Усё проста, праўда?

Мая кроў змяшалася з крывёю папярэдняй ахвяры.

— Пакуль мы не пачалі, што ты зрабіў з Іллём, ён жывы? — мне трэба было пераканацца, што сябар у парадку. Адносна.

— Памыляешся, мы пачалі яшчэ з самай раніцы, — і з гэтымі словамі ён разрэзаў мне другую шчаку. Больш твару ў мяне не было. Але я не магла спыніцца нарывацца на непрыемнасці.

— А гэта ты сам з сабой зрабіў? — я паказала на яго рукі. — Не можаш утрымацца, каб кагосьці не парэзаць? Але з-за вечнай адзіноты ў цябе ёсць толькі ты сам? — я ўжо не прытрымлівалася тэорыі пра злога ката. Калі такі і быў, то хутчэй гэты псіх яго нявечыў, чым кот драпаў яго.

Уладару відавочна надакучыла мая гаварлівасць, таму што ён запхнуў нож назад у кішэню і пайшоў на мяне з голымі рукамі.

Нікому б не пажадала адчуць тое, што адчула я далей.

Ліпкія ад крыві рукі ляглі на маю зусім змучаную шыю і сціснулі яе з такой сілай, што ў мяне пацямнела ў вачах. Мне жудасна хацелася крычаць, але голаса даўно не было, і мне заставалася толькі адбівацца, махаць рукамі на раз'юшанага хлопца, з вушэй якога ўжо амаль валіла пара. Ён нахабна сеў мне на калені, пазбавіўшы мяне магчымасці супраціўляцца нагамі, і я змагла толькі сарваць акуляры з яго твару і разламаць папалам, каб хоць нешта зрабіць.

— Чорт! — усклікнуў ён і раптам адпусціў мяне, амаль мёртвую.

Палоўкі акуляраў сумна ляжалі на дыване побач з канапай.

— Я нічога не бачу! Хіба можна было іх ламаць? — ён пытаўся з такой шчырасцю, што мне нават захацелася смяяцца, але я не магла. Уладару па-сапраўднаму ўдалося мяне заткнуць.

Ён падняў акуляры і накіраваўся да пісьмовага стала. Яму патрэбен быў скотч.

Пакуль я памірала, ён сяк-так склеіў часткі акуляраў у адзінае цэлае, а потым, як ні ў чым не бывала, нават не зірнуўшы на мяне, адным махам скінуў са стала на падлогу мае падручнікі, сшыткі і іншыя прадметы, пакінуўшы толькі ноўтбук.

— Любіш загадкавыя забойствы і расследаванні? — усміхнуўся ён, каменгуючы мае налепкі з героямі «Шэрлака» на ноўтбуку. — Сумняваюся, што твая смерць заслужыць асобнай серыі.

Я зноў захацела выказацца і зноў не змагла. Затое мне ўдалося падняцца з падлогі і зваліцца на канапу. Я прытрымлівала шыю адной рукой, быццам яна магла рассыпацца, а другой спрабавала спыніць кроў з ран на твары, прыкладваючы далонь то да адной, то да другой шчакі.

Раптам на стале з'явіліся флэшкі. Дзве чорныя, адна сіняя, адна аранжавая і белая. Ён дастаў іх з пярэдніх кішэняў штаноў і расклаў ад найбольш цёмнай да светлай каля майго ноўтбука.

— Які пароль? — спытаў Уладар і пад'ехаў на крэсле да канапы, каб я на пальцах патлумачыла. — 081198? Дата нараджэння? Як арыгінальна!

Пакуль ён усталёўваў на мой ноўтбук розныя праграмы са сваіх флэшак, я падняла з падлогі тэлефон і зайшла ў Інтэрнэт. З людзей, якім я магла давяраць, анлайн знаходзіліся некалькі сяброўак, і я напісала той, якая хутчэй за ўсё адкажа раней. Не выправіўшы памылкі, адправіла кліч аб дапамозе разам з просьбай патэлефанаваць у міліцыю і заблакавала экран. Аднак да канца незаўважанай застацца не ўдалося.

— Тэлефон! — ускрыкнуў раптам хлопец і падбег да мяне так хутка, быццам гэта была алімпіяда па бегу на кароткую дыстанцыю. Тэлефон перайшоў у яго рукі. — Забыла, якія ў нас правілы?

Хацела схлусіць, што пісала Іллі ў надзеі даведацца, што з ім, але мой голас відавочна збіраўся вярнуцца як мінімум праз месяц, і ў мяне толькі атрымлівалася як рухаць вуснамі. Не ў стане растлумачыць усё, я атрымала моцную аплявуху. І чаму яму так не падабалася менавіта гэтая частка твару?

Уладар вярнуўся да стала і працягнуў стукаць па клавіятуры. Гэтыя гукі мяне ўсыплялі, як і цемра за акном, і мне нават стала цікава, якая ўжо гадзіна.

— Ты, напэўна, думаеш, што я няўдачнік, раз дайшоў да такога? — пытанне павісла ў паветры ні з таго ні з гэтага, і я нічога не магла адказаць, таму проста чакала, пакуль ён адкажа сам.

Праз хвіліну ён працягнуў:

— Я не лічу сябе аўтсайдарам. Гэта не грамадства ад мяне адмовілася, а я не прыняў яго. З майго пункту гледжання, аўтсайдары ўсе, акрамя мяне.

Нейкую долю логікі ў ягоных словах я бачыла, але ўсё адно падумала, што ён даўно пазбягае візіту ў псіхіятрычную лякарню.

Нейкі час ён «працаваў» у цішыні, і мне здавалася, што ён наогул забыў пра напаўмёртвую мяне, пра тое, што гэта не яго кватэра, што ён прычыніў шкоду майму сябру, што ён злачынец, забойца і псіхапат. Ён працаваў з такім выглядам, быццам сядзеў у офісе і выконваў чарговае, шэраговае заданне, быццам хутка будзе абедзены перапынак, а потым яшчэ пара гадзін манатоннай працы. Шчыра прызнацца, уладара свету я ўяўляла не такім.

Калі мне стала зусім сумна, ён гэта зразумеў і вырашыў мяне трохі пацешыць сваім маналогам:

— Так і быць. Табе ўсё роўна засталося нядоўга, — хлопец паправіў на твары свае крыва злепленыя акуляры і зноў пад'ехаў на крэсле да мяне. — Я знішчаю людзей з верхніх сацыяльных колаў. Узломваю іх электронныя паштовыя скрыні, залажу ў іх дакументы, збіраю ўвесь бруд. А потым час шантажу. Прымушаю пакідаць іх свае дарагія скураныя крэслы і спускацца на зямлю. Я павольна, але дакладна чышчу свет ад бруду. Я ратую гэты свет. Можаш яшчэ называць мяне супергероем, — ён шырока ўсміхнуўся.

Мне хацелася называць яго толькі вырадкам. Паганыя справы, неабсяжная самаацэнка, дзікае вар'яцтва. Ён быў агідны з кожнага магчымага ракурсу.

— Я пагарджаю імі усімі, і яны ўсе атрымаюць тое, што заслужылі.

Ён казаў пра нейкіх уяўных людзей. Пра прыдуманых ворагаў. Пра таемных злыдняў.

— І тыя, хто мне перашкодзіць, сваю долю помсты атрымаюць таксама, — гэтыя словы прызначаліся відавочна мне.

Выказаўшыся, як любы антыгерой, у якога ёсць перавага над супернікам, Уладар нарэшце змоўк. А затым зазірнуў у мае вочы і некаторы час працягваў пільна ў мяне ўглядацца. Я гэта ўспрыняла як падарунак. З'явіўся шанец разгадаць загадку яго няўлоўнага погляду.

Аднак я выбрала не яго вочы, а яго нож. Ён нядужай хваткай трымаў яго ў руцэ, гатовы яго адпусціць у любы момант, і я яму з гэтым дапамагла. Пакуль ён спадзяваўся напалохаць сваім выразам твару, я проста вырвала халодную зброю з яго рукі і з апошніх сіл уваткнула нож яму ў бядро. Крык быў пякельны. Быццам я адсекла яму нагу сякерай. І будзь яна ў мяне, я б так і зрабіла б.

У гэты самы момант у дзверы моцна загрукаталі.

— Міліцыя! — пачулася за дзвярыма, і я, забыўшыся пра сваю слабасць і пакінуўшы Уладара ў крэсле, панеслася адкрываць.

Калі трое мужчын у форме і з пісталетамі ў руках рушылі ў мой пакой, я з аблягчэннем прыхінулася да сцяны. Прыгода падыходзіла да канца, і ў мяне выступілі слёзы. Гэта былі слёзы радасці.

Да мяне падышла жанчына з хуткай дапамогі і з пяшчотнай асцярожнасцю дакранулася да майго скалечанага твару. Ёй было балюча на мяне глядзець, але я пераживала не настолькі, як ёй магло здацца, і я нават паспрабавала ўсміхнуцца.

Ужо ніякі не Уладар з лютасцю пляваўся і спрабаваў вызваліцца з чужых рук, але ўсе яго спробы правальваліся, і ён слабеў ад усведамлення сваёй бездапаможнасці. Калі яго вялі міма мяне з кватэры, мне захацелася пакінуць апошняе слова за сабой, але потым я ўспомніла, што не магу размаўляць, але мае рукі выдатна маглі дацягнуцца да яго. І я зноў сарвала акуляры з гэтага гідкага твару і зноў разламала іх на дзве часткі ўжо з большай лёгкасцю.

— Ты... — хацеў абразіць мяне хлопец, але яму загадалі маўчаць.

Я з усмешкай памахала дзвюма часткамі акуляраў яму на развітанне, пасля чаго яго пацягнулі па лесвіцы ўніз. Мяне ж адправілі збірацца ў бальніцу. Кроў ужо не цекла, і я амаль забылася пра знявечаны выгляд свайго твару. У той момант я зразумела, што важней за ўсё былі не мае шчокі, а вочы, у якіх не было цёмнага балота, як у таго хлопца. І мне пашанцавала, што гэтыя вочы ў сваім жыцці я больш ніколі не сустракала...



# Сяргей Календа

пpазаік. Аўтар кніг прозы: «Помнік атручаным людзям» (2009 г.), «Іржавы пакой з белымі шпалерамі» (2011 г.), «Трохлітровая проза» (2012 г.), «Усё Ўлічана. All Inclusive» (2015 г.), «Падарожжа на край ложка» (2016 г.), «Часам панкі паміраюць» (2018 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Капылі. Жыве ў Мінску.

# Ціхая вуліца

*Шануй бацьку свайго і маці сваю...*

Адносіны ў сям'і склаліся складаныя. Ніхто ўжо дакладна не скажа, калі гэтае непаразуменне з'явілася... Здаецца, яно было пастаянным, перманентным, нязменным, ад самага заснавання сямейных стасункаў у Каральковых. Толькі малодшы сын, які цяпер гуляў на раёне, захапіўшы з сабой заплечнік, скейт і пакунак з прасам і трыма бутэрбродамі, што яму паспела ўпіхнуць мама, пачуваўся ў сваёй сям'і як рыба ў вадзе.

Паліцэйскі заспеў у доме дзяўчо-падлетка ў істэрыцы, акрываўленага мужчыну і жанчыну, якая акуратна наразала пластыкавую саломку для какгэляў на роўныя маленькія кругляшы з дзірачкамі... Гэты паліцэйскі некалькі гадзін не мог зразумець, куды трапіў і што адбываецца, пакуль не прыйшоў хлопец чатырнаццаці год і сказаў, каб той не браў да галавы, бо дома ўсё добра і сям'я ў яго нармальная, самая лепшая ў свеце, і тады паліцэйскі чамусьці паверыў хлопцу, сеў за стырно і паехаў, а потым, недзе пасярод дарогі, на мосце, спыніўся, асэнсаваў неяк так раптоўна, што ён дарма паехаў з месца відавочнага злачынства, бо там жа быў мужчына ў крыві. Паліцэйскі сядзеў у машыне, глядзеў праз лабавое шкло і вагаўся: вярнуцца ці паехаць далей...

— Мама! Я дома! І я пайду да сябе ў пакой! Не, мне не кепска! Усё добра, я не хачу абедаць! Я проста, бліна, хачу падняцца ў свой пакой!

— А ты ж тваю налева! Я ім кажу, трэба гэта неяк паскорыць!

— Тата! Адчапіся нахран са сваімі праблемамі!

— То ты прыўкрасная, бо паехала, а я зараз лягу тут!

— Я цябе не разумею! У мяне няма ніякіх праблем! Я хачу пабыць адна ў сваім пакоі!

— Дык, можа, табе кампотам у штаны? Направа ці што?!

— Я ж сказала, што не буду абедаць і ў мяне ўсё добра!

— А калі знайду?!

— Слухай, давай я паляжу, адпачну, а потым, калі ў мяне будзе настрой, увечары абмяркуем!

— Квітком памяняцца не можаш? Ці мне самому прыехаць падрэзаць?!

— Я ўсё яшчэ сустракаюся з Мікам, і мне не хочацца табе нічога пра гэта распавядаць!

— Дай, Божа, мне сілы, каб лёгка палётаць па свеце!

— А хто мне ўжо можа даць спакойна пабыць адной у сваім пакоі, бліна?!

— Я ўсё чула, Марыя! Што за мацюкі!!!

— Ну мамааааааа, я не мацюкалася! Адчапіцеся ад мяне нарэшце!

Марыя ляснула дзвярыма свайго пакоя, а бацька пайшоў на кухню да жонкі, абняў яе за талію і праз яе руку схапіў тое, што яна старанна наразала — гэта была markdown рознакаляровая пластыкавая кактэйльная саломка.

— М-м-м! Гэта як пераплыць Ла-Манш!

— Ага, скажы гэта Марыі, яна кажа, што гатую я кепска!

— Добра, што ты высокая такая, як вежа міру...

— От ты так заўсёды! Не каб праблему вырашыць, толькі зубы загаворваеш! — прамовіла жанчына, скінула з таліі руку мужа, павярнулася, адчыніла кухонную шафу, дастала пакунак мукі, высыпала яго на стол, наліла зверху піва з бляшанкі, высыпала парэзаныя пластыкавыя кружочкі і пачала ўсё гэта раскатваць у цеста. — Сёння будзе макарона! І я спадзяюся, усе будуць есці нармальна!!! — апошнюю фразу маці пракрычала так, каб было чутна на другім паверсе, але ў пакоі дачкі толькі зрабілі музыку гучней.

«Я не ведаю, як мне жыць тут, як мяне дасталі бацькі! Тупыя жывёлы! У мяне такое адчуванне, што я зусім не іх!» — пісала Марыя сяброўцы, а сама паралельна гутарыла са сваім хлопцам, які штосьці ёй казаў з невялікага вакенца ў правым куце, але яна не слухала, што казаў ёй Саша. А да ўсяго яшчэ і тэлефон не замаўкаў.

Кліпавае мысленне і немагчымасць сканцэнтравацца на адной справе заміналі Марыі проста сесці, супакоіцца і падумаць, паразважаць моўчкі. Праз гэта яна яшчэ больш нервавалася.

— Я кажу табе, Саша, што сёння не магу сустрэцца, я стамілася ад нас і ты мяне дастаў. Мне трэба адпачыць. З'ехаць куды падалей! Табе ад мяне толькі адно і трэба! Усё, давай! Гуляй! — Марыя адключыла хлопца і пачала гучна стукаць тэкст сяброўцы:

«Прыходзь сёння да мяне. Я адна звар'яцею тут».

— Марыя! Спускайся на вячэру! — маці пракрычала з кухні, наліваючы з рондаля ў талерку дзіўнае рэчыва: абвараныя кавалкі мукі з расплаўленымі пластыкавымі трубачкамі... зверху яна вырашыла ўсё пасыпаць зямлёй з-пад кактуса, які стаяў пасярод кухоннага стала. — Марыя! Я паўтараць па сто разоў не буду! Хутчэй уніз!

— Як жа вы мяне дасталі!!! — закрычала Марыя, спускаючыся ўніз.

— Гэт ты мне тут не тое! Ведаеш жа ж! Не адразу каб тут! Па срацы надаю! — бацька высунуўся з прыбіральні і вырашыў ізноў насварыцца на дачку.

— Што ты вярзеш?! Я толькі апошнія тры словы зразумела!

— Абанамат!! Зараз вазьму мячык і пакажу табе астэроід!

Бацька схапіўся за рэмень расшпіліў яго і выцягнуў са штаноў. У выніку атрымалася не вельмі, бо замест таго, каб насварыцца на дачку і запужаць яе рэмнем, у мужчыны з'ехалі долу штаны і ён застаўся ў адных сямейных майтках. Марыя, убачыўшы, засмяялася і аўтаматычна пацягнулася па тэлефон, каб сфатаграфаваць бацьку ў смешным становішчы і потым сцябацца з сяброўкамі.

— Ах ты тваю направа! Пакладзі кран, інакш я не адказваю за пераезд!

Пакуль Марыя з бацькам гарлапанілі, і бацька, заблытаўшыся ў нагавіцах, спрабаваў да дачкі дацягнуцца рэмнем, маці ціхенька сабе памыла замест

посуду хлебніцу і тостэр, акуратна іх абцерла ручніком, а потым з усёй моцы ўдарыла яго па галаве лабутэнам. Мужчына закрычаў не сваім голасам, па лбе пацёк тонкі струмень крыві.

— Сядайце ўсе вячэраць! — прамовіла маці і пайшла на кухню.

Бацька яшчэ пакрычаў крыху, але хутка стаміўся і замоўк.

— Лёня, пазвані сыну. Няхай ужо дадому едзе. Вячэра стыне, — прамовіла маці.

Лёня выцер рукавом скрываўлены лоб, узяў з тумбачкі мабільны тэлефон і набраў Віцю. Марыя села нарэшце за стол, але есці тое, што было ў талерцы, ёй зусім не хацелася.

— Мама, ну мамачка, слухай, не, я цябе шчыра прашу, згатуй што-небудзь нармальнае!

— Татку, можаш мне не званіць! Я ўжо дома! Галодны, як ваўкалак! — на парозе стаяў малады хлопец, трымаючы ў руках тэлефон.

— От мой харошы! — прамовіў бацька і пайшоў насустрач сыну.

— А што гэта ў цябе галава ў крыві ?!

— А гэта нічога!

— Ну то добра!

— Давай за стол! — прамовіла маці і наваляла ў талерку сыну мучнога пластыку, пасыпанага зямлёй.

— Ох, смаката сёння якая! — абрадаваўся Віця.

Усе за сталом. Бацька і сын ядуць і ад задавальнення аж прычмокваюць. Маці, уся ў сваіх думках, глядзіць кудысьці ў столь. Марыя спрабуе нейкім чынам пазбавіцца ежы, невялічкімі порцыямі хаваючы яе то пад кубкам, то пад сурвэткай, а то і пад стол кіне штосьці.

Не паспелі ўсе як мае быць павячэраць, як раптоўны грукат у дзверы, а потым настойлівы званок выштурхнулі сям'ю з вячэрняй ідыліі.

— Адчыняйце! Гэта паліцыя!

Адчыняць дзверы не трэба было, бо Віця іх не зачыняў. І на кухні перад сям'ёй Каральковых паўстаў высокі і мужны паліцэйскі, які адразу выхапіў з кабуры пісталет, заўважыўшы, што мужчына за сталом увесь у крыві.

— Не варушыцца, усім пакласці рукі на стол, пакласці на стол, я сказаў! Прыборы ўбок, нажы, відэльцы, лыжкі — усё пакласці і потым рукі на стол, каб я бачыў!

Усе зрабілі так, як прасіў паліцэйскі, а Віця, на свой страх і рызыку, павольна і акуратна ўстаў з-за стала і падышоў да паліцэйскага.

— У нас усё добра, пане... усё як мае быць, сэр... вы прыехалі да нас дарма, спадар паліцэйскі, — прамовіў сын, прыхапіўшы па дарозе са стала батон. — Вось, трымайце, гэта мая дарагая матуленька сама выпякае. Цудоўны на смак! Вазьміце з сабой, я вас правяду да дзвярэй.

Паліцэйскі паволі, але няўхільна падпарадкаваўся падлетку, узяў батон і накіраваўся да дзвярэй, схаваўшы пісталет у кабуру.

— Добрага вам вечара, — прамовіў паліцэйскі і грукнуў дзвярыма. І ўжо на вуліцы звязаўся з дзяжурным: гэта быў памылковы выклік.

Так, праехаўшы не адзін кіламетр, паліцэйскі нарэшце спыніўся. Уключыў аварыйныя агні, выключыў рацыю, якая толькі замінала, і закурыў, не адкрываючы вакно.

Праз пару хвілін мужчына заўважыў пакладзены на суседняе крэсла батон. Ён узяў яго ў руку, пакруціў... Потым, павагаўшыся, адкусіў.

Не паспеў разжаваць кавалак, як на зубы трапілася штосьці вострае. Мужчына выплюнуў хлеб на далонь і заўважыў, што начынне батона складзена з цвікоў — маленькіх цвікоў для мэблі.

Спачатку паліцэйскі нават не здзівіўся, а толькі заўсміхаўся. Ізноў адкусіў кавалак батона, разжаваў, прамовіў: «Гіпноз нейкі», завёў машыну, уключыў мігалкі, развярнуў машыну і пагнаў назад, на вуліцу Ціхую, 6.

*Мінск, 2020*



*Кацярына МАСЭ. Асярод*



# Яўген Мартыновіч

**празаік. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», «Вожык», «Вясёлка», тыднёвіку «ЛіМ» а таксама ў калектыўных зборніках «Кахаць і верыць», «Мой дзень пачынаецца» і «100 словаў». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Драбніцы

## Два спосабы чытання

Спрачаюся з жонкай, як лепш рабіць: чытаць папярэдне біяграфію аўтара, ці пасля прачытання тэксту?

Яна прытрымліваецца першага пункту. І, здараецца так, што пасля такога «знаёмства», яна можа нават не дакрануцца да яго кнігі. Так у яе атрымалася з Кафкай, Венечкай Ерафеевым і Лаўкрафтам.

Пісьменнікі — не самы святы «народ». «Дэман» творчасці часта патрабуе ахвяраў: здароўя (душэўнага і фізічнага), шмат Часу (без яго ніяк), адсутнасць сям'і і матэрыяльнага дабрабыту... Вось і атрымліваюцца не надта «прыгожыя» біяграфіі.

Я выбіраю другі варыянт. Аддаю перавагу чыстаму ўражанню, без дамешкаў «попелу і серы», без якіх не абыходзіцца амаль ні адна біяграфія сапраўднага пісьменніка.

## 5 кніг

Дачытаў апошнюю з напісаных кніг С. Алексіевіч «Час сэканд хэнд» (вырашыў прачытаць усё па парадку, пачынаючы ад «У вайны не жаночае аблічча»...). Кожная з кніг уражвае неверагоднай тытанічнай працай пісьменніцы, сваім «радыюсам» ахопу людзей і тэм. А таксама гэтая праца выклікае пытанне, як яе нервы вытрымалі гэты цяжар? Як яна здолела справіцца з гэтай нястрыманай плынню чужых жыццяў і галасоў?..

Не ведаю. Гэта нейкая магія!

Пасля таго, як дачытаў апошнюю старонку «Часу...», я вырашыў, што прыкладна 95% таго, што зараз ляжыць на паліцах нашых кнігарняў, я больш чытаць не здолею! Нават не тое што «не здолею», а проста больш не жадаю...

## Адпачынак

Нарэшце — адпачынак! Плануем з жонкай наша сямейнае летняе падарожжа. Інтэрнэт прапануе плойму варыянтаў, але патрэбна выбраць нешта адно (пажадана па кішэні, каб пасля нешта засталося на астатнія месяцы лета). Галава пачынае балець ужо на 2 гадзіне пасля прагляду добрай сотні прапаноў! І настрой са святочнага, хутка змяняецца раздражненнем кшталту: «А халера яго..! Яшчэ нервы павінен свае псаваць. Паедзем у вёску!»

Жонка нечакана пагаджаецца: «А што, для дзіцяці гэта найлепшы варыянт: свежае паветра, кароўкі, козы з курамі ды іншай вясковай фаўнай і флорай!»

Вырашана — едзем! А там трошкі супакоімся ды падумаем, куды далей рухацца! Такое вось Прастаквашына...

## Абяцанні

Нам непатрэбны абяцанні. Мы ведаем ім цану. Яна мізэрная. І з кожным днём усё больш і больш абясцэньваецца. Лепш проста прамаўчаць, чым да-

ваць надзею на нешта незвычайнае. Хай будуць нечаканасці (лепш, вядома, прыемныя). Але ад непрыемнасцей мы таксама не збіраемся ўцякаць. Мы вучымся разам. Вучымся радавацца, любіць, прайграваць. Але яшчэ так шмат чаго яшчэ трэба засвоіць, каб быць падрыхтаваным. Першы вясенні ветрык прыходзіць узімку! І ён самы радасны і чаканы (потым усё ўжо ідзе сваім шляхам). І мы заплюшчваем вочы, удыхаем яго, і становімся яго часткай. Часткай нечага большага, чым мы ёсць.

## Вяртанне чытача

Шчыра радуюся выхаду кожнай новай, па-сапраўднаму цікавай і таленавітай, беларускай Кнігі!

І ўжо паляцелі першыя такія «ластаўкі»: чэргі па гэтую Кнігу, ажыятаж, Яе абмеркаванне (з самымі markrознымі поглядамі), друкаванне дадатковых тыражоў, даўжэзныя чэргі па аўтарскі аўтограф-подпіс (так-так, ужо ёсць такія чэргі ў Беларускай Кнігі), і проста шчырая радасць Чытача ад валодання гэтай Кнігай!

Так, мы дачакаліся (не пабаюся гэтага «змыленага» слова) свайго «бэстсэлера»! У якім жанры — неістотна! На любы густ...

«Фікшн», «Нон-фікшн», «Ілюстраваная гісторыя Беларусі», «Фэйсбуктура», «ЖЧ (Жывы Часопіс)-тура» «Сецітура», «Макулатура»... Як не назаві. Але чытач вяртаецца!І гэта надае аптымізму.

## Дараваць...

Не злічыць, колькі раз за жыццё мы просім прабачэння.

У маці, бацькі (радзей — у бабулі з дзядулем), у братоў і сясцёр, настаўнікаў (напэўна, колькасць «прашэнняў» аб літасці тут проста зашкальвае), сяброў (тут лягчэй — заўсёды даруюць), калегаў, працадаўцаў, простых людзей, якіх мы бачым першы і апошні раз, нашых каханых, Бога, у сваіх дзяцей... Бясконца просім-просім-просім. А нам усё даруюць і даруюць, калі ўжо дараваць немагчыма! Калі ўжо ліміт «дараванняў» вычарпаны!

Калі ўжо, насамрэч, застаецца толькі спыніцца і пачаць жыць сумленна і асэнсавана. Каб больш нічога ні ў кога не прасіць...Напэўна, такая колькасць прабачэнняў разбэшчвае. Але ўжо немагчыма прыпыніць інэрцыю.

Даруйце.

## Гульні хлопчыкаў

Гляджу, як хлопчык гуляе з цацачным пісталетам: цэліць у людзей, птушак, котак і... страляе-страляе-страляе (выкрыкваючы «Бух-бух-бух»!!!). І таго «забіў», і таго, і тую, і сабаку, і вось таго вялікага дзядзьку! А бацька падышоў да сына, ласкава паляпаў па плячы, як быццам кажучы: «Малайчына, усіх пазабіваў. Адразу бачна, што гадую сапраўднага Мужыка!»

## Звычайны дзень

Ты сам выбіраеш, што цябе павінна хваляваць, а што не, сам выбіраеш шлях, па якім будзеш сёння-заўтра рухацца...

Сотні сусветаў, сістэм, пачакаюць пакуль ты зашнуруеш свае боты. А куды спяшацца? (За гэты час на Зямлі нарадзілася 157 чалавек, памёрла...).

«Цьфу ты, забыўся на ключы! Прыйдзецца ісці абутым па кватэры». (За гэты час на Зямлі здарылася 7 землятрусаў і 658 пажараў...). «Вой, фу, ключы на месцы. Не трэба яшчэ раз пыласосіць падлогу і дыван!». І вось ты шчасліва ўсміхаешся і крочыш па сваіх справах. А што калі б застаўся дома? Усё б было значна горш на Зямлі. Гэта дакладна.

## Зайздрасць

Заўважыў, што калі ў цябе ўсё дрэнна, чамусьці ў іншых справы наадварот ідуць добра. Кагосьці павышаюць на працы, выпраўляюць у камандзіроўку ў Еўропу, робяць самыя выгадныя прапановы («ад якіх цяжка адмовіцца»)... Усё гэта здараецца з некім іншым, але не з табой. І слухаць пра чужыя перамогі і поспехі неяк, мякка кажучы, не зусім прыемна. У такіх выпадках «ратуюць» толькі іншыя няўдачнікі, у якіх справы ідуць яшчэ горш, чым у цябе. Так уладкаваны чалавек (агаваруся — большасць). Ёсць адзінкі, якія могуць шчыра парадвацца за твае поспехі, ці шчыра паспачуваць тваім паразам...

На іх і трымаецца наш Свет.

## Збавенне

Ужо колькі разоў парываўся кінуць пісаць. Як заўсёды, прыціскалі да сценкі «адвечныя пытаннечкі»: для каго, для чаго, навошта?..

І ты не можаш адказаць.

Ды і зараз не магу...

Не, кінуць усё гэта цяжэй, чым на першы погляд падаецца.

Вяртаешся, калі «пякотка» невыказаных «нявольных» словаў пачынае выпальваць усё знутры. Толькі і застаецца, што запісаць іх. Нават, калі пад рукой няма ніякіх прылад для гэтага, ты, як вар'ят, прагаворваеш іх услых, каб запомніць, запісваеш у мабільны нейкія абрыўкі ды шматкі, як на першы погляд падалося, нечага важнага.

Прыходзіць на нейкі час палёгка... Збавенне.

Але першыя сімптомы новага прыступу не прымушаюць сябе чакаць...

## Калекцыя

Збіраю асадкі і алоўкі. Падбіраю іх нават на вуліцы. Пастаянна яны трапляюцца на вочы, як быццам самі мяне знаходзяць! І кожная такая знаходка можа шмат чаго расказаць пра свайго былога гаспадара: пагрызены аловак — пра яго моцныя зубы; ружовы аловак з слонікамі і сэрцайкамі — пра дзіцячыя мары і чыстае светаўспрыманне пакуль яшчэ маленькага чалавека; строгія асадкі з сінім стрыжнем — пра школьныя ці студэнцкія будні іх уладальніка.

І кожная асадка, кожны аловачак (нават самы пагрызены), можа стаць сааўтарам сапраўднага шэдэўра: казкі, апавядання, накідаў будучых карцін, якія ўпрыгожаць вядомыя музеі Свету!

Усё ў руках чалавека, які валодае такой цудоўнай прыладай працы!

Ці амаль усё...

## Квэст

Пасля з'яўлення ў нашай сям'і дачушкі, я навучыўся не задаваць пытанне: «Дзе?». Яно адпала неяк само сабою. Не, спачатку я не мог перасіліць гэтую «дрэнную» звычку і раздражнёна пытаўся ў пустэчы «Дзе мой нататнік? Дзе мае алоўкі і пэндзлі? Ключы?! Мабільнік?! Дзе-дзе-дзе?..» Гэта вельмі бянтэжыла асабліва, калі куды-небудзь спяшаўся. Не жыццё, а самы сапраўдны квэст!

Што б хто не казаў, але жыць стала значна весялей!

Потым прыйшло новае ўменне — не спяшацца.

«Тата пагуляй са мною».

«Добра, маленькая. Давай пагуляем! Пашукаем разам гэтую няўлоўную мыш».

Дачка задаволена ўсміхаецца. І мы на каленках поўзаем па дыване ў пошуках згубленых «скарбаў».

## Крыўда

Стараюся доўга не трымаць крыўду на людзей, якія неяк мяне абразілі... Усе гэтыя «чамаданы» з дробязнымі крыўдамі трэба павытрасаць дзе-небудзь далёка-далёка ад дому (а лепш развесці вогнішча і спаліць!), і забыцца на іх як мага хутчэй (каб не марнаваць свой час на іх «абсмоктванне»). Што зменіцца ад таго, што ты да сёння памятаеш, якога колеру была кашуля ў твайго «школьнага» крыўдзіцеля (які нястомна катаваў цябе пры любой зручнай магчымасці)? Акрамя страчаных нервовых клетак, больш нічога не атрымаеш ад гэтага ўспаміну!

Але ёсць такія крыўды, на якія забываць нельга! Дараваць можна, але забываць — не! Каб зноў «нечакана» не напароцца...

## Малодшы

Прыгадваю свае адносіны з малодшым братам.

Амаль усё дзяцінства мы з-за нечага спрачаліся і біліся. І так было не толькі ў мяне аднаго.

Што было не так? Не ведаю.

Няўжо чагосьці не хапала?

Не. Усяго было досыць! Але мы ўсё роўна знаходзілі нагоду для сваркі.

Не, сяброўскімі нашы адносіны адзін да аднаго не назавеш.

Таму я не разумеў, чаму ў кнігах, ці фільмах выкарыстоўвалася «клішэ»: «Братэрская любоў», «Братэрскі саюз»...

Я б замяніў гэтае слова на іншае. Напрыклад — «шкадаванне».

Зараз, ужо дарослымі, мы шмат прагаварылі з братам наконт усіх нашых крыўд і спрэчак. І даравалі адзін аднаму...

А мінулае засталося «мінулым».

## Маленькае жыццё

Год — цэлае жыццё! Больш нічога не будзе новага. Усё будзе паўтарацца зноў і зноў; каму як пашанцуе! Але чамусьці чалавек чапляецца за гэтыя «паўторы», хоць і ведае што наперадзе яго чакае?

Мабыць яшчэ не прыйшла «тая самая вясна, тое самае лета...» Не ведаю. Можна толькі здагадвацца, адкуль такая прага.

Дарослыя, як дзеці, будуць чакаць працягу гэтай казкі, добра ведаючы яе змест. І для кагосьці жыццё будзе напоўнена чароўнымі гукамі і малюнкамі, а для кагосьці (на вялікі жаль) змрокам і белым шумам.

## Сон у летнюю ноч

Зімою сніцца мора. Летам — снег.

Вось і зараз прыснілася зіма... Такая натуральная і звычайная, што я нават не спужаўся яе; не спужаўся выхаду на працу (хаця да канца летняга адпачынку застаецца яшчэ некалькі тыдняў), не спужаўся яе белай «бясконцасці»!

Сем-восем месяцаў холаду робяць сваю справу. І ты ўжо перастаеш здзіўляцца нейкім маленькім непрыемнасцям — успрымаеш усё спакойна, без залішніх эмоцый: «Ну і што. Было ўжо такое лета, як гэта. Такое ж халоднае і вільготнае! Бачыў і такое на сваім вяку».

Дакладна — бачыў.

Сталею...

## Развітанне

Упершыню я даведаўся пра смерць, калі мне было пяць гадоў.

Успамінаецца, як мы ехалі на пахаванне бабулі. Яна жыла ў невялічкай палескай вёсцы Убежычы на Украіне.

Усю дарогу не верылася, што здарылася нешта дрэннае. Мы ехалі па знаёмай дарозе, гаварылі, нават смяяліся... Усё было так, як звычайна ў бацькаў летні адпачынак, калі мяне з братам пакідалі там амаль на ўсе тры летнія месяцы.

Быў цёплы травеньскі дзень. Труна была закрытая. І, нават, калі на вечка пасыпаліся першыя камякі зямлі, я не даваў веры, што там ляжыць мая бабуля!

Я не плакаў. Слёзы паліліся толькі калі мы вярталіся ў Мінск.

## Старая бібліятэка

Не так даўно наведаў лецішча. І ў першую чаргу дакрануўся да кніг, вывезеных з гарадской кватэры. Заўсёды так раблю, калі вяртаюся ў нашу невялічкую «сядзібу». Папрасіў прабачэння ў сваіх «старых сяброў», што пакінуў іх тут. Але ім, мяркую, не сумна без мяне! Сабралася добрая кампанія: Ж.Верн, Э.М. Рэмарк, Э.Хэмінгуэй, Г.Уэлс, Р.Брэдберы, Н.В.Гогаль...

Пры нагодзе абавязкова нешта перачытваю са старога.

Сама атмасфера цішыні і спакою, у якой жывуць мае «сябры», прымушае адкінуць усю гэту мышыную мітусню і прыняцца за іх чытанне-перачытванне.

Ну як тут можна спыніцца пасля знакамітага: «Нет ничего лучше Невского проспекта, по крайней мере в Петербурге...».

Не — немагчыма!

## Мой 1989-ы

У маім дзяцінстве людзі былі падобны на зорак кіно ці эстрады.

Сусед з шостага паверха быў падобны на Мулявіна (такія ж густыя вусы з бакенбардамі і сакратаўскі лоб, а таксама джынсы-клёш). Тады шмат хто быў падобны на «Песняроў» ці якую-небудзь іншую знакамітасць! Сябар дзядулі быў падобны на Армена Джыгарханяна (такі ж хрыплы голас і мужны профіль)... Лепшая маміна сяброўка была падобна на Алісу Фрэйндліх (амаль усім, нават рухамі). І мне таксама хацелася быць падобным на кагосьці з чатырох мушкецёраў (ці трох?). Мне імпанаваў больш не Д'Артаньян, а Атос. Яго тайна, яго рана (я хацеў, каб і мяне была рана ад шпагі), яго разважныя рухі і ціхі, але цвёрды, голас: «Для Атоса гэта занадта шмат, а для графа дэ ла Фер — мала».

Тады, у 1989 годзе, амаль усе былі падобны на кагосьці...

## Незаўважнае

Недзе, перад самай вясной, пачынаеш востра адчуваць, як жа табе не хапае шэлеста лістоты! Яе прахалоднага перашэпту, ад якога нават у самую гарачынь становіцца прахалодна і лёгка дыхаць.

Ды вось жа, ужо не так шмат засталося... а такая шчымлівая роспач працінае сэрца, як быццам успамінаеш нешта такое роднае, што ўжо не вярнуць.

Але яно вяртаецца. Кожны год. Кожную вясну.

Вяртаецца, не звяртаючы ўвагі на ўсялякія перашкоды.

І мы зноў прызвычайваемся да гэтай сімфоніі ветру і лістоты:

«...шшшш-шшшшшш-ШШШШшшш........шшшш-шшш-шшшш.....»

Забыўся, калі ўжо вось так проста, лежачы пад дрэвам, слухаў гэтую мелодыю.

Засталося ўжо няшмат.

Толькі б не прапусціць.

## Пошукі Еўропы

Недзе з дванаццаці год я апантана марыў пабываць у Еўропе. Вядома, нас прымушалі думаць, што мы і так Еўропа! Нават — яе Цэнтр! Але я неяк сумняваўся ў гэтых выказваннях.

Некаторыя мае аднагодкі ўжо паспелі пабываць Там. І тое, што яны паказвалі на фотаздымках, неяк не стасавалася з рэчаіснасцю, якая атачала наша паўсядзённае жыццё.

Парыж, Прага, Лондан, Варшава... Магія гэтых «недасяжных» слоў прымушала шукаць нешта падобнае і ў Мінску. І я нават зрэдзьчас знаходзіў гэтую Еўропу ў нас, толькі вось людзі...

З часам Еўропа стала трапляцца ўсё часцей, але яе пошукі я працягваю да сёння. Азія, усё-ткі пакуль яшчэ перамагае Азія.

## Раўнавага

Ёсць звычкі, ад якіх прыходзіцца пакутаваць. Я не кажу, што яны дрэнныя ці небяспечныя. Але гэтыя звычкі з'ядаюць шмат часу («звычкі-хронафагі»). Напрыклад, бясконцыя вяртанні дадому, каб праверыць ці выключаны прас, пліта, кампутар, ці зачынена лядоўня, ці фортка, а можа цячэ кран, а можа забыўся на ключы ці мабільны...

Нейкі карагод фобій, які бязлітасна жарэ мой час і час маіх родных. Ён высмоктвае ўсе сілы, ператвараючы мяне ў бязвольную выкінутую на бераг рыбіну.

Адчуваю, што не хапае нейкай «касмічнай раўнавагі» ў жыцці.

А ці была яна?

Напэўна, была...

## Без назвы

За апошні час заўважыў, як шмат вакол памірае людзей! Гэта б не здзіўляла, калі б мне было 80, ці нават 60 год (зараз ужо дажыць да 60 год — вялікі подзвіг). Але калі табе 35! Нешта здарылася. Ці, як пісаў адзін знакаміты расійскі пісьменнік: «вешкі скончыліся ў сучасных людзей». Сапраўды, усё менш і менш шанцаў дае жыццё на ўратаванне. Нават за свае 35 я памятаю, колькі разоў мог загінуць! А колькі разоў мог застацца калекам паралізаваным. Дзяцінства ў гэтым плане — асобная тэма. І, дзякуй Богу, што мы выйшлі з яго жывыя. Не ўсе, вядома, але — многія.

## Восень у Ракаве

У Ракаве я люблю восень!

Мяркую, што мястэчка прывабна ў любую пару года. Але, на мой погляд, Ракаву пасуе менавіта восень. Лістота на дрэвах афарбоўваецца ў разнастайныя «палымяныя» колеры і становіцца падобнай на вялікае вогнішча! Можна бясконца назіраць за лісцем, якое, падпарадкоўваючыся волі ветра, кружыцца ў сваім апошнім танцы.

Гавораць, што прырода памірае ўвосень. Але на мой погляд, менавіта з надыходам восені прырода паказвае нам усе свае магчымыя фарбы жыцця.

Гуляючы па вуліцы Заслаўскай, сярод усіх дрэваў, якія сустракаюцца па дарозе, выбіваецца старажытны дуб. Колькі сябе памятаю, яго ўвесь час хацелі спілаваць з-за пагрозы падзення на суседнія хаты. Але штосьці ўвесь час спыняла людзей. Я веру, што і ў дрэў ёсць свае анёлы-ахоўнікі.

Колькі стагоддзяў ён прастаяў на абраным ім месцы? Колькі людзей і падзей ён убачыў за сваё доўгае жыццё? Падобны на зубра, сапраўдны волат, схапіў сваімі магутнымі каранямі моцна зямлю, раскінуўшы галіны, падобныя на гіганцкіх вужоў, якія захацелі дакрануцца да неба!

Успамінаю сваю бабулю. Яна заўсёды чакала нас да сябе ў госці. І так цешылася нашым нячастым прыездам, што міжволі наварочваліся слёзы ад яе кранальнага клопату.

Бабуля нічога не шкадавала для нас... Яна магла яшчэ да спеву пеўняў, на мяжы ночы і раніцы, устаць і напекчы нам румяных блінкоў-сонейкаў, шчодра аздобленых маслам і смятанай. У печцы яны, убіраючы цяпло, чакалі, пакуль мы прачнёмся. Усё гэта ўспрымалася як у казцы, дзе на абрусе-самабранцы, без працы і клопатаў, узнікалі разнастайныя смачнасці і стравы. З гадамі мы сталі разумець, якой працы гэта каштавала нашай бабулі.

Дзяцінства адразу ажывае ва ўспамінах, як толькі я адчуваю пах улюбёных бабуліных блінцоў-сонейкаў, аздобленых смятаннымі «аблачынамі».

Людзі сваімі рукамі рупліва ствараюць тую неверагодную ўтульнасць, якая пануе на вуліцах Ракава. Яны смела фарбуюць свае хаты ў самыя розныя колеры. Жоўтыя, чырвоныя, сінія, зялёныя, нават фіялетавыя... Ад гэтай разнастайнасці адчуваеш сябе, як быццам ты назіраеш за вясёлкай, пасля летняга грыбнога дажджу.

Мне падабаецца назіраць за жыццём гаспадароў гэтых хатак. Тут людзям няма чаго хаваць! А што хаваць, калі ўсе адзін аднаго ведаюць часам лепш, чым сваіх родных.

Хтосьці доіць казу ў сваім двары, а яна, вылупіўшы (як быццам чымсьці ўвесь час здзіўлена) вочы, глядзіць на суседскі куст парэчкі, які тырчыць з-пад плота.

Хтосьці развешвае беласнежную бялізну, а пад нагамі навыперадкі бегаюць куры; а валацугу-кату толькі і застаецца назіраць за імі. Але, на ўсякі выпадак «напружыўшы лапы» і прыхіліўшы спіну, «вусаты разбойнік» рыхтуецца да скачку. Напэўна думае: «А раптам і мне перападзе сытная вячэра? Чым чорт не жартуе?».

А хтосьці ўсім сямействам проста капае бульбу!

Але, каб адчуць гісторыю мястэчка па-сапраўднаму — трэба ісці на могілкі... Нідзе так не адчуеш душу месца, як на вясковых могілках. Кожны помнік, крыж, як быццам гаворыць табе: «Спыніся, пачакай, азірніся». І сапраўды, куды спяшацца? Тут ёсць аб чым падумаць...

У дзяцінстве мы вельмі баяліся заходзіць (нават глядзець) на могілкі. Нейкі неверагодны сум і роспач агортвалі нас, малых дзяцей, ад ціхага перашэпту дрэў і каменных помнікаў з імёнамі былых жыхароў мястэчка. Зараз, пасталеўшы, наадварот цягне на гэтыя могілкі. Там ты як быццам ачышчаешся ад паўсядзённага шалупіння, скідваеш прырослую да твару маску, якую кожны дзень нацягваеш, ідучы «ў людзі», вызначаецца нешта больш значнае, больш трывалае, што трымае цябе на гэтай зямлі.

Ракаву ёсць чым ганарыцца! У яго вельмі багатая гісторыя. Напэўна, не менш багатая, чым у Мінска.

Варта згадаць пра тое, што ў Ракаве стаяць па суседстве прыгожыя царква з касцёлам, як брат і сястра ідуць яны праз гады рука за руку. Менавіта тут, у

Беларусі, на скрыжаванні Захаду і Усходу, жывуць у павазе і згодзе каталікі і праваслаўныя, юдэі і мусульмане.

З-пад зямлі б'юць найчысцейшыя крыніцы, гатовыя ў спякотны дзень даць частку сваёй жыватворнай прахалоды стомленаму падарожніку. А праз само мястэчка, дзелячы яго напалову, працякае рака Іслач, ратуючы ад спякоты ў гарачыя ліпеньскія дзянькі не толькі людзей, але і жывёл з птушкамі!

Мне падабаецца назіраць за ластаўкамі, якія кружаць вакол касцёльных веж. Пад дахам «налеплена» шмат іх гнёздаў. Мабыць адчуваюць, што тут з імі нічога не можа здарыцца благога.

Маё любімае месца ў Ракаве якраз і знаходзіцца за касцёлам, на сенажаці, каля Іслачы. Спускаючыся па вуліцы Паштовай, лёгка яго знайсці. Мінуючы мост праз раку, адразу ж выходзіш на гэтую сенажаць. На ёй можна спыніцца на гадзінку і адпачыць... Удыхнуць пах чабора і мяты, палюбавацца павольнай плынню ракі, пачуць пяшчотнае кароўе «му-у-у» і проста паглядзець на неба.

У кожнага чалавека ёсць свае улюбёныя куткі на зямлі, куды ён, што б не адбывалася ў яго жыцці, увесь час «у сне і наяве» вяртаецца. Туды, дзе душа ягоная адпачывае і набіраецца сіл для новага жыцця. Нават лёгкі подых ветра, які адклікаецца ў дубовай лістоце шолахам, можа перанесці ўсе думкі ў той самы «маленькі рай», дзе сэрца адпачне ад усіх зямных клопатаў і заб'ецца з новай сілай.

## Ліст у мінулае

Усё знікла ў адно імгненне...

Зніклі тыя гульні, у якія мы, дзеці, так самааддана гуляліся, забываючыся на ўсе магчымыя межы і правілы. Дзе яны былі, гэтыя межы? Напэўна ў галовах дарослых, якімі мы так хутка сталі.

Дарослымі зрабіліся нашы ўчынкі, якія прыйшлі на месца нашым гарэзлівым гульням і бесклапотным вясёлым размовам. Дарослым стала наша жыццё... Яно ператварылася ў бясконцы «маскарад» з вечна заклапочаным тварам і думкамі пра «хлеб надзённы», са сваімі суперважнымі і неадкладнымі справамі, якія высмоктваюць усе сілы («душы прыгожыя парывы»).

Вядома, потым прыходзіць думка, што нешта трэба мяняць у жыцці (але што?), выпраўляць зробленыя памылкі (якія?), але назад білета ўжо няма. Усе ўваходы і выхады завалены ўсялякім смеццем, усімі тымі «неабходнымі» рэчамі, без якіх ты ўжо не можаш уявіць сваё жыццё.

Не, вяртанне немагчыма!

***

Возьмем самае меншае. Вось адкажыце, калі ласка, хто прыдумаў гэтыя праклятыя расклады і рэжымы? Ну чаму менавіта ў восем гадзін раніцы трэба пачынаць заняткі ці ісці на працу? Якія «жаўрукі» ды «совы»? Што вы гаворыце? Адныя «зомбі» сядзяць з васьмі да дзесяці гадзін раніцы на занятках — анабіёзныя ды бязвольныя «тулавы»!

Напэўна, нешта важнае і цікавае я і ўпусціў у гэтыя «зомба-гадзіны», калі настаўнікі так апантана нешта спрабавалі ўкласці ў нашы галовы. Але я ні ў якім разе нікога не абвінавачваю ў гэтым.

«Mea culpa!».

«Мая віна» і мая адказнасць!

Застаецца толькі дараваць сабе, каб, не азіраючыся, рухацца наперад, спрабуючы ўхапіць за хвост тую «жар-птушку», якая пакідае некалькі залатых пер'яў у тваіх руках.

Проста трошкі шкада таго, што ў гэтай недарэчнай спешцы мы нешта губляем; страчваем тое, што толькі пазней прыйшлося адкрываць самастойна: свет літаратуры, мовы, гісторыі... Тое, што з такімі неверагоднымі высілкамі ўспрымалася ў школе. Тое, што з такім задавальненнем адкрываецца пасля яе.

***

Жыццё няспынна ліецца, пераліваецца, прымае самыя нечаканыя і розныя формы... Мы таксама іх «прымаем», ператвараючыся з часам у дарослых, са сваімі незлічонымі забаронамі (забабонамі) ды правіламі, комплексамі, дрэннымі і карыснымі звычкамі. Ператвараемся ў нейкія аднатыпныя «балванкі», непрыкметна абмяжоўваючы свой свет працай, крамай і хатай... Вядома, што нехта руйнуе гэтыя стэрыятыпы-ланцугі, выбіраючы сабе іншыя шляхі і мадэлі ў жыцці. Такіх адзінкі. І іх не вельмі шануюць ды любяць за такія «парушэнні» агульнапрынятага рэжыму. Яны, гэтыя адзінкі, як быццам, служаць «жывым дакорам» нашай шэрай будзённасці і жыццю.

«Я б таксама так мог! Але «домпрацадзеці»!»;

«Дайце мне толькі волю, я і не такое б паказаў!»;

«Як безадказна, як недарэчна так жыць...».

І, суцяшаючы сябе гэтымі немудрагелістымі «формуламі», працягваюць цягнуць сваю лямку далей... Да самага скону. Сумна і прыкра.

***

Амаль усё знікла...

І як ты не намагаешся вярнуць страчанае, яно ўцякае ад цябе, даючы ўзамен нейкія формы штучнага шчасця.

«Ты ж дарослы! Усе шляхі перад табою адкрыты. Хочаш, можаш глядзець да раніцы тэлевізар! Хочаш — спаць да абеду! Хочаш, можаш кінуцца ў нейкую авантуру з цікавымі падарожжамі і знаёмствамі!»

«Хачу!»

Але ў большасці выпадкаў усё абмяжуецца набыццём у бліжэйшай краме бутэлькі якога-небудзь салодкага віна і праглядам чарговага серыялу.

«Mea culpa!».

«А чыя ж яшчэ?»

Не хапіла смеласці. Не хапіла рашучасці. Не хапіла адказнасці. Шмат чаго яшчэ не хапіла і засталося ў зародку.

І ты зноў падпісваеш з сабою «дамову»:

«З панядзелка пачну ўсё нанава!».

Без гэтых дамоў ты ўжо даўно б звар'яцеў.

Ты загадзя ведаеш, што не выканаеш нават паловы «наабяцанага», але ўсё роўна працягваеш памнажаць сутнасці. Аднак у першыя дні (і нават тыдні) ты перакананы ў сваёй трываласці. Ты верыш у свае сілы, сваю працаздольнасць і волю! Верыш у сваю (маленькую) Перамогу.

І зноў... Чысты панядзелак чакае цябе наперадзе.

Не вытрымаў! Не вытрываў! Але каму якая справа да гэтага?

Вяртаючыся ў свае першыя ўспаміны, ты, воляй-няволяй, задаешся пытаннем: куды знікла тая «касмічная раўнавага» і радасць ад тых простых рэчаў, якія не так даўно былі часткай твайго жыцця. І не знаходзіш адказу...

***

У апошні час усё часцей успамінаецца, як мы ў далёкім і забытым Богам заснежаным гарнізоне Мангохта (бацька служыў там спецыялістам па сувязі), чакаем сям'ёй вячэру.

Мы — простая сям'я, звычайная, якіх тысячы, са сваімі маленькімі клопатамі і радасцямі. Мы амаль нічым не адрозніваемся ад тысячы такіх жа «ваенных сем'яў».

Але мы шчаслівыя! Я гэта дакладна памятаю.

Маці гатуе вячэру, а мы з татам і малодшым братам збіраем з канструктара нейкія фантастычныя машыны і прыстасаванні. Разам мы забываемся на дзённыя турботы і абавязкі: працу, школу, дзіцячы садок. Мы дома. Мы дома! Мы проста жывем і радуемся вольным гадзінам, удыхаем чароўныя пахі з кухні (маці гатуе свой «фірмовы» мясны пірог).

«Вячэра гатова!»

А мы як быццам не чуем і працягваем гульню.

Але пасля другога «поклічу» мы разам ідзем на кухню.

«Мыць рукі!»

І спрачацца з гэтым безапеляцыйным «мыць рукі» бессэнсоўна. Ды і не надта хочацца. Мы са смехам і жартамі падпарадкоўваемся матулінай «тэатральнай» строгасці. А потым... А потым кожнаму дастаецца па добраму кавалку духмянага Шчасця!

***

Сёння ўпершыню за шмат бясконцых пахмурных дзён выглянула сонейка. У такія моманты пачынаеш разумець, як жа яго не хапала! Беспадстаўная радасць перапаўняе цябе, адчуваеш кожным міліметрам скуры надыход вясны. Усе крыўды рассейваюцца. У такія моманты ты гатовы дараваць усім і кожнаму, каму яшчэ не дараваў... і прасіць прабачэння ў гэтага Света за сваё недарэчнае і недасканалае жыццё! Але зараз, ты проста ўдзячны, што яно ў цябе ёсць! Ёсць!

# Луіза Элізабэт Глюк



амерыканская паэтка, аўтарка дванаццаці паэтычных зборнікаў, некалькіх паэм і кніг эсэ. Нарадзілася ў 1943 годзе ў Нью-Ёрку, скончыла Калумбійскі ўніверсітэт, працуе ў Ельскім універсітэце, жыве ў Кембрыджы (штат Масачусетс).
Дэбютны зборнік паэткі Firstborn ("Першынец") з'явіўся ў 1968 годзе. У Амерыцы Луіза Глюк за сваю літаратурную творчасць атрымала значную колькасць літаратурных узнагарод, ніводная яе кніга не заставалася па-за ўвагай крытыкаў. У Еўропе ж імя сёлетняй нобелеўскай лаўрэаткі для многіх было адкрыццём, як і для большасці беларусаў. У Беларусі вершы Луізы Глюк дагэтуль нідзе не друкаваліся. Не нашмат лепш выглядае сітуацыя і ў нашых суседзяў. Адзінае расійскае кніжнае выданне з'явілася ўсяго восем гадоў таму — «Дикий ирис» (пер. Б. В. Кокотов, Москва: Водолей, 2012). Дарэчы, арыгінальны зборнік The Wild Iris, выдадзены ў 1992 г., быў адзначаны Пулітцэраўскай прэміяй (Pulitzer Prize for Poetry, 1993).
Крытыкі засяроджваюцца звычайна на аўтабіяграфічнасці вершаў Луізы Глюк, але сама паэтка заўсёды падкрэслівае, што крыніцай яе натхнення з'яўляюцца чалавечыя перажыванні, часта вельмі складаныя і трагічныя, але літаратурны тэкст — гэта не стопрацэнтнае адлюстраванне ўласнага жыццёвага досведу. Таму вельмі ўдалай бачыцца фармулёўка Шведскай каралеўскай акадэміі, якая прызнала ўзнагароду Луізе Глюк «за лёгка распазнавальны паэтычны голас, які з суровай прыгажосцю робіць індывідуальнае існаванне ўніверсальным».
Мушу прызнацца, што я таксама належу да тых, хто ніколі не чуў пра Луізу Глюк раней, але яе паэзія мяне з першых радкоў моцна ўразіла і захапіла. Вершы амерыканскай паэткі на першы погляд такія шчырыя, насамрэч не з'яўляюцца адкрытай дэманстрацыяй інтымных пачуццяў і эмоцый, а з амаль навуковай дакладнасцю фіксуюць чалавечыя перажыванні, апісваюць душэўныя станы. Асноўныя тэмы, да якіх звяртаецца ў сваёй творчасці паэтка: смерць, страта, каханне, адзінота, сум — раскрываюцца без драбка прыхарошанасці ці штучнасці. Праўдзівасць і натуральнасць, а таксама ашчаднае і вельмі адказнае стаўленне да слова, напэўна, найбольш характэрныя рысы паэзіі Луізы Глюк. Амерыканцы любяць параўноўваць Луізу Глюк з Эмілі Дзікенсан (1830-1886) і джазавай спявачкай Джоні Мітчэл. Каб я мелася знайсці кагосьці падобнага ў беларускай літаратуры, то, напэўна, выпадала б параўнаць Луізу Глюк з Надзеяй Артымовіч.

# Дзеля чаго я тут?

## Дзікі касач

Напрыканцы маіх пакут
стаялі дзверы.

Паслухай: тое, што завеш ты смерцю,
добра помню.

Паднеб'е, гоман, сосен калыханне.
Потым нішто. Слабога сонца
на сухой паверхні пробліск.

Жах захаваць
прытомнасць
пад зямлёю.

Калі ўсё скончылася: страх твой быць душою,
няздольнаю прамовіць,
знік раптоўна, ледзь увагнулася
зямлі акамянеласць. І засталося
адчуванне птаства ў голлі.

Табе, які не помніць
сцежкі з іншасвету,
Казаць і паўтараць магу бясконца: усё, што
з забыцця вяртаецца, прыходзіць,
каб голас адшукаць:

З глыбінь майго жыцця
фантан прабіўся і вялікім сінім-сінім
лёг ценем на бясхмарным моры.

## Начныя пералёты

Гэта той момант, калі бачыш зноўку,
як чырванеюць гронкі арабіны,
і цёмнай ноччу
адлятаюць птушкі ў вырай.

Мне сумна думаць,
іх памерлыя не ўбачаць —
мы ўсе калісьці будзем там,
яны знікаюць.
І што тады душу суцешыць зможа?
Кажу сабе, магчыма, больш не трэба
будзе шукаць сабе задавальненняў;
Проста не быць, магчыма, будзе дастаткова,
хоць уявіць сабе такое цяжка.

## Прыпавесць

Дзве жанчыны
з адной справай
прыйшлі да ног
мудрага караля. Дзве жанчыны,
але толькі адно дзіця.
Цар ведаў —
адна з іх хлусіла.
І ён сказаў:
трэба дзіця
рассячы напалам; такім чынам
ніхто не сыдзе
з пустымі рукамі. Ён
дастаў меч.
І тады адна
з дзвюх жанчын
адмовілася ад сваёй паловы:
гэта быў
знак, урок.
Магчыма,
ты бачыла, як твая маці
разрывалася між дзвюх дачок:
што ты магла зрабіць,
каб ыратаваць яе, ці была
гатова забіць
сябе — яна б тады знала,
хто быў яе сапраўдным дзіцем,
тая, што не захацела
дзяліць маці.

## Фантазія

Я вам штосьці скажу: кожны дзень
паміраюць людзі. І гэта толькі пачатак.
Кожны дзень нараджаюцца ў пахавальнях новыя ўдовы,
новыя сіроты. Яны сядзяць, склаўшы рукі,
спрабуюць нешта вырашыць з гэтым новым жыццём.

Потым яны апынаюцца на цвінтарах, і хтосьці
ўпершыню. Яны баяцца плакаць,
альбо — не плакаць. Хтосьці схіляецца да іх,
кажа, што рабіць далей: часам трэба
прамовіць некалькі слоў, іншым разам
кінуць жменю зямлі ў адкрытую магілу.

А потым усе вяртаюцца ў дом,
раптам робіцца поўна людзей.
Удава сядзіць на канапе, з велічнай годнасцю,
а людзі падыходзяць да яе па чарзе,
адны бяруць яе за руку, іншыя абдымаюць.
Яна кожнаму знаходзіць што сказаць,
дзякуе ім, дзякуе, што прыйшлі.

У глыбіні сэрца яна хоча, каб яны сышлі.
Яна хоча вярнуцца на могілкі,
назад у палату, у шпіталь. Яна ведае,
што немагчыма. Але гэта адзіная яе надзея,
жаданне вярнуцца назад. Зусім на трошкі,
не так далёка, як шлюб ці першы пацалунак.

## Шчасце

Ён і яна ляжаць на белым ложку.
Днее. Думаю, яны
вось-вось прачнуцца.
На тумбачцы стаіць букет
лілеяў; сонца
ім палошча горлы.
Гляджу, ён павярнуўся да яе,
нібыта прамаўляе ейнае ймя,
моўчкі, глыбока ў рот —

На падваконні,
раз і другі,
— ціўкнула птушка.
Яна варушыцца; яе цела
напаўняецца ягоным дыханнем.

Я расплюшчваю вочы; ты глядзіш на мяне.
Увесь наш пакой
залівае сонца.
Паглядзі на свой твар, кажаш,
нахіляешся да мяне,
каб быць мне люстэркам.
Які ты спакойны. І вогненнае кола
далікатна коціцца праз нас.

## Маці і дзіця

Мы летуценнікі; не ведаем, хто мы.

Нас зрабіла нейкая машына; машына свету,
канструктарскае бюро сям'і.
І выштурхнула зноў у свет,
адшліфаваны мяккімі дручкамі.

Мы марым; мы не памятаем.

Машына сям'і: цёмнае футра, лес матчынага цела.
Машына маці: белы горад у ёй.

А раней былі: зямля і вада.
Мох між камянямі, шалупінне лісця і трава.

А яшчэ раней — клеткі ў вялікай цемры.
А яшчэ раней — завуаляваны свет.

Ты нарадзіўся дзеля таго, каб замаўчаць мяне.
Клеткі маіх маці і бацькі, вашая чарга
выйсці на сцэну, стаць галоўнымі.

Увесь час імправізую; нічога не помню.
Цяпер вашая чарга браць лёс у свае рукі;
вы адзіныя, хто хоча ведаць:

Чаму я пакутую? Чаму я несвядомы?
Клеткі ў вялікай цемры. Нас зрабіла нейкая машына;
вашая чарга звярнуцца да яе, вярнуцца і спытаць:
Дзеля чаго я тут? Дзеля чаго?

## Кана

Што я магу сказаць табе, чаго не знаеш,
а што цябе прымусіць зноў трымцець?

Фарзіцыя
уздоўж дарогі і
на мокрых скалах, на набярэжных
квецень гіяцынтаў —

Дзесяць гадоў я тут была шчаслівай.
І ты быў тут; у пэўным сэнсе,
ты заўсёды быў са мною, дом, сад,
заўжды асветлены,
але не тым агнём, які палае ў небе,
а больш магутным,
тым святлом, што ўсё
зямное можа
перайначыць —

Гэта ўсё знікла,
безуважна час мінае. Што ж
мы з табой убачым
цяпер, калі замест паходняў жоўтых
галін зяленіва шугае?

## Першы ўспамін

Вельмі даўно я была параненая. Я жыла
каб адпомсціць за сябе
свайму бацьку,
не за тое, якім ён быў —
за тое, якой я была: з самага пачатку,
у дзяцінстве, я думала
гэты боль азначае:
мяне не любяць.
Ён азначаў: я люблю.

## Снег

Канец снежня: мы з бацькам
едзем у Нью-Ёрк, у цырк.
Ён трымае мяне
на плячах на лютым ветры:
шматкі белай паперы
разлятаюцца па чыгуначных рэйках.

Бацьку падабалася
так стаяць са мной,
але ён не мог тады бачыць мяне.
Я помню
ўзіралася перад сабой,
куды пазіраў мой бацька;
І вучылася
ўбіраць у сябе ўсясветную пустку,
моцны снег
не падаў, віраваў вакол нас.

## Верш пра каханне

З болем заўсёды можна нешта зрабіць.
Твая маці вяжа.
У яе выходзяць шалікі ўсіх адценняў чырвонага.
Падораныя на Каляды, яны сагравалі цябе
на самоце, пакуль яна выходзіла замуж
зноў і зноў. Як яно так атрымалася,
што праз усе гады яна захавала сваё аўдавелае сэрца,
быццам мёртвыя могуць вяртацца.
Яно і не дзіўна, што ты такі, які ёсць,
баішся крыві, а твае жанчыны
як адна цагляная сцяна за другой.

## Ростані

Цела маё, цяпер, калі нашы з табой дарогі разыходзяцца,
Я пачынаю адчуваць да цябе новую пяшчоту,
дзікую і непрыручаную,
нібыта каханне, якое я помню з часоў маладосці —

каханне, якое так часта было неразумным у сваіх мэтах,
але ніколі — у сваім выбары, у сваёй неўтаймаванасці.

Зашмат патрабавалася загадзя,
зашмат таго, чаго нельга было паабяцаць.

Мая душа была такой жахлівай, такой гвалтоўнай;
даруй ёй гэтую жорсткасць.
Нібыта тая душа, асцярожна правяду па табе рукой,

не хачу пакрыўдзіць,
але прагну, нарэшце, выявіць свае пачуцці:

я не буду сумаваць па зямлі,
я буду сумаваць па табе.

**Прадмова і пераклад з ангельскай мовы Наталлі Русецкай.**



# Ірына Хадарэнка

культуролаг-даследчык, пісьменніца і грамадская актывістка. Скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, потым аспірантуру і дактарантуру Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. З'яўляецца аўтарам 11 кніг. Яе творы былі перакладзены на рускую, англійскую, польскую і нямецкую мовы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 2000 г.), беларускага ПЭН-цэнтра (з 2011 г.). Кіраўнік Беларускай Асветніцкай Лігі Амерыкі. Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. З 2016 года жыве ў Нью-Ёрку.

# Пунсовая чума замест ветразя...

«Сцеражыцеся тых, хто хоча навязаць вам пачуццё віны і пакаяння. Бо яны прагнуць улады над вамі», — папярэджваў Канфуцый. Калі мы больш пільна зірнем на тыя працэсы, якія зараз адбываюцца ў культуры Захаду, нам стане відавочна, што справа не ў натуральным адміранні старога, не ў барацьбе за справядлівасць і роўнасць правоў. Справа ў пашырэнні адмоўнай селекцыі і, так ці інакш, у дасягненні ўлады за кошт маніпулявання пачуццём віны і ўкараненнем маральнага рэлятывізму.

Традыцыйна ў этнапсіхалогіі падкрэсліваецца, што масавая свядомасць прадстаўнікоў заходняй цывілізацыі прасякнута пачуццём віны, а прадстаўнікоў усходняй цывілізацыі — пачуццём сораму. І гэта дзве прынцыпова розныя з'явы. Амерыканскія антраполагі Рут Бенедзікт і Маргарэт Мід першымі звярнулі ўвагу на розніцу светаўспрымання, заснаваную на так званых культурах віны (guilt culture) і сораму (shame culture). Паводле Рут Бенедзікт, чалавек можа перажываць віну, нават не здзейсніўшы ніякага злачынства, і гэтае перажыванне можа быць аблегчана споведдзю.

Пачуццё віны як інструмент грамадскага кантролю актыўна выкарыстоўвалася з часоў замацавання ў еўрапейскім абшары юда-хрысціянскай маралі. Зараз жа, на пачатку XXI-га стагоддзя, прарастаючы на досыць спрыяльнай глебе папярэдніх гістарычных акалічнасцяў, ідэалогія віны і пакаяння пачынае набываць радыкальны характар. Замацаванасць у заходнім свеце культуры віны вымагае ад яе прадстаўнікоў абавязковага публічнага пакаяння за грахі, якія здзейснены нават не імі, а іхнімі папярэднікамі, і падзялення калектыўнай адказнасці за гэта з абавязковымі формамі кампенсацыі тым, хто хоць нейкім чынам можа мець дачыненне да пацярпелага боку. Сумняваешся ў колькасці ахвяр у дачыненні да жыдоўскай супольнасці падчас Другой сусветнай вайны і не падтрымліваеш ініцыятыву па заснаванні музеяў Халакосту ў кожнай краіне — чакай, што цябе абзавуць антысемітам. Выступаеш супраць варварскага знішчэння помнікаў актывістамі руху Black Live Matters (у перакладзе «Жыццё чорнаскурых мае значэнне», скарочана — BLM) і бяздумнага рэдагавання класічнай літаратуры, дзе ўзгадваюцца тыя ці іншыя аспекты рабства, — значыць, ты — расіст. Не падтрымліваеш распаўсюд рэлігійнай прапаганды ў навучальных установах і дазваляеш сабе жарты і саркастычныя выказванні ў дачыненні да міфалагічных персанажаў, якім быў нададзены статус багоў, — будзеш асуджаны за знявагу «пачуццяў вернікаў» і г.д.

Шырокі распаўсюд маральнага рэлятывізму прынёс шэраг праблем: ад паліткарэктнага ігнаравання здаровага сэнсу пры фарміраванні межаў прынятых у грамадстве норм да сляпога папушчальніцтва варварскім дзеянням, якія пачалі трактавацца як талерантнасць да рознага кшталту меншасцяў і неабходнасць лічыцца з нязвыклымі традыцыямі.

Свежы прыклад — на хвалі нібыта барацьбы за правы чорнаскурага насельніцтва вандалы знявечылі ў Вашынгтоне і Варшаве помнікі нацыянальнаму герою не толькі нашай Айчыны, але і Польшчы, Швейцарыі і ЗША, — Тадэвушу Касцюшку. Некаторыя з іх нават не пасаромеліся патлумачыць гэта тым, што гнеў пратэстоўцаў, якія абрынуліся на архітэктурныя каштоўнасці, — гэта справядлівая форма супрацьстаяння прыгнёту. Калі б гэтыя невукі крыху лепш ведалі ўласную гісторыю, а не толькі зачытваліся лявацкімі пракламацыямі аб сістэмным расізме, яны маглі б памятаць аб тым, што акурат Касцюшка быў у свае часы сярод тых, хто выступаў супраць рабства, і нават пакінуў запавет пасля ягонай смерці прадаць маёмасць, каб атрыманыя сродкі пусціць на выкуп чорнаскурых рабоў і вызваленне прыгонных сялян. Але для пратэстоўцаў, большасць з якіх складае моладзь 25-30 гадоў, дэталі ніякай ролі не іграюць, дастаткова таго, што Касцюшка (як і ні ў чым не вінаваты Мігель Сервантэс) быў белым і жыў у часы існавання рабства, а значыць, ён — класавы вораг, адпаведна новай мярзотнай ідэалогіі, якая нібыта цвіль, распаўсюджваецца зараз у ЗША і не толькі.

У сваю чаргу, амерыканскі сэрвіс HBO Max выдаліў са свайго каталога кінастужку «Знесеныя ветрам» паводле экранізацыі рамана Маргарэт Мітчэл з нагоды «расісцкага» кантэксту. Нягледзячы на відавочны ідыятызм такога рашэння, нават сярод беларускіх літаратараў знайшліся тыя маральныя рэлятывісты і анархісты (не будзем паказваць пальцам), хто гэта ўхваліў і нават вельмі прыхільна паставіўся да вандалісцкага скідвання помнікаў актывістамі BLM. Але як вядома, варта штосьці забараніць, каб цікавасць да гэтага адначасова значна ўзрасла. Адваротным бокам медаля стала тое, што колькасць спампаванняў і праглядаў легендарнай кінастужкі пасля такога рашэння ўзрасла ў некалькі разоў.

Наогул, гэты небяспечны трэнд пачаўся нашмат раней за сусветна вядомы інцыдэнт паміж правапарушальнікам і наркаманам — чорнаскурым Джорджам Флойдам, і белым паліцэйскім, вынікам якога стала выпадковая смерць Флойда пры затрыманні, што спарадзіла масавыя акцыі пратэсту. Яшчэ паўстагоддзя таму з амерыканскіх школьных праграм пачалі выкідваць асобныя творы Марка Твена з-за ўжывання слова «негр». Пазней пад паліткарэктнае рэдагаванне патрапілі казкі пра Мэры Попінс і Пэпі-Доўгую Панчоху, раман Агаты Крысці «Дзесяць негрыцят», анімацыя Уолта Дыснея. «Змаганне» закранула нават найноўшыя галівудскія кінастужкі, дзе, напрыклад, у ролі герояў Старажытнай Грэцыі (!) можна было пабачыць чорнаскурых акцёраў, а ў адрас стваральнікаў тэлесерыяла «Чарнобыль» паляцела прэтэнзія, што сярод дзеючых асоб чамусьці няма ніводнага чарнаскурага чалавека. Апагеем гэтай фіктыўнай барацьбы за расавую справядлівасць стала пазбаўленне працы тых, хто ў адкрытую крытыкаваў BLM, абурэнне асаблівасцямі грыміравання акцёраў у оперных тэатрах (у прыватнасці, пры наданні цёмнага адцення скуры спевакам у оперы Дж. Вэрдзі «Аіда») з патрабаваннямі зняць адпаведныя паста-

ноўкі з рэпертуара і дакацілася да спынення вытворчасці адмысловай прадукцыі для асвятлення скуры ў некаторых вядомых касметычных кампаніях.

Гэта неверагодна і адначасова прыкра назіраць за тым, як цывілізаваны свет пачынае скатвацца ў каляіну рэлятывісцкай дыктатуры пад уздзеяннем агрэсіўных непісьменных хунвэйбінаў кшталту пралетарыяў, што некалі здзейснілі Кастрычніцкую рэвалюцыю, а пазней патапілі Расію і суседнія з ёй землі ў крыві. Таму што, калі стрыжнем пратэстнага руху з'яўляецца знішчэнне, руйнаванне і рознага кшталту забароны, гэта відавочна не прывядзе да нечага добрага. Таксама кепска, калі ў свядомасці цэлага класа з маленства фарміруецца культ ахвярнасці з адначасовай прагай атрымання спагнанняў і кантрыбуцый ад тых, на каго будзе навешаны ярлык прыгнятальнікаў.

Вядома, рабства і шавінізм — гэта жахліва. І наогул, ужо сама ідэя прымусовых ці добраахвотных пакутаў з'яўляецца вычварэннем, а не нормай. Бо ніводная жывая істота не жадае перажываць боль і знявагу, а хоча радавацца жыццю. Закладзеная ў аўрамічных рэлігіях думка «ачышчэння і ўзвышэння праз пакуты» наносіць вялікую шкоду грамадству і прымушае людзей цярпець здзек і катаванні замест таго, каб мець годнасць адстойваць свае інтарэсы. Гэтак жа і шматвекавая цярплівасць беларусаў у дачыненні да цяжкіх умоваў жыцця і свавольства кіраўніцтва, а таксама маўклівае патуранне зняважам з боку не толькі суседзяў, але і суродзічаў, з'яўляецца моцнай перашкодай для далейшага развіцця. Хунвэйбіны з Захаду і Усходу заўсёды рады скарыстаць сітуацыю сабе на карысць, распавесці, якім багам маліцца, у якім выглядзе трэба прыносіць ім ахвяры і якімі элементамі варта аздобіць новаспечаны культ.

Рэлятывісцкія тэндэнцыі ў мастацтве і літаратуры ў найноўшы час пачалі распаўсюджвацца з хуткасцю каронавіруса. У выяўленчым мастацтве ўжо мала хто глядзіць на элементарны ўзровень валодання пэндзлем, на кампазіцыю і каларыстыку. Замест гэтага мафіёзныя купкі аўтарытэтных мастацтвазнаўцаў і арт-куратараў стараюцца паўсюдна прасоўваць «геніяльнасць» асобных мастакоў і даводзіць, што менавіта такія творы з'яўляюцца «шэдэўрамі», нават калі яны зробленыя з біялагічных адходаў. У сучаснай музыцы цяпер цяжка бывае адчуць прысутнасць хоць якой мелодыі. Яе выціскае прымітыўная рытміка і злабадзённыя тэксты з агрэсіўнай знешняй падачай, якую неабходна суправаджаць медыйнымі скандаламі. Не застаецца ў баку і літаратура. Замест вершаў літаратурную прастору запоўнілі тэксты, вельмі часта не толькі пазбаўленыя вобразаў і метафар, але і элементарна непісьменныя.

Нават само слова «пісьменнік» ужываецца зараз значна радзей за больш моднае — літаратар. Пішаш пасты ў сацыяльных сетках і друкуешся на нейкіх сумніўных Інтэрнэт-пляцоўках — віншаванні, ты ўжо літаратар! Ну а тыя, хто пачынае аспрэчваць мастацкую якасць такой дзейнасці, — дык яны проста адсталі ад жыцця і нічога не разумеюць у найноўшай літаратуры. Беларускія пісьменнікі — гэта, ва ўяўленні асноўнай часткі нашага насельніцтва, нешта

архаічнае і сумнае. А вось беларускія літаратары — тыя два дзясяткі асоб, якія ўвесь час круцяцца ў медыйнай прасторы, няспынна сядзяць на перакладчыцкіх грантах і не вылазяць з літаратурных фестываляў у блізкім і далёкім замежжы, — гэта, наадварот, новая генерацыя пафасных інтэлектуалаў і ўплывоўцаў. Таму ў большасці складваецца памылковае ўражанне, што беларуская літаратура сёння і абмяжоўваецца дзіўным прывелігіраваным колам, дзе «андрэйкі-сяргейкі» і «марыйкі-наталкі» эфектна дэманструюць, якая менавіта літаратура мусіць быць запатрабаванай, а якой, адпаведна, — месца на сметніцы гісторыі.

Больш за стагоддзе таму Джэк Лондан (якога цяпер таксама падверглі астракізму за расізм) надрукаваў раман пад назвай «Пунсовая чума» (The Scarlet Plague), у якім апісаў пагібель амаль усяго чалавецтва ад страшнай эпідэміі, пасля чаго сярод тых, хто выжыў, засталіся толькі варвары, якія згубілі навыкі чытання, мінімізавалі мову і скаціліся да першабытных умоваў жыцця. Тут можна ўгледзець паралелі з цяперашнім часам, калі непісьменны натоўп імкнецца перакрэсліць ледзьве не ўсе папярэднія дасягненні цывілізацыі толькі таму, што гэтая цывілізацыя нейкім дзівосным чынам складалася пераважна з белых людзей (а гэта, паводле новых ідэалагічных трэндаў, памылкова і патрабуе перагляду). Падаецца, што заходняя культура, быццам грынаўская Асоль, усхвалявана чакаючы карабля пад пунсовымі ветразямі ў складаных эпідэміялагічных умовах, замест сваёй мары дачакалася сёння прапаведнікаў новай эры кліпавага мыслення, постмадэрнісцкіх выбрыкаў і панавання рознага кшталту меншасцяў на фоне дыктатуры невуцтва і маральнага рэлятывізму.



*Кацярына МАСЭ. Сонцавітая*



# Кацярына Масэ

паэтка. Аўтарка вершаваных зборнікаў: «Льётся свет в моё окно» (2012 г.), «Двоичный код» (2015 г.) і электроннай кнігі паэзіі «Аўтакамунікацыі... Я» (2016 г.). Пераможца міжнароднага конкурсу «Залатая страфа — 2012», літаратурнага конкурсу, прысвечанага юбілею Якуба Коласа і Янкі Купалы (2014 г.) і інш. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Паэзія — гэта ліст Мёбіуса...

***Пра высокае і нізкае... Пра часовае і вечнае... Пра форму і змест... Пра музыку і жывапіс... Пра каханне і змаганне... Пра магію простых слоў і чарадзейную здольнасць паэтаў... Пра вытокі паэтычнага хараства... І яшчэ шмат пра што іншае — наша гутарка з маладой таленавітай паэткай і мастачкай Кацярынай Масэ.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадарыня Кацярына, у вас такое незвычайнае, таямнічае, а мяркуючы па вашай творчасці, я б нават сказаў — касмічнае прозвішча... Каму вы ім абавязаны? Ці ведаеце гісторыю свайго радаводу?*

**Кацярына Масэ:** — Дзякуй, спадар Эдуард. На вялікі жаль, таямнічае яно не толькі для вас, але і для мяне самой, і для ўсёй маёй сям'і. Мае бабуля з дзядулем па бацькавай лініі мяркуюць, што гэтае прозвішча мае французскае паходжанне, але ж пэўна ніхто сказаць не можа. Калі-небудзь мне б вельмі хацелася заняцца даследаваннем свайго радаводу, у першую чаргу, з боку бацькі, бо лінія маці ўжо досыць добра вывучана ёю самой. Я лічу, што гэта вельмі важна — ведаць гісторыю сваёй сям'і, і мне, бадай, нават сорамна прызнавацца, што я дагэтуль не знайшла часу, каб яе даследваць. Але ж у нас ёсць добрая сямейная традыцыя: сустракацца і апавядаць адзін аднаму розныя цікавыя гісторыі са свайго жыцця, дзяліцца ўспамінамі і запісваць іх. Магчыма, калі-небудзь з гэтага нават атрымаецца кніга!

**Э.А.** — *Кажуць, што паэтамі не становяцца, імі нараджаюцца... Ці падзяляеце вы гэтую думку? У якім узросце адчулі ў сабе паэтычную прагу? На чыіх вершах гадавалі творчыя крылы?*

**К.М.** — Безумоўна, чалавек нараджаецца з пэўнымі здольнасцямі і схільнасцямі, пра гэта сведчыць як мінімум унікальны набор генаў, які дастаецца кожнаму з нас. Канешне, калі мець вялікае жаданне, можна «намуштраваць» сябе ў любой справе, але, прыклаўшы такія ж намаганні ў сваёй прыроджанай стыхіі, можна звярнуць горы. Пры гэтым я не адмаўляю вялікай ролі атачэння ў фармаванні чалавека. Тут важна, каб усе зоркі сышліся ў правільны час і ў правільным месцы, і гэта ўжо задача бацькоў, настаўнікаў. Мая маці, напрыклад, з самых ранніх гадоў заўжды размаўляла са мной як з дарослай: не заглушала празмерную дзіцячую цікаўнасць, адказвала падрабязна на ўсе пытанні, ледзьве не вяла са мной філасофскія дыскусіі! Але гэта быў унёсак не столькі ва ўласна пісьменніцкі склад розуму, колькі ў інтэлектуальнасць і творчасць як такую. І ў пэўны момант гэтыя «інвестыцыі» пачалі акупацца. Таму нараджаецца чалавек, на мой погляд, не столькі паэтам, матэматыкам і г. д., колькі, так бы мовіць, унікальным збегам, спалучэннем, сузор'ем псіхічных, духоўных і метафізічных акалічнасцей, якія пры належным доглядзе, як семя, з часам вырастуць у прыгожую і ні на што не падобную расліну.

З паэзіяй у мяне наогул даволі дзіўная гісторыя. Справа ў тым, што, як ні заахвочвалі мяне бацькі, гадоў да трынаццаці я практычна нічога не чытала, нават па школьнай праграме, уяўляеце? Таму, на жаль, мне складана падзяліцца з вамі рамантычным аповедам пра тое, як аднойчы ў дзяцінстве я выпадкова натрапіла на старэнькі пацёрты зборнік вершаў вядомага аўтара і... адбыўся цуд. Не, такога не было ніколі. Вядома, у больш свядомым узросце я пацягнулася да кніг, але сапраўдны «цуд» паэтычнага знаёмства ўпершыню напаткаў мяне толькі ў васямнаццаць гадоў. А ў дзяцінстве паэзія была для мяне, напэўна, проста цікавай дзіцячай гульнёй у словы. І толькі гадоў у адзінаццаць я пачала адчуваць, што ў гэтай гульні ёсць нейкая сіла.

**Э.А.** — *Што з'явілася прычынай таго, што спачатку вы пачалі пісаць па-руску? Як ставіліся да беларускай літаратуры падчас навучання ў школе?*

**К.М.** — Па-руску пачала пісаць па той простай прычыне, што мая мова ад нараджэння — руская, іншых варыянтаў не было. Да беларускай мовы і літаратуры ў школе ставілася, як, на жаль, амаль усе, скептычна, калі не сказаць адмоўна. Можна лічыць, што гэта проста прайшло міма мяне. Калі ў васямнаццаць гадоў я свядома звярнулася да мовы, давялося вывучаць многае амаль з нуля. Цяпер я магу сказаць, што такім вось стаўленнем да ўсяго беларускага сучасныя школьнікі ў істотнай ступені «абавязаны» не вельмі ўдалай школьнай праграме.

**Э.А.** — *Чым абгрунтаваны пераход на беларускую мову? Ці займайцеся творчым білінгвізмам у паэзіі зараз?*

**К.М.** — Пераход гэты адбыўся ў сярэдзіне першага курса лінгвістычнага ўніверсітэта. Наколькі я памятаю, на мяне тады вельмі моцна паўплывала маё атачэнне: маці, якая пачала цікавіцца Беларушчынай і наведваць курсы «Мова нанова» (я неўзабаве да яе далучылася), мой беларускамоўны знаёмы, а таксама курс лекцый па беларускай мове, вельмі прафесійна і захапляльна прачытаны адной выкладчыцай у нашым універсітэце. Усё гэта разам, а таксама мой даследчыцкі інтарэс як лінгвіста, натхніла мяне не гэтую «авантуру».

**Э.А.** — *Ці ёсць у вас паэтычныя настаўнікі? Каго з беларускіх класікаў вы шануеце? За што?*

**К.М.** — Сваімі галоўнымі паэтычнымі настаўнікамі я лічу Міхаіла Баярына і Ігара Кулікова, паколькі ў пэўны момант іх творы і паэтычная філасофія змусілі мяне абсалютна па-іншаму паглядзець на саму з'яву паэзіі, выйсці на цалкам іншы ўзровень успрымання паэтычнай мовы і мовы наогул. Іх погляды, з аднаго боку, вынікаюць з пракаветных глыбінь філасофскіх і паэтычных традыцый, а з другога — ёсць поглядамі будучага і тым самым кідаюць выклік сучаснасці. Сярод паэтаў-класікаў мне асабліва хацелася б адзначыць жывога класіка Алеся Разанава. Як аднойчы сказаў філосаф і паэт Ігар Бабкоў, Разанаў — дэміург сучаснай метафізічнай паэзіі. Думаю, што так і ёсць.

**Э.А.** — *Аднойчы вы назвалі паэзію найвышэйшай формай існавання мовы... Чаму?*



**К.М.** — У мовы дзве асноўныя функцыі: камунікатыўная і кагнітыўная. Мэта камунікацыі — дасягненне паразумення паміж суразмоўцамі, што вымагае пастаяннага ўдасканалення выразных сродкаў мовы. Кагнітыўная функцыя ўказвае на тое, што мова выступае нашым інструментам пазнання рэчаіснасці і саміх сябе, абслугоўвае працэсы нашага мыслення. Чым мова складанейшая, чым больш яна адлюстроўвае ўсялякіх дэталяў у карціне рэчаіснасці, чым больш нюансаў у яе функцыянаванні яна фіксуе, тым больш дэталізаваная і дасканалая наша ўласная карціна свету. Больш за тое, мова валодае цалкам чарадзейнай здольнасцю выяўляць тое, што яшчэ не выяўлена, праз называнне гэтага. Напрыклад, ці здараецца ў вас такое, што вы нешта разумееце або адчуваеце, але не ведаеце, як гэта сфармуляваць? Часам справа не ў абмежаваным лексічным запасе, а проста ў тым, што слова для гэтага яшчэ не вынайдзена. І вось, калі ўпершыню вы даяце гэтаму феномену назву — няхай нават складзеную з ужо вядомых вам слоў, каранёў, афіксаў, — вы як бы праяўляеце яго для сябе і для іншых людзей. Але праблема ў тым, што

мова — даволі кансерватыўная канструкцыя, якая накладае на працэс маўлення шматлікія правілы і абмежаванні. Гэта мае свае прычыны, але праз гэта мова часткова страчвае такія важныя якасці, як гнуткасць і падатнасць, якія могуць напоўніцу рэалізавацца толькі ў паэзіі. Паэзія — абсяг татальнага разняволення маўлення, дзе скідаюцца ўсе абмежаванні, перайначваюцца ўсе правілы, і мова з зацвярдзелага гаршка зноў ператвараецца ў мяккую гліну. А гэта значыць, што дзякуючы гэтай «усёдазволенасці» і практычна нічым не абмежаванаму творчаму патэнцыялу паэзіі даступны для выражэння такія грані рэчаіснасці і пазнання, якія штодзённай мове нават і не сніліся. Паэзія — гэта неэўклідава геаметрыя ў свеце мовы. Але паэзія ўсё роўна «робіцца» з будаўнічага матэрыялу мовы, проста на побытавым узроўні мы, вобразна кажучы, будуем звычайны пяціпавярховік, а на ўзроўні паэзіі — цэлы новы сусвет з зоркамі, чорнымі дзіркамі і кратовымі норамі. Але ж «цэгла» ўсе тая самая.

**Э.А.** — *Як вядома, паэзія існуе ў дзвюх сістэмах каардынат — сэнсавай і фармальнай... Якая з іх для вас асабіста важней у творчасці?*

**К.М.** — Самае важнае якраз — каб ніводная з іх не станавілася важнейшай за другую. Асноватворны прынцып паэзіі — у іх глыбінным сугуччы, знітаванасці і непадзельнасці. Для мяне паэзія — гэта ліст Мёбіуса, дзе ёсць унутранае і вонкавае, але пры гэтым яны перацякаюць адно ў адно так, што іх немагчыма размежаваць: змест выяўляе сябе ў форме, а форма сама набывае змястоўнасць.

**Э.А.** — *Апошнім часам многія паэты, асабліва маладыя, дзеля таго, каб спадабацца чытачу і слухачу часта займаюцца паэтычнай «эквілібрыстыкай», бяруць удзел у папулярных сёння слэмах, вершаваных двубоях, тэматычных конкурсах і г.д. Вы таксама аднойчы назвалі паэзію — «спаборніцтвам у моўным спрыце»... Гэта сапраўды так? Што для вас паэзія насамрэч?*

**К.М.** — Я не маю нічога супраць ніводнай з форм праяўлення паэзіі ў жыцці людзей. У кожнага свой густ, свае патрэбы і ўяўленні. Сучасныя паэтычныя тусоўкі, слэмы — гэта цудоўны і — што самае важнае — арганічны спосаб далучэння маладой аўдыторыі да літпрацэсу, які адпавядае іх актуальным культурным запытам. Я сама некалькі гадоў таму рэгулярна брала ўдзел у падобных імпрэзах, бо на той момант я адчувала сугучнасць свайго стылю і манеры падачы з дадзеным фарматам выступу. Многія скептычна ставяцца да літаратурнага перфомансу, я ж лічу, што ўдалы перфоманс — адзін з самых эфектыўных інструментаў эстэтычнага ўздзеяння на аўдыторыю, галоўнае, каб за ім стаяў харызматычны аўтар і цікавы, глыбокі пасыл. Аднак, азначыўшы ў адным са сваіх артыкулаў паэзію як «спаборніцтва ў моўным спрыце», я мела на ўвазе зусім не слэм, а той глабальны выклік у валоданні паэтычнай алхіміяй, які прымае кожны аўтар, штораз беручыся за чарговы радок. Паэзія каштоўная найперш тым, пра што мы гаварылі вышэй, — сваёй здольнасцю праз пашырэнне межаў мовы пашыраць межы нашага пазнання. Гэта і ёсць выклік моўнаму майстэрству паэта, на які ён добраахвотна ідзе. Кожны радок

павінен быць вынікам самапераадолення, самапераўзыходжання. Нікога не цікавіць пасрэднасць, трывіяльнасць ідэй і фармулёвак, але не менш людзей раздражняе празмерны пафас, эпатаж, пустая гульня слоў. У вершы можа быць усяго два словы, але калі яны высвечваюць нязведаны дагэтуль абсяг нашай уласнай свядомасці, выяўляюць неспазнаны фрагмент рэчаіснасці, калі яны абуджаюць і абвастраюць успрыманне і ўсведамленне, — тады можна сказаць, што паэзія «працуе».

**Э.А.** — *Быў час, калі паэты стаялі на самай высокай прыступцы грамадскай папулярнасці, а паэзія сягала да стадыённых маштабаў... Сёння прыхільнікі паэзіі, нібы першыя хрысціяне, збіраюцца ў маленькіх паўпадвальных памяшканнях, а колькасць іх прыкметна знізілася... Ці не азначае гэта, што эпоха Паэзіі, як віда сучаснага мастацтва, прайшла?*

**К.М.** — Думаю, што гэта адно з наступстваў вельмі глабальных культурных працэсаў, якія вымагаюць асобнага ўдумлівага аналізу. Адна з асноўных прычын, на маю, думку, — гэта нізкая канкурэнтаздольнасць паэзіі на фоне шматлікіх іншых культурна-інфармацыйных «спакус», якія лёгка, хутка і з задавальненнем спажываюцца нашым мозгам. Дзе ж тут выжыць паэзіі з яе інтэлектуальнымі віражамі? Парадаксальны той факт, што цяпер інтэлектуалізм — дакладней кажучы, імітацыя інтэлектуальнасці — якраз у трэндзе. Вельмі модна праходзіць розныя курсы, слухаць лекцыі ў сеціве і г. д. Але збыткоўнасць і даступнасць інфармацыі прыводзяць да яе абясцэньвання: веды цяпер у многіх вельмі павярхоўныя, чалавек можа ўявіць сябе экспертам у любой галіне, прачытаўшы пару навукова-папулярных кніг. Але праблема не толькі ў тым, што ўсе навокал «такія дрэнныя». Праблема і ў нас саміх — паэтах, мастаках, навукоўцах і г. д. Новая эпоха кідае нам новыя выклікі, і нам не выжыць у ёй, калі мы не будзем рэалізоўваць такую важную эвалюцыйную здольнасць, як адаптыўнасць. Адзін з галоўных вектараў маёй працы на дадзены момант — гэта, так бы мовіць, аналіз «рынку», густаў і патрэб аўдыторыі з мэтай зразумець, як правільна і эфектыўна падаваць сябе, сваю творчасць, каб і сабе не здрадзіць, і з людзьмі ўсталяваць кантакт. Мне здаецца, я перарасла думку аб тым, што свет павінен сам пад мяне прагнуцца. Нельга сябе недаацэньваць і ахвяраваць сваімі прафесійнымі прынцыпамі, але і каснець у кансерватызме і самалюбаванні таксама не варта.

**Э.А.** — *Як вы ставіцеся да эксперыментальнай паэзіі? Патлумачце, калі ласка, свой пастулат — «шлях да дасканалай простасці ідзе праз дасканалую складанасць»... Чаму не наадварот?*

**К.М.** — А што вы разумееце пад эксперыментальнай паэзіяй? Любая паэзія па прыродзе сваёй эксперыментальная, таму што, каб зрабіць нейкае адкрыццё, трэба паставіць эксперымент, правільна? Калі вы маеце на ўвазе ўсё тое, што тым ці іншым чынам адхіляецца ад класічных вершаваных форм (хаця гэта таксама адноснае паняцце), то, зноў жа, я не маю нічога супраць якіх заўгодна творчых стратэгій, калі ў выніку мы атрымліваем не нагрувашчанне выпадковасцей, а нешта сапраўды вартае ўвагі і даследавання. Што да майго

тэзісу аб простасці і складанасці, то ён натхнёны адным філасофскім выказваннем А. Разанава, згодна з якім простасць ад прымітывізму адрозніваецца тым, што першая прайшла праз складанасць. Я асабіста вельмі люблю віціеватасць, аздобу, мудрагелістасць у мастацтве і наогул. Прыменены дарэчна і з густам, яны заўжды ўражваюць. Але найвышэйшы пілатаж для мяне як для эстэта — гэта мінімалізм: у паэзіі, у мастацтве, у жыцці... Таму што, каб стварыць лаканічны аб'ект — творчы, інтэлектуальны і г. д., — які пры максімальна простай форме трансляваў бы максімальна складаны сэнс і меў бы пры гэтым высокую эстэтычную вартасць не за кошт прыцягнення лішніх элементаў, а будучы абмежаваным толькі самым неабходным, — для гэтага трэба спачатку нагуляцца з усялякага роду ўпрыгожваннямі і праз перанасычэнне празмернасцю свядома прыйсці ў рэшце рэшт да гэтай эстэтычнай аскезы. Не



памятаю, чыя гэта думка, але яна даўно запала мне ў душу: трэба пазбавіцца ад усяго лішняга, каб магло прамаўляць неабходнае. Я яшчэ толькі рухаюся ў гэтым напрамку.

**Э.А.** — *Літаратурныя крытыкі называюць вас паэткай стылю хай-тэк... Вы згодны з гэтым вызначэннем?*

**К.М.** — Гэтая метафара адносіцца да перыяду ў маёй творчасці (6—7 гадоў таму), калі я стварала паэзію «з вострымі вугламі»: брутальную, прэтэнцыёзную, рацыяналістычную. Тады мне падабалася гэта вызначэнне, але цяпер гэта ўжо абсалютна не актуальна.

**Э.А.** — *Аднойчы вы заявілі, што «глыбокі верш» не патрабуе дэкора... Як тады вы ставіцеся да сцвярджэння Максіма Багдановіча, што «трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш... Абрабіць яго трэба з цярпеннем...»?*

**К.М.** — Магу паўтарыцца. Я не супраць дэкору, калі ён апраўданы. Люблю прымяняць яго сама, але ў той жа час лічу, што абысціся можна і без яго. Я за тое, каб паэзія была разнастайнай. Для кожнага твора — свой метад. У мяне на гэтую тэму ёсць цэлы артыкул у «Маладосці»: «Паэтычны мінімалізм і haute poesie: тэорыя «простай» і «складанай» паэзіі».

**Э.А.** — *Вашы адносіны да так званай «візуальнай паэзіі»...*

**К.М.** — У цэлым, становўчыя, хаця, як мне падаецца, вельмі арганічна ўпісаўшыся ў творчасць паэтаў-авангардыстаў мінулага стагоддзя, на дадзены момант яна асабліва не карыстаецца попытам ні ў саміх аўтараў, ні ў чытачоў. Я сама калісьці намагалася працаваць у падобным рэчышчы, але ўсё абмежавалася некалькімі сціплымі спробамі. Думаю, што ўсяму патрэбны свой час і свае абставіны.

**Э.А.** — *Як вам прыйшла ідэя спалучыць у адной кнізе паэзію і выяўленчае мастацтва? Я маю на ўвеце ваш зборнік вершаў «Беланоч»...*

**К.М.** — Паколькі ўсё жыццё я малюю, то цалкам лагічна, што аднаго дня дзве мае галоўныя творчыя стыхіі павінны былі аб'яднацца ў нейкім агульным праекце. Ім стала кніга «Беланоч». Ідэя аформіць уласны зборнік прыйшла да мяне яшчэ на этапе працы над папярэдняй кнігай — «Двоичный код» (2014—2015 гг.). Але тады мне не ўдалося знайсці дарэчнае мастацкае рашэнне для гэтай задумы. Затое падчас працы над наступнай кнігай усё адбылося неяк само сабой: у пэўны момант патрэбная стылістыка і вобраз будучай кнігі нібыта выспелі, выкрышталізаваліся ў маім уяўленні, і праз год матэрыял быў гатовы. Мне здаецца, «Беланоч» увогуле атрымалася вельмі моцнай у энергетычным плане, тады мне хапіла сіл на ўсё: і на вершы, і на ілюстрацыі, і на аздобленую музычным суправаджэннем прэзентацыю кнігі. І хаця хваліць сябе — дрэнны тон, тады ўсё было, як па мне, на вышэйшым узроўні: стройна, моцна, стылістычна вытрымана.

**Э.А.** — *Дарэчы, гэтая ў сваім родзе ўнікальная кніга нейкім дзіўным чынам засталася па-за крытычнай увагай... Як вы лічыце — у гэтым віна аўтара ці сённяшні стан айчыннай крытыкі? Чаму, на вашу думку, на паверхні культурнага мэйстрыму з года ў год адны і тыя ж прозвішчы?*

**К.М.** — Вы не першы, хто кажа мне аб гэтым. Насамрэч я не лічу, што кніга «прайшла міма» літаратурнай супольнасці. Аб гэтым сведчыць як мінімум вялікая колькасць вельмі цёплых водгукаў і падзяк ад чытачоў і калег, якія я атрымала з моманту яе выхаду і працягваю атрымліваць дагэтуль. Я добра памятаю атмасферу таго вечара, калі я ўпершыню прэзентавала яе слухачам, і нават праз тры гады гэтыя ўспаміны натхняюць і жывяць мяне. Я адчуваю, што мая праца знаходзіць водгук у людзей, і гэта для мяне ўжо поспех. А тое, што кніга не атрымала ніякіх прэмій і не стала прадметам літаратурных рэцэнзій... Вядома ж, гэта крыўдна, бо ніхто з нас не пазбаўлены амбіцый. Але для мяне тэма літаратурнай палітыкі — даволі правакацыйная, і я, хаця і здагадваюся, што можа быць каменем спатыкнення ў дадзеным выпадку, не хацела б агучваць тут свае здагадкі, каб не стварыць яшчэ большай правакацыі. Дасць Бог — будуць і прэміі, і рэцэнзіі. Прынамсі, я лічу, што раблю сваю працу дастаткова якасна, каб гэта аднойчы адбылося.

**Э.А.** — *У адным інтэрв'ю вы сказалі, што натхненнем для вас з'яўляецца не паэзія, а музыка і выяўленчае мастацтва... Якую музыку вы слухаеце? Хто з сусветных ці айчынных мастакоў з'яўляецца вашым творчым фаварытам?*

**К.М.** — Не памятаю, што менавіта я тады мела на ўвазе (здаецца, гэта было досыць даўно), але я, відавочна, трохі пагарачылася... Безумоўна, паэзія таксама з'яўляецца для мяне крыніцай натхнення, проста, магчыма, мне даволі рэдка трапляюцца вершы, якія б бралі мяне за жывое. А вось у выпадку з музыкай і карцінамі такое адбываецца значна часцей. Мабыць, да паэзіі ў мяне завышаныя патрабаванні? Я слухаю самую розную музыку: і этнічную, і рок, і нават папсой абсалютна не грэбую. З тутэйшага мне асабліва даспадобы Shuma, Dzivasil, Shaman Jungle; з расійскіх выканаўцаў — БГ, Theodor Bastard, «Пикник»; з замежных — Wardruna, Peruquois, Dead Can Dance, Scorpions, Metallica... Таксама люблю слухаць медытатыўную музыку. Насамрэч я магу вельмі доўга пералічваць, усяго адразу і не прыгадаеш. Але дзве мае самыя любімыя песні, якія штораз прабіраюць наскрозь, — гэта «Северный цвет» і «Аделаида» гурта «Аквариум».

**Э.А.** — *Якая форма камунікавання з чытачом вам найбольш падабаецца? І наогул, ці патрэбны паэту жывы кантакт з адрасатам сваёй творчасці? Калі так, то дзеля чаго?*

**К.М.** — Тут не можа быць адназначных рэкамендацый, усё залежыць ад канкрэтнага аўтара і канкрэтнага твора. Мне часта кажуць, што мая паэзія раскрываецца напоўніцу менавіта ў аўтарскім выкананні. А мне самой як чытачу, наадварот, камфортней «працаваць» сам-насам з кнігай. У кожным разе заўжды цікава супастаўляць свае асабістыя ўражанні ад тэксту з яго бачаннем самім паэтам, якое ён так ці іначай транслюе праз свой голас, харызму, аўтарскі каментар. Хаця, калі вам падабаецца толькі чытаць або толькі слухаць — калі ласка, кіруйцеся сваёй чытацкай інтуіцыяй. Па сваім вопыце магу сказаць, што бываюць вершы, якія западаюць у душу менавіта тады, калі яны на паперы, а



ў аўтарскім выкананні нібыта страчваюць сваю магію. І наадварот. Тут усё залежыць і ад вашых псіхалагічных асаблівасцей, і ад манеры чытання аўтара, і ад самога тэксту.

**Э.А.** — *Ці згодны вы з думкай, што сапраўдную паэзію ствараюць паэты з трагічным лёсам? І наогул, у чым трагізм існавання беларускай паэзіі? Калі ён для вас існуе?*

**К.М.** — Па-першае, я б у прынцыпе не стала так рэзка размяжоўваць — «сапраўдная» або «несапраўдная». Па-другое, я ўпэўнена, што ні трагізм, ні ружовыя поні не здольны самі па сабе спарадзіць паэзію. Што можа, дык гэта высокая чуллівасць, здольнасць да сузірання, вытанчаны густ і імкненне глядзець у сутнасць рэчаў. Проста многія чамусьці называюць гэта дэпрэсіўнасцю і трагізмам! Калі гаварыць пра так званы трагізм беларускай паэзіі, то, канешне, ён спрадвеку засяроджаны вакол двух рэчаў — гэта мова і свабода.

**Э.А.** — *Якая роля кахання ў вашым жыцці? Ці можна пісаць вершы, будучы незакаханым?*

**К.М.** — Каб пісаць вершы, трэба быць закаханым перш за ўсё ў паэзію!

**Э.А.** — *Вялікі дзякуй, спадарыня Кацярына, за цікавую і змястоўную гутарку! І хай крылы Кахання ўздымаюць вашу паэзію да новых творчых вышынь!*



# Валянціна Якімовіч

публіцыст, педагог, акторка, народны майстар, грамадская дзеячка. Працавала архітэктарам, вядучым інжынерам-канструктарам, выкладчыцай жывапісу і народнага мастацтва ў Беларускім гуманітарна-культурным цэнтры ў Мінску, акторкай менскага драматычнага тэатра «Дзе-я?», старэйшым навуковым супрацоўнікам БДІ драўлянага дойлідства. Друкавалася ў часопісе «Мастацтва», газетах «Культура», «Чырвоная змена», «Беларус» і альманаху «Беларус». Нарадзілася ў 1949 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. З 1998 года жыве ў Нью- Ёрку.

# «Я такі, які ёсць...»

***Мяне, як аўтара гэтых успамінаў, прыцягвалі і прыцягваюць да паэзіі Анатоля Сыса мудрасць і, да наіўнасці, надзвычайная шчырасць, прастата й узнёсласць, рамантычнае, вытанчана-пажадлівае ўспрыняцце свету, непераадольная прага да жыцця й усведамленне ягонай абмежаванасці, імпульсіўнасць і безабаронная, амаль дзіцячая, даверлівасць у адносінах да чытача.***

***Калі Анатоль пайшоў у іншы свет, першым, хто паведаміў мне аб гэтым, быў мой блізкі сябра, знаны мастак Алесь Пушкін з вёскі Бобр Крупскага раёна Менскай вобласці, а праз некалькі хвілінаў з Прагі патэлефанаваў Сяргей Навумчык. Ён выказаў свае спачуванні й, паколькі я ведаю яго больш, чым хто іншы, прапанаваў мне напісаць біяграфію Сыса, а больш аб тым, якім ён быў чалавекам насамрэч, толькі коратка, і не закранаючы паэзію. Фактычна, менавіта гэтая ідэя Сяргея натхніла мяне напісаць успаміны пра Анатоля ды закрануць некаторыя палітычныя падзеі, у час якіх ён жыў. Інакш я, мажліва, і не адважылася б на гэткі крок.***

***Што можа сказаць пра паэта лепш, чым ягоныя вершы? «Толькі ў паэзіі Анатоль Сыс канкрэтны, рэальна існуючы чалавек, знешняя аўтабіяграфія ці біяграфія якога мала што азначае для паэта без аўтабіяграфіі ўнутранай: аўтабіяграфіі думак і пачуццяў праз паэзію з крыві, энергіі й плоці самога Анатоля, які жыве ў сваіх вершах больш рэальна, чым у самім жыцці.» Таму я вырашыла пісаць пра яго так, як гэта бачу, адчуваю й разумею.***

***Я не літаратурны крытык — проста беларуска, якой Анатоль Сыс дапамог знайсці шлях да Беларусі й да самой сябе. Паэзія Анатоля стала мне блізкай, як і ён сам.***

## Код народа ў сусвеце

Нацыянальная мова і паэзія — гэта код народа ў сусвеце. Паэзія Сыса глыбока нацыянальная і, я б сказала, агульначалавечая. Яна непаўторная. Я тут вельмі прыкладна спрабую разабраць ягоную паэзію па тэмах, бо яна адметная вобразнай шматслойнасцю, адштурхоўваючыся ад самых галоўных думак у вершах. «Раскласці паэзію Анатоля Сыса па паліцах тэматаў уяўляецца справай складанай. Бо ў межах аднаго верша здараюцца разгалінаванні, перапляценні некалькіх тэм ці падтэм, якія знаходзяцца ў пэўным узаемадачыненні, дапаўняюць адна другую шматпланавасцю зместа, глыбінёю думак і абагульненняў.»

Шмат разоў пераглядаючы кнігу вершаў Анатоля «Сыс», заўважыла, што ў яго існуюць як бы кодавыя, найбольш ужывальныя словы ў вершах.

Радзіма, Айчына, Беларусь — узгадваюцца 81 раз;

Бог, Ісус, Хрыстос — 76 разоў;

Кроў, сляза й плач — 65.

*Мова любая, слова роднае; жыццё, нарадзіцца, як і смерць, труна, магіла* — выпадкова ці знарок паўтараюцца ў радках ягоных вершаў 60 разоў.

На маю думку, аўтар канстатуе факт узаемасувязі гэтых паняццяў, што жыццё й смерць беларускага народа наўпрост залежаць ад стану роднай мовы.

*Маці, Марыя; неба, нябеснае крыло, птах, агонь-птушка, паэт, паэзія; сэрца, душа й дух* — узгадваюцца 58 разоў.

Паэт ведае, што родная маці Марыя і нябесная маці Марыя заўжды суцешуць і сагрэюць сваёй любоўю яго чуйнае сэрца, душа знойдзе прытулак у нябёсах, а дух паэта падтрымае агонь-птушка паэзіі.

*Агонь, агмень, полымя; доля, лёс, лес; а таксама: мой народ, тутэйшы люд, беларусы, мая зямля; любоў і каханне* — гучаць у 50 выпадках.

*Сонца; зоры, зорка, зніч, сузор'е ды калоссе і жыта* ўжываюцца каля 30 разоў.

Агонь, атрута, кроў, крыж, сляза, вярыгі — гэта спавядальная лексіка Анатоля Сыса. Менавіта гэтымі і вышэй прыведзенымі кодавымі словамі ён акрэслівае свае галоўныя тэмы, пачуцці, перажыванні, боль і любоў.

## Сімвалы

«Я чалавек сімвалаў», — любіў паўтараць Анатоль. Сапраўды, вершы Анатоля Сыса наскрозь прапітаныя ўсвядомленай таямнічай сімволікай і алегорыямі, параўнаннямі й метафарамі. У іх ён называе сябе княжычам, лебедзем, якога крыжавалі. Нішто невыпадкова ў ягоных вершах. Кроў на белым крыле паэта-лебедзя — гэта сімвал таго, што ён сам і ёсць наш бел-чырвона-белы сцяг, які кліча нас да змагання за незалежнасць.

Паэт мянуе сябе птахам, званаром, беспрытульнай ці нялюдскай птушкай, або птушкай белай у чорным зрэб'і, вепруком, сабакам, які вартуе свой дом, і нават бяскрыўдным вужакам з залатой каронай, а сваю збалелую душу — уродачкай.

Ворагі ў яго — гэта ваўкалакі, крумкачы, груганы і ваўкі. Паэзію ён велічае агнём ці агонь-птушкай, а часам — нявестай, сваёй любай або жанчынай, каханкай, крываваю зоркай, жаной дарагой, Музаю, якая вядзе паэта сваім шляхам. Ведаючы гэта, становіцца зразумелым, чаму ўсе свае карціны, што даравалі Анатолю мастакі, ён раздаваў сябрам, а творам Аляксея Марачкіна «Муза» вельмі даражыў.

Так, да прыкладу, у яго часта сустракаецца лічба тры, як трыадзінства Свету — неба, зямлі й вады; часу: мінулае, рэчаіснасць і будучае; чалавека: цела, душа й дух, а таксама галоўных вехаў для кожнага з нас: нараджэння, жыцця й смерці. Гэта, калі ўдумацца, сведчыць пра светапогляд паэта, што ён чалавек веруючы, бо Святая Троіца — сімвал нябесны.



*Анатоль Сыс*

Паэт па-свойму расшыфроўвае гэты сімвал у вершы, прысвечаным Анатолю Вярцінскаму:

*Тры мазалі ў мяне.*
*Бог тройцу любіць:*
*на языку, на сэрцы, на руцэ...*

У вершы «Песня пра ўваскрашэнне вершніка» паэт рэфрэнам двойчы паўтарае ў пачатку другога, чацвёртага і ў канцы апошняга слупкоў, каб падкрэсліць важнасць апошняе страфы:

*Ён не спаў тры ночы і тры дні*
*..................................................................*
*Ён не спаў тры смерці, тры жыцці...*
*... І ўваскрэснуў вершнікам Пагоні!*

У вершы пра дзеда:

*Кашара на трох быкоў —*
*бярыце, ваўкі, быкамі...*

Пра бацьку:

*Бацька на трох хлеба нарэзаў...*

У вершы «Жанчына плакала»:

*Жанчына плакала тры дні,*
*жанчына плакала тры ночы,*
*і бога пілі яе вочы,*
*як раб — ваду, кроў — авадні...*

З народнага:

*Думку думала птушка трохкрылая:*
*дзе мой воран аб крылах трох?*
*Тры вясны — тры ракі да мора*
*тры слязінкі з пакорных воч.*

Пры ўзгадванні сакральнай лічбы трыцаць тры, што ўяўляе сабой праяву духа, асэнсаванне часу, сімвал біблейскага ўзросту, калі ў чалавека напоўніцу раскрываюцца ўсе духоўныя сілы й здольнасці, адразу ўяўляецца неба, як у вершы «Агонь», які паклала на мелодыю й спявае таленавітая беларуская рок-спявачка Кася Камоцкая:

*У небе знічаванняў трыццаць тры*
*зліліся*
*у адзін Агонь адвечны,*
*наўкол Агню збіраюцца вятры,*
*іх трыццаць тры,*
*і кожны мае свечку.*

Паэтычны зборнік А. Сыса «Ягамосць» на працягу васьмі гадоў, хоць афіцыйна ён стаяў першым у чарзе, па зразумелых прычынах, так і не трапіў у друк. Таму ў 2002-м годзе я вырашыла спрычыніцца да ягонага выдання, але выйшаў ён пад назваю «Сыс», семдзясят паасобнікаў якога Алесь Пушкін даслаў мне ў Нью-Ёрк. У той год якраз праходзіла чарговая Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амерыкі, на якую з Мінска быў запрошаны наш вядомы гісторык Генадзь Сагановіч. На сустрэчы большасць паасобнікаў зборніка «Сыс» былі прададзеныя, а некаторым людзям, хто хацеў набыць, ды не меў пры сабе грошай, я яго падарыла...

Праз месяц на наступным паседжанні нашай арганізацыі да мяне падышла мадам з нашае дыяспары, якая р'яна рвалася на эміграцыі ў дзяячкі, імя якой мне неахвота называць.

— Валянціна, я выкінула вершы твайго Сыса ў сметнік. Ты ж паглядзі, што ён там піша! Гэта ж непрыхаваны садыст, — заявіла мне гэтая асоба. І, раскрыўшы кніжку Анатоля, якую я мела пры сабе, пагардліва прачытала ўрывак з аднаго вельмі любімага мной верша «Вам, на ложку зямным...»:

*А я ў змроку вярыг*
*веру любай сваёй*
*і стальнога пяра не хаваю,*
*як законны жаніх, боскай шлюбнай зарой*
*сам лязом ёй пад сэрца пыраю...*

Ну як ёй было зразумець таямнічы алегарычны сэнс, не разумеючы, што менавіта яе — паэзію, паэт велічае «любай сваёй» і «крывавую зоркай», а сябе — яе законным жаніхом, які «боскай шлюбнай зарой» піша вершы лязом свайго стальнога пяра?

— А пачытай во гэта, калі ты мо не бачыла! Дык тут ён піша шчэ й пра «гострыы нож». Скажы: ну для чаго мне ўсю гэтую брыдоту чытаць? — і яна з шчырым абурэннем тыцнула пальцам у верш «Песня пра жану», дзе паэта піша:

*А ў мяне ж ёсць свая магіла, —*
*а мяне ж яна палюбіла,*
*палюбіла сынам і мужам,*
*як жану, я біў яе гужам...*

— Маеш рацыю. Трэба прызнаць, што ты як раз адна з тых, каму паэзія проста супрацьпаказана, — суцешыла я яе.

— А вось зборнік не варта было выкідаць. Лепей дадумалася б вярнуць яго мне. Каб жа цікавілася фальклёрам, дык ведала б, што жанчына й жана ў ім сімвалізуе сабой ваду, яму, магілу, зямлю, маці, а па вялікаму рахунку — Радзіму, а вобраз мужчыны — гэта агонь, неба і бацька. Недарма ж ужываем мы словы Зямля-Матка й Неба-Бацька. А злучэнне жаночага пачатку зямной вады з мужчынскім пачаткам нябеснага агню дае пачатак жыццю.

Відавочна, што ганарыстая дзяячка, калі й была знаёмая з паэзіяй, то з простай, над якой не трэба было асабліва напружваць мазгі. Сумняюся, што яна чытала біблію ці Максіма Багдановіча, бо імя Страцім-Лебедзь не нагадвала ёй ні аб чым. Як жа ёй было разабрацца ў алегарычных вобразах, абагульненых чалавечых паняццях і ўяўленнях, у вобразах, якія мелі пераноснае значэнне? Яна не магла вызначыць схаваны ў сімвалах і метафарах сакральны паэтычны змест і сэнс, таму ў паэзіі ўспрымала ўсё даслоўна...

## Пераўвасабленні

Вершы Сыса трапляюць у душу. Паэт як бы сам пранікае ў цябе й уплывае на твае думкі, адчуванні, паводзіны.

«У творчасці Анатоля Сыса ўсё складаецца з гэтых пранікненняў. Ён пераўвасабляецца ў Апанаса Філіповіча, Сяргея Палуяна, Язэпа Драздовіча, калі піша іхнія маналогі й тым самым акрэслівае сваё, блізкае яму кола. Ён пранікае, ці то каб напоўніць іхнія вобразы сабою, ці то каб праз сябе зразумець і адчуць іх," — разважае Сяргей Дубавец.

«Назвы, дарэчы, сваіх «маналогаў» часам даваў адвольна, як з тым жа ж «Апанасам Філіповічам», за старасвеччынай маскуючы сучасны змест. А

часам натхняўся якой-небудзь постаццю з беларускіх нацыянальных дзеячоў, якая ўражвала яго сваім яскравым талентам ці трагічным жыццёвым лёсам,»— адзначае Алесь Бяляцкі.

У Анатоля Сыса дзесяць маналогаў. «Маналог адступніка» раскрывае трагедыю яго ўласнага жыцця, калі сэрца паэта працята болем за нядолю свайго народа, што ён «трапіў у сіло журбы», і ўжо не ў стане яго ў сабе несці, й не можа яго пазбавіцца:

*Я трапіў у сіло журбы,*
*я сам у гэтым вінаваты,*
*я быў — здаецца, ўчора — быў*
*на радасць і сяброў багаты.*

*Заўчасна разарваць сіло*
*Я мог бы, ды баюся болю —*
*яно да жылаў прырасло,*
*як розум мой прырос да столі...*

Сяргей Палуян, народжаны ў 1890-м годзе, патрыёт, змагар, зорка «Нашай нівы», любіў жыццё, светласць і красу, але разумеў сваю асуджанасць з-за невылечнае хваробы, адчуваючы бясконцасць адзіноты ды неадпаведнасць ідэальнага і рэальнага, у дзевятнаццаць гадоў, 20 красавіка 1910 года, скончыў жыццё самагубствам.

Анатолю Сысу блізкі гэты вобраз, таму й «Маналог Сяргея Палуяна» нясе трагічны тэмат. У ім дваццацівасьмігадовы паэт — вялікі жыццялюб, жартаўнік і весялун, з жахлівай рэальнасцю апісвае ўласную смерць. Чытаеш, і валасы ўстаюць дыбарам:

*Ні ашчаперыцца, ні ўстаць мне,*
*ні клікнуць сонечны прамень,*
*я — белы ў чорным немы Страцім,*
*цяжкі, як яравы камень.*

*А нада мной сыпун шапоча:*
*ты ж піць хацеў, дык пі мяне.*
*І мурашамі лезе ў вочы,*
*шыпіць, як гадзіна ў гайне.*

Але заканчваецца гэты маналог амаль што на аптымістычнай рамантычнаўзнёслай ноце:

*Я наталюся, акрыяю,*
*адрыну чорныя глыжы*
*і сам расою запалаю*
*на руні роднае мяжы.*

Рамуальд Жакоўскі, выдатны беларускі акцёр, паэт і таленавіты дэкламатар з трупы Фларыяна Ждановіча, з-за нястачы й голада паўтарыў лёс Сяргея

Палуяна. Народжаны ў 1887-м годзе, дваццацідвухгадовым юнаком, 1 студзеня 1919 года скончыў жыццё самагубствам.

Паводле неспасціжнай лучнасці блізкіх душаў у Анатоля Сыса з'яўляецца «Маналог Рамуальда Жакоўскага», які таксама нясе ў сабе думку аб сувязі жыцця й смерці, сувязі зямлі й неба, між якімі ў вобразе беспрытульнай птушкі вольналюбівая душа паэта шукае прыстанку ў аблоках. Зразумела, што Сыс піша аб самім сабе. І зноў, пры ўсім трагізме, верш усё ж заканчваецца аптымістычна, у надзеі на сустрэчу нашчадкаў з ягонай паэзіяй праз стагоддзі...

Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 мая 1900 года, памёр 1 сакавіка 1933 года ў ссылцы. Беларускі паэт, перакладчык, літаратурны крытык, змагар за беларускае нацыянальнае вызваленне, які ўпэўнена адхіляў псеўдапатрыятычны й шавіністычны тэзіс аб выключнасці нацыі й марксісцкі пастулат аб буржуазнасці нацыянальнай справы.

Анатолеў «Маналог Уладзіміра Жылкі» звяртае нас да пытання аб вечнасці існавання:

*Ці вечныя зоры?*
*Ці вечныя рэчкі?*
*Ці вечныя мае словы?*
*Сціхотна у свеце.*
*Бажніцы, як свечкі*
*у Бога... у Бога ў галовах...*

Язэп Драздовіч нарадзіўся 13 кастрычніка 1888 года, памёр 15 верасня 1954 года — беларускі мастак, археолаг, пісьменнік, этнограф і фальклярыст.

Відавочна, што паэта Анатоля Сыса натхніла вядомая жывапісная праца мастака «Пагоня», і ў яго з'явіўся верш «Маналог Язэпа Драздовіча», у якім ізноў пануе сум і боль за свой народ, і ўсё ж гучыць надзея на Пагоню, якая ўказвае нам адвечны шлях да волі:

*Жалобны рэквіем зубрыны*
*на мой*
*народ*
*наводзіць сум...*
*І каб не ўмерці — ручаіны*
*жабруюць па лясох расу,*
*бы я сцяжынаю жабрачай,*
*а думы — пра адвечны шлях —*
*там крыўская Пагоня скача,*
*і німб над ёй, як зорны шлях.*

Постаць Зміцера Жылуновіча (найбольш вядомы псеўданім якога Цішка Гартны) адна з найбольш трагічных у беларускай гісторыі. Народжаны 4 лістапада 1887 года ў Капылі Слуцкага павету Мінскай губерніі. Беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Быў удзельнікам рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў. У 1908

годзе пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва». Быў сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыяту, рэдактарам першай беларускай бальшавіцкай газеты «Дзянніца», старшынёй Часовага ўраду Савецкай Беларусі, выдаўцом беларускіх кніг у Берліне, рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» у Менску, узначальваў дзяржвыдавецтва БССР і Цэнтральны архіў БССР, быў намеснікам наркама асветы БССР... У 1923 годзе пленумам ЦК КП(б)Б была падрыхтаваная пастанова прысваення Зміцеру Жылуновічу звання Народнага паэта Беларусі, але яна не была прынятая. У 1931 годзе Жылуновіч быў рэпрэсаваны, выключаны з ВКП(б), у 1936 годзе арыштаваны, а праз год быў пераведзены ў магілёўскую псіхіятрычную лякарню, дзе 11 красавіка 1937 года скончыў жыццё самагубствам.

Анатоль Сыс не прамінуў вобраза гэтага самаахвярнага нацыянальнага дзеяча. Ён піша «Маналог Зміцера Жылуновіча». У ім паэт перажывае за лёс свайго народа, які стагоддзямі стаяў на скразняку то чарнасоценнага ўсходняга ветру з Расеі, то паўзучага заходняга сіверу з Польшчы:

*Як пазашлюбны плод,*
*свае хаваю думы:*
*адвеку мой народ*
*нібы пад ветрам дзюны.*

*А вецер дзьме і дзьме,*
*то ўсходні, то заходні,*
*за ім не разглядзець*
*ні сонца, ні паходні.*

Той жа боль за лёс сваёй радзімы й свайго народа адчуваецца ў вершы «Ластаўка»:

*Ластаўка,*
*ты ніколі не бачыла,*
*дык пабачыш, якая смерць...*
*Снег з Расейшчыны, дождж з Паляччыны —*
*будзе целу й душы балець,*
*ластаўка.*

Кожны раз, калі ў Нью-Ёрку адбываюцца паэтычныя вечарыны, прысвечаныя Анатолю Сысу, мяне просяць прадэкламаваць «Маналог Апанаса Філіповіча», у якім дакладна падаецца рэчаіснасць бязладдзя сучаснага жыцця беларусаў, калі святары больш дбаюць аб уласным дабрабыце, чым пра веру ў Бога, а янычарскім урадам так метадычна і шматгадова нішчуцца гісторыя, мова й традыцыі беларускага народа:

*У гэтай краіне не маю я роду,*
*забыўся народ мой найменне дзядоў,*
*і свету не бачыць далей азяроду,*
*і дзецям не дарыць на шчасце падкоў.*

Паэту не хапае волі ў роднай Айчыне. Душа Анатоля сцякае крывёй. Ён хоча абудзіць беларусаў. Прамым тэкстам гаворыць, што калі ў народа няма мовы, то знікае нацыянальная культура. Людзі не ведаюць, як трэба адзначаць самыя галоўныя вехі свайго жыцця: нараджэнне дзіцяці, вяселле й пахаванне. Як збяруцца за сталом, не ведаюць аніводнае роднае песні, якую б маглі заспяваць разам, не кажучы ўжо пра традыцыйныя, поўныя годнасці, народныя абрады, якія ядналі наш народ і пазбаўлялі кожнага беларуса ад пачуцця безабароннасці й самоты. Знікаюць адметныя прыкметы нацыі. Паступова раствараецца ў прасторы й сам народ. Знікае нават разуменне святых паняццяў: род, народ і радзіма. Аб гэтым так адчайна крычыць паэт і вусцішна кліча свой народ да волі.

Ён б'е ў нашыя сэрцы сваімі вершамі й пранікае імі ў нашыя душы. І той, хто мае душу, разумее яго й тое ж адчувае. Для ўзмацнення галоўнай думкі першы слупок паэт паўтарае ў канцы верша:

*ні грошай, ні славы — я волі хачу,*
*бо ў гэтай краіне не маю я волі.*

## Сувязь з зямлёй і прыродай

Немажліва разглядаць асобна сутнасць паэта як чалавека, не разглядаючы ягоную паэзію, бо свае ўласныя эмоцыі, настрой і стан душы паэт перадае якраз у вершах, у прыватнасці, праз суадносіны з жыццём і прыродай.

Родная прырода, родныя краявіды займаюць значнае месца ў творчасці Анатоля Сыса. Як чалавек і як паэт, ён моцна звязаны з Айчынай, найперш — са сваёй роднай вёскай Гарошкаў:

*Дарога полем — да маці.*
*Дарога лугам — да бацькі.*
*Дарога рэчкай — да любай.*
*Але і полем, і лугам, і рэчкай*
*іду заўжды да Радзімы.*

У вершы «Дзед перад смерцю» Анатоль з вялікай любоўю і захапленнем апісвае вобраз свайго дзеда й зімовую прыроду, але ўсё адно з адценнем душэўнага трагізму:

*За лесам па пояс снег,*
*за лесам поле памерла.*
*Ваўчыцы галоднай смех*
*у гурбах захрас па горла.*

Верш «Бераг» адлюстроўвае шматаблічнасць свету і ўспрымаецца ў кантэксце нацыянальнай класікі. У ім яскрава бачна любоў да ўсяго зямнога й еднасць паэта з прыродай. Яны сааўтары:

*Да апошняй сваёй пылінкі*
*я належу звярам, вужакам*
*і далёкім самотным птушкам*
*на тым беразе акіяна.*

*Я заўсёды камусь належу —*
*хоць каханы, хоць ненавідны,*
*я — за сонцам і супроць сонца,*
*я — прычына бяды й шчасця.*

Адкуль усё гэта? У дзяцінстве мы верылі, што калі сярод трохпалых кветак бэза знойдзем пяціпалую кветачку ды з'ядзім яе, то станем разумнымі й шчаслівымі. З той жа дзіцячай непасрэднасцю паэт яднаецца з прыродай, у якой вучыцца мудрасці, і ў чым прызнаецца ў наступным вершы:

*Сівыя пчолы*
*сівыя птушкі,*
*сівыя людзі,*
*я заблудзіў, бадзяга, у ваш лес,*
*дзе дацвітае пяціпалы бэз,*
*каб вашу мудрасць, як раку, прыгубіць.*

У вершы Анатоля «Лес» паўстае магічны вобраз прыроды, увасоблены ў лесе, бо лес можа вылечыць нават скалечаную душу:

*... Лес не нямы: і ў лісточку,*
*і ў кволенькай жылцы*
*мова тчэцца лясная*
*з мільярдаў лясных галасоў.*

*нават самы няздатны*
*і самы глухі з чалавецтва*
*зразумее яе*
*і забудзе, прасветлены ёй,*
*пра людскую душу,*
*што спазнала пакуты калецтва,*
*калі смагу спатоліла брата Іюды душой.*

Самога сябе паэт атаясамлівае з птушынай душой айчыны:

*Спытаюся ў птушак,*
*як сядуць на аер:*
*ці маюць яны душы,*
*як чалавек ці звер?*

*Няўжо ім не ўсё роўна:*
*крынічны гэты край,*
*пустэльны альбо горны,*
*пякельны альбо рай...*

*Аеравыя крылы,*
*крынічная бруя...*
*Птушыная айчына,*
*належу ёй і я.*

І зноў у вершах паэта паўстае бязмежная любоў да роднае прыроды і Радзімы:

*Якое б жыта не ўрадзіла,*
*але калі яно расло*
*пад песні жаўрукоў радзімы, —*
*мілей не знойдзеш каласоў.*
*...........................................*
*А калі доля быць паэтам,*
*дык мерай спраў маіх ці слоў*
*мне будзе не цнатлівасць кветак,*
*а важкасць спелых каласоў.*

Пра якія каласы ў апошняй страфе кажа паэт? Зразумела ж, што размова вядзецца пра духоўны ўмалот творцы на алтар сваёй Бацькаўшчыны.

## Маці — Радзіма

Зборнік «Сыс» пачынаецца з радкоў аб маці. Для паэта вобраз жанчыны й маці атаясамліваецца з Радзімай:

Радзіма пачынаецца з жанчыны.

*Я гэта адчуваў, а ўразумець*
*яшчэ ня мог — дзіцём шчапаў лучыну,*
*каб хворую матулю адагрэць...*

Той жа матыў у вершы «Аднойчы між Берлінам і Варшаваю» :

*Было мне такое сненне:*
*дзве маці дзялілі слёзы па сыне,*
*што на чужыне ў жаўнерах.*
*Дзве маці ў аднога сына...*
*І былі яны такія родныя —*
*мая маці Марыя*
*і мая маці Радзіма.*

У вершы «Блудны сын» паэт журыцца, што на яго радзіме развучыліся жанчыны ткаць строі, посцілкі, абрусы й рушнікі, таму не чутно ні ляскання бёрдаў, ні вяснавых песень. Больш не клічуць, не гукаюць людзі, як некалі, вясну. Радзіма нагадвае яму анямелы сабор. Таму сын просіць сваю маці:

*Ты спявай, ты спявай,*
*ты свяці, ты свяці,*
*рассцялі ручнікі, як сцяжыны,*
*можа, здарыцца так, я заблудну ў жыцці,*
*тагды выйду па іх да Айчыны.*

Паэт бязмежна любіў сваю маці. У апошнія гады яе жыцця, калі матуля, прыкутая хваробай да ложку не магла ўставаць, Анатоль сам гатаваў есці, абмываў яе й даглядаў, мыў бялізну, прыбіраў у хаце, касіў сена, даіў карову, лавіў у Дняпры рыбу на абед ці вячэру, парадчыў гаспадарку на падворку, у

садзе й на агародзе. Не кожны сын так адчувае абавязак перад маці й здатны на такое.

У цяжкія хвіліны свайго жыцця Анатоль заўсёды ішоў да яе — сваёй матулі, бо ведаў, што яна адзіная, хто заўсёды любіць яго, пашкадуе і загоіць ягоныя душэўныя раны, аб чым ён піша ў вершы «Вужака»:

*і тады ўсе мае душэўныя болькі*
*як бяздомныя чорныя галубы каля*
*цёплага коміна туляцца да адзінага чалавека*
*які любіць мяне — вужаку з залатой каронай...*

Маці Марыя ў паэтычных радках верша Анатоля Сыса «Марыя» з'яўляецца як агульначалавечая маці Сусвету, якая ходзіць па забытых Богам вёсках, размаўляючы з ўбогімі і бяздольнымі людзьмі:

*Па чарназёмах гудуць каменні,*
*душы — па сухадолах:*
*стань, небарака, стань на калені,*
*любіць пакорных доля.*

*Ён жа намацае лёс кавенькай,*
*выбрыдзе да жанчыны,*
*жыта змятае яна ў сявеньку*
*белым крылом гусіным.*

..........................................

*— Любы мой, — скажа яму Марыя, —*
*шчасце тваё ў пакутах.*
*Дзверы адчыніць, бы свет, старыя,*
*пойдзе на холад люты,*

*пойдзе, ды сніцца начамі будзе:*
*з крыжам яго нібыта,*
*ходзіць па вёсках, па ўбогіх людзях,*
*Богам самім забытых.*

## Між зямлёй і небам

Для Анатоля Сыса Радзіма — гэта бацькоўская хата, вёска Гарошкаў, якая для паэта, па ягоных словах, і Рым, і Парыж, і цэнтар Сусвету, бо гэта духоўнае ўлонне, у якім людзі нараджаюцца, жывуць, і ў якое сыходзяць. Анатоль Сыс —драматычны эстэт. Непарыўнае адзінства зямлі і неба, жыцця і смерці ён бачыць на прыкладзе ўласнага лёсу...

*Мой радавод вёў летапіс свой плугам.*
*І, як радком чырвоным, баразной*
*мядзяны конь ішоў адвечным кругам*
*пад Князем-Сонцам, Поўняю-Княжной.*

*Патоп спадаў, і вецер, як пергамент,*
*сушыў палі і ажыўляў лугі,*
*птушыны шлях — начных нябёс*
*атрамант —*
*шукаў барознаў новыя кругі...*

Чалавек і паэт-сейбіт, поўны любові да Бацькаўшчыны, стварае вершы з глыбокім філасофскім зместам, якія, лунаючы ў нябёсах, яднаюць нас з роднай зямлёй, а праз яе з сусветнай гармонія й сусветным болем, як у вершы «Сейбіт»:

*Ходзіць кругам усявышні сейбіт,*
*поўню з сонцам за сабой вядзе,*
*лёс зямны адбіты ў зорным небе,*
*як аблічча сейбіта ў вадзе.*

Або ў вершы «О, неба», у якім паэт вядзе даверлівую размову з небам:

*О, неба*
*абрыдлі мне храмы абразы рызы абразы*
*і рызы*
*вазьмі мяне агнём ветрам вадою*
*яка птушку яка дрэва яка хочаш*
*.......................................................*
*О, неба*
*як расказаць разгадаць твае знакі апошнія*

«Небажыхар, архангел, творца, абраннік, геній, райская птушка» — так называў паэтаў Барыс Пастэрнак. Гэтыя словы як нельга лепей падыходзяць і да Анатоля Сыса. Наконт «райскай птушкі» можна б і ўсумніцца, бо хутчэй — гэта «шматпакутная птушка», але зноў жа залежыць з якога пункту гледжання асэнсоўваць гэтую з'яву. Калі сказаць «архангел», то і тут я магу пагадзіцца, бо паэт уважае сябе як ахоўніка й выратавальніка свайго народа. Гэта бачна, калі больш пільна ўчытацца ў верш «Паэт», дзе Анатоль канстатуе:

*ён нават сам не вольны над сабой,*
*магчыма, ён адзіны на паўсвета,*
*а вы за ім нібыта за гарой...*

Паэзія Анатоля Сыса высокая, як нябёсы, й глыбокая, як акіян. А сам ён як бы жыве між зямлёй і небам, прамаўляючы людзям і Богу свае верша-малітвы, верша-замовы. Менавіта неба асэнсоўваецца ім як апошні прытулак душы...

*Берасцянае неба, роднае.*
*Мір астральны мой — да цябе,*
*бо зямное. Нібы падлёднае.*
*да паветра палонку б'е.*

*Галавою.*

*А трэба б сэрцам*
*растапіць безнадзейны лёд,*
*а іначай ў паняверцы*
*урасце ў яго ўвесь народ...*

У наступным вершы «Паэт», які Анатоль ахвяраваў сябру Алегу Бембелю, зноў дамінуе тэмат беспрытульнасці паэта з-за адсутнасці свабоды ў любай Айчыне:

*На памежжы чужыны з Айчынай*
*па начох ходзіць сумны паэт,*
*ён запаленымі вачыма,*
*як агнём, апякае свет.*

*А камусьці са спрат здаецца:*
*блудзіць зорка па-над мяжой,*
*быццам ёй не хапае мейсца*
*і нябёс на зямлі сваёй.*

І зноў на розум прыходзіць «Маналог Рамуальда Жакоўскага». Паэт прагне волі й не знаходзіць яе ў родным краі. Душа паэта падаецца нам у выглядзе беспрытульнай птушкі, якая шукае ўратавання ў нябёсах:

*Беспрытульная птушка*
*прыстанку ў аблоках шукае,*
*на убогай зямлі ёй нябесных вятроў не стае,*
*спее ў небе маланка, і скроні мае адчуваюць,*
*як смяротным агнём наліваюцца вены яе.*

У вершы «Ляцелі ў вырай ветракі», які Анатоль ахвяраваў вядомаму мінскаму фатографу Анатолю Клешчуку, прасочваецца тая ж сувязь — непарыўная сувязь зямлі і нябёсаў...

*Калі ж такі надыдзе дзень —*
*па небе сум*
*адросціць крылы,*
*і палячу я ад людзей*
*за моры, горы, небасхілы,*
*няхай сустрэнуцца тагды*
*мне ветракі сярод пуціны*
*і скажуць: «Хлопча, нікуды*
*вядзе дарога ад Айчыны».*

## Агонь і самота

Невыпадкова свайму першаму зборніку Анатоль Сыс даў назву «Агмень».

Найчасцей за ўсё паэзію ён параўноўвае менавіта з агнём, які з'яўляецца самай ачышчальнай стыхіяй у свеце. У сумоўі з гэтым агнём паэзіі, якому ён служыць, паэт ачышчае сваю душу й, мажліва, душу народа ў цэлым.

*Гэты свет — для размену манет:*
*.....................................................*
*Вось і я эстафету прыму —*
*залатое пяро Агонь-птушкі,*
*але што наспяваю яму?*
*Я ж у песні — не пан, толькі служка.*

У вершы «Як я прадаў сябе агню» паэт прызнаецца, што агонь паэзіі для яго:

*Ён і сон, і хлеб мой, і вада.*
*Ды аднойчы д'яблы скажуць людзям.*
*Быццам я агню сябе прадаў...*
*Я аддаў сябе! Хіба ж за гэта судзяць?*

Ёсць у А. Сыса «Трыпціх утульнага вогнішча», першая частка якога называецца «Самотны», дзе ён зноў піша пра агонь паэзіі, які зрабіўся сэнсам усяго ягонага жыцця, і паэт хвалюецца, як жа паставяцца да яго творчасці людзі:

*У агню — чалавека прысмак.*
*Здрадай і вернасцю вечны.*
*Нікчэмны гарачы прысак.*
*А мне — гэта Шлях млечны.*

## Ці знойдуць мне месца людзі?

Аднойчы, калі яшчэ Сыс жыў у сцяпянскім інтэрнаце, ён паказаў мне свае фотаздымкі. На адным з іх ён стаяў побач са зграбнай русавалосай дзяўчынай, і яны шчасліва ўсміхаліся. З адваротнага боку быў кароткі, але красамоўны надпіс, зроблены Анатолем: «Вух мы!» І мяне апаліла шкадоба, што побач з ім на гэтым фота стаю не я...

Анатоль жа на ўсё ў жыцці, як і на адносіны паміж мужчынам з жанчынаю, глядзеў праз свой паэтычны крышталь ідэальнасці. Каханне здавалася яму нечым сакральным і таямнічым, у якім плоцкія матывы займалі не самае галоўнае месца.

Ён ніколі не меў ні хатняга, ні мабільнага тэлефона, а тым больш — кампутара, бо не меў на гэта сродкаў. Сыс не завучваў свае вершы на памяць і захоўваў іх толькі на паперы. Аднойчы ён задумаўся аб сваіх адносінах з жанчынамі ў вершы «Каб сагрэць каханую»:

*Ці змагу я спаліць свае вершы,*
*Каб агнём іх сагрэць*
*Дарагога мне чалавека?*

У вершы «Жанчына» паэта такія радкі:

*Паміж намі агонь. Калі ты кахаеш — ідзі да мяне.*
*.................................................................................*
*І я згарэў. Затое апраўдаўся, мая любая.*

Каго паэт называе сваёй каханай — жанчыну, а ці зноў сваю вогненную паэзію? Ён марыць аб сям'і, сыне й дачушцы, але ў Анатоля мала вершаў пра каханне. Сам ён у вершы «Паэт», хоць я з ім і не згодная, але з геніяльным паэтам, нават калі той не мае рацыі, цяжка спрачацца, тлумачыць гэта так:

*Ніхто не мае права жыць з Паэтам,*
*кахаць, пакутаваць і раўнаваць яго,*
*не тыя дні, калі б ён дбаў пра гэта,*
*не той напой, які б ён піў нагбом.*

Калі ж у цябе толькі дзве каханкі — Паэзія ды Айчына, то які ты не самадастатковы, як не ідэалізуй жыццё, а самота — паненка нахабная, ад яе не адаб'ешся... Таму ў паэта з'яўляецца верш «Самотны»:

*Маё шчасце недзе заблукала...*
*Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень,—*
*як мяне самота адшукала,*
*падышла, ў чало пацалавала.*
*Бы жанчыну, я абняў свой цень.*

У вершы «У нябёсах маіх дагараюць вагні» паэт задае сабе пытанне:

*Ці любіў я? Любіў!*
*Сяброў, маці, віно...*
*Кляўся Бацькаўшчыне да магілы,*
*Ды ў сузор'я майго,*
*Бы ў калосся ў жніво,*
*Ад пакуты надтрэснулі жылы.*
*........................................................*
*Бо ў нябёсах маіх дагараюць вагні,*
*Непрытомныя гаснуць ад холада,*
*Бо сабраў я сабе на астатнія дні*
*Прагу жыць, а не срэбра ці золата.*

Усе паэтычныя сюжэты Анатоль выкарыстоўваў для выражэння свайго асабістага душэўнага стану і ўласных перажыванняў. Таму яму верыш і перажываеш разам з ім. Так у поўным трагізму вершы «Не хадзіце за мной» апошні радок гучыць, як крык збалелай ад самоты душы...

*Не хадзіце за мной! Не хадзіце!*
*Бо я маю рахункі з сабой.*
*Не кахайце мяне! Не любіце!*
*Бо каханне для дурняў — сымболь.*

У вершы «Скарпіён» Анатоль кажа пра сваіх дзвюх каханак. Хто ж яны, гэтыя паненкі? Ну, зразумела ж, што — гэта Паэзія і Самота:

*вакол лёсу майго*
*заплялія каса ў касу*
*дзве каханкі мае*
*я да смерці між іх не засну...*

## Спакутваная душа

У паэта некалькі вершаў напісаныя без знакаў прыпынку, якія надаюць тэксту эмацыйную афарбоўку. Адсутнасць іх стварае непаўторны эфект — верш чытаецца на адной ноце.

*Поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў*
*..........................................................................*
*Ходзіць ходзіць ходзіць полем вечнасць*

Чытачу нічога не разжоўваецца. Ён мусіць сам знайсці разгадку, а, можа, й дамысліць, расставіць акцэнты. Верш нясе ў сабе дзіўную свабоду ўспрыняцця прачытанага, чытач адчувае сябе далучаным да акта творчасці.

*кожны мой золак пачынаецца з сонца*
*як пергаменты Слова пачыналіся*
*з чырвонай літары*

Тэкст без знакаў прыпынку чытаецца безпаўзна, як замова... Як, да прыкладу, у паэме «Алаіза»...

*а я доньку нараджала*
*не для жару і пажару*
*а для пекна слонейка*
*для мядочка ў слоіку*

У той жа «Алаізе» ў раздзеле «Псіхіятрычная» на ўвесь тэкст — усяго некалькі знакаў прыпынку:

... лекі лекі лекі лекі
*вінаваты чысты снег*
*вінава-Ты-Я*
*калекі*
*што радзіліся на свет...*

Анатоль быў вельмі блізкім і дарагім для мяне чалавекам, хаця фізічнай блізасці між намі ніколі не было, нас звязвала нешта большае за яе... У мяне былі ключы ад ягонай кватэры. Я магла прыйсці да яго ў любы час.

Аднаго разу ён спытаўся: «Валя, а ці ведаеш ты, які ў мяне самы ўлюбёны верш?»

Прызналася, што не ведаю. Тады ён адгарнуў мне 107 старонку сваёй кніжкі «Пан лес» і даў прачытаць верш «Урода мая, уродачка».

*Не хавай не хавай не жахайся*
*за спіною крылаў*
*прывыкай прывыкай да ўродства мая ўродачка*
*а ідзі ў луг луг луг там зялёныя*
*астравы астравы*
*астравы белыя журавы журавы журавы*
*а ідзі ў поле поле поле там чорныя*
*груганы груганы*

*груганы*
*а ўсё лепей*
*яны не задзяўбуць не абплююць не абалгуць*

Верш чытаўся рэчэтацівам і гучаў, як рэха, ужо па-над зямлёй, па-над часам, па-над людзьмі. Я так і сказала Анатолю, што гэта ягоная збалелая душа, якую ён называе ўродачкай, ужо нібыта ўзнялася некуды ў няведамыя касмічныя далі ад людзей, ад крыўды й болю. Ён уважліва й здзіўлена паглядзеў на мяне.

«А ты малайчына», — толькі й сказаў мне ў адказ. А было яму тады ўсяго толькі 30 гадоў.

## Першы жыццялюб і смерць

Да сённяшнега дня я не магу зразумець, як у такім вясёлым, жартаўлівым чалавеку ўжываліся гэткія цяжкія і змрочныя думкі аб смерці. У вершы, прысвечаным Анатолю Вярцінскаму, Сыс піша:

*Хаця... ў паэзіі у кожнага свой слуп.*
*Я ўсім кажу, што я паэт найпершы,*
*Калі ж папраўдзе: першы жыццялюб!*

І вось гэткі «першы жыццялюб» шмат вершаў піша аб смерці...

*Без мяне будуць жаць*
*І губляць з пераспелых калоссяў*
*Залатыя зярняты*
*На Белую нашу зямлю.*

А на 10 старонцы кнігі «Сыс» безназоўны верш:

*Пад бярозаю косці,*
*а ў кроне гняздо птушка мосціць,*
*тут вячыста — надзіва — здаецца:*
*я сам тут ляжу—*
*на вясковым пагосце*

І сапраўды, цяпер ён сам там ляжыць. Там такія белыя бярозы, такі светлы, «вячысты» пагост. Больш за тое, у вершы «Смерць» паводле навэлаў Яраслава Пархуты, 28-гадовы паэт піша:

*там птушка белая, як снег,*
*і цень яе, як снег, халодны,*
*і спеў яе, як крык галодны,*
*і плач яе, як д'яблаў смех,*
*і кліча, кліча мяне ў вырай,*
*і я ўжо чую ў вышыні*
*не д'яблаў смех, а голас ліры...*

У вершы «Вячэра перад Купаллем» паэту здаецца, што на нітцы пашкавічанкі сорак пяць караляў — гэта журботны лік:

*Наўмыснасць ці супадзенне:*
*Гэты журботны лік...*

Мо таму, што ў яго было прадчуванне, што сам ён памрэ ў 45 гадоў? У паэме «Алаіза» ён пытаецца:

*Скажы мне, сівое сонца,*
*Мне жыць толькі да паўнеба?*

Можа гэта й супадзенне, але просты вугал да неба дзевяноста градусаў, а да паўнеба — сорак пяць. У той жа «Алаізе»:

*Я замерзну ў калядных сцюжах,*
*На вялікдзень растане снег,*
*Сплыве ў рэкі мой плач і смех,*
*Як сплываюць купалля ружы.*

Вясна 2005 года выдалася запозненая. Адным з сонечных марозных ранкаў на абрыўку паперы Анатоль напісаў свой апошні верш:

*Шрыфтам Брайля на калядным снезе*
*Птушкі вершы пішуць.*
*А чытаю — рукі змерзлі.*
*Свае руны мне не вышыць.*
*Я аслепнуў. Я аглохнуў.*
*Птушак не здагнаў — спяшаю, А вясновы снег падушкай.*
*Часу — тры сняжынкі маю.*
*..............................................*
*Так я кану ў сівай Леце,*
*А сканаю — паэт прыйдзе...*

І што ж? Анатоль памёр на трэці дзень Вялікадня. Ды яшчэ й нагадаў:

*За вёскай дзядоў магіла,*
*пад крыжам зямля змарнела,*
*а мой забруяў калінай*
*.......................................*
*Мне не трэба няродных кветак,*
*мне б — вяргіню бялей за снег,*
*каб плыла нада мной, як ветах*

А вось і паэтычны наказ Анатоля ў «Алаізе»:

*Вечназялёны бераг*
*ды кроўнай валошкі ў жыце,*
*па Беларусі верад,*
*як птушку,*
*з рукі карміце.*
*Па Беларусі скруха —*
*вечная мая мука.*

## Паганскі дух

Праз суадносіны з жыццём прыроды паэт перадае свае ўласныя эмоцыі, настрой і стан душы. Часам ён цалкам зліваецца з прыродаю, з Сусветам.

Анатоль называе храмам зялёную дуброву, адчувае роўнасць і крэўнасць з усім, што насяляе свет.

*Мой гаспадар Змяіны Цар,*
*ты ведаеш, як словы*
*над вогнішчам купальскіх чар*
*складаюцца ў замовы.*

*Мой гаспадар Змяіны Цар,*
*святлом сваёй кароны*
*ты кажаш шлях сярод імшар*
*у храм дуброў зялёных.*

Ён шануе паганскія звычаі свайго народа. Гэта нашае мінулае. Ад яго нам нікуды не дзецца. Увесь беларускі фальклор паганскі ў сваёй аснове. Трэба прызнаць, што за гады ваяўнічага хрысціянства наш народ шмат што страціў са сваіх нацыянальных традыцыйных звычаяў. Калі мы забудземся ці адмовімся, адрачэмся ад фальклора, то страцім карані й адметнасць сваёй нацыянальнай культуры. Гэта ўсё адно як «ссекчы сук, на якім сядзіш». Тады мы зробімся грамадой без роду, без племені, угнаеннем для развіцця культуры чужых народаў.

Паэт узнёсла піша пра нябёсы, азёры, журавоў, сваю каханую, што спявае купальскія песні, паганскія гукі якіх складаюцца ў песні астральныя:

*Берасцянымі трубамі ў небе гудуць журавы,*
*берасцянымі крыламі атуляюць*
*дзве зорачкі дзённыя,*
*мая любая, гэна ж мы, паглядзі, гэна ж мы,*
*а нябёсы блакітныя, быццам азёры прадонныя!*

*О, як гожа і вечна вядуць карагод журавы,*
*і паганскія гукі складаюцца*
*ў песні астральныя.*
*На тым беразе неба прачнуліся зорныя львы —*
*гэна ж ты, мая любая, песні запела купальныя.*

У ім жыве паганскі дух нашых старажытных продкаў. Яны таксама мелі аднаго вярхоўнага Бога. Для язычнікаў прырода з'яўлялася святою. Невыпадкова свой другі паэтычны зборнік паэт назваў «Пан лес». Бо лес для Анатоля — боскі храм.

Паэт засцерагае нас, што разам з крызісам у прыродзе немінуча наступае крызіс у грамадстве. Неўміручы вобраз прыроды сцвярджае, што жыццё вечнае:

*бо Лес — гэта больш, чым лес.*
*Вам ранілі гострым сэрца,*
*Крывавіць, баліць парэз,*
*І хочацца толькі смерці,*

*стрывайце, знайдзіце моц*
*дайсці, дапаўзці да Лесу,*
*ён з боскай крыві прарос*
*пакутнікам правіць месу,*

*ён спыніць жывіцай кроў —*
*такога не змогуць людзі,*
*і, быццам прадвесні гром,*
*у Вас н е м а ў л я прабудзіць.*

## Хрысціянскія матывы

З размовы Анатоля са сваім паплечнікам і сябрам, паэтам Міхасём Скоблам: «Калі вучыўся ў Гомельскім універсітэце, дык збіраў абразы. У мяне іх было каля сямідзесяці! Я з-за іх ледзь вучобу не кінуў, яны мне нават сніліся. А потым я падараваў сваю калекцыю ў Гомельскі краязнаўчы музей — цэлы аўтобус напакавалі. Я сабе пакінуў чатыры ўсяго, ды й тое потым сябрам раздарыў.

Цяпер у мяне ў менскай кватэры толькі адзін абраз — з вёскі Холмеч Лоеўскага раёна. У Гарошкаве царквы няма, ёсць у суседняй вёсцы. Нядаўна пабудавалі.

Дарэчы, Аляксей Марачкін падараваў маёй маці Марыі абраз уласнае работы — «Маці Божая Чарнобыльская». Дык я маму ўгаварыў перадаць яе ў новазбудаваны храм, там жа сцены голыя былі. Абраз той там цяпер і вісіць, недалёка ад алтара.

Я веру ў Бога. Але ў царкву хаджу рэдка, гады ў рады. Калі вельмі-вельмі цяжка на душы. Дык калі прыпрэ, я бягу ў царкву. Было такое, што прыбягаю й на калені станаўлюся... *(Уздыхае)*. Але лягчэй мне ўсё адно не робіцца. Мабыць, я крэпка зграшыў у гэтым жыцці...»

Сыс быў вельмі добразычлівым. Але аднойчы вечарам нейкія нелюдзі, з якімі ён загаварыў, каб папрасіць цыгарэту, пачалі збіваць яго кулакамі й нагамі. Ён нават не адбіваўся, бо не мог дайсці розумам, чаму на яго напалі. Пазней зразумеў, што за ягоную беларускую мову. Моцна пакутваў тады Анатоль не з-за фізічнага болю, а маральна, ад крыўды.

— Ці можна біць незнаёмага чалавека, які нічога дрэннага не зрабіў? Біць яго за родную мову? Як увогуле можна біць чалавека? — абураўся ён. І ў яго з'явіўся верш «Паэт»:

*Паэт — боская птушка,*
*яго нельга чапаць,*
*трэба Хрыста чакаць,*
*трэба Хрысту ногі цалаваць,*
*вачыма неба араць*

У вершы без назову, пазначаным трыма зорачкамі, паэт кажа аб сваёй трыадзінай любові да Айца, Сына і Святога Духа, дзе зноў сустракаецца сімвал лічбы «тры», а побач — «трынаццаць»:

*У кніжцы маёй безыменнай,*
*над вершам маім безназоўным,*
*на белай як снег паперы*
*сузор'е ўзышло з трох зорак —*
*трынаццатым знакам «Сэрца».*

У вершы «Перад Богам» паэт прызнаецца ў сваіх грахах, складанні малітвы «можа ў соты свой самасуд «, калі ён «жагнаўся — набожна, тройчы»:

*а я, голы, як здань, бяскроўны,*
*у чыесьці ступаў сляды,*
*перад Богам жывёле роўны,*
*нёс грахі свае на клады,*
*і гібела за мной сцяжына,*
*і ступала ў мае сляды*
*маці грэшных усіх — Жанчына —*
*з поўнай чарай жывой вады.*

У Анатоля дастаткова вершаў з хрысціянскімі матывамі. І кожны хвалюе шчырасцю, жарсцю й тонкасцю адчування, высокай мастацкасцю кожнага радка, як у вершах «Чацвёрты цвік», «Спаўзаючы з церня», ці ў «Песні пра каханне» або ў паэме «Алаіза»:

*На ўсю хату адзін мужчына,*
*учарнелы, як беларус.*
*Пахне вуснамі і вакцынай.*
*Цудам выратаваны Ісус.*

Міхаіл Бердзяеў пісаў: «Сэнс творчасці ў сустрэчным руху да Бога, у супрацоўніцтве з ім». Паэзія Сыса і ёсць сустрэчны рух да Бога:

*Спаўзаючы з церня*
*кроў смокча слёзы*

*уп'юся ў яго вачамі — Бог*
*вуснамі — чалавек*
*насустрач нашы любові*
*як два сонцы*
*імкнуцца ў поўдзень*

## Сусветны боль і жаль

Лірыка Анатоля Сыса — не салодкае замілаванне светам. Яна перадае нам трывожны, трагічны стан яго душы, горыч ад неразумення яго іншымі людзьмі, як у вершы «Божавоўк»:

*Можна забіць, і спапяліць,*
*і прах пусціць на вецер,*
*а потым людзям абвясціць,*
*што ён не варты смецця.*

*Плююць. Свае і ганакі.*
*са смехам, без прынукі,*
*і Духу гэныя пляўкі*
*страшней за яд гадзюкі.*

*Ды зганьбаваны сотні раз.*
*знявечаны натоўпам,*
*Ён прыйдзе ў самы горшы час*
*сваім адвечным тропам*

*да тых, хто выплюнуў душу,*
*хто ў паднябесных храмах*
*блюзнерствам замяніў імшу,*
*а Святароў на Хамаў.*

Паэзія Анатоля Сыса — гэта пакутлівы стан і боль за лёс кожнага чалавека, усяго нашага народа, роднага краю й за ўвесь белы свет. Паэт хоча ўратаваць свой народ, далучыць яго душой да Бацькаўшчыны. Як, да прыкладу, у вершы «Данута Бічэль-Загнетава»:

*Слязою, расою і зоркай*
*Да Бацькаўшчыны далучы,*
*Раллёю і пожняй колкай*
*Аблудных дзяцей лячы.*
*.............................................*
*Баляць Беларусі цярновыя зоркі,*
*Паэтам — цярновыя вершы.*
*........................................................*
*ты ўстала, ты ведаеш:*
*трэба выйсці*
*насустрач сваёй Галгофе.*

Або ў вершы «Сохне трыснёг маёй памяці»:

*Не.*
*Не баліць майму целу,*
*сэрцу найболей баліць —*
*быццам штодзень пад прыцэлам,*
*прыкрай няпомнасцю жыць.*

Душа паэта, ягоная паэзія ўвабралі ў сябе сусветны боль і сусветны жаль, які ён сам ужо, здаецца, не ў стане несці ў сабе.

*жыццё — хай зорка то ці вока —*
*заўсёды з прожылкам крыві*
*Іюды, птушкі, чалавека*
*зямной, таму святой крыві,*
*.............................................*
*І нават, калі я заплачу,*
*адчай, бы сэрца, загрызу —*

*ня чыстую слязу , —*
*убачу*
*з крывавым прожылкам слязу.*

Анатоль Сыс — паэта-трагік. У ягоных вершах — слёзы сусвету. Нават краса прыроды яго балюча раніць, як у паэме «Алаіза»:

*Што ні дрэва — балючы вобраз,*
*што ні зорка — сляза з вачэй,*
*поле шчырасцю апячэ...*

*Прарастае з-пад сэрца колас.*

## Народ і паэт

Сыс бясконца любіў свой народ. Яму было невыносна горка, што замест таго, каб змагацца за незалежнасць і самім вырашаць свой уласны лёс ды распараджацца лёсам сваёй краіны, ён чуў толькі бясконцае ныццё пра тое, што ўсё ў нас не так як трэба. Нібыта лепшую долю нам мусіў прынесці на спадачку з блакітнай каёмачкай нехта звонку, а не мы самі. Гэта натхніла Анатоля на верш «Вяпрук»:

*Вяпрук пад шатамі дубоў,*
*галодны, думаў пра любоў,*
*пра тое, што усё жыццё*
*ён чуў адно — сяброў ныццё:*
*маўляў, паганы гэты лес,*
*савіны ды вужыны спрэс.*
*..........................................*
*а я сцяжынаю вужоў*
*пайду на голас мудрых соў,*
*галодны, думаў пра любоў,*
*пайду, знайду зялёны Дуб*
*сярод лядзяных, снежных гурб*
*ды ікламі ўгрызуся ў лёд*
*і зненавіджу свой народ.*

У часы Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік беларускія падворкі часта ўпрыгожвалі незацейлівай і, здавалася б, бяскрыўднай па змесце, скульптурнай кампазіцыяй двух мядзведзікаў, якія качаюць лапамі бочку з мёдам. Якраз такая скульптурка была і ў Менску насупраць дома № 5 па вуліцы Янкі Маўра, у якім нейкі час у камуналцы пражывала мая сям'я. Аднаго разу мой муж Міхась Малахоўскі вёў нашага трохгадовага сына Руслана (імя якому, па-маладосці, я дала з-за казкі А.С. Пушкіна «Руслан і Людміла») з дзіцячага садочка, раптам спыніўся, паказаў маламу на тых мядзведзяў з бочкай і сказаў: «Глядзі, сынок, гэта ж Расея з Польшчай змагаюцца за бочку мёда — за нашую Беларусь», — і засмяяўся. Шмат гадоў пазней я пачула гэты жарт ад

свайго сябра талакоўца і студэнта гістарычнага факультэта Вадзіма Сугойдзя. А ці такой ужо смешнай была тая показка? У Анатоля Сыса ёсць верш «Дзікі мёд», у якім ён падае ўласнае бачанне гэтай праблемы. Напісаць такія радкі ў час існавання СССР было вельмі небяспечна і смела:

*скурай чую бяду, як ваду,*
*за спіною — мядзведзя расейскага.*

*Дасюль пахне яму дзікі мёд.*

*Годзь арэшнікі нашыя лушчыць!*

*Адкапаю пайду кулямёт,*
*каб хадзіць смела ў бацькавай пушчы.*

Паступовa ў Беларусі адбываліся грамадска-палітычныя змены. Безумоўна, яны ўплывалі на паэзію Анатоля Сыса. Але ж і вершы паэта былі значнымі для грамадства, бо яны былі скіраваныя на абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. Але чытала іх і ведала ў асноўным адукаваная моладзь ды інтэлігенцыя. А народу, забітаму нястачамі й праблемамі: «Як выжыць ад аванса да зарплаты», — было не да паэзіі. А задумацца чаму, працуючы, як валы, яны не могуць звесці канцы з канцамі да чарговага заробку, ім не было калі.

Пакутлівая любоў Анатоля Сыса да свайго працавітага, таленавітага й дабрадушнага народа, які ўсё больш трапляў пад уплыў Расеі з усходу ды Польшчы з захаду, перарастала ў паэта ў гнеўны заклік да неабходнасці выхавання новага пакалення мужчын, здатных да змагання за незалежнасць радзімы. Гэты верш я прывяду цалкам:

*Я зжэр бы свой народ,*
*бы зерне ў недарод,*
*і, як вінам,*
*сваёй крывёй запіў бы.*
*На Захад і на Ўсход*
*жыве чужы народ —*
*скарміў бы іх арлам*
*свае ваніты,*
*вярнуўся б да Зямлі,*
*бы ядам да змяі,*
*вярнуўся б да адзінае жанчыны,*
*прамовіў бы: каб нам*
*не біць паклон арлам —*
*Айчыне трэба новыя мужчыны!*
*Таму і зжэр народ,*
*бы зерне ў недарод,*
*бо згаладаўся я*
*без долі й волі.*

*Растаў Харонаў лёд,*
*пярэйдзем Сцікс ўброд,*
*зачнем, Айчына, сына ў чыстым полі.*

## Улада і паэт

Разам з прызнаннем вялікай ролі й уплыву літаратуры на грамадства, бальшавіцкая імперыя пачала стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень, каб пераўтварыць літаратуру ў прыслугу ўлады. У 1957 годзе Барыс Пастэрнак напісаў верш «Ночь», матыў якога сведчыць, што мастак абавязаны быць увесь час напагатове, не спаць у шапку, не марыць аб спакоі і заможнасці. Апошнія радкі гэтага верша атрымаліся афарыстычна дакладнымі й выразнымі:

*Не спи, не спи, художник,*
*Не предавайся сну.*
*Ты — вечности заложник*
*У времени в плену.*

Хоць Анатоль Сыс і быў заложнікам савецкага часу, але да яго савецкасць абсалютова не прыстала. Насуперак савецкай рэчаіснасці, ён стаў незалежніцкім, глыбока нацыянальным паэтам Адраджэння.

Як многія беларускія інтэлігенты, а ў першую чаргу — паэты, пісьменнікі ды мастакі, Анатоль Сыс марыў аб адраджэнні нацыі і краіны, аб вызваленні ад расейскай ды польскай залежнасці.

Італьянскі паэт Дантэ Аліґеры падвяргаўся ганенням у сваёй роднай Фларэнцыі і быў змушаны перабрацца ў Верону, дзе мясцовы правіцель аказваў яму значна менш увагі, чымся свайму паяцу. Нехта выказаў здзіўленне гэткаму абразліваму стаўленню да аўтара «Боскай камедыі». На што Дантэ ў адказ абмежаваўся заўвагай: «Але ж гэта натуральна: кожны больш любіць сабе падобнага...»

Прарасейскай уладзе Беларусі ды іншай чужынскай набрыдзі беларуская літаратура й нацыянальная культура замінае не як стрэмка, а як бервяно ў воку. Анатоль Сыс быў паэтам нацыянальнага маштаба, з нацыянальнай ідэяй на сваім паэтычным штандары. А нацыянальныя паэты не патрэбныя ўладзе...

Афіцыйна працаваць на літаратурнай ніве, пасля спробы ўладкавацца ў рэдакцыіі часопіса «Крыніца», дзе галоўным рэдактарам быў Уладзімір Някляеў, у яго не атрымалася. А сваё жыццё ён разглядаў толькі праз слугаванне паэзіі. Тады Анатоль прымае рашэнне не служыць ні сваім, ні чужым.

Ён наўмысна знішчае, спальвае сябе, перастае пісаць вершы й становіцца свабодным ад усяго. Гэта было для паэта вельмі няпростае рашэнне. Але Анатоль вызначыў для сябе гэткае крэда й трымаўся яго да апошніх дзён.

— Я такі, які ёсць, — казаў ён. А якім яшчэ ён мог быць — скажыце?

Абсалютова бескарыслівы ў жыцці Анатоль жыў бядней апошняга жабрака. Яго вершы не друкаваліся. А гэта было адзіным, што ён мог рабіць выдатна.

Рабіць што-небудзь і абы-як Сыс не хацеў. Каб хоць неяк ён мог выжыць, яму, як маглі, дапамагалі маці, сёстры й тыя, хто цаніў ягоны талент.

Паэзія — не з'ява першай неабходнасці для выжывання. Яна патрэбная толькі абраным, духоўна ўзвышаным людзям.

— Я — паэт! Кідаць гной у калгасе ці падмятаць двор я не буду, Валя, — рэзка асадзіў мяне аднойчы Анатоль, на маю прапанову сесці хоць бы на трактар у Гарошкаве, дзе ён праводзіў кожнае лета, каб зарабіць сабе на хлеб.

У вершы «Песня пра сына» гучыць засмучэнне паэта ад таго, што нікому не патрэбны ягоны адзіны хлеб — паэзія:

*Я ж ваяваць не ўмею —*
*адправіў сына за сябе*
*апошнім шляхам зрэбным,*
*а сам застаўся на сяўбе.*
*Каму мой хлеб патрэбны?*

Дык што ж сеяў наш паэт? — Любоў да радзімы й роднае мовы, да прыгажосці свету й павагу да саміх сябе. Ён засяваў поле Айчыны зернем праўды і свабоды:

*Так скажу:*
*ару я мову.*
*...................*
*Ажываю...*
*Ажывае*
*на Палессі тура ўздых,*
*там цячэ вада жывая—*
*мова прашчураў маіх.*

## Мова — Бог наш

Паэт упарта шукаў выйсце з таго становішча, у якім апынуўся беларускі народ. І ён знайшоў выратаванне ў адраджэнні беларускай мовы. Гэтая асноўная думка, чырвонай стралой праходзіць праз паэзію й сэрца Анатоля. Баліць сэрца птаха-паэта па беларускаму народу, у якога, нібы ў звона, вырвалі язык, і ён страціў сваю родную мову. Ад болю за родных братоў ён па-воўчы вые ў вершы «Балада пра птаха»:

*Не ў званы б'юць...*
*Б'юць званы.*
*Языкі ім вырвалі.*
*Птах па-воўчаму завыў,*
*як вярнуўся з выраю,*
*як убачыў гэткі здзек*
*над братамі роднымі,*
*плакаў быццам чалавек,*
*і кружляў над Гродняю.*

У вершы «Ружа» паэт у пошуках ісціны звяртаецца за адказам да самога Бога:

*Маё жыццё — гняздо з калючых руж.*
*Не Беларусь, маё жыццё — Радзіма.*
*О, Божа-мазахіст — і я, бы вуж,*
*дзяру з сябрамі скуру каля Рыма.*

*Ты ведаеш па імені усіх,*
*ты ж сам прызнаў: было спачатку слова,*
*і мне маё ты вымавіў услых*
*і не габрэйскай, а тутэйшай мовай.*

Верш «Словы» сведчыць аб тым, што калі чалавек ведае мову ды культуру сваіх продкаў, ён верыць у сваю непаўторную выключнасць і гэта робіць яго моцным:

*Неба сыпала словы,*
*..................................*
*тыя словы, як вочы,*
*скажуць больш, чым паэт.*
*Той, хто чуў іх, не збочыць,*
*не ўцячэ ў іншасвет*

*ад лясоў верасовых,*
*ад часовых нягод,*
*ад бацькоўскай высновы:*
*верай моцны народ!*

У вершы «Званы» паэт зноў кажа пра мову й волю, уяўляючы сябе званаром, які б'е ў званы й сэрцы людзям, не дае «ім чужынцамі быць», як у вершы «Пагоня» Максіма Багдановіча:

*ён ствараў званы, як песні,*
*ён вучыў іх словам.*
*А званы няслі па вёсках*
*ад Дняпра да Буга*
*словы волі, голас боскі:*
*Дзіда! Меч! Кальчуга!*

У той жа час ён сам адчувае сябе магутным птахам, прыкутым душой да душы свайго народа:

*капелюхі ляцяць далоў,*
*калі званар, як птах магутны,*
*нібыта крыллем, да званоў*
*рукамі й душой прыкуты.*

Вельмі магутны па змесце верш Анатоля Сыса «Сабака». Той сабака вартаваў свой дом, каб брудныя свінні не разрылі клады й не пачалі крычаць:

*«А продкі ж вашыя маўчаць?!*

*А можа мову адняло?*
*Яе ж у вас і не было...»*
*Ён вартаваў гаротны дом,*
*Ды ўжо не быў гаспадаром.*

Так папярэджвае ўсіх нас паэт, што калі не захаваем сваю мову, то пераняўшы чужую мову, дазволім кіраваць намі чужынцам, тады ўжо не будзем гаспадарамі а ні ў сваіх хатах, а ні ў Беларусі. Больш таго, мы страцім сваю краіну, і нашая нацыя стане ўгнаеннем для культур чужых народаў. Таму так вусцішна й вые паэт Анатоль Сыс, пераўвасоблены адначасова ў Алеся Гаруна й сабаку, апаленага таўром лёсу.

Той жа трагічны матыў прасочваецца і ў вершы «Як той сабака», у якім паэт пераплятае ўласны лёс з лёсам свайго народа.

*Як той сабака,*
*я шукаю схову —*
*сканаць у ім,*
*каб шкельцы гострых слёз*
*спаўзлі з вачніц,*
*нібы з асіных гнёзд,*
*на вусны*
*і з крывёй збудзілі мову.*

*Няхай, хоць перад смерцю,*
*я пачую —*
*што кроў мая раскажа пра мяне?..*

*Ды гэтай ноччу смерць хай абміне,*
*і, нібы ў труне, я ў схове заначую,*
*як той сабака...*

*Я пагібель чую...*

— Какая разница на каком языке разговаривать? — кажуць асімеляваныя беларусы, асеўшыя прыхадні на нашай зямлі... Ну, а калі няма розніцы, то чаму б ім усім не размаўляць па-беларуску й тым выклікаць павагу да саміх сябе й да нас? Тады б адчулі ўсе, што мы не расейцы, не палякі ці хто там яшчэ...

Хто жадае, той мае права вывучаць любыя мовы, і чым больш, тым лепей. Беларуская мова павінна стаць адзінай дзяржаўнай! Ніякага дзяржаўнага двухмоўя! Гэта хітрая лазейка для асіміляцыі й знішчэння беларускага народа.

Пытанне захавання й адраджэння беларускай мовы не дыскусійнае. Мы бачылі да чаго давялі Нямеччыну й суседнія народы гітлераўская мода на рэферэндумы.

Свабоду й дэмакратыю нельга падмяняць бязмежным уседазволам. Сябраваць з любымі народамі — колькі заўгодна. Але кіраваць сваёй краінай мусім мы самі. Менавіта гэта прарочыў нам паэт Анатоль Сыс сваімі вершамі.

Ёсць у А. Сыса верш, які называецца: «Пошасныя». У ім паэт піша, што на зямлі жыве народ, якога некалькі мільёнаў:

*і толькі выбраныя з іх*
*ведаюць паталогію хваробы свайго народа,*
*і толькі яны адныя не могуць звыкнуцца з ёю,*
*ім дыхаецца цяжэй чым каму,*
*таму хрыпяць іх грудзі,*
*і душыць жахлівы кашаль,*
*і разам з слінаю яны выхарквають кроў,*
*наўмысна выхарквають на вуліцах горада,*
*у крамах і на сваіх працоўных мейсцах,*
*у сваёй сям'і і на чужых людзях,*
*бо ў гэтай крыві крыецца іх хвароба,*
*бо ў гэтай крыві выратаванне іх народа.*

Як бачым, Анатоль абсалютна дакладна ставіць дыягназ, што хвароба беларускага народа ў тым, што ён страчвае сваю мову, а разам з ёй — і сваю адметную культуру, таму перастае адчуваць сябе нацыяй і гаспадаром у сваёй краіне. І толькі абраныя размаўляюць на роднай мове на вуліцах горада, у крамах, на працы, у сваёй сям'і, а мова — гэта кроў народа, без якой яму не жыць.

Адкрытым тэкстам паэт прамаўляе, што калі адродзіцца родная мова ды нацыянальная культура, толькі тады мы станем гаспадарамі свайго лёсу й дзяржавы...

Мая маці Матруна Міронаўна сялянскага паходжання з Гомельшчыны. Народжаная ў 1913 годзе, мела адукацыю чатыры класы. Калі ў 1964-м мне споўнілася чатырнаццаць гадоў, яна пасадзіла мяне на зэдлік і пачала вучыць жыццёвай мудрасці: «Няма такой крамы, дзе б прадаваліся родныя мамы», а калі я вучылася шыць і нешта там партачыла, смеючыся, яна казала: «Ну, зануздала, як каню хвост»... Каб я занадта не пляткарыла, вучыла: «Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгая дзюба?», «Слова — срэбра, а маўчанне — золата», «Ніхто ў цэлым свеце не зробіць табе лепш ці горш, як ты зробіш сама для сябе!» «Што пасееш, тое й пажнеш!» і ***«Памірай, а жыта сей!»*** Апошнюю з гэтых народных мудраслоўяў Анатоль увекавечыў у сваім вершы, які пазней наш агульны сябра, былы талаковец, скульптар Генік Лойка выбіў на граніце ягонага пасмяротнага помніка:

*Як па зорках, па расе*
*твой апошні шлях праляжа,*
*памірай, а жыта сей.*
*Рунь пра сейбіта раскажа.*

## Філосаф і прарок

У Анатоля Сыса філасофскае асэнсаванне свету. Паэта хвалюе лёс мовы й культуры ды жыцця яго народа, дзяржавы. Вершы, напісаныя ім некалі, здаюцца напісанымі сёння, бо ў іх паэт пранікліва заўважае й нясе да чытача вечныя ісціны, якія ніколі не губляюць сваёй актуальнасці.

Галоўнае прызначэнне паэзіі — глыбокае разуменне й дакладнае асэнсаванне таго, што адбываецца. Мэта паэзіі ў звышсэнсах, але не рашэнне праблемаў і задач. Вышэйшы сэнс паэзіі — гэта пераадольванне мяжы відавочнага і прароцтва.

Анатоль Сыс больш, чым паэт, гэта філосаф, прарок свабоды й незалежнасці. Вось як проста й дакладна ў сваім вершы «Дух» і цэлым шэрагу іншых вершаў ён напрарочыў, што станецца з намі, калі й надалей наш народ будзе пускаць на самацёк лёс роднай мовы:

*Зноў прыляціць гайня,*
*Выйдзе з яе плюгавы.*
*«Дух — гэта, людзі, Я!»*
*Скажа, а сам з рагамі.*
*Людзі разявяць рот —*
*Як жа, такія словы:*
*«З намі — увесь народ!*
*Шлях — да адзінай мовы!»*
*.......................................*
*Вось табе і народ,*
*Думаць прывыкнуў моўчкі.*
*З думай такой і вы:*
*Выжыве Дух-заступнік,*
*Знойдзе для нас правы,*
*Знішчыць пасад наш кутні...*
*Выжыве — гэна так!*
*Знойдзе... І вам на тацы*
*Медны падасць пятак:*
*«Вось вам на хлеб, засранцы!»*

Гэты верш паклала на музыку й спявае выдатная спявачка Вольга Цярэшчанка з Гомеля. Але, на маю думку, яе голас з гэткім срэбным гучаннем, для гэтай песні занадта пяштотны, а тут патрэбны мужчынскі металёвы тэмбр. Здаецца ніхто не ў стане данесці да слухача сэнс гэтага верша так, як рабіў гэта сам Анатоль Сыс, укладаючы ў дэкламацыю ўсю моц сваёй зашкальваючай шматвольтавай энергіі, любові й пакут за свой народ. Ён хацеў разбудзіць беларусаў ад летаргічнага сну «прыкрай няпомнасці», каб удыхнуць у іхнія душы прагу да волі. Той, хто чуў яго, нязменна абуджаўся, рабіўся змагаром за будучыню Беларусі...

Паэт упарта марыць пра ўваскрашэнне вершніка Пагоні. Анатоль марыць пра каханне, вернасць, пра дзяцей, каб дачка й сын памяталі дарогу дадому, калі яго не стане.

Ягоная паэзія паўтарае спрадвечныя тэмы на новым вітку, праз сінтэз ягоных уласных пачуццяў і думак, праз уласнае філасофскае асэнсаванне. Творчасць Анатоля Сыса прагне агульначалавечых каштоўнасцяў. І таму ў ёй адлюстроўваюцца знакі вечнасці, што прысутнічаюць у кожным імгненні чалавечага й прыроднага жыцця.

*Ходзіць ходзіць ходзіць полем вечнасць*

Можа й дарма, але хачу прызнацца, што калі я трапіла ў замежжа, то пачала тут верыць і ў Бога, і ў чорта. Пад уплывам такога настрою занесла мяне да цыганкі. Заплаціўшы ёй пяцьдзясят даляраў, я паказала ёй фотаздымак Анатоля й спытала, ці магу я яму нечым дапамагчы. Тая ўважліва паглядзела на яго й адказала: «Ты ж паглядзі, якія ў яго незямныя вочы й погляд. Ён жыццялюбівы пакутнік. Яму ніхто не дапаможа. Ды толькі сваю зямную чашу ён вып'е да дна.» Анатолю тады было сорак гадоў. А яшчэ ў свае дваццаць восем гадоў ён напісаў:

*Пайду туды, адкуль прыйшоў.*
*Па-за зямлёю, па-за часам.*
*Я тут нічога не знайшоў,*
*хаця сваю і выпіў чашу.*

Ёсць паэты простыя, у якіх усё зразумела й ясна, а ёсць такія, што застаюцца таемнымі. Я не ганю паэтаў, якія пішуць: «Траўка зелянее, сонейка блішчыць.» Няхай пішуць. Ды толькі я такія вершы, раз прачытаўшы — адкладу, бо ў іх усё навідавоку, яны не маюць таямніцы, і думаць, чытаючы іх, — няма пра што. Мне больш даспадобы таямнічыя, загадкавыя радкі Анатоля Сыса:

*Марна ўсё. Як калінавы цвет*
*знішчыць свет і багоў, і смяротных,*
*не пакінуўшы ў космасе след*
*ад мяне і зямелькі гаротнай.*

## «Маё жыццё — радзіма...»

Вершы Сыса хвалююць. Кожны можа знайсці ў іх радкі, сугучныя свайму светаўяўленню. Анатоль Сыс у сваю творчасць увабраў найлепшыя традыцыі беларускай і сусветнай класікі. Поруч з трагічнымі матывамі ў ягонай паэзіі прысутнічае рамантычная ўзнёсласць і вера ў адраджэнне Бацькаўшчыны:

*О, святая мая, о Боская,*
*хаця сэрца сніць гостры нож,*
*ад цябе адной не адрокся я —*
*у нагох тваіх — медны грош.*

Патрыятычныя матывы ў Анатоля шматгранныя і невычэрпныя. Яны займаюць галоўнае месца ў творчасці паэта. Амаль усімі сваімі творамі ён прызнаецца ў любові да сваёй радзімы і робіць гэта як ніхто й ніколі:

*Беларусь мая, мая магіла...*

*І калі вясёлкай над труной*
*вып'е кроў да кроплі з маіх жылаў,*
*Беларусь, накрый мяне зямлёй.*
*Не, счакай, яшчэ аддам я вочы*
*сваёй здані,*
*каб мая душа*
*не зблудзіла на чужыну ўночы,*
*каб між намі не лягла мяжа.*

*Беларусь мая, мая магіла,*
*з бел-чырвона-белага радна*
*ці кашулю мне на смерць пашыла?*
*Беларусь мая, мая магіла,*
*ты ж адна ў мяне, як ёсць адна.*

## Беларускі Праметэй

Паэзія Анатоля Сыса выхоўвае ў нас разуменне ахвярнасці дзеля Бацькаўшчыны, імя якой Беларусь.

У 2006 годзе рэдактар альманаха «Калоссе» Алесь Аркуш у праграмным артыкуле «Легенды, міты і лёсы» справядліва зазначае, што, каб спасцігнуць свой час, «трэба зазірнуць у самыя чуллівыя, ранімыя лёсы».

Анатоль Сыс па неспасцігальнаму ўспрыняцці й разуменні

трагедыі нашага народа й ёсць адзін з самых чуллівых ды самых ранімых паэтаў у беларускай літаратуры.

— Сынок, ну чаму твае вершы такія цяжкія? Не пісаў бы ты, Толічак, сваіх гэных вершаў. Агораюць яны твой лёс, загубяць тваё жыццё», — казала паэту маці.

Так і сталася. Агоралі. Але не загубілі, а зрабілі несмяротным...

«Галгофа — паняцце не геаграфічнае. На зямлі шмат Галгоф», — пісала Валерыя Навадворская. Гэткі адукаваны і прыгожы чалавек, які выдатна ведаў шматвекавую гісторыю, фальклор, беларускую й сусветную літаратуру, саракапяцігадовы паэт Анатоль Сыс знайшоў сваю Галгофу ў сваёй любай Айчыне.

Анатоль Сыс — гэта беларускі Праметэй. Доказ таму — твор "Маналог Алеся Гаруна", у постаці якога ён раскрывае сваю ўласную душу. У антычным міфе Праметэй — гэта чалавечы дух, які прагне свабоды. Паэт жа, каб ўратаваць свой народ, асвятляе яму шлях да волі агнём сваёй паэзіі, які высякае з свайго сэрца, й сам згарае ў ім:

*Дай Бог, каб маё каменне*
*аднойчы іх апякло,*
*прымусіла ўстаць з каленяў,*
*пайсці на маё святло.*

*Я — тут! Я шугаю полымем!*
*Праз боль я з сябе бяру*
*каменні рукамі голымі*
*і гэткім, як сам, дару.*

*Дай бог, каб маё каменне*
*Жар-птахам дайсці змагло*
*да тысячы пакаленняў*
*і сэрцы іх апякло.*

## «Кроў маю мой народ ацэніць...»

Кожны раз, калі перачытваеш паэзію Анатоля Сыса, знаходзіш у ёй новыя думкі, развагі, сэнсавыя адценні, глыбіню якіх бывае часам цяжка спасцігнуць. Да разумення ягоных вершаў неабходна падрыхтавацца, бо яны патрабуюць сур'ёзнага ўдумлівага прачытання.

У паэзіі Сыса прысутнічае таямніца і ключ да гэтай таямніцы. Разам з тым, ягоная паэзія нясе ў сабе надзвычайную чысціню й глыбіню, якую таксама трэба ўмець разгледзець і асэнсаваць.

Ангельскі паэт, пісьменнік, гісторык, тэарэтык літаратуры й мастацтва васямнаццатага стагоддзя Хорас (Гарацый) Уопал — малодшы сын прэм'ер-міністра Англіі, быў тонкім і чуллівым чалавекам. Нездарма яму належыць выказванне, якое вельмі дакладна падыходзіць да асобы Анатоля Сыса: «Свет — камедыя для тых, хто думае, — трагедыя для тых, хто адчувае».

«Шлях любога таленту — крыжовы шлях», — пісаў Уладзімір Караткевіч.

Па глыбіні адчування й успрымання рэчаіснасці, болю за стан роднай мовы, якая з'яўляецца апірышчам культуры, разуменні гістарычнай трагедыі беларускага народа Анатоль Сыс не мае сабе роўных.

Кожны паэт і, наогул, творца — гэта прыўкрасная, непаўторная кветка. Кожны сапраўдны талент важны для нашай культуры, тым больш такі, якім валодаў Анатоль Сыс. Ён стаіць у першым шэрагу, а, магчыма, й на першым месцы, на паэтычным Алімпе Беларусі. Важна не колькі, а якія творы ён падараваў свету.

Для сяброў і для ворагаў паэта было зразумела — прыйшоў Геній. Толькі не ўсе хацелі гэта прызнаваць. Сам жа паэт сказаў так:

*Чую:*
*«Снег ваш непаўнацэнны...*
*Кроў не донарская у венах...»*

*Кроў маю*
*мой народ ацэніць.*
*самы добры і самы генны.*

*Поле спеліць вянец жытнёвы,*
*акрыяюць нямыя вусны,*
*нібы людзі, збяруцца*
*словы,*
*нібы рэкі,*
*успомняць вусце.*

Вершы Анатоля Сыса я не вучу на памяць. Я корпаюся ў ягоных радках зноў і зноў, люблю, пакутую, жыву ў іх разам з паэтам й ягонай напругай душы ў невядома колькі тысячаў вольт. І кожны раз адкрываю новы свет, які не пакідае мяне абыякавай. Уваходжу штораз, нібы ў храм, у пакутлівую прыгажосць ягоных паэтычных радкоў, увасабляючых сабой непаўторнасць і гармонію прыроды й свету. Сутнасць паэзіі Сыса ў своеасаблівай пабудове сістэмы вобразаў, якія апелююць не столькі да нас, ягоных сучаснікаў, да рэалій сённяшняга дня, колькі да нашых нашчадкаў, да рэальнасці вечнага.

Анатоль Сыс — класік нацыянальнай, а, бадай, што й сусветнай паэзіі. Чаму я кажу «бадай»? Таму што не ўяўляю, як можна перакласці ягоную паэзію на іншую мову. Гэта — як перакласці душу. Можа таму Анатоль забараняў перакладаць свае творы на іншыя мовы?

Трэба шанаваць і берагчы кожны сапраўдны талент, рабіць яго часткаю агульнанацыянальнага духоўнага скарбу. А паэзія Анатоля Сыса ёсць чысцейшы дыямент нашай літаратурнай спадчыны. Калі прыйдзе час «збіраць камяні», то ні ворагі і ні сябры, а ягоная вялікасць час рассудзіць, хто насамрэч быў чаго варты.

Можна ўсё, што ведаеш, расказаць пра чалавека, й пры тым не сказаць нічога. Так і аб паэзіі Анатоля Сыса немагчыма расказаць. З ёю трэба сустрэцца «вочы ў вочы», дзеля таго, каб адчуць і зразумець яе:

*Гэта лёс. Вы не верце, што гэта стыхія,*
*пэўна ж, трэба камусці*
*вось так расказаць пра жывых,*
*каб пачулі глухія, відушчымі сталі сляпыя*
*дый убачылі — зоркі ўзыходзяць*
*таксама й для іх.*
*Вось і ўсё — маланка ля скроні шугае.*
*Перадайце наступніку: хай у народзе сваім*
*праз стагоддзе зімы, на Свята,*
*мой твар адшукае,*
*і мы — вочы у вочы, шчаслівыя —*
*стрэнемся з ім!*

*26 кастрычніка 2015 г.*



# Наталля Лысова

**дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала на Брэсцкім тэлебачанні, у Доме кіно ( Мінск ). З 2000 па 2015 гг. — дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Нарадзілася ў Кіеве. Жыве ў Мінску.**

# Зорны Ровар Пятра Васючэнкі

Ён быў упэўнены, што пісьменнікі пішуць сваё жыццё на паперы, валодаюць сваім лёсам у мастацкім дыярушы. Пра гэта ён распавядаў студэнтам на лекцыі пра Ластоўскага і ў радыёвыступах з аналізам вершаў Лермантава. І гэтае веданне не дапамагло яму асабіста пазбегнуць лёсу заўчаснага сыходу з Зямлі на Нябёсы.

У апошнім сваім творы ён прыдумаў ровар з залацістым гузікам на шчытку: «Варта яго націснуць — і ровар перанясе цябе ў зорную прастору, падорыць азарэнне. Таму і завецца «Зорны Ровар»» [1, 15]. На зямлі ў яго з'явілася азарэнне, і ён стварыў працяг аднаго з лепшых сваіх твораў пра паноў Кубліцкага і Заблоцкага. Ён нават здолеў увесці герояў у роспавед пра сваю балючую тэму — экалагічную (нездарма ў дзяцінстве яму ў гульнях выпадала роля вернаўскага юнага натураліста Герберта, з яго любоўю да ўсяго жывога, ды і слыў ён адным з караедаў, так у Полацку называлі тых, хто жыў каля былога Еўфрасінеўскага манастыра і ляснога тэхнікума, каля рэчкі Палаты і побач з Баравухай, з яе ляснымі і вазёрнымі краявідамі).

І «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага і Заблоцкага» плаўна пакацілася на тыя самыя знаёмыя абшары Полаччыны, дзе пабывала столькі створаных ім герояў. Нават антычны герой Геракл разам з пастухамі Элады, старым мудрагелістым сівым і маладым хітраватым, зухаватым, рудабародым у яго рамане-бурлеску «Дванаццаць подзвігаў Геракла» хадзілі, блукалі і шукалі долі і праўды ні то па Полаччыне, ні то па старажытнай Грэцыі, бо, як пісаў і думаў творца, «Алімп, Парнас, Геракл — яно ж даўно ўжо нашае, беларускае!» [2, 6].

Параўнанні антычнасці з Полаччынаю не такія ўжо нацягнутыя, бо Пятро адчуў гэтую еднасць старых мясцін яшчэ ў дзяцінстве, калі мяжа светаўспрымання цягнецца праз чыстую душу маленькага цела (мо тую самую платонаўскую «ідэю»). Дзяцінства ў старым горадзе, з рэшткамі вялікіх збудаванняў, з таямніцамі пахаваных гістарычных скарбаў, з сыходзячай пад ваду выспай пасярод ракі, плынь якой кожную адлігу выкідвае на пясок старыя рэчы, адбілася верай у Полацкую Антычнасць, якая з гадамі (не без уплыву міфолага Ластоўскага), ператварылася ў цвёрдае перакананне аб жыцці старажытнай Полацкай цывілізацыі.

Адштурхнуўшыся ад свайго старога замыслу, як ад старых асадкі і атрамантніцы, якой, як ён сам пісаў, «карыстаўся ягоны прадзед Крыштап Базыль, калі пісаў свой дыяруш», ён «шрайболіў як мае быць, запаўняючы аркуш за аркушам, і вось праваруч ад яго пачаў расці стосік спісаных аркушаў, а стосік леваруч пачаў памяншацца» [1, 20]. Але жорсткі рок валодаў рукой пісьменніка. І Ён напісаў свой далейшы лёс. Ён напісаў пра тое, як яго літаратурны герой паляціць у неба: «Ровар патануў у зорным ззянні, сарваўся з месца, працяўшы галавою пана Кубліцкага ладную дзірку ў даху стайні і растаў у блакіце

неба хутчэй за самае порсткае воблачка» [1, 20], а потым ровар з чалавекам знікае ў казцы «паміж сузор'ямі Сіняй Мышы і Ружовага Прусака», і невядомы астраном, павагаўшыся, называе «новаадкрыты аб'ект PUSAN 1212126Exel 12»[1, 21].

Як гэта заўжды здараецца, смеючыся над пані Смерцю, майстра справакаваў свой зыход. Ён пайшоў з жыцця, не дачакаўшыся года Мышы ці Пацука, не пераадолеў камп'ютарна жорстка запланавай чалавечай хады па зямлі — ад нараджэння да небыцця. Яго герой кінуўся да ровара з мэтай знайсці сэнс жыцця і здолеў адчуць, што сэнс гэты застаўся там — унізе, на зямлі, у выбрыках жыцця і прыроды. Герою давялося вярнуцца, а стваральніку літаратурнага аповеда — не.

Кожны чалавек павінен прайсці гэты шлях разумення сэнсу жыцця і страты надзеі на жыццё, шлях, які, як у таго ж васючэнкавага Геракла, пачынаецца пад прымусам, як пакорлівага выканаўцы волі багоў, а заканчваецца, калі героя ахоплівае смутак разумення таямніцы зямнога жыцця, якім павінны кіраваць любоў і міласэрнасць. Але трэба доўга, увесь зямны шлях, вучыцца набываць гэтыя веды. Добра, калі сустрэнеш настаўнікаў, сяброў, што дапамогуць не збочыць ці знайсці пэўнае апірашча свайго існавання. Такім дарадчыкам, настаўнікам і сябрам быў для мяне Пятро Васючэнка.

Упершыню я адчула гэта ў аспіранцкім інтэрнатаўскім пакоі, калі чытала ягоны рукапіс даследавання пра творчасць Віктара Казько. Так, мы сустрэліся раней, яшчэ ў студэнцкія гады, на адным курсе, у адным універсітэце, але цяпер перада мной быў другі чалавек. Тады ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях быў маленькі хлопец. На выгляд шчуплы, у акулярах, больш падобны на школьніка, чым на студэнта. Тым больш, сярод хлопцаў факультэта журналістыкі, якія ў большасці сваёй прыйшлі ва ўніверсітэт праз гады службы ў арміі ці працы на прадпрыемствах, у рэдакцыях. Але ён вылучаўся з іх нейкай упэўненасцю, жыццялюбствам. Ён быў гаварлівы, камунікабельны, энергічны, як сёння кажуць — крэатыўны. Потым, у другой палове 80-х гг., калі з'явіцца яго першая кніжка, мы зразумеем, што Пятро валодаў прыёмамі назірання, вывучэння людзей вакол сябе. Героем яго мастацкага твора ў тыя перабудоўчыя гады стане не славуты «чалавек у малінавым пінжаку», які зрабіўся ўсесаюзным культурным кодам, а Антоша Вырвіч, зборны вобраз нашых аднакурснікаў, у большай ступені адзін з іх, правінцыйны хлопец, з яго наіўнасцю і прастадушнасцю, але якому трэба вырашаць лёсы чужыя і свой.

Такім чынам Пятро Васючэнка пачынаў свой шлях у беларускі літаратурны працэс. І яго герой, дакладней — абагуленае ўяўленне аб тыповым героі студэнцкіх гадоў, меў працяг у распаўсюджаных сёння другой беларускай пісьменніцай прыгодах правінцыйнага небагатага маладога шляхціча з тым жа прозвішчам, наіўнага, але вымушанага адказваць за лёс краіны. Здаецца, Васючэнка меў дар празарліўца. І валодаў талентам бачыць людзей наскрозь.

Тое, што не адпавядала яго знешняму выгляду тады ў студэнцкія гады — гэ-

та голас. Пятро гаварыў нізкім голасам. Ён спяваў! І спяваў басам. Факультэцкі хор — адно з самых яркіх успамінаў нашага тамчаснага жыцця. Таленавіты кіраўнік, малады выпускнік кансерваторыі, рэпертуар, які можа і складалі ўжо вядомыя народныя песні, але раскладзеныя па партыях, — усё разам дазваляла адчуць прыгажосць свету музыкі. У гэтым музычным свеце вылучаўся, у якасці саліста, шчуплы хлопец у акулярах. Яго бас задаваў рытм, аснову нязвыкламу таямнічаму дзейству. Як гэта не адпавядала адно другому! Маленькі юрлівы хлопец, і салідны бас, якога не было, нават, у старога выкладчыка, які стаяў побач з ім і таксама саліраваў.



*Пятро Васючэнка і Уладзімір Сіўчыкаў, 2019 г.*

Пазней, у аспіранцкім інтэрнаце, мяне сустрэў мудры чалавек. Пятро звярнуўся да мяне за дапамогай вычыткі сваёй дысертацыі, а, насамрэч, навучыў мяне стаўленню да навуковай дзейнасці: сістэмна, даследуючы кантэкст жыццядзейнасці і часу, сусветнага літаратурнага і культурнага скарбу, сінтэзуючы

навуковыя веды, мастацкі набытак і міфалагічны досвед. Прачытанае выклікала вялікую павагу да аднакурсніка. Свае акадэмічныя штудыі я атрымала ад Пятра Васючэнкі.

Асабістыя крытычныя досведы ён вызначыў як петрогліфы. Канешне, тут была пэўная гульня з іменем, але была, здаецца, яшчэ і сімволіка. Нездарма, яго галоўным кірункам навуковага даследавання стане сімвалізм у беларускай літаратуры. Манаграфія П.В.Васючэнкі «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і сімвалізм» выходзіла двойчы (2006, 2016). Ён дапісваў, пераасэнсоўваў традыцыі нацыянальнага пісьменства менавіта ў рэчышчы сімвалісцкага пісьма. Абапіраючыся на аналітычны перагляд паэтыкі твораў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна, ён сцвярджаў: «Вытокі нацыянальнай традыцыі знаходзяцца і ў перапляценні з нерэалістычнымі або пострамантычнымі літаратурнымі праявамі» [3, 113]. Міфалогія, сімволіка або — камяні, пятрогліфы, ні то запаветы святога Пятра, ні то крэзы інтэлектуалаў нашага часу. Пісаць як рэзаць, крэсліць галоўныя, патрэбныя для захавання нашчадкамі думкі. Здаецца, ён ставіўся да сваёй працы сакральна, працаваў з мэтаю пошукаў трансцэндэнтальнасці.

У сваёй манаграфіі Пятро Васільевіч сцвярджаў аб тым, што менавіта сімвалісцкі літаратурны метад з'яўляецца генеральным напрамкам літаратурнай дзейнасці, што літаратараў розных краін аб'ядноўваюць такія вобразы-сімвалы, як «доля», «шлях», «дом», «ноч». Іх творчасці ўласцівы антрапалагізацыя прыроды, матывы вяртання, адзіноты, журбы і безнадзейнасці. На розных геапалітычных прасторах аднačасова ствараюцца тоесныя сімвалісцкія мастацкія сістэмы: «...мадэлі пасіянарнага, «вітальнага» сімвалізму, стылю «рэактыўнага», здатнага на сінтэз і ўзаемадзеянне з праявамі імпрэсіянізму, новарамантызму, рэалізму» [3, 121].

Мне здаецца, не толькі яго творчасць, але і жыццё «вітальна» сімвалічна: доля літаратара, паколькі нарадзіўся ў Скарынаўскім родным месцы, шлях ў літаратуру, бо дзяцінства прайшло ў бібліятэцы, дзе працавала маці, а ў цэнтры роднага горада стаяла каменная брацкая школа, што заўжды нагадвала аб Сімяонаўскім прыгожым пісьменстве. Як сёння кажуць, — малая Радзіма. Не. Гэта быў вялікі Дом, дзе яго ведалі і паважалі. Я сустракалася ў Полацку з рознымі людзьмі, з розных пакаленняў, якія аспрэчвалі са мною сваё сяброўства з Пятром Васючэнкам. Ён быў для іх свой, для старэйшых і маладзейшых, сямідзесяцігадовых прафесара і будаўніка, маладых журналісткі і экскурсавода, — «наш Васючэнка». Яны адчувалі адзінства з ім, бо, як пісаў сам Васючэнка, ёсць «полацкі менталітэт». Таму ён заўжды вяртаўся на Полаччыну наяве ці ў літаратурных фантазіях.

Дом, сям'я — вызначальныя паняцці яго асабістага жыцця. Адзін з апошніх успамінаў пра Пятра Васільевіча — канферэнцыя па праблемах беларускай літаратуры ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Васючэнка су-

стракае амаль кожнага госця, гаворыць прывітальныя цёплыя словы і вельмі слушныя навуковыя заўвагі, вядзе пленарнае паседжанне проста, лёгка, быццам не было ні арганізацыйных клопатаў і вялікай падрыхтоўчай працы. А потым, у перапынку, просіць падмяніць сябе на секцыі, бо можа спазніцца — паедзе дадому карміць старую нямоглую матулю. Ён зноў вучыў нас галоўным законам зямнога жыцця — любові і міласэрнасці.

**Літаратура:**

Васючэнка, П. Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага / Пятро Васючэнка.- Мінск: Кнігазбор, 2018.- 104 с.

Васючэнка, П.В. Дванаццаць подзвігаў Геракла: раман-бурлеск/ Пятро Васючэнка.- Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.- 152 с.

Васючэнка, П.В. Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і сімвалізм / П.В. Васючэнка; навук. рэд. В.П. Жураўлёў. — 2-е выд., перапрац.і дап. — Мінск : МДЛУ, 2016. — 200 с.



# Ірына Бурдзялёва

літаратуразнаўца. Дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры МДЛУ. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Беларуская і руская мова і літаратура». У 2005 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю «Традыцыя сентыменталізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя». Апублікавала каля сотні навуковых прац, прысвечаных праблемам літаратурнай кампаратывістыкі, беларускага літаратуразнаўства і методыцы выкладання беларускай літаратуры. Нарадзілася ў 1960 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Пра тое, што застаецца...

Мы адпрацавалі разам больш за чвэрць стагоддзя, былі блізкімі калегамі, бачыліся ледзь не штодня, апрача доўгіх летніх канікул, нас яднала супольная праца, блізкія інтарэсы, агульная скіраванасць. З Пятром Васільевічам звязана адчуванне ўпэўненасці, стабільнасці і разам з тым няспынны творчы рух, якім ён сам жыў і які прыўносіў у працу нашай кафедры. У яго было столькі планаў і задумак, што, здавалася, іх неверагодна ажыццявіць магчымасцямі аднаго чалавека. З яго адыходам навакольны свет збяднеў, у ім з'явілася лакуна, якая не можа быць запоўнена нікім, бо Пятро Васючэнка быў непаўторны. Цяжка ўсведамляць, што ён больш не сустрэне на кафедры, не ўсміхнецца пры нагодзе сваёй мяккай, трохі іранічнай усмешкай, не пазвоніць і не запытае як заўсёды, што ў Вас новага?

Пятро Васільевіч быў кіраўніком маёй кандыдацкай дысертацыі. Я доўга не магла наважыцца зноў вярнуцца да напісання работы: пасля здачы кандыдацкіх прайшло многа часу, мяне захапіла штодзённая выкладчыцкая праца, і, здавалася, ні на што іншае часу проста няма. Пятро Васільевіч мякка і далікатна развярнуў мой рух па інерцыі ў навуковае рэчышча. Ён няспынна паўтараў мне: «Ірына Аляксееўна, Вам трэба абараняцца. Вы можаце пісаць, а я буду вашым кіраўніком». У выніку я сапраўды, што называецца, даспела. І яшчэ помніцца яго фраза: «Я буду не столькі кіраўніком, колькі «папіхачам», буду штурхаць, каб хутчэй пісалі і не спыняліся». Разам з тым, ён быў добрым кіраўніком, дазваляў поўную свабоду, але і тэрміны, калі трэба было завяршыць работу, парушаць не даваў. Ён не засяроджваўся на дэталях, але дапамагаў істотнымі, канцэптуальнымі парадамі. Я была першай абароненай пад яго кіраўніцтвам. Адны з маіх нядаўніх успамінаў — мы на сяброўскай вячэры пасля ўдалай абароны яго апошняй дысертанткі, аспіранткі з Ірана Нурыех Горбані. Была спякотная купальская пара, доўгі сонечны вечар, Пятро Васільевіч прыйшоў з букецікам васількоў і чытаў, віншуючы шчаслівую Нурыех, «Слуцкіх ткачых» М. Багдановіча.

Цяпер, калі яго не стала, інакш прыгадваюцца размовы на кафедры, часам доўгія і змястоўныя падчас «фортак» паміж парамі, а часам проста кароткі абмен думкамі, некалькімі фразамі. Вынікам адной такой размовы сталася ідэя напісаць супольнае эсэ «Укрыжаваная Беларусь». Мы доўга гаварылі, а потым Пятро Васільевіч сказаў: «Давайце гэта запішам. Вы напішаце сваё, а я сваё. Потым аб'яднаем». Ёсць пэўная небяспека ў тым, што выкладчык выгаворваецца перад студэнтамі на лекцыях і семінарскіх, вымаўляе свае думкі ў прастору і адчувае пэўную задаволенасць ад таго, што думка агучана і пушчана ў свет. Але ж толькі напісанае застаецца... Усе мае размовы і разважанні ўголас Пятро Васільевіч скіраваў у больш канкрэтную форму — у напісаны тэкст.

Постаць Пятра Васільевіча, безумоўна, унікальная. Гэта быў чалавек-аркестр, які паспяваў неверагодна многа і праяўляў сябе і як пісьменнік, і як крытык, як глыбокі навуковец-даследчык і арыгінальны выкладчык. Сваёй асобай ён яднаў нашу кафедру з рознымі культурнымі і навуковымі асяродкамі — Акадэміяй навук, журфакам, радыё, Саюзам пісьменнікаў. Гэта былі навуковыя, творчыя і чалавечыя сувязі, а сам ён паміж усімі быў своеасаблівай «кропкай зборкі».

Пятро Васільевіч ахвотна і многа выступаў на навуковых і літаратурных імпрэзах, канферэнцыях, прэзентацыях і заўсёды паміж рознымі яго іпастасямі адзначалася — загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры МДЛУ. Яго імя было своеасаблівым «брэндам» кафедры. Колькі разоў на міжнародных канферэнцыях у мяне ўдакладнялі калегі з іншых універсітэтаў: «У вас жа кіраўніком Пятро Васючэнка?» Такое пытанне-сцвярджэнне гучала як дадатковае прызнанне навуковай вагі і аўтарытэту кафедры. Шмат у чым дзякуючы яго намаганням ва ўніверсітэце быў створаны Цэнтр беларускай мовы і літаратуры. На асабістую просьбу Пятра Васільевіча выступіць тут перад студэнтамі адгукаліся многія яго сябры-пісьменнікі, супрацоўнікі рэдакцый, навукоўцы, ладзіліся літаратурныя вечарыны і культурніцкія імпрэзы. Бясспрэчна, Цэнтр працуе і зараз, толькі пры Пятры Васільевічы запрошаныя выступоўцы ішлі яшчэ і як да сябра ці добрага знаёмца, што надавала такім сустрэчам нязмушанасць і цеплыню.

Без перабольшання можна сказаць, што кафедра была яго другім домам, яго штодзённым клопатам. Асоба Пятра Васільевіча настолькі знітавана з кафедрай, што, здавалася, яны немагчымыя паасобку. Як загадчык, ён быў асцярожным у стасунках з людзьмі, вельмі далікатным, нават часам кранальным і безабаронным у сваёй далікатнасці. Ён не мог адказаць жостка на нахрапістасць ці дзёрзкасць.

Яго абаронай была мяккая іронія. Трапнае слова, гумар, мудрае іранічнае выказванне — так ён здымаў напружанасць сітуацыі. Як кіраўніка яго вызначала выключная інтэлігентнасць — ніколі не гучалі ноткі загаду, ён хутчэй прасіў штосьці зрабіць. Я не памятаю, каб Пятро Васільевіч павысіў голас, нават калі быў чымсьці незадаволены. Пры гэтым праца кафедры ішла, як добра наладжаны механізм.

Варта асобна сказаць пра атмасферу на кафедры, бо яна шмат у чым залежыць ад загадчыка. І для нас, супрацоўнікаў, кафедра з'яўляецца другім домам. За доўгі час супрацы мы зблізіліся, пасябравалі, але часам маглі ўзнікаць і розныя праблемы, якія ўзнікаюць паўсюль, дзе ідзе насычаная работа. Тым не менш на кафедры ніколі не было патаемных звадак. Усе вырашалася вельмі празрыста, заўсёды шукаўся найбольш прыймальны для ўсіх варыянт. Пятро Васільевіч дбаў пра тое, каб любыя пытанні вырашаліся спакойна, каб нішто ніколі не парушала рэнамэ кафедры ва ўніверсітэце. Ён і тут як загадчык імкнуўся ажыццявіць ідэю, якую ён не раз агучваў у сваіх артыкулах і выступ-



*Пятро Васючэнка і Ала Петрушкевіч*

леннях, — ідэю Дому, нацыянальнага або прыватнага. Ён казаў пра Дом як пра найбольш аптымальную мадэль жыцця, у якой народ ці чалавек, асоба з усімі сваімі здольнасцямі можа спраўдзіцца найлепшым чынам, дзе можна адчуваць сябе ўтульна і абаронена.

Мы ўсе ведалі, што Пятро Васільевіч збірае калекцыю парсючкоў. Не толькі таму, што сам нарадзіўся ў год Кабанчыка, але гэту жывёліну ён лічыў амаль сакральнай у беларусаў — яна непарыўна звязана зноў-такі з домам, сям'ёй, дабрабытам. Нават самі дарылі яму смешнага глінянага парсючка. А ўвогуле яго вылучала любасць да ўсіх жывых істот. Таму натуральна ў Пятра Васільевіча з'явіўся цыкл лекцый і літаратуразнаўчыя даследаванні па экалітаратуры, а сваё месца ў яго спадчыне заняў паэтычны зборнічак «Піраміда Ліннея» .

І студэнтаў ён любіў, хаця і бурчэў на іх часам. І яны атрымалі сваё пачэснае месца побач з выкладчыкамі ў ягонай пірамідзе Ліннея. Калі я часам наракала

на якога гультая і недарэку, ён заўсёды сцішваў мяне і казаў, што можа студэнт і не ведае таго, што я патрабую, але ён можа быць умее і ведае тое, чаго я не ведаю і не ўмею. У кожнага студэнцкага пакалення свае дасягненні. Таму не трэба крычаць на іх. Ён увогуле прымаў людзей такімі, якімі яны ёсць.

Якім ён быў выкладчыкам? Адметным. Яго трэба было навучыцца слухаць. Бяда ў тым, што цяперашні студэнт не надта любіць многа слухаць і ўспрымаць інфармацыю вербальна. Сёння шмат гавораць пра кліпавасць мыслення, успрыняцця інфармацыі праз відэаматэрыялы. Манера выкладання Пятра Васільевіча была спакойная, пазбаўленая знешніх тэатральных эфектаў. Але той, хто прыслухаўся да ягоных слоў, адкрываў для сябе новы свет. Хто яго сапраўды пачуў, той заўсёды сядзеў наперадзе і ўважліва слухаў. Эрудыцыя, начытанасць Пятра Васільевіча, яго абазнанасць у сусветнай літаратуры была выключнай, а памяць фенаменальнай. Ён праводзіў арыгінальныя і трапныя паралелі з іншымі літаратурамі, а падручнік «Беларуская літаратура ў кантэксце сусветнай», які ён напісаў у сааўтарстве з шаноўнымі Л. Баршчэўскім і М. Тычынам, самы запатрабаваны сярод нашых студэнтаў.

Ён многіх навярнуў у беларускасць. Помніцца, мы неяк стаялі каля кафедры і падышла яго былая студэнтка, якая збіралася з'язджаць у замежжа на далейшую вучобу. Дзяўчына падзякавала яму за лекцыі і сказала, наколькі яны былі важнымі для яе, бо раней ніколі не задумвалася, кім яна ёсць і да якой нацыянальнай культуры належыць. Лекцыі Пятра Васільевіча адкрылі ёй Беларусь, яна пачала чытаць беларускія творы і цяпер адчувае сябе беларускай. Асабліва востра яна адчула гэта, збіраючыся невядома на які доўгі час пакідаць радзіму. Прыгадваю і яшчэ адну нашу супольную студэнтку, здольную, але вельмі неарганізаваную. Пятро Васільевіч знайшоў да яе няпростага характару ключык, натхніў на навуковую працу, якой яна займаецца і цяпер. Трэба было бачыць, з якім заўсёдным захапленнем яна глядзела на яго, калі прыходзіла на кафедру. У яго ахвотна пісалі курсавыя і дыпломныя працы, бо ён прапаноўваў арыгінальныя і цікавыя тэмы. Студэнты прыходзілі розныя, маглі патрапіць і слабыя, і так званыя сярэднячкі. Пятро Васільевіч мог настолькі правільна скіраваць, падказаць цікавую думку, параіць літаратуру, што атрымліваліся сапраўды моцныя працы, за якія студэнты атрымлівалі высокія адзнакі. Самае галоўнае, пасля такога асабістага поспеху ў іх з'яўлялася вера ў саміх сябе, заставалася асаблівая прыхільнасць і да кіраўніка дыплома, і асаблівае стаўленне да ўсёй беларускай літаратуры. А гэта было для Пятра Васільевіча самае галоўнае.

З Пятром Васільевічам было лёгка ездзіць у камандзіроўкі на канферэнцыі. Ён быў таварыскі, лёгкі на пад'ём, для яго цікавым было ўсё. Прыгадваю сумесную паездку ў Гайнаўку або на чарговы Кангрэс беларусістаў у Каўнас. Мы спецыяльна тады ўзялі білеты праз Вільню, каб пры нагодзе лішні раз паблукаць па горадзе, падыхаць яе паветрам. Шмат пахадзіўшы, сядалі ў кавярні на вуліцы, пілі каву, глядзелі на мінакоў, размаўлялі.

Пятро Васільевіч любіў расказваць пра тое, як у дзяцінстве разам з іншымі хлопцамі шукаў уваход у легендарны полацкі лабірынт. У гэтыя падземныя лёхі Вацлаў Ластоўскі схаваў сваю Беларусь-Крывію. Цяпер Пятро Васільевіч адышоў у нябесную Беларусь. Мы бяссільныя перад законамі вечнабыту, але як цяжка прымірыцца і прыняць яго такі раптоўны і заўчасны адыход. Здаецца, што не паспела сказаць яму самае галоўнае. Таму кажу цяпер: вялікі Вам дзякуй за ўсё, Пятро Васільевіч!



# Марыя Дуброўская

журналістка, радыёвядучая. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Пад куратарствам навуковага кіраўніка П. В. Васючэнкі прымала ўдзел у навукова-практычных канферэнцыях па літаратуразнаўстве. Прымала ўдзел у падрыхтоўцы адукацыйнай праграмы «Ліцэй» на канале «Культура» Беларускага радыё. Нарадзілася ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

# Навуковы кіраўнік

Пятра Васільевіча Васючэнку мне пашанцавала ведаць з розных бакоў: як выкладчыка, навуковага кіраўніка, калегу, пісьменніка і чалавека.

На першым курсе журфака БДУ ён выкладаў старажытнабеларускую літаратуру. Тады здавалася, што гэта досыць аднастайная і неактуальная рэч. І на выкладчыка з моцнымі лінзамі ў акулярах мы пазіралі паблажліва і без асаблівай цікавасці.

Але Пятро Васільевіч нечакана пачаў гутарку, запытаўшыся, няўжо на першым курсе вывучаюць Апулея «Залаты асёл» (у нас на сталах акурат ляжалі старэнькія бібліятэчныя выданні, якія трэба было адолець да старажытнай літаратуры. «Ай-яй-яй, — пахітаў галавой спадар Пятро. — Рана яшчэ такое на першым курсе!» Відавочна, пасля гэтага мы пастараліся хаця б прагартаць кнігу «не па ўзросце».

Здаць іспыт Пятру Васільевічу не лічылася складаным. Ён спакойна ставіўся да аднаго ці нават двух вачэй у падручніку падчас падрыхтоўкі адказу. Але асаблівага ратунку гэта не прыносіла — дыскусія вымагала чытання. А часам заносіла студэнтаў у абмеркаванне і параўнанне сучасных рэалій з падзеямі ў творы.

«Прамову Мялешкі» — узор барочнай старажытнабеларускай літаратуры, мы разглядалі ў кантэксце журналісцкага майстэрства і сторытэлінгу. Здаецца, на гэтым занятку я папрасіла ў Пятра Васільевіча зборнік навукова-практычных канферэнцый для азнаямлення. Пасля пары ён пацікавіўся, ці не супраць я прыняць удзел у канферэнцыі. Прапанова прывабіла сваёй невядомасцю і смеласцю. Я пагадзілася. І атрымала шыкоўны падарунак ад выкладчыка: «Магу быць вашым кіраўніком». Прычым пачаць першыя спробы навуковай дзейнасці Пятро Васільевіч прапанаваў з «Прамовы Мялешкі». Як значна пазней жартаваў мой навуковы кіраўнік: «Вам можна чытаць курс на журфаку па гэтым творы». Бо столькі варыянтаў даследавання і прэпарыравання тэксту, колькі атрымалася зрабіць пад кіраўніцтвам Пятра Васільевіча, не снілася ніводнаму студэнту.

У спадара Пятра быў уласны стыль навучання сваіх «гадаванцаў». Ён ніколі адразу не распісваў падрабязна ход даследавання, не прасіў дакладны план і тэзісы. Спачатку абмяркоўвалі асноўныя пытанні і тое, што цікавіць у даследаванні. Далей — дзеянні не абмежаваныя. Нібыта кідае ў ваду таго, хто не ўмее плаваць, і чакае выніку. Праз колькі часу навуковы кіраўнік знаёміўся з выпакутаваным «шэдэўрам» і нібыта расчароўваўся: ні структуры, ні парадку, ні класіфікацыі. Тады пачыналася супольная праца, калі кіраўнік задаваў пытанні, а малады навукоўца спрабаваў на іх адказваць. Праз пэўны час такіх практыкаванняў эўрыстычным шляхам прыходзіла разуменне, з якога боку падыходзіць да тэмы.

Часта абмеркаванні нованапісаных тэзісаў праходзілі на кафедры беларускай мовы і літаратуры МДЛУ, дзе здаралася патрапіць на «хвастатых» студэнтаў. Яны здавалі, пераздавалі і вымучвалі адзнакі. Прычым у спадара Пятра да кожнага быў свой падыход. Аднойчы ў кабінеце я заспела спробы Пятра Васільевіча атэставаць навучэнца з Кітая. Дыялог упарта не ішоў вакол любых твораў беларускай літаратуры. Тады спадар Пятро пацікавіўся, ці ёсць у Кітаі Драконы. Студэнт, ухапіўшыся за магчымасць прамовіць колькі слоў, ігнаруючы скланенне, красамоўна распісваў кітайскі Новы год. А Пятро Васільевіч праз тры хвіліны экскурса ў кітайскую культуру, вычапіўшы слова «дракон», узрадавана дадаў: «У Беларусі ёсць свой дракон — Цмок». І тут ужо як не супраціўляўся замежны студэнт, а веды па беларускай культуры яго дагналі.

Пятро Васільевіч меў шыкоўны дар казачніка. Ён мог займальна і доўга пераказваць сюжэты, распавядаць гісторыі, нават калі вочы слухачоў заставаліся нябачнымі (як у радыёэфіры). Талент для радыёвядучага! Яго любілі запрашаць у якасці госця. Самому аўтару і вядучаму праграмы не заставалася нічога, апрача ўважлівага слухання. Гадзіну нават без падрыхтоўкі і пытанняў спадар Пятро вёў дыялог са слухачамі.

Хутка ён сам стаў вядучым праграмы «Ліцэй» на канале «Культура» Беларускага радыё. Фактычна над перадачай працавалі ўтрох: Пятро Васючэнка — вядучы, спецыяліст, навукоўца, Валерый Бяляеў — гукарэжысёр і Алег Вінярскі — акцёр. Пятро Васільевіч пісаў лекцыі, размяркоўваў творы для ілюстрацыі матэрыяла, расказваў лекцыю перад мікрафонам і доўга спрабаваў скараціць багаты матэрыял для эфірнага часу. Алег Вінярскі агучваў мастацкія фрагменты тэксту, а Валерый Бяляеў гатаваў з асобных прадуктаў — кавалкаў прозы і вершаў — выкшталцоную страву, прыпраўленую музыкай, гукамі і мастацкімі паўзамі.

Пятро Васільевіч моцна перажываў, калі не атрымлівалася ўцiснуць усю лекцыю ў эфірны час. А калі раптам праскоквалі агаворкі ці штосьці гучала не так, як было запланавана, ён не знаходзіў сабе месца. Заўжды быў гатовы перачытваць і перазапісваць лекцыі, каб давесці іх да ідэалу. Праграма «Ліцэй» увайшла ў фонды Беларускага радыё, як і казкі, аповеды, спектаклі, вершы, што напісаў Пятро Васючэнка.

Дарэчы, любімая студэнтамі і не толькі кніга «Піраміда Ліннея» натхняла на пародыі, жарты і цытаванні. Праўда, былі прафесійныя чытачы, якіх абураў настолькі несур'ёзны падыход навукоўцы, літаратурнага крытыка, купалазнаўцы Васючэнкі да літаратуры. Яны за спінай пакрытыкоўвалі спадара Пятра. З гэтай нагоды на парах мы з сябрамі напісалі сваю «піраміду». У якой «дасталася» не толькі выкладчыкам, але і працiўнікам лёгкага стылю і забаўных вершаў.

*Дзеля чаго жыве ( імя)?*
*Каб станавілася пагана*
*Усім, хто добра піша вершы.*
*І Васючэнка тут не першы.*

У Пятра Васільевіча была ўнікальная рыса — не заўважаць негатыўнае. Нават хутчэй не засяроджвацца на ім. Яму можна было паскардзіцца на працу, вучобу, адносіны, знайсці паразуменне і падтрымку. Яго цікавілі матывы ўчынкаў, і для кожнага былі словы ўдзячнасці, суцяшэння. Ён ніколі не асуджаў ні літаратурных персанажаў, ні пісьменнікаў: класікаў ці сучаснікаў, ні калег, ні студэнтаў. Магчыма з-за гэтага паўсюль сустракаў толькі радасныя і ўсмешлівыя твары, прыязныя адносіны і добрае стаўленне. Такое ўражанне, што нейкая паўсядзённая шэрасць і чалавечыя слабасці абыходзілі яго бокам, бо ён у іх папросту не верыў.



*Леанід Дранько-Майсюк, Пятро Васючэнка,*
*Васіль Жуковіч і Эдуард Акулін*

Узгадваю Тэры Пратчата, за якім напрыканцы жыцця прыйшоў яго персанаж Смерць. Пісьменнік проста перайшоў у Плоскі свет па старонках напісаных ім кніг.

Пятро Васільевіч Васючэнка не паспеў абраць сабе літаратурнага спадарожніка і сышоў без папярэджання, але захаваў для нас адчуванне ўласнай прысутнасці, варта толькі адгарнуць старонку...



# Аксана Спрынчан

паэтка, празаік, перакладніца, дырэктарка Паэтычнага тэатра «Арт. С». Аўтар кніг паэзіі «Вершы ад А.» (2004 г.), «ЖываЯ» (2008 г.), «Нелінейнае» (2012 г.), смс-п'ескі «Дарога і Шлях» (2009 г., з А. Анціпенкам) і інш. Піша для дзяцей: «Таташ Яраш, мамана Аксана і дачэта Альжбэта. Поўны эксклюзіў» (2013 г.), «Смачная кніга» (2017 г.), «Малочны кактэйль для Вужынага Караля, альбо Калякамп'ютарная казка» (2019 г., з Ярашам Малішэўскім) і інш. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Пятролюбы

## Формулы

«Пятрогліф: формула — чатыры «З». Звышлаканічнасць, звыш'ёмістасць, звышэканомія, звышглыбіня. Камень піша на камені».

А пятролюб: формула дваіх — Пятра і Любові. А піша Аксана.

## Давер

Пятро Васючэнка — гэта суцэльны давер. Да людзей, да ўсялякай жывой істоты. І нават да рэдактара. І мне як рэдактарцы — Боскі да(вер)р, што я сустрэла аўтара, які бясконца давярае. Любоў любоўю, але рэдагаванне — гэта як побыт у сямейным жыцці. І калі ў гэтым побыце не паўстае ніводнага ценю, значыцца Аўтар і Рэдактар сустрэліся ў тым шчасці, якое мала каму дадзенае.

## Лабірынт

Пятро Васючэнка — лабірынт. Адрозна ад полацкага — у гэты лабірынт лёгка патрапіць — жыві сярод казак і вершаў, навуковых артыкулаў і апавяданняў, міфаў і фэнтэзі, прыгодаў і літаратуразнаўчых манаграфій, п'ес і даведнікаў, эсэ і рэцэнзій, радыёлекцый і радыёпастановак. Адрозна ад лабірынта — з яго не шукаеш выйсця.

## Жабкі і свінкі

Калекцыянерам утульна разам, асабліва калі ён — калекцыянер свінак, а яна — калекцыянерка жабак. І без адных, і без другіх цяжка ўявіць беларускі свет. А да таго ж свінкі не замінаюць жабкам, а жабкі — свінкам. І ў гэтым — рэдкая суладнасць беларускага свету.

## Дзіця

Дзіця — найлепшы падарунак. Нават чужое. Адзіны, хто напісаў пра гэта ў беларускай літаратуры, — Пятро Васючэнка. У «Дні народзінаў ката Буркуна» котка дорыць Буркуну кацяня, якое нарадзілася ад іншага. Дзівосны запавет, што пакінуў творца ў зборніку вершаў, казак і апавяданняў «З Днём народзінаў, альбо Свята, якое ёсць у кожнага», які я ўкладала, і які быў апошнім, што выйшаў перад сыходам аўтара.

## Паспела

У дачыненнях з людзьмі шмат чаго не паспяваеш сказаць. Пераважна нічога не паспяваеш. Ды я паспела сказаць, што Пятро Васючэнка — геніяльны. Але і тут не ўсё атрымалася, бо казала пра творцу, а ён жа і чалавек геніяльны.

## Адзіная кніга

Крупскі раён. Хата на ўскрайку балота. Адзначаем з сябрамі Новы год. Дзевяностагадовая гаспадыня прытамілася і залезла на печ. Мы спрабуем не

шумець. Сябра дастае кнігу Пятра Васючэнкі «Адлюстраванне першатвора», і, вядома ж, я ўзгадваю, што Пятро Васючэнка калекцыянуе свінак, таму мы можам сустрэць поўнач разам са свіннёй (і бабулі не будзем перашкаджаць). Бярэм шампанскае, кнігу і выпраўляемся ў хлеўчык. Чытаем уголас, дзелімся шампанскім са свіннёй (мы ж не сквапныя свінні). Ці не адзіны Новы год, калі я чытала і вакол на сотню метраў не было ніводнае кнігі.

Калі ўзгадваю, думаю, што з кнігай Пятра Васючэнкі можна ляцець у космас. Бо космас прыме космас.

## Прэмія Дзядзькі

Сумна ці не, а застаўся Пятро Васючэнка па-за прэміямі. Апрача Глінянага Вялеса і Блакітнага Свіна. Таму гэтыя прэміі для мяне ўзвысіліся. Але ж асоба такога творцы цягне на прэмію ягонага імя. Хто б не марыў атрымаць Прэмію Пятра Васючэнкі?! Прэмію Дзядзькі. Цётка была б не супраць.

## Святая рыса

Неўзабаве вясна. Ніхто мяне болей не павіншуе з сёмым днём вясны, ведаючы, што я не святкую восьмы. Ёсць людзі, якія ўмеюць ствараць свята. І гэта святая рыса.

## Усмешка

Ёсць творцы, якія ўсміхаюцца табе, калі іх сустрэнеш. А як іх чытаеш — усмешка знікае. Пятро Васючэнка меў надзвычайную здольнасць захоўваць усмешку і ў жыцці, і ў прозе, драматургіі, вершах... Гэтакая ўсмешка — неўміручая.

## Сцяг ля сэрца

Калі сябра хацеў пакінуць свой сцяг, каб не схапілі спецназаўцы, Пятро Васючэнка схаваў сцяг ля сэрца і вынес, але сцяг ужо не аддаў. Імкненне выратаваць і захаваць — сутва Пятра Васючэнкі.

## Дом

Пятро Васючэнка — дом. Не самотны. Дом — з сям'ёй. Дом — з універсітэцкімі калегамі. Дом — з радыйнікамі. Дом — з сябрамі садовага таварыства. Дом з пісьменнікамі... Ідэя Дома для яго надзвычай істотная. Істотная яна і для іншых, але далёка не ва ўсіх яна — рэальнасць.

## Пажар

Калі на адным з лецішчаў распачаўся пажар, прыбег тушыць адзін Пятро Васючэнка. Вядома ж, я ведаю тое не ад яго.

## Вяселле як абеларушванне

Пасля памінак я сустрэла цікавага беларускамоўнага кіроўцу. І гэта гады ў рады бывае. Але ж ён яшчэ і стаўся беларускамоўным, пабыўшы на вяселлі Пятра Васючэнкі!

Усё ж не ўсе казкі сканчаюцца вяселлем.

## Прадмова

Мне дужа карцела, каб у маёй першай кнізе была прадмова, а выдавецтва не хацела. Валянцін Акудовіч тады супакоіў тым, што кніга, як і кабета, найлепей выглядае аголенай. Але калі мы з Алесем Анціпенкам выдавалі смс-п'еску «Дарога і Шлях», мы апранулі сваю кнігу з абодвух бакоў: і прадмовай, і паслямовай. Яны ці не большыя за наш твор. І Пятро Васючэнка абдарыў шчасцем прадмовы, якую я люблю перачытваць, насалоджваючыся розумам і парадаксальнасцю аўтара. Яна як казка, якая лучыць навуковы артыкул і эсэй, верш і паэму ў прозе. Не трэба аніякай аголенасці, калі твор ўграе Пятро Васючэнка.

## На векі вечныя

Пятро Васючэнка любіў усіх жывых істотак: чарвячкоў і рыбак, жабак і ракаў, жучкоў і жамяру, хахуляў і катоў. Ён і мяне любіў, бо я любіла жабак. Гэта для яго было істотна, таму і напісаў у артыкуле пра нацыянальны бестыярый: «Аксана Спрынчан на векі вечныя праславіла амфібіяў. Лірычная гераіня можа ўяўляцца ластаўкай, знічкаю, кактусам, але яна ніколі не скіне свае жабінае скуркі, бо пачуванне каралеўны, закінутай у багну побыту, складае яе існасць».

Не гэтак і шмат людзей, якія любяць цябе, бо ты любіш іншых...

## «Быць жаласлівымі»

«Спадарыням Аксане і Альжбэце, шчыра быць жаласлівымі да ўсяго жывога, быць літасцівымі да сваіх каралевічаў» — гэтак падпісаў апошнюю кнігу наш улюбёны аўтар. І каб гэты запавет з'явіўся ў якім-кольвечы тэксце без імя аўтара, кожны, хто ведаў і чытаў Пятра Васючэнку, не памыліўся б адгадваючы, чый запавет.

## Два лісты

«Я Вас люблю! І Вашыя творы!»

«Узаемна, і неадменна, і назаўжды. П.В.»

## Камянёвае

Імя Пятро — са старажытнагрэцкай мовы перакладаецца як скала, камень.

Будучы каменем, Пятро Васючэнка ўсё ж дужа добра ставіцца да літаратуры і літаратараў, не тое, што іншыя — каменя на камені не пакідаюць.

## Выкладнік

Пятро Васючэнка — мой Выкладнік у Беларускім калегіуме. Выкладнікі падзяляюцца на вонкавых і нутраных. Спадар Пятро — глыбока ўнутраны.

## Полацкі снег

У пятрогліфе «Пяты элемент» Пятро Васючэнка вызначае пяць элементаў, дзякуючы якім стаўся магчымым верш Янкі Купалы «Снег». Што цікава, такі элемент, як «геній Купалы» на трэцім месцы, а «першы, пухнаты і пульхны, снег у Вільні» папярэднічае яму. Калі вызначаць элементы Пятра Васючэнкі недзе сярод іх абавязкова будзе пухнаты і пульхны снег у Полацку.

**Падрыхтоўка публікацый і здымкі Уладзіміра Сіўчыкава.**



# Яна Будовіч

паэтка, крытык, парадыст. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002 г.). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Па-ранейшаму ў думках размаўляю з ім...

***(Пад грыфам прыватнага)***

...Цішыню разрывае нечаканы званок мабільніка. Гляджу на экран — Эдуард. Са здзіўленнем і радасцю адказваю на выклік. Даўно не чуліся: цікава даведацца, як там пачуваецца сябар. *Там*... І тут з жахам згадваю самае страшнае, незваротнае... «Эдзік, пачакай... Ты ж... Памёр!» На *тым* канцы — спачатку збянтэжанасць, потым — неўразуменне: «Ды не, ты памыляешся!..» І нейкая спроба патлумачыць ці апраўдацца, але я... прачынаюся. Шкада! Ізноў — вострае адчуванне страты і незваротнасці.

За дзень да таго, як Эдзіка не стала, мы «размаўлялі» паведамленнямі ў «Вайберы». Я мусіла тэрмінова здаць артыкул у нумар «ЛіМа», а ён быў яшчэ толькі ў працэсе напісання. Патрабавалася высветліць нейкую драбязу. Баялася, што калі пачну шукаць тое, то проста «патану» ў моры спадарожнай інфармацыі, згубіўшы галоўнае — стрыжань, асноўную думку. Але без таго дробнага моманту маглі ўзнікнуць пытанні адносна факталогіі. Выйсце знайшлося адразу: папрасіла аб дапамозе Эдзіка. Ведала, што ён дома, значыць, паспрыяе! І ён не прымусіў доўга чакаць: адказаў праз некалькі хвілін, знайшоўшы акурат тое, што мне патрабавалася. І ў той міг такое агромністае пачуццё ўдзячнасці ахапіла і ўскалыхнула душу, у ёй зрабілася цёпла-цёпла, захацелася па-сяброўску абняць Эдзіка... Але ж час не стаяў на месцы, трэба было найхутчэй дарабіць работу. Пажадаўшы бадзёрасці і добрага настрою, развіталася з сябрам, каб ізноў засяродзіцца на артыкуле. «Дзякуй, Таня, мо ад твайго пажадання мне лягчэй будзе працавацца...» — напісаў Эдзік. Як аказалася, ён і сам сядзеў над артыкулам пра аднаго з любімых пісьменнікаў — Рыгора Барадуліна, і ўжо тады блага сябе пачуваў, але, тым не менш, перапыніўся, каб дапамагчы мне. Без слова скаргі на здароўе ці занятасць...

Такім і запомніла яго. За апошнія гады мы даволі шчыльна кантактавалі, абменьваліся кнігамі, абмяркоўвалі творы сучасных пісьменнікаў, дзяліліся ўражаннямі, думкамі, захапленнямі, праблемамі, а часам і нечым асабістым. Ён быў заўжды побач — мы існавалі ў адной і той жа духоўнай, ментальнай прасторы. І гэтае «побач» стала для мяне такім звыкла-надзейным, неадменным, заўсёдным, што я нават перастала ўсведамляць, якое гэта насамрэч Боскае блаславенне, Божая ласка — мець блізкага сябра, якому можаш давяраць як сабе, якога не баішся пакрыўдзіць рэзкім жарцікам ці заўвагай... Бо ўспрымаеш яго як alter ego, як частку сябе.

А потым вучышся існаваць наноў, ужо распалавінены, без нейкай надзвычай істотнай уласнай часткі, збіраючы ў жменю рэшту таго, што засталося...

І толькі тады даходзіць, якім жа цудам было тое, што ўспрымалася як належнае.

Мы былі знаёмыя з Эдуардам з 1995 года. Мне толькі споўнілася 18, яму — 29. На той момант у мяне яшчэ не было сяброў: з учорашнімі аднакласнікамі і з нядаўняга часу аднакурснікамі, акрамя вучэбных прадметаў, не мела нічога агульнага, іх цікавілі, як мне меркавалася, мода і дыскатэкі, мяне — кнігі. Сябры, з якімі я «размаўляла» — толькі ў думках — былі ўяўнымі, з найбольш упадабаных раманаў, і прыдуманыя, з мар. І вось — Эдзік, жывы, рэальны, які ўважліва глядзеў у вочы і выказваўся пра тое, пра што было цікава слухаць... Яго знешні выгляд уразіў неймаверна: ён быў падобным на аскета, на святара, пасіянарыя, які жыве ідэяй, аддаючы служэнню ўсяго сябе без астатку...

*О, світанне нязгаснае, Зніч!*
*У сэрцы — твой рэквіем-кліч.*
*Ідзе пілігрым да цябе,*
*Нязломны ў сваёй барацьбе ...*

Гэты вучнёўскі вершык быў адным з першых, на якія натхніў вобраз сябра... Потым былі іншыя вершы: пра адзіноту, радзіму, філасофскае асэнсаванне сусвету і сябе ў ім, імкненне да запаветнай мары, часам з'яўляліся нават жартоўныя (хаця было зусім не да жартаў). Але і цяпер не ўпэўнена, што напісала б іх, калі б не жаданне ўразіць і здзівіць!

Не ведаю, ці здолела я Эдуарда здзівіць хаця б трошкі, але вершы мае ён раскрытыкаваў, на што я страшэнна пакрыўдзілася і ледзь не кінула іх пісаць увогуле.

Цяпер, праз многа гадоў, разумею: калі Бог па-сапраўднаму любіць чалавека, то менавіта такія выпрабаванні яму і пасылае. Тады гэта сталася сур'ёзным змаганнем для мяне: мой свет часткова разбурыўся, тое, ува што я ўкладала самае, здавалася мне, каштоўнае, не ацанілі належным чынам... У новай сістэме каардынат, якая з часам намалявалася, вершам ужо не адводзілася галоўнага месца, яны перасталі быць сэнсам і мэтай. Засталіся хутчэй пабочным прадуктам жыцця, але адначасова пры гэтым і «выраслі», сталі больш асэнсаванымі, вобразнымі, стройнымі і ... разняволенымі. То бок яны перасталі існаваць для нечага, ад чаго, як падавалася, залежала жыццё, а засталіся самі па сабе, самастойнымі і такімі, якімі ім хацелася быць... Толькі пазней здолела паглядзець вачыма сябра на тыя свае паэтычныя спробы, калі сама пачытала яго ўлюбёных паэтаў з французскай і ўсходняй класікі. Зразумела, што крытыка была яшчэ мяккай.

Эдзік быў надзвычай уражлівай асобай. Неяк ён напісаў крытычны артыкул на зборнік вершаў адной паэтэсы, а яна, мусіць, як і я тады, у 18 гадоў, чакала толькі пахвалы. Прынцып, якім кіраваўся Эдуард пры рабоце над крытыкай, быў наступным: у любым зборніку можна знайсці як тое, за што аўтара трэба пахваліць, так і тое, за што варта «паўсчуваць». Крыўдлівая аўтарка напісала яму ліст, у якім выказала расчараванне і незадаволенасць... Ён доўга пера-

жываў, я ж імкнулася ўсё перавесці ў жарт: маўляў, віншую цябе, Эдзік, ты стаў прафесіяналам, бо ў сталых лімаўскіх супрацоўнікаў аддзела крытыкі былі стосы падобных лістоў ад пісьменнікаў. А праз некаторы час была нагода і для радасці: аўтарка тая, мусіць, зразумела, што калі цябе «кормяць» толькі салодкім, ніякага развіцця не будзе, і зноў напісала Эдзіку — гэтым разам падзякавала...




*Эдуард Дубянецкі і Яна Будовіч*

Сам жа ён не трымаў зла на тых, хто яго крыўдзіў.

Вельмі любіў спяваць. У яго дома быў музычны цэнтр з функцыяй караоке, пэўны час ён займаўся вакалам, наведваў караоке-клуб, удзельнічаў у адпаведных спаборніцтвах. Колькі ж адвагі патрабавалася, каб рашыцца выйсці на сцэну пры поўнай зале людзей і спяваць!.. Ён жа ў такія моманты пераўвасаб-

ляўся, ад яго лучылася годнасць, магутная мужчынская энергетыка! Ва ўсім: паставе, рухах, голасе, вачах было нешта магутнае і смелае і ў той жа час мяккае, без гэтай непрыемнай якасці многіх мужчын, калі іх самаўпэўненасць сягае ў ранг бязгрэшнасці...

Мяккасць, далікатнасць у спалучэнні з неслабым унутраным стрыжнем вызначалі яго характар. Упершыню гэта ўразіла ў адной з першых ягоных кніг, «Таямніцы народнай душы» (1995). Гэта навукова-папулярнае выданне пра даследаванне ментальнасці беларускага народа. На аснове шматлікіх гістарычных звестак, народных казак, прыказак і прымавак Эдуард распавядаў пра тое, што ўласціва беларускаму народу, якія якасці характару з'яўляюцца галоўнымі, што лучыць нас між сабой і робіць не падобнымі на іншыя народы.

Раздзел пра станоўчае ў менталітэце чытаўся, як песня, на адным дыханні! Перапаўняў гонар за свой народ і нацыянальную прыналежнасць, узрастала адчуванне годнасці. Калі ж размова пайшла пра адмоўнае ў характары, то Эдзік распавядаў пра гэта як пра працяг добрага...

Асаблівасць маладосці ў тым, што што жыццё здаецца невычэрпнай крыніцай, ракой без канца і краю, і таму пра смерць думаецца як пра таямніцу, загадку, адначасова і хочацца зазірнуць пад покрыва таемнага, і не разумееш яшчэ ўсяго цяжару і трагізму. Было тады цікава, як Эдзік ставіцца да таго, што калісьці чакае ўсіх нас. Ён жа адказваў, што забараняе сабе аб гэтым думаць: маўляў, пакуль жывеш, думай пра жывое, які сэнс думаць пра смерць. Я вырашыла для сябе, што, магчыма, гэта — адзін з яго страхаў. А як можна забараняць сабе думаць пра тое, чаго баішся, зразумець не магла. Падавалася, што тут якраз наадварот: тое, чаго баішся, толькі і можа маячыць у галаве, вяртацца раз-пораз ды прымушаць сэрца заміраць у страшным прадчуванні. І толь-



*Эдуард Дубянецкі ў Караоке-клубе*

кі потым, калі прачытала яго вершы, зразумела: ён пастаянна вёў дыялог з Богам. Пачуваўся настолькі самотным перад аблíччам таго, што незваротна насоўваецца, перад чым ён апынецца сам-насам, што шукаў заступніцтва і падтрымкі Усявышняга. І гэта была размова настолькі інтымная, асабістая, што любы там быў бы трэцім лішнім:

*...Пуста навокал, так пуста!*
*Марна — крычы, не крычы.*
*Хто мне цяпер дапаможа?!*
*Веру, мой Бог,*
*Толькі Ты...*

...Часта лаўлю сябе на тым, што ў думках па-ранейшаму звяртаюся да сябра, пачынаю весці з ім размову, альбо, бывае, мільгане нешта накшталт: «Трэба будзе Эдзіку пазваніць, расказаць, цікава даведацца яго меркаванне!..» Ён быццам нікуды не знікаў, побач, як і заўжды раней. Як нічога не змянілася...

А можа, нашы сусветы — той, у якім існуем мы, і той, у якім мы калісьці апынемся, у нейкіх кропках судакранаюцца, перакрыжоўваюцца, нават на імгненні могуць накладацца адзін на другі — і адсюль гэтае неўсвядомленае адчуванне прысутнасці?.. Ці проста тыя, хто шмат для нас значыў, не страчваюць сваёй прыцягальнасці, нават калі становяцца часткай тагасвету?



# Галіна Дубянецкая

паэтка і перакладчыца. Вершы і пераклады друкаваліся ў рэспубліканскім і замежным друку, у калектыўных зборніках і анталогіях. Аўтар кнігі паэзіі «Анадыямэна» (2008 г.). Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Эдзік брацік

Нам з Ірынкай было пяць і тры гады, калі мы з бацькамі прыехалі ў Чудзін. «Малодшыя Дубянецкія» (сям'я татавага брата Станіслава) тады там жылі і дарослыя працавалі. Кузінцы Наташы было сем, Эдзіку — адзін («адзій», пазней-пазней мая малая Стася наконт сябе казала).

Пэўна ж, мы тусаваліся і з сястрычкай, і з брацікам, але найболей запомніліся гусі, вялізныя, грозныя, шыпучыя — нельга з веранды кроку ступіць! А Ірынка пад нагамі хапала трэсачку і гнала гэтых монстраў: Ату! Чаго людзей і Гальку палохаеце!

Эдзік ужо добра падрос, калі я ўбачыла яго (стоп-кадр з вакна) на летні ў Атоліна, кучаравага, зграбненькага, да маці сваёй Раі падобнага, ён з Сярожкам Кірэйчыкам (нашым таксама дваюрадным брацікам) абмяркоўвалі нейкую авантуру.

Ну, але ж вашыя прыгоды хлапечыя, а нашыя дзявочыя для вас — цёмны лес і жабурынне (нам і хлопцам 11-15).

Канешне, былі шахматныя турніры. Ірынка ва ўсіх выйгравала. Але раз ці другі — я не адкідаю версіі, — можа, Эдзік ці Сярожка так-такі ўзяў ды перамог.

Я ні сном, ні духам не ведала, што там за рогам чакае. І вось мы святкуем Эдзікава 30-годдзе. І мне здарыўся ў ягонай асобе такі сапраўдны суразмоўца, што дзень стаўся насамрэч незабыўным святам (Гэта ты, той малы кучаравы ўжо столькі ведаеш?... Аж так мысліш?...)

І спявалі, і танчылі. Пінская радня завадная, спявучая, скакучая: станчым шчасце, станчым горэ! Цёця Вера (па мужу Кірэйчык, даўно ўжо гомельская) паглядала на гэта праз смугу, згадваючы сына свайго Сярожку, як везла яго з Сахаліна з «вайсковай службы» ў цынкавай труне, 19-гадовага. Не «самураі» — «свае» ахвіцэры, кожны ростам яму пад паху, «за непадчыненне», у збройным пакоі, атачылі й застрэлілі. Спісалі на няшчасны выпадак. А салдацікі маме Веры праўду расказалі.

Эдзік бедаваў па брату сябру, мы ўсе бедавалі. Нас проста зашкальвала: як магло такое быць?!

То што ж...

У часе навучання за Эдзікаў парадак-распарадак узялася была Света, кузінка ягоная па маці. Са слоў цёці Раі: Эдзік раніцай хапаецца на заняткі апрануцца — а ў шафе ўсе кашулькі ягоныя, усе пінжачкі зашпіленыя на ўсе гузікі! Сястрычка парадак зрабіла. Ото ж псіхаваў, і рагатаў, і лаяўся нязлосна «ўдзячны» студэнт-гісторык!

Прыгожай неспадзяванкай было ўбачыць Эдзіка брацік, што прыйшоў уступаць у шчыльныя рады Асветнага Скарынаўскага Цэнтру, акурат як я адтуль адбывала ў «вольнае плаванне».

Ну як не сказаць, што вось, маўляў, сцяг пераняў. І дзякуй Богу. На гэтым асветным культуразнаўчым шляху Эдуард разведаў шмат чаго і напісаў пра гэта ў кніжках, якімі людзі карыстаюцца як надзейнай крыніцай інфармацыі пра нашую культуру.

Паступова ўсё большае месца ў нашых сумоўях займала тэма паэзіі.

Калі з'явіліся мабільныя тэлефоны, як лёгка сталася перакідвацца вершыкамі ў рэжыме эсэмэсак. Ну й мы дарваліся. На кожнае свята нейкія мілыя раптоўныя радочкі прыляталі ад Эдзіка, і я наўзаем радая была старацца.

Вершыкі-вершыкі, эсэмэсачкі... Каб жа ж можна было іх узяць ды ўзнавіць! А тут і кніжачка выходзіць: «Душы маёй няконччаны палёт» (2011). Адразу падумалася: «нясканчоны»? Хтось паправіў? Ці сам сябе?

Так ці йначай, разгорнем вершы:

*Калі захлісне нас цунамі*
*Кахання — то што будзе з намі?!*
(«Калі нас накрые...» — варыянт, мой).

Тэме кахання прысвечаны цэлы раздзел з чатырох у кніжцы. І тэма гэтая злучаная з усімі як бы іншымі, бо вось жа, каханне — «бальзам для сэрца і атрута» — ёсць нічым іншым як праяваю таго самага змагання сілаў, ад якога нідзе не дзецца, той самай гульні светлаценяў, якімі пранізаны чалавечы свет, унутраны й навакольны.

Вось яно:

*Глядзі, глядзі!*
*Святло і цемра*
*Выходзяць на двубой!*

Пачуў выклік? Прымай!

... Карацей, зачапіла.

Але галоўнаю «фішкай», цікавосткай кніжкі ёсць раздзел апошні «Ад а да я. Вершы ў розных жанрах і відах» (Ад «Актавы» да «Ямбаў» — праз «Віралэ», «Гашму», «Касыду», «Кыту», «Пантарым», «Рандэль», «Рытурнель», «Рэха-верш», «Туюг», «Фард» ды інш., сярод якіх ужо знаёмыя й не такія экзатычныя «Трыялет», «Рондо», «Газэль», Танка», «Хоку») — цэлы скарб класічных free вершаформаў, заходніх і ўсходніх, узнятых з глыбінь часу ды напоўненых сучасным зместам. Сяды-тады не без іроніі, як, да прыкладу, рэха-верш:

*На дно душы нас цягне грэх —*
*Эх-эх!...*
*Жыве у думках, дзеях страх —*
*Ах-ах!..*
*У цемры лётае наш дух —*
*Ух-ух!..*
*Відаць пакінуў нас Пан Бог —*
*Ох! Ох!*

Аўтар наш далёка не самотны ў гэтым пошуку: вось жа, Юрась Пацюпа ўраджваў раз-пораз брахікалонамі, Віктар Жыбуль — паліндромамі, Вольга Куртаніч — віланэлямі, Ніна Мацяш — газэлямі, а самы «не самотны», вядома, з рондамі, трыялетамі — Максім Багдановіч.

А што казаць пра акравершы — дзясяткі, ці не сотні, аматараў-майстроў.

Ды й не злічыць ужо «танкістаў», «хакеістаў», «санетчыкаў»...



*Галіна, Эдуард і Станіслаў Дубянецкія*

...Аднак жыццё не стаіць на месцы. Другі паэтычны зборнік Эдзіка «Покліч самотнага неба» з'явіўся праз два гады, у 2013 годзе, і стаўся, як сам ён піша ў прадмове, працягам першага. «Тут доўжацца нястомныя, часам, пакутлівыя, а можа, дзе і не зусім плённыя, шуканні ў галіне формы»... Сярод апрабаваных, у свой час распаўсюджаных (а сёння рэдкіх і амаль забытых) вершаваных формаў можна назваць айрэн, глосу, гному, каламыйку, раёшнік, стракаты верш, эпіталаму, эпіфанію і г.д. Некаторыя віды і жанры верша (прыкладам, бейт, дайна, дойна, дубейцы, мураба, мусаба, нанет, нона, шаіры, эклога, эпод і інш.) увогуле ўпершыню ўводзяцца ў беларускую паэзію».

Так от. Не цацкі-пэцкі, як наш кум кажа.

Далей — болей. «У асобным раздзеле падаюцца вынайдзеныя аўтарам... формы... Сюды можна аднесці абсурда-разумку, безэквівалентку, вертыкаль-

на-гарызантальны верш, верш-пазл, інфандольку, інсурсімку, перакрыжаваны верш, шчыгрынавы верш і г.д.» І слоўнічак дадаецца тлумачальны (па якіх мерыдыянах верш чытаць).

*Паэт стварае сусвет слоў*
*Словы Сусвету ствараюць паэта*

(Мератасовачны верш)

На З'ездзе пісьменнікаў — Эдзіку ўжо цяжка было хадзіць, але ён трымаўся малайцом, «светлячком», паводле ягоных школьных сяброў, ніколі не скардзіўся на свае болькі, і наўрад ці хто староннi б мог штосьці заўважыць — селі радком дзеля здымку: дзядзя Стась, Эдуард (бацька Станіслаў заўсёды называў сына поўным імем) і я, грэшная. Ірына была ў ад'ездзе, здаецца, у Лондане, — а разам з ёй было б нас чацвёра пісьменнікаў Дубянецкіх. І пяты — ці першы — наш з Ірынай тата Міхал, нябачна прысутны.

Падчас апошняй сустрэчы з Эдзікам — хто ведаў, што апошняя — мы смяяліся: Дубянецкіх у Саюзе пісьменнікаў — як сабакаў нярэзаных!

Ну і дасмяяліся.

Тым днём, як прыйшла са шпіталю хуткай дапамогі сумная вестка, — усе гэта згадаюць, — надвор'е раптоўна перамянілася, вясновае сонца змеркла, усё ўваднячассе спахмурнела, усчаўся буран, рынуў снег...

Назаўтра мне гукнуўся рытм (Высоцкага? — хлопца каранямі таксама берасцейскага, як і мы) :

*Калі душа даспела,*
*як Божы плён,*
*з балеснага імкнецца цела*
*паўзверх заслон.*
*Але твой плён зямны застаўся*
*на радасць нам.*
*Адно прашу: ты адгукайся,*
*як будзеш ТАМ.*

# З вершаў Эдуарда Дубянецкага

## Незабыўны сон

Я сплю
Пад цёплай коўдрай цішыні.
Ў маёй душы блакітны сон ўладарыць...
Такі сон,
Пра які
І праз вякі
Душа мая
Й на небе
Будзе марыць...

## Суполка адзінотнікаў самотных

Птушка на дрэве — адна.
Ліст на тым дрэве — адзін.
Я пад тым дрэвам — адзін...

...І ўсе мы — адзінотнікі,
І восень
(Таксама адзінокая!)
З'яднала
Усіх нас,
Каб цяпер
Хаця б
Змаглі мы
Адзін аднаму
Ў вочы паглядзець...

...Вось так і ўзнікла
(Дзякуй, дзякуй восень!)
Такая незвычайная
Суполка...

***

А сёння снег ідзе-ідзе-ідзе...
І бачна, што не думае спыняцца.
Няўжо ён —
О, вандроўнік малады! —
Шчэ не паспеў
З зямлёй
Нацалавацца...

***

Тады было б сапраўдным Свята,
каб болей было святасці ў душы...

## Нябачны чароўны смычок

Калі правяду я чароўным смычком
па струнах нястомнага ліўня —
напоўніцца музыкай суму мой дом...

Калі правяду я нябачным смычком
па струнах гарэзнага ветру —
напоўніцца музыкай радасці дом...

Калі правяду я чароўным смычком
па струнах душы закаханай —
напоўніцца музыкай шчасця мой дом...

Напоўніцца музыкай роспачы дом,
калі я па струнах самотнага сэрца
ў халоднай начы правяду тым смычком....

## Калыханка

Вечар дрэвы ўжо загушкаў,
ну а я табе, дачушка,
ўжо пасцельку пасцяліла,
каб ты добра адпачыла.

Лю-лі, лю-лі, пасцяліла,
Лю-лі, лю-лі, адпачыла...

Ночка завітала ў госці
ў час спакою і мілосці,
табе казку нашаптала,
цябе, сын, закалыхала.

Лю-лі, лю-лі, нашаптала,
Лю-лі-лю, закалыхала...

Кветкі мае, дзеткі, спіце
І салодкія сны сніце.

Лю-лі, лю-лі, мае кветкі,
Лю-лі, лю-лі, спіце, дзеткі

***

— Якое дзіва дзіўнае,
зірні, —
па небу вецер скача на кані!

Калі ж зірнуў я,
адарваўшыся ад спраў,
не ўбачыў дзіва —
мо,
той вецер...праскакаў.

## Закружыцца ў танцы

У касмічным
няспынным танцы —
зоры, Месяц
і наша Зямля...
І вось так
закружыцца ў тым танцы
ў танцы шчасця
хацеў бы і я...

***

Дыхаю ў рытме Сусвету

Дыхаю дыхаю радасна
і на поўныя грудзі
дыхаю тут у вышыні...

Дыхаю ў рытме народу
тут на прыціхлай зямлі
дыхаю дыхаю
задыхаюся я бо паветра
чыстага тут вельмі ма...

## Напрасткі

На скрыжаванні
роспачы і болю
стаю,
пытаю ў сэрца:
«Куды йсці?»
А сэрца мне:
«Ідзі
праз лес пакутаў
да шчасця гаю
хутка напрасткі».

***

Вясновай ноччу
ледзве не да ранку
аўтографы
на цёмнай Кнізе Неба
ахвотна ставіла
гуллівая маланка...

## Радня

Трывожнай ноччу
і у дзень такі,
калі цалуе сонца твар ракі,
за нас
хвалююцца бацькі...
І мы
сярод лавіны слоў
пяшчотных, між нямых вятроў
адчаю,
мусім згадваць
пра бацькоў...
Бацькі —
бліжэйшая радня...
А колькі шчэ радні ёсць —
плойма!
Радня —
няйначай, радасць дня
сустрэчы з вамі —
сваякамі —
найдаражэйшым
нашым скарбам на зямлі...



*Кацярына МАСЭ. Лотаць*



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Заходнебеларускі паэт са Слонімшчыны

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на хваробы. Жыць бы яму ды жыць... У той дзень, 27 жніўня 1993 года, калі паэт Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян) ляжаў на аперацыйным стале ў Слонімскай бальніцы, упершыню паказвалі пра яго дакументальны фільм, які падрыхтаваў Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні. Цудоўны фільм, шчыры і светлы, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб тым, што будуць «яго паказваць па тэлевізары». Але больш за ўсё чакаў гэтай перадачы ён сам. Чакаў, але на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У гэты дзень паэта Алеся Сучка не стала.

Апусцела, асірацела хата ў вёсцы Азярніца на Слонімшчыне. У ёй шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Я часта гасцяваў у Пятра Навумавіча Дабрыяна. Ён шмат мне распавядаў пра гісторыю навакольных вёсак, пра лёсы яго аднавяскоўцаў. Бывала, мы з ім ішлі да Бяздоннага возера, якое знаходзіцца побач з Азярніцай. «Люблю гэтыя мясціны, — казаў Пятро Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: «Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя...».

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца ўнікальны старажытна-славянскі могільнік V-IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка і дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860-1921). Гэтыя мясціны добра ведаў Алесь Сучок, бо амаль усё жыццё было звязана з імі.

Нарадзіўся Пётр Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна Чувашыі, дзе бацькі знаходзіліся ў бежанстве. У 1922 годзе разам з бацькамі вярнуўся дамоў у вёску Какошчычы Слонімскага павета. На радзіме пайшоў у першы клас Мялькнавіцкай польскай школы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную піянерскую арганізацыю, а праз год яго выбіраюць сакратаром Слонімскага падпольнага райкама піянераў.

Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мялькнавічы Пятро Дабрыян папрасіў застацца сваіх юных сяброў у хаце. «Нам патрэбна навучанне на беларускай мове, — палымяна казаў Пятро. — Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу...».

Юныя змагары горача ўзяліся за справу. За некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце пракламацый. 16 студзеня 1934 года дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для Вішнеўскага гэта быў гром з яснага неба. Ачомаўшыся

ад нечаканасці, ён са злосцю кінуў: «Ніколі гэтага не будзе!». Тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: «Патрабуем школы на роднай мове!» Больш за дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах вёскі Мялькanaвічы, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.



*Алесь Сучок у Азярніцы, 1980-я гады*

Праз некаторы час Пятра Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года польскі акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Адбываў зняволенне ў Картуз-Бярозе.

Але да Картуз-Бярозы была яшчэ турма ў Слоніме. Там ён і пачаў пісаць свае першыя вершы. «Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся... Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне...», — распавядаў Пятро Навумавіч. А калі юнак выйшаў на волю, паціху адсылаў вершы ў Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь ці Андрэй Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс «Шлях моладзі» (№ 24) упершыню змясціў яго верш «Я бачыў» пад псеўданімам Андрэй Сучок. А праз год той жа часопіс друкуе новы верш Андрэя Сучка «Зіма», а астатнія вершы «Мне ахвота», «Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй» друкуюцца пад псеўданімам А. Сучок. А пасля Другой сусветнай вайны Пётр Дабрыян падпісваў свае вершы псеўданімам Алесь Сучок.

У простай і непасрэднай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляў свабоду. Ён пісаў пра жыццё

вясковага бедняка, пра сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў заходнебеларускага паэта быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

*Мы здабудзем перамогу,*
*Бо за намі ўвесь народ.*
*Падымайма ўжо трывогу,*
*Смела пойдзем у паход.*

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў 1930-х гадах, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка, Анатоля Іверса і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі.




*Пеця Дабрыян (паэт Алесь Сучок) у польскай турме, 1934 г.*

Перад Другой сусветнай вайной Пятро Дабрыян працаваў літработнікам слонімскай раённай газеты «Вольная праца». З рэдакцыі яго прызвалі ў армію. Вайна захапіла юнака каля Гродна. Адтуль ён прабраўся на акупіраваную немцамі Слонімшчыну. Былыя падпольшчыкі і равеснікі Заходняй Беларусі шукалі адзін аднаго. Пятро Дабрыян скантактаваўся з сакратаром Слонімскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта Феакцістам Міско. Ён, асуджаны на 12 гадоў судом Польшчы, уцёк з турмы горада Грудзёндза, калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз. Гэта быў сапраўдны старэйшы сябра і дарадца.

У лютым 1942 года Пётр Дабрыян быў выбраны сакратаром моладзевай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі Какошчыцкага падраёна. Але з адступленнем немцаў, яго забралі на фронт, давялося служыць у кавалерыйскім палку, дывізіёне баявога забеспячэння кавалерыйскай школы...

Дамоў Пятро Дабрыян вярнуўся вясной 1946 года. Працаваў на гаспадарцы, потым загадчыкам вясковага клуба, старшынёй сельскага савета, стрэлачнікам на станцыі Азярніца. Калі быў вольны час — пісаў вершы, дасылаў допісы пра вясковае жыццё ў мясцовы друк. Уладзімір Калеснік у кнізе «Сцягі і паходні» (Мн., 1965) адзначыў: «Мастацкая вартасць прыкметна паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні».



*Пісьменнікі Гродзеншчыны (злева направа) Алена Руцкая, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Сяргей Чыгрын, Мікола Арочка, Данута Бічэль, Аляксей Пяткевіч, Алесь Сучок, Слонім, 1987 год*

Пятро Навумавіч Дабрыян быў вельмі актыўным чалавекам, ён паспяваў усюды: на пасяджэнне раённага літаб'яднання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да сяброў у госці, заўсёды шчыра адгукаўся на бяду, дапамагаў і справай, і словам. Ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце раённага хору ветэранаў вайны і працы «Памяць». А як ён хораша, цудоўна спяваў! Спяваў «Зорку Венеру» Максіма Багдановіча, «Цячэ і стогне Днепр шырокі...», беларускія народныя песні. Я яго заўсёды прасіў, што-небудзь праспяваць. І ён спяваў з радасцю. Ён умеў чытаць свае вершы, чытаў, як артыст. Ён жыў музыкай, паэзіяй, у вершах была і засталася яго біяграфія, яго хваляванні, радасці і трывога:

*Прайшоў я з мовай праз пакуты,*
*Праз дзікі здзек былых паноў.*
*Не раз кайданамі быў скуты,*
*Не раз цярпеў боль бізуноў.*
*Але ад мовы не адрокся:*
*Я з ёю сеяў і касіў...*
*Сваю любоў да роднай мовы*
*Заўжды у сэрцы я насіў.*

Алесь Сучок ніколі не меціў у вялікія паэты, ды й пра гэта не думаў. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў раённы і абласны друк. І радаваўся кожнай публікацыі. Вершы яго друкаваліся таксама ў зборніках «Сцягі і паходні» (Мн., 1965), «Ростані волі» (Мн., 1990), «Золак над Шчарай» (Слонім, 1994). Яго бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверлівасцю:

*Як жаўрука пачую спеў,*
*У захапленні стану:*
*Так прывітацца б з ім хацеў —*
*Рукою не дастану.*

Калі мне бывала сумна і надакучвала гарадская мітусня, я ехаў да яго ў Азярніцу. Ён радаваўся сустрэчы. Ён любіў людзей і любіў жыць, яму заўсёды хацелася шчасця. Памятаю, у 1990-х гадах, калі быў дэфіцыт мэблі, ён, як ветэран вайны, купіў у вясковай краме для мяне кніжную шафу. Потым мы ўдваіх яе з крамы ледзьве прывалаклі дахаты Пятра Навумавіча. А калі прынеслі, то ён мне пажадаў, каб я напісаў і выдаў столькі добрых кніг, каб былі запоўненыя ўсе паліцы гэтай шафы. Тая азярніцкая мэбля і цяпер стаіць у маім пакоі гарадской кватэры. На яе паліцах месцяцца не толькі мае кнігі, але і кнігі іншых беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў.




Восем гадоў таму я сабраў вершы Алеся Сучка і выдаў асобнай кніжачкай у Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор». Зборнік назваў «Захацелася шчасця». І цяпер на паліцах шафы месціцца і паэтычны зборнічак Алеся Сучка — як успамін пра шчырага паэта і добрага чалавека.



# Васіль Жуковіч

паэт, празаік, перакладчык, эсэіст, крытык. Скончыў педінстытут у Берасці (1964 г.). Працаваў будаўніком, журналістам, рэдактарам у газетах, часопісах і выдавецтвах. Аўтар шматлікіх паэтычных кніг, сярод якіх: «Паклон» (1974 г.), «Не завіце радзіму малой» (2009 г.), «Золата лістападу» (2012 г.), «Замова ад рабства» (2017 г.), зборніка сатыры і гумару «Цудадзейны вітамін» (2011 г.), кнігі прозы «Арабінавая ноч» (2016 г.), зборнікаў песень «Дарога ля жыта» (2001 г.), «Спяваем разам» (2008 г.) і інш. Нарадзіўся на Камянеччыне ў 1939 годзе. Жыве ў Мінску.

# «Беланоч» — палац прывабны...

Калі галоўны рэдактар «Верасня» Эдуард Акулін прапанаваў мне адгукнуцца на кнігу «Беланоч» Кацярыны Масэ, я ўзрадаваўся, што мне, выхаванаму традыцыйнай літаратурай вершатворцу, давяраецца сказаць сваё слова пра неардынарныя, часам загадкавыя і заўсёды разняволеныя вершы маладой паэткі. Нечаканую і жаданую прапанову прыняў, аднак з прыхаванаю трывогай: я ж не ўсё ў яе творах разумею... Але трывога развеялася, бы ранішні туман пад цудадзейнымі промнямі сонца, як толькі ў рукі ўзяў кнігу, арыгінальна пададзеную жрацам мастацтва. Яшчэ не пачынаў чытаць творы, а ўжо й прадчуваў паэзію Кацярыны Масэ, зачараваны пластыкай ейнае графікі, а перадусім нязвыклым дызайнам вокладкі, мастакоўскім бачаннем свету. Скрозь тут пануе добры густ, гармонія.

Быццам у таямнічы, заварожаны свет, я ўваходзіў у прывабны палац «Беланочы», высокі, асветлены яскравым месяцовым святлом, увенчаны і прывечаны зоркамі. Ягоная гаспадыня як бы рашуча старалася абяззброіць мае сумненні адносна магчымасці паэта штосьці ў паэзіі не зразумець: «...паэзія — непадступная: чым больш набліжаешся — тым менш выразным становіцца яе абрыс». Пры ўваходзе і пры паглыбленні ў «Беланоч» прачыталіся і такія пытанні ды катэгарычна-адназначныя адказы ў празаічных развагах аўтаркі пра самы крылаты жанр літаратуры: «Ці магу я зразумець паэзію? Не»; «...ці магу я да гэтага імкнуцца? Роўна настолькі, наколькі яна дазваляе рабіць гэта з сабою». Узгадаліся словы аднаго паэта-расіяніна: «Она чем непонятней, тем сильней». Гэта — пра музыку. Хай сабе парадаксальная думка, але музыку розныя людзі, натуральна, могуць разумець па-свойму, а то і ўвогуле не разумець, што не замінае не толькі слухаць яе, а й любіць. Што ж да мастацкага слова, то яно куды больш адназначнае, чым нават самая даступная музыка. Падумалася пра класіку, найперш пра геніяў. І Міцкевіч, і Шаўчэнка, і Багдановіч, і Купала, а тым болей Колас, — усе даволі зразумелыя. Але зразумелы мне і максімалізм, уласцівы аўтарцы «Беланочы», як і многім маладым творцам. Прынамсі, наступную развагу Кацярыны Масэ ў якасці яе ключавой думкі пра высокае мастацтва, што прачытаў у яе паэтычным храме, прымаю цалкам: «...паэзію можна толькі пражываць — піць са святарных крыніц, не высвятляючы хімічны склад вады».

Вось і пражываю, п'ю, смакую сказанае так свежа пра дужа знаёмае і святое:

*мама!*
*ад ночы да рана разгорнена сэрца тваё жыццядайнаю ранай,*
*сівым блаславеннем — ў ім нашыя крылы прымаюць гаючыя ванны.*

Радкі ўзятыя з багатага кантэксту верша «Поўня». Іх вылучаю невыпадкова, імі хачу сказаць таленавітым чытачам (у «Верасня», пэўна, — выключна такія чытачы!), асабліва юным паэтам: тут якраз той выпадак, калі ад прыватнага толькі адзін крок да агульначалавечага... Іх жа ўвагу звяртаю і на свежую мета-

фарычную мову. Разгорнена маміна сэрца *«жыццядайнаю ранай»*! Наўрад ці хто яшчэ з паэтаў свету гэтак пранікнёна сказаў пра самаахвярнасць. Падобным чынам рэагую на выслоўе: *«...нашыя крылы прымаюць гаючыя ванны»*. Менавіта метафарычная мова пры арыгінальным мысленні творцы пакіне ў чытачоў глыбокае ўражанне.

Поўным святла, добрага душэўнага неспакою, прагаю перамогі і вераю ў яе бачыцца мне «калінаў мост». Просяцца на гэтую старонку хоць бы два першыя васьмірадкоўі верша:

*буслы нам замест гнёздаў*
*звілі калінаў мост.*
*хадзем, пакуль не позна, —*
*вунь месяц уваскрос!*
*ён будзе абаронцам*
*ды верным ваяром.*
*дай выпіць кроплю сонца*
*з тваіх вачэй нагбом.*

(Не магу стрымацца, не акцэнтаваць на моўнай смакаце, на жаданні выпіць кроплю сонца з вачэй, прытым — *нагбом*! Дый месяц уваскрослы — таксама знаходка!)

*хадзем жа — светлых духам*
*чакае светлы дом.*
*мы покліч цёмных духаў*
*адгонім палыном.*
*пакуль мы рушым поруч,*
*дух смерці рушыць прэч.*
*хай будзе нам у помач*
*твой светланосны меч!*

Меч бывае суровы, цяжкі, смертаносны, а тут ён *светланосны*. Цуд!

Моц духу выяўляецца не раз у радках Кацярыны Масэ, як, да прыкладу, і ў наступных:

*не згінайма калень у паклоне чужым абразам!*
*алатыр шчэ блішчыць запаветнай зямлёю на шыі.*
*хай ягоны цяжар прывядзе нас туды, дзе дух сам*
*здабывае сябе і ачаг аніколі не стыне.*

Такая канцоўка верша «алатыр». Тут крыху вышэй ёсць радок:

*«мы шматкроць гандлявалі у храмах уласнай душой...»*

Зараз будзе дарэчы звярнуцца да цікавае развагі Кацярыны Масэ: «Калі паэзія і люстра, то люстра такое, якое адбівае не столькі рэчаіснасць, колькі ў рэчаіснасць. Пакуль перамагае рэчаіснасць, паэзіі як такой яшчэ няма, бо калі паэзія ёсць, яна непазбежна перамагае».

У стваральніцы «Беланочы» і пры канстатацыі факта (даволі рэдкай, дарэчы) перамагае паэзія, *паколькі й сам факт з рэчаіснасці, з нашае гісторыі ў яе паэтычны*.




Нельга не заўважыць, як люба спалучаюцца ў яе глыбіня думкі і вытанчанасць пачуцця: «не праміні //між любой і любаю тонкую мяжу» (з верша «ключы»); «сэрца біла ў няволі грудзей капытом, // што ні вершнік — скідала з вяршыняў сваіх» (з верша «спакон»).

Які ж гэта прыемны занятак — успрымаць душою чыесьці адкрыцці! «нявеста ненявесная» — так дзівосна назвала паэтка адзін з вершаў. Працытую хоць бы ягоны пачатак і фінал:

*што мне свабода, з каторай не вырвацца?*
*воля-нявольніца, доля-нішчымніца.*
*веру — не верыцца. праўда гарбатая*
*скарб закапала пад юнаю хатаю.*
*.........................................................*
*буду нявестай сабе ненявеснаю.*
*ягады белыя, ягады прэсныя*
*хай саспяваюць грымучымі вёснамі,*
*хай я ніколі не буду дарослаю!*

А «кропку незвароту» сабе дазволю паказаць апантаным чытачам цалкам (як бы скептычна ні ставіўся я да абсалютнай адсутнасці знакаў прыпынку), бо твор фантастычна разняволены:

*скарае тайнай незвароту*
*шторух да вострава Буяна*
*спрачацца з пенаю ля рота*
*умеюць толькі акіяны*
*а я ўсё б'юся хваляспевам*
*аб берагі тваёй нямоты*
*за кожным словакрокам смела*
*я стаўлю кропку незвароту*
*хто утапіўся ў даляглядзе*
*хто галаву аб безбярэжжа*
*разбіў у кім дрымота гладзі*
*расцерушыла дух мяцежны*
*а я вярхом на грэбнях хваляў*
*я павады вады сціскаю*
*мяне туды нішто не звала*

*але ужо не адпускае*
*настрэч лазуркавым варотам*
*за валам вал імчыцца п'яны*
*за кожнай кропкай незвароту*
*стаіць шматкроп'е акіяна*

Моцнаю лірычнаю спружынай вылучаецца «млынарка»:

*калі ў горле пасмаглі сады*
*і душа парасла пустазеллем,*
*я стаю ў рот набраўшы вады*
*і на сэрца ўзваліўшы каменне.*

*кроў бушуе і пнецца, як бык,*
*ды не точыцца сілаю камень,*
*ды не менціцца ржавы язык,*
*што б там вусны мае ні казалі.*

*мае чуцці рыпяць, як млыны,*
*і ў грудзях маіх круцяцца жорны —*
*не крывёю й жалезам — слязьмі*
*размываецца скалы і горы.*

*ува мне карагодзяць вятры,*
*перамолваюць долю й нядолю —*
*у маім разбуральным віры,*
*у маім васьміспіцавым коле!..*

Верш у маёй падачы незавершаны: эканомлю месца яшчэ для аднаго адметнага твору — «сон над прадоннем», дзе таксама ўзрушаны лірычны пульс:

*я дрыготкім агорнута сном над прадоннем —*
*птушанятка у зыбцы — у божай далоні.*
*крылы коўдрай эфіру накрыў небакрай —*
*не пускай, не пускай, не пускай...*

*рунь рубінавых слёз з па-над хмарных скляпенняў,*
*ручаі галасоў з нематы падзямелля.*
*рытмы сэрца твайго мяне б'юць цераз край —*
*утрымай, утрымай, утрымай...*

*у грудзях маіх спеюць духмяныя словы —*
*гукапад блудных слоў з пракаветнага дрэва.*
*жыццяпадам душы ў вечнасць прорвы ўвайсці*
*мне дазволь — адпусці, адпусці!*

Здавалася б, чым сёння можна здзіваваць самых дасведчаных і няўрымслівых чытачоў, калі беларускую паэзію даўно разняволілі Максім Танк, У. Караткевіч, А. Вярцінскі, М. Купрэеў, а ў найбольшай ступені А. Разанаў; калі ў яе багатую скарбніцу бліскучы віртуоз Р. Барадулін унёс шыкоўную моўную стыхію, наватарскае валоданне словам, рыфмаю, вобразам; калі Ніл Гілевіч узбагаціў яе раманам у вершах і нечакана-ўнікальным «Сказам пра Лысую гару»; калі ўдаравалі ёй залатыя старонкі высокадухоўнае і высокамаральнае лірыкі Анатоль Сыс, Яўгенія Янішчыц і Ніна Мацяш; калі новых эстэтычна-мастацкіх вышыняў дасягнулі майстры слова У. Някляеў, Р. Сітніца, Э. Акулін, Л. Дранько-Майсюк, Н. Кудасава... Аказваецца, можна здзівіць. І трэба здзіўляць! Інакш нельга, бо паэзія — дзіва. А той, хто можа дзіваваць, сам не можа не здзіўляцца ласкаю і драмаю жыцця. Што да Кацярыны Масэ, то яе творчыя магчымасці, улічваючы і талент, і маладосць, — н е а б м е ж а в а н ы я. Як сведчанне гэтага — ейнае «самабыццё»:

*я закончуся, перш чым паспею нарэшце пачацца.*
*я запомню сябе чыстай мыслю аб самабыцці.*
*я запоўню сябе чыстай воляй да вечнае працы*
*над нічым, што насупар нябыту павінна цвісці.*

*я пачнуся раней, чым паспею зазнаць, што сканаю.*
*я запоўню сябе чыстым бунтам насупар канцу.*
*я запомню сябе чыстым словам аб творчым раі,*
*дзе тварэц-чалавек супрацьстане свайму Тварцу.*

**P. S.**

«Ну а што ж ты прамаўчаў пра, так бы мовіць, праграмны верш паэткі?» — можа недаўмяваць хтосьці з самых уважлівых чытачоў. І я адказваю: наўмысна прамаўчаў пра мілагучны найпершы паэтычны твор неаб'ёмнае, але багатае кнігі «Беланоч». Прамаўчаў для тых, да каго пакуль не трапіў у рукі скарб...



# Алесь Аркуш

паэт, празаік, выдавец. Стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў. Заснавальнік альманаха «Ксэракс Беларускі» і часопіса «Калосьсе». Каардынатар літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Аўтар словаў гімна горада Полацка, а таксама чатырох раманаў і шэрагу кніг паэзіі і эсэістыкі. На Беларускім Радыё Рацыя вядзе перадачу «Жыццё з літаратурай». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку і Беластоку.

# Чатыры паэты і іх кнігі: Рудкоўскі, Купрэеў, Каско, Галубовіч

## Міхась Рудкоўскі

***Сінія Брады: Вершы. — Мн.: Беларусь, 1967, — 112 с.***

Кніга пачынаецца адмысловым, можна сказаць, праграмным вершам паэта, які называецца «Мой дзед быў сельскім кавалём». І напісаны ён не таму, што аўтар хоча падкрэсліць, што ён паходзіць з сялянаў. І не таму, што дзед мог навучыць яго ўласнае шчасце каваць. Зусім не.

*Сякера гахкала ў лясах,*
*звінела у лугах каса,*
*што дзед загартаваў;*
*падковай высякаў агонь*
*на кіламетры сотым конь,*
*што дзед мой падкаваў.*

У вершы дзед спакойна, з пачуццём выкананага жыццёвага абавязку, памірае. А яго справа застаецца, і аднавяскоўцы згадваюць свайго каваля толькі добрым словам. Паэт як бы прымярае на сябе гэтую ролю — быць карысным, і пакінуць пасля сябе добрую памяць. Нездарма верш мае прысвячэнне вядомаму берасцейскаму літаратуразнаўцу, можна сказаць, бацьку ўсёй літаратуры Берасцейшчыны другой паловы XX стагоддзя Уладзіміру Калесніку.

У вершы «Музыка» паэт расказвае, што ўсё навокал спявае, усё мае свой голас, — травы, дрэвы, ручаіны, дамы, правады, рэйкі, турбіны, косы. І паэт прызнаецца, што баіцца стаць у гэтым шматгалоссі «непрыкметным акордам», а ён, насамрэч, мусіць узняцца над стыхійным і даць свайму голасу «форму — разумную, строгую форму».

*Баюся, што стану і сам непрыкметным акордам*
*ці гукам адным у хаосе блакітнага ліўня.*
*А мне трэба ўзняцца над ім, непакорным, стыхійным,*
*і даць яму форму — разумную, строгую форму.*

То бок, стаць сапраўдным паэтам, з уласным, непаўторным голасам.

Ну і праз увесь зборнік праходзіць тэма ракі. Гэта ўвогуле скразная тэма ўсіх паэтаў з Палесся.

*Я рос на плёсах. І не толькі ў сне*
*мяне на спіне успацелай хвалі,*

*нібы ў калысцы, у чаўне люлялі;*
*не раз ступаў нагой па шорсткім дне.*

*Ці не таму — пазнаўшы глыбіню —*
*я сёння, быццам дзікі птах, без страху*
*усёй душой, усёй істотай прагну*
*рукой сваёй пакратаць вышыню?...*

***Гарынь: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1992, — 238 с.***

Пра Міхася Рудкоўскага напачатку 90-х мне расказаў паэт Алег Мінкін. Расказваў з захапленнем, цытаваў ягоныя вершы. У першай палове 80-х Мінкін жыў у Берасці, там пазнаёміўся з Рудкоўскім і захапіўся ягонай паэзіяй. У 70-я гады Рудкоўскага называлі галоўным паэтам беларускага Палесся, першым, па-сапраўднаму прафесійным паэтам, які стала жыў і працаваў у Берасці.

Сёння ад той вядомасці, на жаль, мала чаго засталося. Хоць нібыта ёсць музей Міхася Рудкоўскага ў роднай для яго Востраўскай сярэдняй школе, што ў Ганцавіцкім раёне на Берасцейшчыне. Ёсць нават дзве вуліцы, названыя яго імем, — у саміх Ганцавічах і ў роднай вёсцы Востраў. Ёсць мемарыяльная шыльда ў Берасці на доме, у якім ён жыў. Але пісьменнік жыве перадусім у сваіх кнігах. Апошняя кніга Рудкоўскага «Гарынь» выйшла ў 1992 годзе. Дарэчы, сам Міхась Міхайлавіч гэтай кнігі так і не дачакаўся, бо пайшоў з жыцця 7 ліпеня 1991 года.

Наўрад ці ў Менску будуць рупіцца і імкнуцца захаваць творчую спадчыну паэта Берасцейшчыны, хутчэй, гэта справа берасцейскіх літаратурных колаў. Бо да сёння так і не пабачыла свет кніга выбранай паэзіі Рудкоўскага.

Назвай апошняга паэтычнага зборніка «Гарынь» паэт як бы развітваўся са сваім любімым Палессем. У анатацыі да кнігі пазначана, што Гарынь — любімы палескі вобраз паэта, які сімвалізуе жыццёвую трываласць палешукоў, іх імкненне да прыроднай чысціні і прыгажосці.

Вершы Рудкоўскага адпавядаюць лепшым узорам беларускай паэзіі XX стагоддзя. А калі казаць пра паэтычную спадчыну Берасцейшчыны, то ён адзін з наймацнейшых паэтаў краю, сапраўдны класік. І менавіта ягоныя вучні Алесь Каско і Мікола Пракаповіч годна перанялі ад настаўніка творчую эстафету.

А ў самім вершы з назвай «Гарынь» паэт выказвае падзяку і родным мясцінам, і роднай рацэ, і жыццю, якое яго злучыла з усім гэтым.

*Люблю цябе — і з прагаю шчаслівай*
*Прыму твой кожны, нават чорны, дзень.*
*Мне будзе блізкім ён, нібы дыханне,*
*Прайду яго гарачыню і стынь...*
*Над забыццём, над славай і ў расстанні*
*Гары, рака, гары, мая Гарынь!*

## Мікола Купрэеў

***Непазбежнасць: паэзія. — Мінск: Беларусь, 1967, — 87 с.***

Гэты зборнік вершаў выглядае адметным і арыгінальным нават праз 53 гады. Цяжка сказаць, на якія ўзоры беларускай паэзіі арыентаваўся тагачасны малады паэт Мікола Купрэеў. Відавочна, тут прысутнічае ўплыў сусветнай паэзіі, бо, напрыклад, у кнізе ёсць верш, прысвечаны польскаму паэту Юліяну Тувіму.

Як на маю думку, паэзія Купрэева вельмі блізкая прыбалтыйскай — літоўскай, латвійскай, эстонскай — у падмурку якой ляжыць фальклор і сялянскі светагляд, з вельмі моцным язычніцкім дамешкам. Па-першае, сама форма верша вельмі адрознівалася ад тагачаснай дамінантнай беларускай — гэта пераважна балады і элегіі з актыўным выкарыстаннем белага верша. Па-другое, паэзія Купрэева мае блізкае да прыбалтыйскай гучанне — ціхая, лірычная інтанацыя, без якіх-кольвечы моцных эмацыйных пачуццяў, з ужываннем фальклорных матываў.

Пачынаецца зборнік ужо хрэстаматыйным вершам «Я хацеў вам сказаць...». Хто б ні пісаў пра Купрэева, гэты верш звычайна згадвае. Больш таго, адзін з радкоў гэтага верша выбіты на надмагільным помніку паэта — «О, я многа хацеў вам сказаць!» Паэт у вершы кажа пра таямніцу і прыгажосць жыцця, і што чалавек у гэтым жыцці толькі складнік усяго існага:

*калі расцвітаюць кветкі —*
*вы іх не тапчыце,*
*калі жаўранак ў горле нясе зару —*
*вы лепш памаўчыце...*

І ўсё ж аднаго беларускага паэта можна назваць, які істотна паўплываў на Купрэева, прынамсі, быў яму вельмі блізкі і родны — гэта Уладзімір Караткевіч. Бо, напрыклад, верш «Калі хочаш наведаць мой край» выглядае амаль рэміксам да рамантычна-патрыятычных вершаў Караткевіча.

*Шчасце тут не міне*
*ні цябе, ні мяне.*
*Прыязджай.*
*Прыязджай!*
*З-за бярэзніку выйдзе насустрач табе*
*курган-каравай,*
*а потым,*
*адразу,*
*як мора,*
*пойдзе к табе*
*гэты дзіўны ўвесь край....*

І пры ўсёй элегічнасці і лірычнасці прысутнічае ў зборніку і неспакой за лёс роднага краю, за яго будучыню. У тым самым вершы «Калі хочаш наведаць мой край» ёсць такія радкі:

*Прыязджай!*
*Толькі хачу папярэдзіць:*
*ад бруду,*
*калі ён ёсць,*
*шчэ здаля*
*ногі свае выцірай,*
*рукі свае выцірай,*
*сэрца сваё выцірай -*
*калі хочаш наведаць*
*мой родны*
*зялёна-блакітны край.*

***Правінцыйныя фантазіі: Вершы, паэма. — Мн.: Маст. літ., 1995, — 94 с.***

Чаму Мікола Купрэеў напісаў гэтыя вершы? Каб надрукавацца і атрымаць ганарар? Наўрад ці. Непадобна. Каб вымаліць сваёй душы хоць нейкі супакой ці суладдзе? Магчыма. Аднак паэт не дужа цырымоніцца са сваёй Музай. Ён «адпіхнуў яе кволай рукою і камень штурхнуў за музай сваёю...» Калі і звяртаецца паэт да каго з просьбамі, дык, бадай, толькі да вярбы, або да маці (якую ён нярэдка атаясамлівае з родным полем, бярозай, рэчкай). Купрэеў не ставіцца да сваёй паэзіі, як да нечага надзвычайнага, павучальнага, сацыяльна-сінкрэтычнага. Нават пасмейваецца з паэтаў, якія імітуюць сваю грамадскую значнасць.

*Побач Бібіцкі, мясцовы паэт,*
*у творчых пакутах моршчыцца —*
*піша ў «Палесскую праўду» санет*
*пра «перастойку» ў Плошчаве.*

Паэзія Купрэева арганічная, як і само жыццё, якое нельга патлумачыць з пазіцыі логікі, якое заўсёды непаўторнае і пачынаецца там, дзе «вада плыве без берагоў, берагі плывуць да неба...» Метафізіка жыцця ў кнізе «Правінцыйныя фантазіі» аб'яднаная з метафізікай смерці. Побач з жывымі ходзяць па зямлі памерлыя, шукаюць сваіх родных — пабачыць, пагутарыць, аб чымсьці папярэдзіць. Увесь свет быццам змяшаўся, атрымаўся «ўтульна-няўтульны Хаос» паэта, у якім не разлучаюцца «каханне і здрада, ціша і тлум». Акрамя таго, незагойны боль ад чагосьці страчанага не дае супакою. Паэт шукае гэтае штосьці, увесь час вяртаецца назад, але не патрапляе ў свой след — не той лес, не тая рэчка, не тое віно. Мажліва, наперадзе паэт згубіў гэтае штосьці? Ці не туды вядзе «мост над глыбокай вадой»?

Ва ўсёй кніжцы Купрэева прысутнічае Караткевіч, і Бог караткевічаўскі (які жыве на Беларусі), і Каліноўскі, і нават хлопцы, якіх клічуць сурмы на Грунвальда і Воршу. Праўда, прысутнічаюць яны як цені, як караткевічаўскія рэмінісцэнцыі, бо пакуль ім няма месца ў «правінцыйных фантазіях». Эмбрыён

неарамантызму Уладзіміра Сымонавіча ў Купрэева не здолеў набыць якасці эстэтычнай дамінанты. Прысутнасць яго ў «Правінцыйных фантазіях» экзістэнцыянальная. Лірычны герой Купрэева мае быццам толькі астральнае цела. Яму нават «ад віна — не лягчэй». І шукае паэт не ўчорашняе сацыяльна-стабільнае, або юнача-рамантычнае жыццё, а страчаную душэўную гармонію, сумоўе (якое, напэўна, ён меў толькі ў сваім уяўленні).

І таму зноў Купрэеў выпраўляецца ў дарогу, пройдзе клады, за якімі — Зарэчча, Забалоцце, Замошша, Залужжа, Заполле, Залессе... Паэту здаецца, што толькі там ён здолее адшукаць страчанае. Вось толькі ці здолее? Старая хата амаль збуцвела. А новую пабудаваць... ці хопіць сілаў? Застаецца — зноў выпраўляцца ў дарогу.

*Ля ўпалых веснічак стаю,*
*Не слухаю, не бачу ўжо нічога.*
*Пакінуў месяц мілаю страху.*
*Іду паціху на дарогу.*

***Палеская элегія: аповесці. — Мінск: Литература и Искусство, 2007, — 311 с.***

Гэтую кнігу чакалі даўно. Уявіці сабе, вядомы пісьменнік, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова пры жыцці меў толькі два зборнічкі паэзіі. Проза ў фармаце кнігі выйшла ўжо пасля яго смерці.

Прозу Купрэеў пачаў пісаць у сярэдзіне 90-х. Перыядычна яна з'яўлялася ў часопісе «Крыніца». Гэта былі аўтабіяграфічныя аповесці. Прычым надзвычай шчырыя і ў адносінах да сябе, і ў адносінах да сваіх крэўных, такія шчырыя, што нават пакрыўдзіўся родны бацька, і аднойчы, падчас візіту пісьменніка на радзіму, не пусціў сына ў хату.

Калі лепшыя аповесці Купрэева былі аб'яднаныя пад адну кніжную вокладку, стала зразумела, што пісьменнік апошнія гады жыцця пісаў адну кнігу. Аповесці не толькі дапаўняюць адна адну, а, часам, нават і перагукаюцца нейкімі агульнымі падзеямі і героямі, але таксама добра складаюцца разам храналагічна.

Кніга пачынаецца аповесцю «Дзіцячыя гульні пасля вайны», у якой пісьменнік апісаў сваё ваеннае і пасляваеннае дзяцінства. Бадай, гэта самы шчыры, пранікнёны і пачуццёвы твор Купрэева. Праз усю аповесць адмысловым пакутлівым рэфрэнам ідзе згадка пра смерць маці, якую забілі паліцаі падчас вайны ў яго, маленькага хлопчыка, на вачах. Дакладней, яны яе паранілі і закапалі ў зямлю яшчэ жывую. Гэты боль і жах прысутнічаў у душы пісьменніка ўсё жыццё. І ў аповесці Купрэеў як бы спавядаецца перад маці, расказвае, што было далей, калі мамы ўжо не было побач. З любоўю піша пра сваіх дзядоў, якія і выхоўвалі сірату, згадвае сваіх сяброў, піша пра гульні і працу, якой на вёсцы заўжды было шмат і для малых дзяцей. Менавіта гэты твор найбольш абурыў і раззлаваў бацьку пісьменніка. Цяжка зразумець, за што менавіта? Магчыма, бацьку падалося, што сын абвінавачвае яго ў смерці маці. У прынцыпе, так і

атрымалася, яе забілі таму, што ён пачаў уцякаць у лес, калі паліцаі і немцы прыехалі яго арыштоўваць. Але ніякіх прамых абвінавачванняў у творы няма. Хутчэй за ўсё, бацьку, які пасля вайны працаваў дырэктарам вясковай школкі, не падабалася зусім іншае — ва ўсіх творах Купрэева прысутнічае непрыхаваная крытыка савецкага ладу. А гэта ўжо для бацькі, які быў выхаваны за часамі Сталіна, выклікала не проста крыўду і абурэнне, але і страх.

Бадай, самай антысавецкай з'яўляецца аповесць «Па вуліцы Карла Маркса з Паэтам». Усе падзеі ў гэтым творы адбываюцца за адзін дзень. Герой аповесці вяртаецца ў родны райцэнтр, дзе яго павінны прыняць на працу журналістам у раённую газету. З гэтай нагоды яму прызначана аўдыенцыя кіраўніком раённага ідэалагічнага аддзела. За героем аповесці ўвязваецца шчанюк, якога той называе Паэтам, які і робіцца сведкам усіх падзеяў, што адбыліся са старым журналістам, і нават яго абаронцам. Журналіст толькі за тое, што правёў дахаты п'янага аднакласніка, які, аказваецца, у маладосці быў дысідэнтам, і ў вар'ятні яму ўстаўлялі мазгі, трапляе ў міліцыю, там яго збіваюць, а верны сабачка спрабуе сябра абараніць, за што і паплаціўся жыццём. Вось такія новыя парадкі сустрэлі героя аповесці ў родным райцэнтры. У райвыканкам журналіст прыходзіць, але пабачыўшы мясцовага ідэолага, хутка сыходзіць з тутэйшага Дома Саветаў і зноў збіраецца з'язджаць з родных мясцінаў.

Пра Міколу Купрэева шырока ў літаратурных колах пачалі гаварыць прыканцы 90-х. Ягоныя аповесці, якія друкаваліся ў «Крыніцы», прыязна чыталіся, абмяркоўваліся, пра іх пісалі крытыкі. Здавалася, што адкрыццё пісьменніка адбылося хаця б прыканцы яго жыцця. Але прыйшлі новыя часы, новыя парадкі, новыя літаратурныя расклады. І зноў Купрэеў аказаўся ў паўзабыцці — нязручны, непрычасаны, незгаворлівы, з пякучым болем у сваіх творах.

Ужо некалькі год як Леанід Галубовіч падрыхтаваў да друку новую кнігу прозы Купрэева, але выдаць яе ў яго ніяк не атрымліваецца.

## Алесь Каско

***Час прысутнасці: Вершы, паэма / Алесь Каско. — Мн.: Маст. літ., 1994, — 159 с.***

Беларускія кнігі, якія выходзілі напачатку 90-х, істотна адрозніваюцца і ад ранейшых, якія пабачылі свет за савецкім часам, і ад тых, што выходзілі пазней — хаця б у другой палове 90-х. Адрозніваюцца яны і вонкавым выглядам, і зместам. Сціплыя вокладкі, танная папера, найтаннейшы друк. Затое разнявolены змест, адсутнасць жорсткай цэнзуры (перадусім, унутранай), больш выразны нацыянальны змест. Асабліва гэта датычыць паэзіі, якая з'яўляецца самым мабільным літаратурным жанрам і хутка адгукаецца на сацыяльныя і палітычныя змены.

Вось і выгляд гэтай кнігі паэта Алеся Каско з Берасцейшчыны яскрава сведчыць пра адметную пару з'яўлення яе на свет. Зборнік «Час прысутнасці»

выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе і аб'яднаў вершы, якія былі напісаны напрыканцы 80-х напачатку 90-х. Гэта, бадай, адна з найлепшых паэтычных кніг Алеся Каско.

У той час ён быў у сваёй, так бы мовіць, найвышэйшай паэтычнай форме. Пісаў шмат і ў сваё задавальненне. Яго актыўна друкавалі ў сталічных выданнях. Узначальваў Берасцейскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Новы час палітычнага віравання не збіў Алеся Каско з панталыку, у тым сэнсе, што ён не кінуўся кан'юктурна пісаць сугучныя часу грамадска-палітычныя вершы. Якраз, наадварот. Кніга «Час прысутнасці» — узор добрай беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя. Дастаткова агучыць назвы раздзелаў кнігі: «З кайстраю і лірай», «Свет белы, чырвоны след», «Цябе я клікаў», «Быў і прайду». Як бачым, няма ніякай, актуальнай часу, рыторыкі і скараспелых паэтычных высноваў.

А што ёсць? Ёсць традыцыйная лірыка, калі паэт патрапляе ў вір пачуцця. Ёсць філасофскія развагі — пра мінулую гісторыю, пра грамадскія падзеі, пра адносіны між людзьмі.

Завяршае кнігу паэма «Апазнанне». Вось у ёй паэт і скарыстаўся доўгачаканай вольніцай на мастацкае слова. Паэма пра пакалечанае вайной дзяцінства, пра пасляваенную беларускую вёску, пра няпрошаных «гасцей» у пагонах. У паэме рэфрэнам гучаць радкі:

*Калі зямля, тваё прызванне —*
*нас нарадзіць і пахаваць,*
*дык жыць — людзей наканаванне...*
*Не навучыліся, відаць.*

***Межавыя знакі: вершы, навелы і мініяцюры, дзённік / Алесь Каско. — Мінск: Кнігазбор, 2014, — 203 с.***

У Беларусі ёсць пісьменнікі, якія выразна належаць да пэўнага рэгіёну. Здаецца, што яны настолькі трывала ўпісаныя ў культурны ландшафт сваёй малой радзімы, што без іх яна згубіла б нейкую вельмі важную асаблівасць. На Берасцейшчыне да такіх пісьменнікаў належыць Алесь Каско. Тут ён нарадзіўся, тут вучыўся ў Берасцейскім педагагічным інстытуце, тут пачыналася ягоная літаратурная кар'ера, тут ён стаў лідарам мясцовых нацыянальных літаратурных сілаў, тут напісана большасць яго літаратурных твораў.

Раней ведаў Алеся Каско пераважна як паэта. Ды і ўсе ягоныя ранейшыя кніжкі былі паэтычныя. І вось пабачыў свет зборнік, які аб'яднаў і паэзію, і прозу пісьменніка. І я адкрыў для сябе празаіка Алеся Каско. Чымсьці ён нагадвае мне віцебскага майстра малой прозы Сяргея Рублеўскага. Відаць, кранальнай шчырасцю, калі аўтар піша аўтабіяграфічныя творы і дзеліцца ў іх, здавалася б, самымі таямнічымі думкамі і жаданнямі. Але ёсць паміж імі істотнае адрозненне. У прозе Каско бачна, што яе напісаў паэт. Некаторыя невялікія навелы хутчэй падобныя да вершаў — сваёй вобразнасцю і метафарычнасцю.

Змешчаны ў зборніку таксама «Чудзінскі дзённік». У 2003 годзе пісьменнік едзе ў родную вёску Чудзін на Ганцаўшчыне і вырашае апісаць наведванне малой радзімы ў такі спосаб. Яшчэ больш-менш жывая вёска, яшчэ жывыя бацькі, яшчэ шмат знаёмых людзей, з якімі разам рос і сталеў, яшчэ такія шчымлівыя і настальгічныя ўспаміны дзяцінства. Паэт як бы вяртаецца ў сваю маладосць і шукае тыя знакі і пачуцці, якія яму дарагія, без якіх ён проста не адбыўся б.

У вершах паэта, які склалі асобны раздзел «Халодны дом», аўтар разважае над імклівасцю жыцця, пра свой уласны абавязак перад ім.

*Я не заўважаў, што час бяжыць,*
*што я часовы на зямлі,*
*і ўсё жыццё збіраўся жыць,*
*сабраўся — жыць няма калі.*

Паэт не можа зразумець прыроду тых разбуральных сілаў, якія знішчаюць яго вёску, якія робяць падчаркай у роднай хаце беларускую мову, якія прымушаюць паэтаў рабіцца ў родным краі эмігрантамі.

Паэт кажа пра свае ўласныя перакананні і каштоўнасці, як пра нейкую фартэцыю, якую ён і надалей будзе бараніць кожным уздыхам, кожным радком.

*Пакуль ёсць дух, пакуль я цэлы,*
*па гэты бок вас не пушчу;*
*сабе самому склаў я цэннік*
*і сам рахунак аплачу.*

***Скразная лінія: Вершы. — Мн : Маст. літ., 1982, — 62с.***

Цяжка паверыць, што Алесь Каско — гэта ўжо старонка гісторыі беларускай паэзіі, у яе завершанай, канчатковай форме. Яшчэ нядаўна Алесь быў дзейсным удзельнікам літаратурнага працэсу на Берасцейшчыне. А калі разглядаць два апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя, то ён быў рухавіком гэтага працэсу, узначальваў абласную арганізацыю Саюза пісьменнікаў, рабіў перадачы пра сваіх калегаў, працуючы ў літаратурна-драматычнай рэдакцыі Брэсцкага тэлебачання.

Цяпер гэтую завершаную старонку можна ўважліва разглядаць і вывучаць.

Афіцыйна першай кнігай Алеся Каско лічыцца «Вестка», якая выйшла пад вокладкай калектыўнага зборніка «Нашчадкі». Насамрэч, першай асобнай кнігай паэта з'яўляецца зборнік «Скразная лінія». Гэта невялікі зборнічак кішэннага фармату, які аб'яднаў 62 вершы. Яны, відавочна, былі напісаныя ў Жабінцы, дзе паэт у той час працаваў у мясцовай раённай газеце. Менавіта пасля гэтай кнігі паэт быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Дарэчы, у Жабінцы ён і пражыў свае апошнія гады жыцця, там ён і пахаваны.

Але што гэта за «скразная лінія», якая дала назву зборніку?

*Цяплынь,*
*і шчодрасць навальнічная,*
*і сухавей, і градабой*
*зялёным полем намагнічаны,*
*з'яднаны лініяй скразной.*

І заканчваецца верш такімі радкамі:

*Але ўзыходзіць зноў*
*азіміна,*
*зарой зялёнай устае.*
*І пачынаюся з Радзімы я,*
*каб стаць падобным да яе.*

І гэта, бадай, адзіны верш у зборніку, у якім прысутнічае крыху пафасу. Але ў зборніку зусім няма вершаў пра партыю, савецкія святы, крэйсер «Аўрору», Маскву, і нават пра Пушкіна. Зборнік можна назваць правінцыйным, у лепшым разуменні гэтага слова. Калі паэт з любоўю піша пра сваё навакольнае несталічнае жыццё. Так пісалі большасць землякоў Алеся. Так пісаў Мікола Купрэеў, у яго нават зборнік называўся «Правіцыйныя фантазіі», так пісаў Міхась Рудкоўскі, так піша і Леанід Галубовіч, хоць даўно жыве ў сталіцы.

У паэзіі Алеся Каско адчуваецца ўплыў расейскага паэта Мікалая Рубцова, у зборніку нават ёсць верш з эпіграфам ад Рубцова: «Буду до ночной звезды/ Лодку мастерить себе...» Але, якраз, і Рубцова можна назваць правінцыйным паэтам, зноў-такі, у лепшым разуменні гэтага слова. І як па-філасофску заканчваецца гэты верш.

*Маці ўсю ноч не ляжа;*
*золкім, густым дасвеццем*
*лодку маю адвяжа,*
*пусціць адну па свеце...*

## Леанід Галубовіч

***Таемнасць агню: Вершы / Аўт. прадм. В. Палтаран. — Мн : Маст. літ., 198, — 86с.***

Выхад першага зборніка Леаніда Галубовіча «Таемнасць агню» стаў адметнай літаратурнай падзеяй Беларусі пачатку 80-х. Паэт сваімі першымі вершамі, якія дасылаў з роднай вёскі Вароніна ў сталічныя выданні, зарабіў сабе немалую вядомасць. Беларуская літаратурная грамадскасць успрыняла нараджэнне ў вёсцы паэта такога ўзроўню як нейкі цуд. Таму першую яго кніжку чакалі з нецярплівасцю. Прадмову да яе напісала вядомая літаратурная крытык Вера Палтаран. Крытык вітала прыход паэта з беларускай вёскі, якая ўсё больш занепадала, але яшчэ знаходзіла сілы нараджаць новых нацыянальных творцаў. Вера Палтаран пісала: «Яго слова прынесла адтуль пах свежай баразны, што паруе пад вясновым сонцам, адчуванне глыбіні жыцця,

імкненне спасцігнуць тую меру жыццёвых каштоўнасцяў, якую падсвядома ведае народ і разуменне якой дадзена толькі сапраўднаму мастацтву».

Леаніда Галубовіча небеспадстаўна параўноўвалі з класікам расійскай літаратуры Мікалаем Рубцовым, бо паэзія электрыка з Вароніна не была філалагічным прадуктам мастацкага слова і не імкнулася задаволіць грамадска-палітычныя запатрабаванні. Паэт пісаў пра тое, што яго атачала, што ён бачыў вакол сябе штодзень, што яму было знаёма і блізка — пра селяніна, які аб'язджае каня, пра бабулек, якія дажываюць апошнія гады ў паміраючых вёсках, пра навальніцу над вясковымі палеткамі. І пры гэтым, яго душа была вельмі чуйная да паэтычнай таямніцы, бо шмат у беларускіх мястэчках і вёсках ёсць аматараў складаць вершы, але вельмі мала каму ўдаецца словам маляваць як фарбаю, каб сярод паэтычных радкоў чуліся гукі жыцця, каб вершы неслі не проста малюнкі і пэўныя пачуцці — а таксама глыбокія развагі і філасофскія высновы.

Да таго ж упершыню ў беларускую літаратуру прыйшоў паэт, які так сур'ёзна ставіўся да паэтычнай творчасці, які ўсведамляў пэўную адказнасць, усклаўшы на сябе званне паэта.

*Здаецца, кіну ўсё.*
*На д'ябла тыя вершы!*
*Няхай гараць трысцём,*
*Але не самы першы.*
*Навошта ўсім казаць,*
*Што ты не мог напеўна*
*Сусвет пераканаць*
*У дабраце душэўнай.*
*І ўсё ж сярод папер*
*Вазьму для апраўдання*
*Свой самы першы верш —*
*Урок праўдапісання.*

***Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010, — 173, [2] с.***

Назва гэтага зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў тлумачыцца наступным чынам: кніга аб'яднала нарыс «Як шаравая маланка» пра паэта Анатоля Сыса і крытычныя артыкулы, якія Леанід Галубовіч друкаваў у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ў рубрыцы «Кулуары».

Упершыню нарыс «Як шаравая маланка» быў надрукаваны ў 10-м нумары часопіса «Калосьсе» ў 2006 годзе. Гэты нумар быў прысвечаны беларускім паэтам з трагічнымі лёсамі, якія рана пакінулі жыццё, некаторыя з іх пры жыцці былі абсалютна невядомымі. Праўда, гэта не скажаш пра Анатоля Сыса — паэт пры жыцці ўжо быў легендай, не ў апошнюю чаргу з-за сваіх скандальных паводзінаў.

Леанід Галубовіч належыць да тых літаратурных крытыкаў, якія пачалі «падымаць на шчыт» творчасць Анатоля Сыса яшчэ ў пару яго першых публікацыяў у друку. Увогуле, трэба сказаць, што Галубовіч напачатку 90-х нібыта склаў сабе спіс тых пісьменнікаў, якіх яму варта падтрымліваць — Мікола Купрэеў, Васіль Гадулька, Іван Лагвіновіч... Пра гэтых пісьменнікаў з рэгіёнаў са складанымі лёсамі ён не толькі пісаў у друку, але захоўваў іх рукапісы, дапамагаў надрукавацца і нават вырашаць нейкія жыццёвыя праблемы. Пасля іх заўчаснай смерці, дзякуючы клопату Галубовіча, у некаторых з іх выйшлі пасмяротныя кнігі. З гэткім жа бацькоўскім клопатам Галубовіч ставіўся і да асобы Анатоля Сыса. «Як шаравая маланка» — ягоны галоўны, так бы мовіць, выніковы тэкст пра творчасць паэта, аўтара кніг «Агмень» , «Пан лес» і «Сыс».

Нягледзечы на значны аб'ём другой часткі кнігі, думаю, аўтару не так проста было яе ўкласці, бо Галубовіч напісаў за апошнія 20 гадоў дзясяткі, а можа, і сотні рэцэнзій, літаратурных аглядаў і артыкулаў. Вось і ў гэтым выбары можна прасачыць літаратурныя прыхільнасці аўтара. Са старэйшых пісьменнікаў ён выбраў Янку Брыля, Васіля Быкава і Янку Сіпакова. З пазнейшага пакалення — Алеся Разанава, Яўгенію Янішчыц, Дануту Бічэль.

Дзіўна, што Галубовіч не ўключыў у зборнік свае рэцэнзіі на кнігі Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Віктара Казько, Уладзіміра Някляева, Уладзіміра Арлова і многіх вядомых беларускіх пісьменнікаў.

Дзіўна, што абышоў бокам усю авангардную плыню — Юры Гумянюк, Віктар Жыбуль, Зміцер Вішнёў, Вера Бурлак, Ілля Сін.

Такім чынам атрымалася кніжка пра любімых аўтараў і любімыя творы Леаніда Галубовіча. Праўда, чытаць кніжку цікава і займальна. Асабліва тым, хто спрабуе свае сілы ў прыгожым пісьменстве — бо аўтар апісвае літаратурную кухню знутры — нібыта сапраўды размова вядзецца ў кулуарах, і аўтар не спрабуе давесці нейкую агульную ісціну, а толькі свае ўласныя думкі, прыхільнасці і перакананні.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Нюансы Міколы Гілевіча

***Гілевіч М. Ню: выбраныя вершы. Мінск: Выдавец У. Сіўчыкаў, 2020 .***

І ў першацвета бывае верасень.

І ў першацветаўцаў — «Верасень».

Адным з пацверджанняў таму — другая запар наша рэцэнзія на колішніх першацветаўцаў, да якіх пагрукаў у дзверы двойчы ўжо названы восеньскі месяц. Дый да таго ж — у часопісе з аднайменнай назвай. (Першая была на кнігу вершаў Людмілы Шчэрба «Я пакідаю сонца тут...»[1])

Між тым адцвітаць згаданыя тут аўтары не збіраюцца, — гэта іх першыя асабістыя паэтычныя выданні (М. Гілевіч, паводле кароткай характарыстыкі ў канцы актуальнага зборніка, мае кнігу вершаў «Горад», але адшукаць яе ў бібліятэчных каталогах нам не ўдалося). Менавіта пасля абодва згаданыя паэты папоўнілі шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Можна было б указаць і на іншыя супадзенні і ўзаемасувязі гэтых колішніх першацветаўцаў, але тыя НЮансы выходзяць за фармат літаратуразнаўчага водгука (хаця аўтар месцамі — напрыклад, с. 71 — сам дазваляе зазірнуць за рамкі асабістага).

Зборнік вершаў больш вядомага ў якасці журналіста (Міколы Чэмера) М. Гілевіча называецца характарыстычна і сімвалічна — «Ню». У гэтым бачыцца падвойны сэнс. Да першага падштурхоўвае наяўнасць дзявочых выяў у афармленні кнігі і яе паэтычных радках. Але такім азначэннем абмяжоўвацца было б спрошчана для паэтычнага выдання. Таму другім сэнсам чытаецца душэўная шчырасць аўтара. Сваё крэда ён акрэслівае ўжо ў першым вершы ўступнага характару (твор, дарэчы, вылучаны курсівам — рыхтык эпіграф). Пачынаецца безпунктуацыйны верлібр са слоў пра дзяўчыну «голая бездапаможная». Але далей наступае паэтычнае пераўвасабленне ў вынесеныя парадкоўна «мову цела радзіму» (с. 5). Такая трыяда паўстае як лаканічнае вызначэнне жыццёвай і творчай парадыгмы аўтара. Прычым, дзе яго прыватнае жыццё, а дзе вузкатворчае, разабрацца немагчыма. Як сапраўдны паэт М. Гілевіч жыве паэзіяй, а паэзію напаўняе рэчаіснасцю, стараючыся эстэтызаваць апошНЮю:

*Дзе была паэзія — там яе няма.*
*Прасціна скамечана, наўлечка старчма,*
*мокрая, слязлівая, а пад ёй — «кандом»,*
*набрынялы вершамі, як самотай — дом.* (с. 83)

Азначаны падыход у прынцыпе не новы. Таму, нягледзячы на прыватны характар многіх вершаў, яны выглядаюць даволі тыпова. Праўда, пры ўмове адсутнасці заглыблення ў дэталізацыю і НЮансіроўку. Так, з аднаго боку, праз

[1] Трафімчык А. «Сэрца страляе вершам» // Верасень. 2020. №1. С 243-247.

многія творы праходзіць боль, туга — рысы, не проста характэрныя для паэтаў, — неабходнейшыя для паэзіі. Напрыклад, як пачынаецца адзін верш пра каханне, «я вывернуў вочы свае навыварат», заканчваючыся наступным тлумачэннем вобраза: «вучыўся плакаць. Унутр»(с. 13). З іншага боку, сустракаюцца вельмі індывідуальныя вобразы і матывы. Іх можа прачытаць і адэкватна інтэрпрэтаваць акрамя аўтара хіба толькі той, каму радкі прысвечаны. Напрыклад, не зусім зразумела, чаму параўноваецца каханне лірычнага героя да Людмілы, якая фігуруе ў прысвячэнні, з сусветна вядомым храмам Саградай Фаміліяй. Можна толькі здагадвацца, што яны — аўтар і аб'ект яго ўвагі — у свой час пабывалі там у Барселоне і захавалі яркія ўражанні. З таго, што можа быць агульным ці не для кожнага чытача, адназначна бачыцца радок «Я любіў усе твае трэшчынкі» (с. 14). Але гэта настолькі відавочная адсылка да песні адной расійскай спявачкі, што ператварае твор у эпігонскі не з самым вартым арыенцірам для высокага мастацтва. Выкажам меркаванне, што песня тая была папулярнай падчас падарожжа дзвюх асоб у Каталонію. З прычыны гэтакай індывідуальнасці вершу тому, хоць, магчыма, далёка не горшаму, месца ў альбоме (дамы з прысвячэння).




Дарэчы, збіванне на прыватнажыццёвыя акалічнасці чамусьці нярэдкае ў першацветаўцаў.

Якое можа быць тлумачэнне? За такім падыходам адчуваецца свайго роду шчыльная інтэграцыя жыцця і творчасці, найперш праз увядзенне ў штодзённасць паэзіі (у шырокім значэнні гэтага паняцця), у выніку чаго кожны крок чалавека, нават самы бытавы, суправаджаецца мастацкімі тэкстамі. Але ў сваю чаргу і ў іх пранікае бытавізм. Узаемаўплывы непазбежны. З прычыны азначанай тэндэнцыі стыль названага літаратурнага пакалення (можна на першацветаўцаў так сказаць?) пазнавальны, нават калі той ці іншы аўтар не выспеліў свайго асабістага голасу.

Сімптаматычна, паэтычныя дзеці 90-х *не думаюць* вершы — эмацыянуюць іх (прабачце за наватвор). Але калі на дапамогу прыцягнуць класіка літаратуразнаўчай думкі, дык, «может быть, и это не так плохо? Может быть, это нуж-

ные банальности? Эмоциональный поэт ведь имеет право на банальность. Слова захватанные, именно потому что захватаны, потому что стали ежеминутными, необычайно сильно действуют. Отсюда — притягательная сила цыганщины. Отсюда — банальности Полонского, Анненского, Случевского, апухтинское завыванье у Блока»[2].

Да фарміравання пазнавальнасці першацветаўцаў, несумненна, спрычыніўся ўплыў такога гуру 1990-х, як Анатоль Сыс. Таму пры чытанні кнігі М. Гілевіча адразу з'явілася чаканне моманту, калі ж той уплыў праявіцца неаспрэчна. Спачатку ён адчуваўся ў прымяненні канцэптаў-сімвалаў «смерць», «сэрца», «душа, «вецер», «неба», «месяц» і інш. Але ж яны традыцыйныя для паэзіі. Тое, што гучаць па-сысаўску, — дык гэта так чуецца праз успрыманне канкрэтнага рэцыпіента, яго чытацкай абазнанасці і культуры (у дадзеным выпадку — аўтара гэтага крытычнага опуса).

Але М. Гілевіч не прымусіў доўга чакаць і адзін са сваіх вершаў пачаў эпіграфам з А. Сыса (с. 20). Інтанацыі і вобразы часам і ў далейшым сустракаюцца кангеніяльныя:

*Я валю нябёсы з воўчай поўсці.*
*Воўк не прыйдзе — я яго забіў.*
*Толькі стане на маім пагосце;*
*толькі скажа: «Ты мяне любіў...»* (с. 26)

Зрэшты, школа тая праз лепшых вучняў па сённяшні дзень адгукаецца цікавымі, прыгожымі вобразамі:

*«Твая душа парваная на вершы...»* (с. 24);
*«...і сэнс вырастае на месцы глыбокіх маршчын...»* (с. 8)*;*
*«Ты выходзіш з адзення...»* (с. 53)*;*
*«Радыя сцены былі мацаць твой крохкі цень...»* (с. 64) і інш.

Большасць вершаў М. Гілевіча адносіцца да інтымнай лірыкі. Можна сказаць, занадта інтымнай. У ёй заўсёды прысутнічаюць дАмы. Аўтар нават называе іх імёны: Людка, Волька, Ірка (с. 54). У цэлым пачуцці да іх зліваюцца ў адно — усеабдымнае — каханне.

Што важней для лірычнага героя — пачуццё ці аб'ект пачуцця? Цяжка сказаць, калі, па прызнанні аўтара, —

*Нашае жыццё саткана з нерваў.*
*Дзе два нервы толькі — я і ты.* (с. 40)

Гэтыя радкі навейваюць больш прыземленую асацыяцыю — з электрычнымі правадамі, дадатным і адмоўным, дзякуючы судакрананНЮ якіх узнікае святло. Калі ж няма такога кантакту, —

*Мы з табою — на мяжы змяркання.*
*Мы ператрымалі ўжо каханне.* (с. 68)

Часам падаецца, вершы М. Гілевіча вельмі ўдала пацвярджаюць развагі пялевінавых персанажаў: «Любовь, в сущности, возникает в одиночестве, ког-

[2] Тынянов Ю. Н. Поэтика. История литературы. Кино. М. : Наука, 1977. С. 155.

да рядом нет ее объекта, и направлена она не столько на того или ту, кого любишь, сколько на выстроенный умом образ, слабо связанный с оригиналом... Сам я, когда писал эту книгу, тоже мучительно искал его, с каждым новым стихотворением убеждаясь, что найти его невозможно, потому что его нет нигде»[3].

Чамусьці так склалася, што творчасць першацветаўцаў нярэдка характарызуецца тэхнічнымі агрэхамі. Збоі ў рытме (с. 31), непаслядоўнасць у памерах (с. 28), аддаленасць рыфмаў або — наадварот — іх банальнасць (прыкладаў вельмі шмат), русізмы (с. 22) — не будзем траціць месца на цытаты дзеля гэтых прыкладаў. Неахайнасць у паэтыцы і архітэктоніцы, як падаецца, свядома характэрная. Час паскорыў свой бег. Няма калі працаваць «наждачкай». Але без яе не наблізіцца да узроўню вобраза Галатэі, алмаз не стане брыльянтам.

У цэлым паэзія М. Гілевіча прыцягвае найперш сваім надрывам. Недзе нарцысісцкім, недзе душэўнаэксгібіцыянісцкім, але заўсёды шчырым, абумоўленым таНЮткай душэўнай арганізацыяй аўтара. Таму яго радкам хочацца верыць. Нягледзячы на шурпатасці. Хаця і не кожны прыме агНЮ гэтага паэтычнага сэрца.

---

[3] Пелевин В. Чапаев и Пустота. М. Вагриус, 2003. С. 263

